





ІЛЮСТРАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# КРАІНА БЕЛАРУСЬ

Тэкст Уладзіміра Арлова
Мастак Зьміцер Герасімовіч




















Выданню спрыялі:
Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь
Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі
Нацыянальны мастацкі музей Беларусі
Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва
Музей беларускага кнігадрукавання








Займальная і даступная для чытача любога ўзросту,
гэтая кніга ўводзіць у свет нашай мінуўшчыны
ад найстаражытнейшых часоў да пачатку XX стагоддзя.
На яе старонках вы сустрэнецеся
з выдатнымі гістарычнымі асобамі,
даведаецеся пра жыццё і побыт, вайсковыя перамогі
і культурныя дасягненні беларусаў у розныя эпохі.
У кнізе змешчаныя блізу дзвюх тысяч ілюстрацый,
у тым ліку унікальныя летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры,
рэдкія фотаздымкі. Шмат якія ілюстрацыі беларускаму чытачу
дагэтуль былі невядомыя.
Гісторыя нашай краіны разглядаецца як частка
агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі.




**Змест**

# ДА З'ЯЎЛЕННЯ ЧАЛАВЕКА



Выкапнёвая папараць з старажытных каменнавугальных балотаў

Болей як паўмільярда гадоў таму ўсю тэрыторыю нашай сённяшняй краіны займалі горы. Асобныя іх вяршыні дасягалі некалькіх кіламетраў, не саступаючы сваёй вышынёй сучаснаму Манблану. Горныя хрыбты часта скаланаліся ад землятрусаў, а суровыя каменныя краявіды ўначы асвятляліся вогненнымі «шапкамі» вулканаў.

Міналі мільёны гадоў. Вада і вецер пакрысе ператваралі горы ў безжыццёвыя пустэльні. На сушу наступала мора, у якім ужо існавала жыццё. З'явіліся і прымітыўныя рыбы.

Прыблізна 500 мільёнаў гадоў таму большая частка цяперашняй Беларусі была марскім дном. Сушаю заставалася толькі яе паўночна-заходняя ўскраіна – пазбаўленая жыцця камяністая раўніна. Той перыяд гісторыі Зямлі называецца палеазойскай эрай, або, у перакладзе са старажытнагрэцкай мовы, эрай «старажытнага жыцця».



Каля 500 млн гадоў таму большасць сучаснай тэрыторыі Беларусі займала мора. Толькі яе паўночна-заходняя ўскраіна заставалася сушай, дзе распасціралася безжыццёвая камяністая раўніна

Яшчэ праз некалькі дзесяткаў мільёнаў гадоў зямная кара зрабілася спакайнейшаю, а марскія берагі сталі больш трывалымі. У тым часе большую частку тэрыторыі Беларусі займала раўніна. На яе прыморскім узбярэжжы ўжо буяла расліннасць, якая давала прытулак земнаводным істотам – амфібіям.

Блізу 225 мільёнаў гадоў назад пачаўся вельмі важны ў развіцці жывёльнага свету перыяд, які называецца мезазойскай эрай, або эрай «сярэдняга жыцця». Мора то адступала, то зноў наступала, а ў трапічных лясах, што пакрывалі нашу зямлю, панавалі самыя разнастайныя памерамі, выглядам і звычкамі яшчары і дыназаўры.



Каля 50–45 млн гадоў таму сучасная тэрыторыя Беларусі яшчэ была прыморскім краем з субтрапічнымі лясамі і над прыбярэжнымі пясчанымі пляжамі ўздымаліся пальмы. Пазней мора назаўсёды пакінула нашыя землі



Раслінны і жывёльны свет старажытнага мора

Але сярод іх ужо трапляліся першыя птушкі і млекакормячыя – сысуны, якія нараджалі сваіх дзіцянят жывымі.



Гэтая амфібія была адным з безлічы «крокаў» у эвалюцыі зямной фауны ад рыбаў да чалавекападобных малпаў

Сміладэксіс, які жыў 50 млн гадоў таму, крыху нагадваў сучаснага лемура



Адным з першых вядомых навуцы драпежных дыназаўраў быў Coelophysis baurias. Такія трохметровыя хуткія і пражэрлівыя стварэнні панавалі на нашай планеце каля 200 млн гадоў таму



Найстаражытнейшая зямная птушка археаптэрыкс. Памерамі прыкладна з голуба, ён меў на крылах па тры дадатковыя пальцы



Пад канец мезазойскай эры вельмі хутка вымерлі амаль усе яшчары. Зніклі таксама шмат якія віды іншых жывёлаў і раслін. Вучоныя лічаць, што прычынаю гэтага магло стаць сутыкненне Зямлі з іншым нябесным целам або яшчэ нейкая касмічная катастрофа, якая рэзка змяніла клімат.

За 70 мільёнаў гадоў да нашых дзён на змену мезазойскай эры прыйшла кайназойская, што ў перакладзе значыць эра «новага жыцця». Яна доўжыцца і сёння.

Прыкладна 45 мільёнаў гадоў таму мора назаўсёды пакінула тэрыторыю Беларусі. Разам з марскімі хвалямі адышоў у мінулае і субтрапічны клімат. У больш халодным клімаце на месцы былых трапічных і субтрапічных зараснікаў падняліся шыракалісцёвыя і ігліцава-шыракалісцёвыя лясы.

Каля 2 мільёнаў гадоў таму на Зямлі з'явіліся першыя людзі. Здарылася гэта далёка ад Беларусі, у цяплейшых і прыдатнейшых для жыцця мясцінах. Але авалоданне агнём, уменне майстраваць сховы ад холаду і прыкрываць звярынымі шкурамі цела дазволілі людзям пакідаць тропікі і субтропікі і перасяляцца ў халаднейшыя часткі планеты.



Пры канцы палеазойскай эры зямную паверхню пакрывалі гіганцкія папараці, хвашчы і дзераза



Зуб тыраназаўра быў для звера ідэальнай паляўнічай прыладай

# ПЕРШЫЯ ЖЫХАРЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ



Крамянёвы зрэзань (наканечнік) дзіды, знойдзены на Берасцейшчыне. Канец неаліту



Каля 4–5 млн гадоў таму на Зямлі з'явіліся аўстралапітэкі, найбольш прымітыўны від чалавека

Мільён гадоў таму на Зямлі надышла эпоха вялікіх зледзяненняў. У выніку яе на тэрыторыі Беларусі адбыліся значныя змены ў жывёльным і раслінным свеце. Лясы зрабіліся пераважна іглічавымі, а сярод звяроў з'явіліся мядзведзі, ваўкі, ласі, дзікія быкі і коні. Побач з імі яшчэ вадзіліся жывёліны ранейшага часу – насарогі, сланы і мастадонты. Але шанец выжыць мелі толькі тыя віды, якія здолелі прыстасавацца да холаду, пакрыўшыся густой і доўгай поўсцю.

Апошняе зледзяненне пачалося 90 тысяч гадоў назад. Месца мяшаных іглічава-лісцёвых лясоў заняла тайга, а потым і тундра. Найбуйнейшымі звярамі на гэтых халодных прасторах сталі маманты і валасатыя насарогі.




**Карта рассялення на тэрыторыі Беларусі неалітычных плямёнаў розных культур:**
1 – дняпроўска-данецкай;
2 – верхнедняпроўскай;
3 – нёманскай;
4 – нарвенскай;
5 – шарападобных амфар;
6 – грабянёва-ямкавай



Так выглядалі першыя жыхары нашай зямлі – неандэртальцы



Жытло першабытнага чалавека

Стаянкі краманьёнцаў археолагі адкрылі пад шматметровым пластом пяску недалёка ад вёсак Юравічы цяперашняга Калінкавіцкага і Бердыж Чачэрскага раёнаў.



Наскальны малюнак з ваколіцаў Анежскага возера

Сляды першых людзей на абшары сучаснай Беларусі з'явіліся 100 тысяч гадоў назад. Гэта былі так званыя неандэртальцы.



Шлях да сучаснага чалавека быў яшчэ бясконца доўгі

**ХРАНАЛОГІЯ**

100 тыс. гадоў таму. – На тэрыторыі Беларусі з'явіліся першыя людзі.

100–5 тыс. гадоў таму. – Каменны век.

25 тыс. гадоў таму. – Найбольш старажытныя стаянкі чалавека на сучаснай тэрыторыі нашай краіны.



Будан з костак маманта



Старажытнае жытло з жэрдак, абцягнутых скурамі



Жанчына збірае мёд. Наскальны малюнак. Гішпанія

Неандэртальцы, якія за 100 – 40 тысяч гадоў да нас засялялі Еўропу, яшчэ вельмі адрозніваліся ад сённяшняга чалавека, аднак ужо ўмелі смажыць на вогнішчы мяса, будаваць прымітыўнае жытло, рабіць неабходныя прылады працы і зброю. Асноўным матэрыялам для вырабу таго, чым seклі дрэва, капалі зямлю, забівалі дзічыну, быў камень. Таму тая старажытная эпоха і названая каменным векам.



Стаянка неандэртальцаў



Зрэзань стралы з неалітычнай стаянкі Асавец. Бешанковіцкі раён




**Карта першапачатковага засялення сучаснай тэрыторыі Беларусі:**
1–4 – месцазнаходжанні крамянёвых вырабаў неандэртальскага чалавека; а,б – Юравіцкая і Бердыжская познепалеалітычныя стаянкі.
На поўначы Беларусі адзначана мяжа ледавіка, стрэлкі пункцірных ліній паказваюць шляхі пранікнення плямёнаў паляўнічых на паўночных аленяў



Краманьёнец-паляўнічы



Абпальванне зрэзняў на дзіды

Тагачасных паселішчаў на нашай зямлі пакуль не знойдзена. Ад неандэртальцаў тут засталіся толькі прылады з крэменю, якія археолагі знаходзілі ў беларускім Падняпроўі.

Прыкладна 40 – 35 тысяч гадоў назад неандэртальцы з невядомае дагэтуль прычыны цалкам зніклі. Іх наступнікі – краманьёнцы сваім абліччам ужо прыкметна не адрозніваліся ад сучаснага чалавека.



Такія прылады старажытны чалавек выкарыстоўваў у працы і на паляванні



Стаянка паляўнічых позняга палеаліту

Каля 25 тысяч гадоў таму крамаrazьёнцы прыйшлі на поўдзень Беларусі.

Прытулкам для іх служылі буданы з вялізных костак маманта і жэрдак, абцягнутых зверху скурамі. Навокал ляжала бяскрайняя халодная тундра, што змушала людзей і ўдзень і ўначы паліць вогнішчы. Галоўным заняткам было паляванне на мамантаў, а таксама на валасатых насарогаў, першабытных быкоў, коней, паўночных аленяў, мядзведзяў, ваўкоў і зайцоў. Адыходзячы на паляванне, мужчыны ўзбройваліся дзідамі з каменнымі дзюбамі-зрэзнямі.

За 12 тысяч гадоў да нашага часу, у самым канцы палеаліту, на тэрыторыі Беларусі з'явіліся плямёны паляўнічых. Гэта была трэцяя і нарэшце паспяховая спроба чалавека засяліць нашую зямлю.



Каменная ступка эпохі неаліту



Крамянёвыя зрэзні стрэлаў. Канец III–пачатак II тыс. да н. э. Неалітычная стаянка Асавец. Бешанковіцкі раён



Каменныя сякеры краманьёнцаў

Гэтыя стаянкі першых людзей, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, належаць да старажытнага каменнага веку – палеаліту.

Але і другая спроба першабытных людзей засяліць абшар Беларусі завяршылася няўдачай. З поўначы працягваў няўхільна насоўвацца ледавік. 19–18 тысяч гадоў таму суцэльныя льды падступілі да тых мясцінаў, дзе цяпер стаяць гарады Горадня, Вілейка і Ворша. Стаянкі краманьёнцаў апусцелі.

На змену палеаліту прыйшоў сярэдні каменны век – мезаліт. Ледавіковы перыяд ужо закончыўся, пакінуўшы пасля сябе мноства рэк і азёраў. Клімат пацяплеў, і зямля заселянела тундравай расліннасцю, засерабрылася аленевым мохам – ягелем. Маманты зніклі, а найбольш распаўсюджанымі жывёламі сталі паўночныя алені.

У перыяд мезаліту чалавек прыручыў сабаку, вынайшаў лук і стрэлы. Калі кінутая рукой самага дужага паляўнічага дзіда пралятала блізу 50 метраў, то страла даставала на некалькі сотняў метраў. Тым часам людзі пачалі займацца рыбалоўствам. Рыбу здабывалі не толькі гарпунамі, але і вудамі з касцянымі кручкамі.

У эпоху неаліту развіццё чалавечай культуры значна паскорылася. Найважнейшым дасягненнем таго часу стала з'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі.

Людзі жылі тады родавымі супольнямі (абшчынамі), якія аб'ядноўваліся ў плямёны. У супольні існаваў падзел працы. Мужчыны хадзілі на паляванне, лавілі рыбу, выраблялі асноўныя прылады. Жаночымі заняткамі былі збіральніцтва, выраб посуду, прыгатаванне ежы і догляд дзяцей. Жанчыны захоўвалі звычаі і традыцыі роду. Яны лічыліся ў родзе галоўнымі. Калі мужчына браў шлюб, ён пераходзіў у жончыну супольню. Гэты перыяд гісторыі чалавецтва называецца матрыярхатам.


Рыбалоўныя гарпуны і гачак. Пачатак II тыс. да н. э. Стаянка Асавец


Паляўнічыя прылады з каменю

Неалітычны каменны зрэзань

6 тысяч гадоў таму пачаўся новы каменны век – неаліт. У Беларусі адкрытыя больш за 600 неалітычных стаянак. Іх жыхары дасягнулі высокага майстэрства ў паляўнічтве і рыбалоўстве. Яны навучыліся ляпіць з гліны посуд, рабіць з каменю больш дасканалыя шліфаваныя прылады працы, вынайшлі ткацтва.

Паселішча людзей новага каменнага веку




Варштат для свідравання каменю



Крыжападобная падвеска з гарадзішча Мішкоўцы. Браслаўскі раён

# ЭПОХА МЕТАЛАЎ

Бронзавая фібула з гарадзішча каля в. Мальшкі. Вілейскі раён



## Бронзавы век

За чатыры тысячы гадоў да нас, на пачатку II тысячагоддзя да н. э., жыхары нашай зямлі навучыліся выплаўляць медзь і бронзу. Гэта азначала канец каменнага веку і адкрывала эпоху металаў.

Але меднай руды ў нетрах Беларусі не было, і таму металёвых вырабаў таго часу археолагі сустракаюць няшмат. З медзі і бронзы рабілі пераважна ўпрыгожанні, зрэзні дзідаў, нажы, сярпы. Большасць прыладаў працы і зброі па-ранейшаму заставаліся каменнымі. Крэмень на іх выраб не толькі збіралі на паверхні зямлі, але і здабывалі шахтавым спосабам. Некалькі тысяч крэменездабыўных шахтаў выкапалі нашыя прашчуры на берагах ракі Росі ў наваколлі цяперашняга пасёлка Краснасельскі, што ў Ваўкавыскім раёне. Крэмень, здабыты з кожнай такой шахты, дазваляў змайстраваць каля сотні сякер. Плямёны жывёлаводаў і земляробаў рассяліліся па ўсёй пакрытай густымі лясамі тэрыторыі Беларусі.

Тагачаснае земляробства называюць лядным. Каб падрыхтаваць зямлю да сяўбы, рабілі ляда: высякалі кавалак лесу, давалі дрэвам высахнуць, а потым іх спальвалі. Агонь знішчаў пустазелле, попел угнойваў глебу, зямля некалькі гадоў давала досыць вялікі ўраджай.

Развіццё гаспадаркі прывяло да зменаў унутры родавай супольні. Цяпер галоўная роля ў ёй перайшла да мужчын. Яны пасвілі і ахоўвалі статак, выконвалі самую цяжкую працу ў земляробстве. Мужчына стаў першым металургам. Па мужчынскай лініі пачалі весці і радавод. Матрыярхат саступаў месца патрыярхату.

У вялікай патрыярхальнай сям'і, якой кіраваў правадыр роду, жылі некалькі пакаленняў блізкіх сваякоў. Праца такой сям'і давала лепшы плён і ў жывёлагадоўлі, і на палетках. З'яўляліся больш і менш заможныя сем'і, а з узнікненнем маёмаснай няроўнасці нараджалася прыватная ўласнасць.



Гліняны посуд сярэдзіны II тыс. да н. э. з курганнага могільніка. Рагачоўскі раён



Бронзавы зрэзань дзіды з урочышча Мішкава Гара каля Ваўкавыска

**ХРАНАЛОГІЯ**

Пачатак II тыс. да н. э.– VII ст. да н. э.– Бронзавы век у Беларусі.
VII ст. да н. э.– VIII ст. н. э.– Жалезны век.



Упрыгожанні бронзавага веку. Бранзалеты, фібулы і кольцы могільніка паблізу в. Чаплін. Лоеўскі раён

## Жалезны век

У VII–VI стст. да н. э. плямёны, што насялялі нашу зямлю, навучыліся здабываць і апрацоўваць жалеза. Адкрыццё жалеза азначала пераварот у гісторыі. Асноўным заняткам людзей становіцца земляробства. Хутка развіваюцца рамёствы. Больш дасканалую зброю атрымліваюць паляўнічыя. З дапамогаю жалеза лягчэй было апрацоўваць дрэва, рэзаць па косці, рабіць ліцейныя формы і ганчарны круг, калаўрот і ткацкі варштат.

За тысячы гадоў істотна змяніліся не толькі прылады працы, але і чалавечыя сялібы. Яны, як і даўней, стаялі на рачных або азёрных берагах, аднак ужо былі абкружаныя ровам і валам. Вал умацоўвалі высокім частаколам з бярвення. Такое паселішча называлася гарадзішчам.

Ад ляднага земляробства людзі пераходзілі даворнага. Яны сеялі жыта, пшаніцу, ячмень, проса, лён, боб і гарох. А вось смаку бульбы не ведалі. Бульба з'явіцца ў Беларусі яшчэ вельмі няскора – толькі ў першай палове XVIII ст.







Старажытны шахцёр. Рэканструкцыя па чэрапе з пахавання ў крэменездабыўнай шахце каля пасёлка Красносельскі Ваўкавыскага раёна. II тыс. да н. э.





Скроневая падвеска, знойдзеная ў Гарадоцкім раёне

За сценамі гарадзішчаў іх жыхары бараніліся ад ворагаў, бо ў жалезным веку пачасціліся сутычкі паміж асобнымі родамі і плямёнамі. Але людзі не толькі ваявалі. Паміж плямёнамі ішоў абмен прадуктамі і рамеснымі вырабамі. Такі абмен называюць натуральным, бо ён адбываўся без грошай.

Маёмасная няроўнасць працягвала расці. Старшыні роду, правадыры вайсковых дружын, жрацы-вешчуны ўзбагачаліся. Жыццё супольнямі адыходзіла ў мінулае. Нашы продкі стаялі на мяжы новага часу, калі ўзнікнуць першыя дзяржавы.



Бронзавая фібула, якая выкарыстоўвалася ў паганскіх абрадах. З археалагічных раскопак у в. Тайманава. Быхаўскі раён

# РЭЛІГІЯ І МАСТАЦТВА СТАРАЖЫТНЫХ ЛЮДЗЕЙ

Ужо неандэртальцы верылі ў замагільнае існаванне, бо хавалі сваіх нябожчыкаў з магічнымі рытуаламі. Паступова сфармавалася складаная сістэма веры ў розныя звышнатуральныя сілы – душы і духаў, якіх можна залагодзіць ахвярамі-падарункамі, замовамі і абрадамі.



Гэтыя каралі з марскіх ракавінак аздаблялі шыю прыгажуні, якая жыла на нашай зямлі 20 тыс. гадоў таму

Чалавечыя пахаванні, выявы на кераміцы, статуэткі сведчаць, што найважнейшае месца ў вераваннях старажытных людзей належала культу продкаў. Славутых суродзічаў, якія вызначыліся ў зямным жыцці, прызнавалі духамі-ахоўнікамі роду або цэлага племя.

Свой радавод людзі, жывучы ў еднасці з прыродаю, выводзілі ад жывёл. Археалагічныя знаходкі разам з пазнейшымі казкамі, легендамі і паданнямі дазваляюць меркаваць, што ў нашых далёкіх продкаў такімі жывёламі маглі лічыцца ласі, мядзведзі, качкі, буслы. Магічная сіла надавалася крыніцам, асобным камяням і дрэвам, а таксама звярыным зубам і выразаным з косці знакам-абярогам.

Набыўшы здольнасць мысліць, першабытныя людзі пачалі імкнуцца зразумець навакольны свет і навучыцца ўплываць на яго. Гэта прывяло да ўзнікнення рэлігійных вераванняў.



Касцяной фігурцы з стаянкі Асавец, што ў Бешанковіцкім раёне, болей за 4 тыс. гадоў



Так нараджалася мастацтва



Свяшчэнна ў гонар мядзведзя



Наскальны малюнак ведзьмара ў масцы



Твор старажытнага скульптара з стаянкі Асавец

Вырабы з косці і рогу жыхары Беларусі аздаблялі арнаментам яшчэ ў эпоху палеаліту.

Ужо ў познім палеаліце краманьёнцы пакрывалі вырабы з мамантавых біўняў прыгожымі суладнымі кампазіцыямі з квадратаў, ромбаў, трох- і шасцікутнікаў ды іншых арнаментальных элементаў. У неаліце арнаментамі, у кожным з якіх быў зашыфраваны свой магічны сэнс, людзі аздаблялі гліняны посуд. Развіццё земляробства, звязанага з жыццядайнай сілаю сонца і агню, прынесла ў арнамент іх сімвалы – кругі, крыжы і свастыкі. У бронзавым веку пашырыліся выявы трохкутнікаў, якія былі ўвасабленнем плоднасці.



Касцяная фігурка змяі. Неаліт

Найстаражытнейшай праявай мастацкай творчасці быў геаметрычны арнамент.



Керамічны аскепак з антрапаморфнаю выявай







Гэтым посудам нашы далёкія продкі карысталіся 3,5 тыс. гадоў таму. Знаходкі, зробленыя каля вёсак Трасцяніца Камянецкага раёна і Рудня-Шлягіна Веткаўскага раёна

Пры канцы эпохі палеаліту чалавек навучыўся ствараць, пераважна з косці, скульптуркі людзей і жывёл. У статуэтках коней, мамантаў, дзікіх быкоў тагачасныя мастакі нярэдка дасягалі высокага майстэрства. Асабліва ўражваюць скульптурныя выявы жанчын. Іх захоўвалі ў адмысловых схованках каля агменю, што адлюстроўвала галоўную ролю жанчыны-маці ў родзе. З позняга неаліту і бронзавага веку да нас дайшлі скульптуркі мужчын, якія археолагі часцей знаходзяць на поўначы Беларусі. Гэтыя выявы ўвасаблялі духаў-ахоўнікаў, але мастакі надзялялі іх рысамі сваіх супляменнікаў.

Вялікую ўвагу першабытныя людзі аддавалі аздабленню вопраткі і цела. Мужчыны і жанчыны насілі разнастайныя каралі з зубоў жывёл і чалавека, з касцяных пласткоў, рыбіных хрыбетак. З канца неаліту на абшары Беларусі пашыраліся пацеркі ды іншая аздоба з бурштыну. Упрыгожаннямі чалавек ужо тады імкнуўся падкрэсліць сваю індывідуальнасць і становішча ў грамадстве.

# НА ДОСВІТКУ СЯРЭДНЯВЕЧЧА



Еўрапейцы бронзавага веку

Сярэдзіна I тысячагоддзя н. э. стала пачаткам новай гістарычнай эпохі. У 476 г. пад націскам варварскіх плямёнаў загінула Заходняя Рымская імперыя. У Еўропе ўсталёўваўся феадальны лад, які праіснаваў больш за тысячу гадоў.

Гэтая эпоха прыйшла на змену Антычнасці і папярэднічала Новаму часу, таму вучоныя назвалі яе Сярэднявеччам.



Баявы шалом з Скандынавіі

### Індаеўрапейцы

Індаеўрапейцы былі продкамі шмат якіх сучасных еўрапейскіх народаў. У радаводным дрэве беларусаў можна знайсці і вугра-фінаў, і германцаў. Гісторыкі лічаць, што сярод вельмі далёкіх продкаў у нас маглі быць скіфы і кельты. Але самымі моцнымі каранямі будучага беларускага дрэва былі балцкі і славянскі. Менавіта яны вызначылі месца і адметнасць нашага народа ў агульнаеўрапейскай сям'і.



Меч вікінга



Скіфскія бронзавыя стрэлы, знойдзеныя на поўдні Беларусі



Вікінгі. Нашы продкі называлі іх варагамі

Пры канцы III тысячагоддзя да н. э. на абшары Беларусі з'явіліся індаеўрапейцы.



Дзяржальна мяча

**ХРАНАЛОГІЯ**

V – IX стст. – Ранняе Сярэднявечча.
X – XIII стст. – Высокае Сярэднявечча.
XIV – XV стст. – Позняе Сярэднявечча.



Бронзавае скроневае кольца V–VIII стст. з гарадзішча Баронікі каля Віцебска



Убор жанчыны з балцкага племя

## Балты

З другой паловы I тысячагоддзя н. э. ужо вядомыя назвы балцкіх плямёнаў, якія жылі на нашых землях.

Паміж рэкамі Нёманам і Наравам стаялі вёскі і гарадзішчы яцвягаў. Яны засталіся ў гісторыі як ваяўнічы і мужны народ,



Яцвяг, які жыў восем стагоддзяў таму. Рэканструкцыя



Яцвяжанка. Канец X–пачатак XI ст. Рэканструкцыя



Бронзавая падвеска-лунніца з эмаллю. Знаходка з комплексу археалагічных помнікаў каля в. Аламенка Быхаўскага раёна

які некалькі стагоддзяў паспяхова бараніўся ад агрэсіўных суседзяў. У мужчынскіх пахаваннях яцвягаў археалагічныя раскопкі адкрываюць шмат зброі і рыштунку баявых коней.

Другой, яшчэ больш шматлікай групай балцкіх плямёнаў у Беларусі была літва. Яна жыла на захадзе тэрыторыі нашай сучаснай краіны. У курганных могільніках літвы археолагі побач з прыладамі працы і ўпрыгожаннямі знаходзяць зброю. Разам з воінамі хавалі іхніх коней.

З часам яцвягі славянізаваліся і сталі часткаю беларускага народа. Роля літвы больш значная. Аб'яднаўшыся з славянамі, літоўскія плямёны ўдзельнічалі ў стварэнні магутнай сярэднявечнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага.

Мяркуючы па назовах рэк і азёраў, а таксама па знаходках археолагаў, з бронзавага веку ўсю тэрыторыю Беларусі засялялі старажытныя балты. Яны былі продкамі не толькі беларусаў, але і суседніх народаў – летувісаў і латышоў.



Фібула XI ст. Рэканструкцыя паводле знаходак беларускіх археолагаў

# СЛАВЯНЕ

У сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. славяне пачалі хутка рассяляцца на значнай частцы Еўропы – ад Балтыкі на поўначы да Чорнага і Адрыятычнага мораў на поўдні, ад усходняй Нямеччыны на захадзе і да вышнявінаў Дняпра, Дона і Волгі на ўсходзе.




Паходжанне славян дагэтуль застаецца адной з загадак еўрапейскай гісторыі. Старажытныя грэцкія і рымскія аўтары згадваюць славян ужо з самага пачатку I тысячагоддзя н. э. Але археалагічныя знаходкі, якія можна бясспрэчна назваць славянскімі, належаць да V ст. Якраз гэтым часам славяне ўлучыліся ў так званае «Вялікае перасяленне народаў», якое непазнавальна змяніла Еўропу.

Славянскія плямёны мелі сваю прарадзіму. Паводле летапісаў, гэта былі землі на рацэ Дунаі. Адны сучасныя гісторыкі мяркуюць, што напачатку славяне жылі не на Дунаі, а ў басейне рэк Віслы і Одры на тэрыторыі цяперашняй Польшчы. Іншыя лічаць, што, апрача гэтых земляў, прарадзімаю славян было міжрэчча Дняпра і Заходняга Буга, а таксама паўднёвая Беларусь.



Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў», найстаражытнейшага летапісу ўсходніх славян



Славянскае гарадзішча каля ракі Менкі

## ХРАНАЛОГІЯ

VI – VIII стст. – Пачатак славянізацыі тэрыторыі Беларусі.

VIII – X стст. – Існаванне аб'яднанняў летапісных плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.

Рассяленне славян у Беларусі адбывалася з поўдня на поўнач. Яны рухаліся пераважна па рэках, на берагах якіх будавалі свае гарадзішчы.



Маладая славянка з упрыгожаннямі. Рэканструкцыя паводле знаходак з радзімiцкiх пахаванняў. Мастак Алесь Пушкін



Такія пацеркі насілі старажытныя славянкі

Пахаванне ў курганным могільніку каля в. Домжарыцы. Лепельскі раён



Поруч са славянамі працягвала жыць ранейшае насельніцтва – балты. Спачатку яны жылі асобна адзін ад аднаго, але падобныя паганскія (язычніцкія) вераванні і звычаі спрыялі збліжэнню суседзяў. Каля вёскі Банцараўшчына над Менскам археолагі адкрылі гарадзішча, дзе балты і славяне жылі разам.

Візантыйскі гісторык VI ст. Пракоп Кесарыйскі пісаў пра славян: «Яны маюць высокі рост і незвычайную сілу. Колер валасоў і скуры ў іх вельмі белы або залацісты. Яны зычлівыя і зусім не злосныя». Яшчэ адзін візантыйскі аўтар таго часу адзначаў, што славяне вынослівыя, лёгка вытрымліваюць спёку, дождж, холад і нястачу ежы, а таксама прыязна ставяцца да іншаземцаў.

У горадзе Петрыкаве на поўдні краіны археолагі знайшлі адно з першых славянскіх паселішчаў. Жыхары з'явіліся там у V–VI стст. Яны жылі ў паўзямлянках з печамі-каменкамі. Другое найстаражытнейшае вядомае паселішча славян на нашых землях існавала каля вёскі Хатомель Столінскага раёна, што на Берасцейшчыне. Сярод зробленых там найбольш цікавых знаходак – жалезныя зрэзні дзідаў і стрэлаў, рэшткі ваярскага панцыра і рыштунку баявога каня.

Бронзавыя знаходкі з ваколіц в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна. X–XI стст.



Славяне мелі лепшыя, чым у балтаў, прылады працы. Яны аралі зямлю драўлянымі раламі з жалезнымі наканечнікамі-нарогамі. Ураджай жалі шырокімі вострымі сярпамі, зерне малолі на каменных жорнах.

Дасягнуўшы паўналецця, славянскія юнакі здавалі своеасаблівыя экзамены на права звацца мужчынамі. Кожны мусіў пераплысці глыбокую хуткаплынную раку, упаляваць тура, зубра або мядзведзя. Апрача фізічных выпрабаванняў сапраўдны мужчына павінен быў ведаць, кім былі ягоныя дзяды і прадзеды. Таго, хто не ведаў свайго роду да пятага калена, маглі пакараць выгнаннем, бо лічылася, што такі бяспамятны чалавек лёгка можа зрабіцца здраднікам.

# КРЫВІЧЫ. ДРЫГАВІЧЫ. РАДЗІМІЧЫ



Срэбная падвеска пачатку XI ст. з курганнага могільніка крывічоў каля в. Ізбішча

Летапісы паведамляюць, што напярэдадні стварэння нашай першай дзяржавы на абшары Беларусі жылі плямёны крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Яны ўжо мелі сваіх князёў-аб'яднальнікаў, ад імёнаў якіх, напэўна, і паходзілі іх назовы. У крывічоў такім князем або правадыром роду мог быць Крыў.

У XII ст. пляменавае найменне «крывічы» знікла з усходнеславянскіх летапісаў, бо тады ўжо існавалі дзяржавы, куды ўваходзіла насельніцтва рознага паходжання. Але народы-суседзі называлі нашых продкаў крывічамі і значна пазней. Напрыклад, немцы вялікую частку Беларусі менавалі Крывіяй і ў XIV ст. Латышы і цяпер называюць суседніх славян «krevs». Калі на пачатку XX ст. ішло змаганне за аднаўленне беларускай дзяржаўнасці, гучалі прапановы назваць краіну Крывіяй, або Крыўяй.



Рогавыя грабяні





Крывічы сталі вынікам змяшання славянаў з мясцовымі балцкімі плямёнамі, якія паступова пераймалі мову і шмат якія рысы славянскай культуры.



Крывічанка XI ст. Рэканструкцыя





Бронзавыя булава і паясны кручок з выявамі конскіх галовак. Канец X–пачатак XI ст. Курганны могільнік крывічоў і дрыгавічоў. Заслаўе



Гэты мужчына жыў у XII ст. у Навагародку



Надзвычай папулярнай жаночай аздобай былі касцяныя качачкі. Знаходка з курганоў паблізу в. Баркі Полацкага раёна

З часам крывіцкія гарадзішчы выраслі ў значныя цэнтры рамяства і гандлю – гарады. Найстаражытнейшы крывіцкі горад – Полацак. Продкі збудавалі яго на беразе Дзвіны ў тым месцы, дзе яна зліваецца з Палатою. Гэтая рака дала назоў і гораду, і моцнаму адгалінаванню крывічоў, якое летапісы называюць палачанамі. Другім важным цэнтрам крывічоў быў Смаленск. На сённяшняй тэрыторыі Беларусі знаходзяцца старажытныя крывіцкія гарады Віцебск, Ворша, Заслаўе, Копысь, Браслаў.

Сваёй матэрыяльнай культурай крывічы не вельмі адрозніваліся ад суседніх славянскіх плямёнаў. Таму, каб вызначыць тэрыторыю іх рассялення, археолагі найперш звяртаюць увагу на крывіцкія пахаванні і адметныя жаночыя ўпрыгожанні.



Жалезны грабеньчык крывічанкі пачатку XI ст. Аправа і футарал з бронзы



Пацеркі пачатку XI ст. з крывіцкага курганнага могільніка каля в. Ізбішча на Лагойшчыне



Зерневыя металёвыя пацеркі з дрыгавіцкіх пахаванняў XI ст.

Гарадзішча каля Менска





Жыхарка старажытнага Заслаўя. XI ст. Рэканструкцыя



Бронзавы амулет-змеявік XIII ст. з Віцебска



Адздоба з медзі і шкла. XI–XII стст. Рагачоўскі раён

Другое буйное аб'яднанне плямёнаў нашых продкаў – дрыгавічы (драгавічы), якія жылі паміж Прыпяццю і Дзвіной. Свой назоў яны, на думку большасці гісторыкаў, атрымалі ад слова «дрыгва», што значыць «балота». Але некаторыя вучоныя лічаць, што імя гэтаму племю даў легендарны князь Драг.

Сваіх памерлых крывічы спальвалі і хавалі пад курганнымі насыпамі, якія часам мелі даўжыню болей за 100 і шырыню 10 метраў. Такія «доўгія курганы» сустракаюцца толькі на крывіцкім абшары.

Ніхто, апрача крывічанак, не насіў вялікіх, падобных на бранзалеты колцаў з вітага меднага або, радзей, срэбнага дроту. Гэтыя ўпрыгожанні прышывалі да галаўных убораў каля скроняў. Скроневыя колцы крывічоў гісторыкі называюць іх «пляменавымі пашпартамі».



Убор радзімічанкі





Колты, старажытныя жаночыя ўпрыгожанні са срэбра з пазалотаю і перагародкавымі эмалямі. Знойдзеныя ў 1979 г. у скарбе XII–пачатку XIII ст. на замчышчы каля в. Вінічы Рагачоўскага раёна

Гарадзішча дрыгавічоў паблізу в. Старая Мыш каля Баранавічаў



Дрыгавічы займалі ўрадлівыя землі на Палессі, што дазваляла ім паспяхова займацца земляробствам і жывёлагадоўляй. Цэнтрамі гандлю і рамяства ў іх былі гарады Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Слуцак, Берасце (Брэст), Клецак, Капыль, Рагачоў. На тых землях, дзе дрыгавічы суседзілі з крывічамі, выраслі Менск, Лагойск, Барысаў.

Археолагі добра вывучылі дрыгавіцкія могільнікі. Тутэйшыя жыхары насыпалі над попелам сваіх нябожчыкаў круглыя курганы. Праз колькі стагоддзяў, калі памерлых ужо не спальвалі, дрыгавічы хавалі іх у зрубавых дамавінах з двухсхільным дахам, якія нагадвалі чалавечае жытло.



Дзяўчына XI ст.
Рэканструкцыя



Так упрыгожвалі сябе крывічанкі (злева), дрыгавічанкі (у цэнтры) і радзімічанкі

Межы рассялення дрыгавічоў вучоныя таксама акрэсліваюць па скроневых кольцах з жаночых галаўных убораў. Крывічанкі насілі простыя кольцы, скручаныя з дроту, а дрыгавічанкі надзявалі на кольца вялікія пацеркі, аздобленыя налітаванымі на іх металёвымі шарыкамі – зерняй.

Усходнімі суседзямі дрыгавічоў былі радзімічы. Гэты звяз плямёнаў жыў вакол ракі Сож і выводзіў сваё найменне ад князя Радзіма.

Землі, якія належалі радзімічам, археолагі вызначаюць зноў жа па скроневых кольцах. Радзімічанкі аздаблялі свае галаўныя ўборы кольцамі з сямю выступамі-промнямі.

Галоўным горадам радзімічаў стаў Гомель. На іх тэрыторыі ўзніклі таксама старажытныя гарады Чачэрск і Прапошаск (цяперашні Слаўгарад).



Шыйная грыўня і скроневыя кольцы з радзіміцкага курганнага могільніка



Абярэг у выглядзе коніка з гарадзішча Масkавічы на Браслаўшчыне. Продкі верылі, што такія падвескі засцерагаюць ад ліхіх духаў, адводзяць хваробы і прыносяць поспех у гаспадарцы і на паляванні

Славяне паспяхова асвойвалі новыя землі і ўжо ў раннім Сярэднявеччы сталі пераважным насельніцтвам тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Гарады ў беларусаў узніклі на некалькі стагоддзяў раней, чым у летувісаў і латышоў.

Перамога Воўчага Хваста, ваяводы кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча, над радзімічамі на рацэ Пішчане ў 984 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу





Пярсцёнак XII ст. з Навагародка

# ЗАНЯТКІ І ПОБЫТ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Спачатку славяне займаліся лядным земляробствам. Але паступова пашыралася ворыўнае папарнае карыстанне зямлёю, якое было больш дасканалым. Адну частку поля разворвалі і засявалі, а другая была пад «папарам» – адпачывала.

Зямлю ўраблялі драўлянымі раламі з жалезнымі нарогамі і сохамі з такімі ж сашнікамі. Шырока выкарыстоўваліся зробленыя з дрэва бароны-сукаваткі. Сеялі тагачасныя земляробы жыта, пшаніцу, ячмень, проса, лён, каноплі, боб і гарох. Цяглавай сілай людзям служылі коні і валы. Апрача таго, прашчуры разводзілі кароў, козаў, свіней, авечак.

Срэбная завушніца XI ст. з скарбу, знойдзенага ў 1957 г. на ўскрайку в. Дзягзіны паблізу Капыля

Мужчыны часта выпраўляліся на паляванне і на рыбную лоўлю. Палявалі на зуброў, аленяў, тураў, мядзведзяў, дзікоў, ласёў, а таксама на дзікую птушку: гусей, качак, лебедзяў. Беларускія рэкі тады мелі непараўнальна болей рыбы, і нашыя прадзеды славіліся як выдатныя рыбаловы.

З лесам быў звязаны такі старажытны промысел, як бортнае пчалярства, або бортніцтва. Ад лясных пчол атрымлівалі не толькі мёд, але і воск, які вельмі цаніўся ў нашых блізкіх і далёкіх суседзяў.

Людзі жылі пераважна ў невялікіх адкрытых паселішчах – вёсках.

Асноўнымі заняткамі старажытных жыхароў Беларусі былі земляробства і жывёлагадоўля. У крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў параўнальна з балтамі абодва гэтыя заняткі стаялі на вышэйшай прыступцы



Рыбалка і лоўля птушак «перавесам». Старажытны малюнак

развіцця. У выніку ствараліся значныя запасы харчу, што вяло да хуткага росту славянскага насельніцтва.



Зрэзні стрэлаў X–XIII стст. з гарадзішча Кульбачына Шчучынскага раёна



Ворыва. Старажытны малюнак



Будаўніцтва горада. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Стажар. З узнятых пабудоў на ўзвышшах дазорцы сачылі за набліжэннем ворага. Малюнак беларускага мастака першай паловы XX ст. Язэпа Драздовіча



Бронзавая капавушка (вухачыстка) з выявай сабачкі. XII ст. Навагародак

Жаночая аздоба з бронзы



Гэты бранзалет XII–XIII стст. з каляровага шкла належаў жыхару старажытнага Лукомля. Археолагі налічваюць у Беларусі каля трыццаці варыянтаў бранзалетаў дзевяці колераў

Усё большую значнасць для чалавечага жыцця набывалі разнастайныя рамёствы. Продкі беларусаў ужо тысячу гадоў таму дасягнулі высокага майстэрства ў апрацоўцы жалеза і ў ганчарнай справе. Жанчыны былі таленавітымі праллямі і ткаллямі.

Ігрышча. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



На поўдні Беларусі жытлом найчасцей служылі паўзямлянкі, а на поўначы – зрубныя хаціны. На сям'ю прыпадала ў сярэднім 10–20 квадратных метраў.

У куце гэтага цеснага жытла стаяла каменная або глінабітная печка. Комінаў не было, і дым выходзіў праз адтуліну ў страсе. Падлогу толькі зрэдку рабілі з драўляных плашчакоў, а звычайна – з гліны. Зазірнуўшы ў адзінае нізкае акенца памерам на таўшчыню бервяна, у хаціне можна было ўбачыць дашчаны стол, лаўкі-лежакі і паліцы для начыння. Побач з жытлом людзі ставілі гаспадарчыя пабудовы і часта капалі ямы-схованкі.

На берагах рэк стаялі ўмацаваныя гарадзішчы, якія можна назваць тагачаснымі замкамі. Гарадзішча абкружалі высокі вал і глыбокі роў. Яно было абнесенае драўлянай сцяной або частаколам. На месцы шмат якіх гарадзішчаў пазней выраслі гарады.

Так выглядала паселішча нашых далёкіх продкаў





Гарадзішча VII–VIII стст. у верхнім Падняпроўі



Бранзалет
з змяінагаловымі канцамі
XI–XII стст., які ахоўваў
здароўе свайго ўладальніка.
Дзявочая гара,
Валожынскі раён

# ДАХРЫСЦІЯНСКАЯ ВЕРА

Адным з галоўных багоў славяне лічылі Перуна. Яго ўяўлялі барадатым волатам з сівымі або вогненна-рудымі валасамі, які трымаў у руках лук і стрэлы-маланкі. Пярун пасылаў навальніцы, а таксама быў апекуном ваяроў. Ягонае імя засталося ў беларускай мове і азначае аглушальны ўдар грому з маланкай.

## Мнагабожжа

Нашыя продкі, славяне і балты, напачатку былі паганцамі – мнагабожцамі. Апрача таго, паганцы (язычнікі) пакланяліся рэкам, азёрам, крыніцам, камяням, дрэвам. Жыхары беларускіх земляў асабліва шанавалі старажытныя дубы.

Людзі верылі, што побач з імі – у небе, на зямлі і пад зямлёю – жывуць розныя багі, якія маюць чалавечыя аблічча і звычаі. У іх прасілі дапамогі на полі і пашы, на паляванні і рыбнай лоўлі. Багі маглі спрыяць чалавеку, а маглі гневацца і пасылаць недарод, хваробу або іншае няшчасце.

Найвышэйшы старажытны бог славянаў меў некалькі імёнаў, але найчасцей яго называлі Родам або Сварогам. Ён быў гаспадаром зямлі і неба, кіраваў рухам сонца і зорак.

Ярыла, Дажбог, Каляда і Хорс былі багамі Сонца. Ад іх залежалі ўрадлівасць зямлі, дабрабыт і плён працы земляробаў і рамеснікаў. Бог Вялес клапаціўся пра свойскую жывёлу. Кавалі імкнуліся сябраваць з богам агню Жыжалем.

Багіню ўраджаю і сямейнага жыцця ласкава звалі Цёцяй, а багіню жаночай прыгажосці і кахання – Лёляй.



Старажытная драўляная выява чалавека з паселішча Асавец. Бешанковіцкі раён



Малітва славянскага купца (паводле апісання арабскага падарожніка і пісьменніка X ст. Ібн Фадлана)



Кіданне жэрабя дзеля вызначэння ахвяры паганскім багам. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Паганскі святар-вяшчун перад князем.
Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Продкі верылі, што ў лесе гаспадарыць Лясун, у доме – Дамавік, а на жытнёвым полі – Жыцень, які пераносіць каласкі ад лайдакоў да працавітых гаспадароў.

З дрэва, гліны, каменю і косці паганцы рабілі вялікія і маленькія выявы багоў, якія называюцца стодамі (ідаламі).

## Капішчы

Дзеля ўшанавання багоў продкі будавалі бажніцы – капішчы, дзе заўсёды падтрымліваўся агонь. Звычайна іх узводзілі на пагорках і астравах, на берагах рэк і азёраў. Каля Валовай азярыны паблізу старажытнага Полацка знаходзілася адно з капішчаў Пяруна.



Алтар Зніча – бога пахавальнага агню. Гравюра XIX ст.

Захавалася апісанне крывіцкага капішча ў гонар Пяруна: «Боства гэтае мела выгляд чалавека з крэменем у руцэ, падобным да грамавой стралы. Каля яго і ўдзень, і ўначы, і ў залеву гарэла вогнішча з дубовых дроў. Таго, хто не ўпільнуе святога агню і дазволіць яму патухнуць, чакала смерць».

Археолагі знайшлі капішча каля вёскі Холасавічы Рагачоўскага раёна. У цэнтры круглай абгароджанай частаколам пляцоўкі там стаяў вялікі драўляны стод, вакол якога з чатырох бакоў распальвалі вогнішчы.

Бажніцы далёкіх продкаў можна ўявіць па старадаўніх замовах і заклёнах: «А ў цёмным лесе стаіць гара высокая, там растуць дубы вячыстыя, там бяжыць вада цудоўная. А я ж тую ваду брала, балючае цела абмывала, піць давала...»



Невельскі стод. Двухаблічная выява паганскага бога



Паганскі культавы камень



Закляцце мяча перад паганскім стодам. Гравюра XIX ст

## Святы і абрады

Самым вясёлым святам у славян-паганцаў былі Каляды. Па дварах і хатах з песнямі хадзілі каляднікі, якія вадзілі з сабою хлопцаў і дзяўчатаў, пераапранутых у Мядзведзя, Бусла і Казу. Верхаводзіла сярод іх Каза, якая ўвасабляла сонца, што пасылае зямлі сілу і новы ўраджай. Таму гурт каляднікаў і спяваў:

*Дзе каза рогам,*
*Там жыта стогам,*
*Дзе каза хвастом,*
*Там жыта кустом...*



Да прыняцця хрысціянства адным з галоўных боствішчаў нашых продкаў быў Пярун – апякун вояроў, бог грому і маланкі



Посуд эпохі бронзавага веку з беларускага Прыдняпроўя



Кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч загадвае паставіць на пагорку паблізу свайго харама драўляную выяву бога Пяруна са срэбнай галавой і залатымі вусамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Славянскае свяцілішча, дзе выпякаўся рытуальны хлеб. Рэканструкцыя

Улетку святкавалі Купалле. Продкі верылі, што Купальская ноч чароўная: дрэвы з вечара да раніцы могуць хадзіць, звяры – размаўляць, а людзі – разумець іх мову. Гэтае свята беларусы адзначаюць і цяпер.

Светлым і радасным днём у продкаў было Гуканне вясны, калі клікалі добрых духаў і прасілі іх ажывіць зямлю пасля зімовага сну. Існавалі таксама святы маладых усходаў, пачатку і заканчэння жніва.



Паганская бажніца з жорнамі. Рэканструкцыя

Славяне глыбока шанавалі сваіх продкаў, якіх называлі дзядамі. Увесну хадзілі да іх на магілы з пачастункам, каб падзяліцца радасцю зямнога абуджэння. Увосень дзядоў чакалі за сталом дома. Святы ўшанавання продкаў захаваліся дагэтуль. Вясновы дзень сустрэчы з імі ў беларусаў называецца Радаўніца, а восеньскі – Дзяды.

Збруцкі стол. Святавід-Род. IX ст. На яго чатырох гранях выявы паганскіх багоў Макошы, Вялеса, Перуна і Лады







Прысяга ваяроў князя Алега зброяю і богам Перуном. Фрагмент мініяцюры Радзівілаўскага летапісу

Шклоўскі стод, X ст. Гэтую зробленую з пясчаніку выяву паганскага бога знайшлі на беразе рэчкі Серабранкі паблізу Шклова

# ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА





Славутая «карта-абраз», створаная пры канцы XIII ст. у нямецкім кляштары Эбсторф, падае Полацак і Смаленск (на фрагменце злева) як буйныя палітычныя цэнтры Усходняй Еўропы

Вакол Полацка аб'ядналіся іншыя крывіцкія землі, якія прызнавалі ўладу полацкіх князёў. Так узнікла першая дзяржава нашых продкаў – Полацкае княства, якое летапісы называюць таксама Полацкай зямлёй.

**Полацкая зямля ў X–XII стст.**




## Сталіца

Полацак вырас на вельмі зручным месцы, дзе рака Палата зліваецца з Дзвіной. Па Дзвіне праходзіў старажытны гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі». Ён звязваў Балтыйскае мора з Чорным і спрыяў развіццю навакольных земляў. На тэрыторыі Полацкай зямлі пазней былі знойдзены 38 скарбаў арабскіх і еўрапейскіх срэбных манет IX–XI стст.



Воднымі шляхамі і рачнымі валокамі землі старажытнай Беларусі былі звязаныя са Скандынавіяй, Міжземнамор'ем і краінамі Усходу

## ХРАНАЛОГІЯ

862 г. – Першая згадка ў летапісах пра Полацак.

Сярэдзіна X ст. – Утварэнне Полацкага княства, першай старажытнабеларускай дзяржавы.

980 г. – Летапісныя звесткі пра першага беларускага князя Рагвалода.

1000 г. – Смерць вялікай княгіні Рагнеды.

Так выглядаў Полацак у XII–XIII стст. Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка

Займаючы выгоднае геаграфічнае становішча, Полацак хутка рос, багацеў, і ператвараўся ў самы буйны на абшары крывічоў цэнтр рамёстваў і гандлю. У 907, 911 і 944 гадах полацкія ваяры разам з дружынамі суседзяў-славян удзельнічалі ў паходах на сталіцу Візантыйскай імперыі Канстанцінопаль (Царгорад). Пасля перамог Полацак атрымліваў ад візантыйцаў даніну.

У гісторыі Беларусі велізарная роля належыць Полацку. Летапісы ўпершыню згадваюць гэты крывіцкі горад пад 862 г., а скандынаўскія сагі – на некалькі стагоддзяў раней. Полацак – найстаражытнейшы з гарадоў нашай краіны. Таму яго называюць «бацькам гарадоў беларускіх».



Дзяўчына з заможнай сям'і. XII ст. Рэканструкцыя. Мастак Алесь Пушкін



Полацкае Евангелле XII ст.



Залаты пярсцёнак з Полацка. XI ст



Сярэднявечная пячатка з надпісам «князь Усяслаў»



Сваты Уладзіміра Святаславіча ў князя Рагвалода. Полацкі ўладар гутарыць з Рагнедай, якая адмовілася стаць жонкаю Уладзіміра. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Першым вядомым з летапісаў валадаром Полацкага княства быў Рагвалод.



Паход Уладзіміра Святаславіча на Полацак. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

### Князь Рагвалод

Рагвалод меў двух сыноў і дачку Рагнеду. Князі суседніх земляў імкнуліся да хаўрусу з Полацкам. Каб атрымаць падтрымку палачанаў у барацьбе за кіеўскі пасад, да Рагнеды сватаўся ноўгарадскі князь Уладзімір Святаславіч. Рагнеда са згоды бацькі адмовілася, бо раней ужо пагадзілася на шлюб з кіеўскім князем Яраполкам.

Але гэта не спыніла Уладзіміра. Сабраўшы вялікае войска з варагаў, славян і чудзі (продкаў эстонцаў), ён рушыў на Полацак. Рагвалод з сваімі дружынамі выйшаў насустрач. Сілы былі вельмі няроўныя, і ў жорсткай сечы перамог Уладзімір. Палачане адступілі за гарадскія сцены і мужна бараніліся. Аднак ворагам удалося ўзяць горад прыступам.

Полацак быў спалены і зруйнаваны, а Рагвалод з сям'ёю трапіў у палон. На загад Уладзіміра полацкі князь, ягоная жонка і двое сыноў былі забітыя.

Гэтыя трагічныя падзеі, вядомыя як «крывавае вяселле», разыграліся блізу 980 г.



Захоп Полацка князем Уладзімірам Святаславічам. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Помсцячы за спалены Полацак і знішчаную сям'ю, Рагнеда Рагвалодаўна спрабуе забіць мужа. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Каралі з ракавінак каўуры, знойдзеныя на Полацкім гарадзішчы

Дзякуючы вялікай княгіні Рагнедзе захавалася полацкая княская дынастыя Рагвалодавічаў, прадстаўнікі якой валодалі Полацкай зямлёй у X–XIII стст.

## Рагнеда

Палонную полацкую князёўну Рагнеду Уладзімір супроць яе волі зрабіў сваёй жонкаю.

Неўзабаве ён перамог кіеўскага князя Яраполка і пачаў валадарыць у Кіеве. У адной з недалёкіх вёсак Уладзімір пасяліў Рагнеду, якой тады далі новае імя – Гарыслава. Летапісы захавалі яе словы, сказаныя аднойчы нялюбаму мужу: «Ты бацьку майго забіў, княства ягонае захапіў, а мяне, як палонніцу, за жонку ўзяў».

Рагнеда вырашыла паквітацца за сваіх родных і за ўсю паняволеную Полацкую зямлю. Аднаго разу, калі Уладзімір спаў, яна занесла над ім меч, але князь прачнуўся і прадухіліў удар. Непакорлівая палачанка мужна прызналася, што хацела адпомсціць.

Уладзімір узяў у рукі меч, але на абарону маці таксама з мячом у руках стаў малалетні княжыч Ізяслаў. Паклікаўшы на раду сваіх баяраў, Уладзімір атрымаў параду не забіваць жонкі, а выслаць яе з сынам назад на бацькаўшчыну. Князь загадаў пабудаваць для іх горад, які назваў сынавым імем – Ізяслаўль. Цяпер гэты размешчаны паблізу Менска горад называецца Заслаўем. Там у 1000 г. і закончыўся зямны шлях вялікай княгіні Рагнеды Рагвалодаўны.



Уладзімір Святаславіч хоча пакараць Рагнеду смерцю пасля няўдалага замаху на ягонае жыццё. На абарону маці ўстае княжыч Ізяслаў (злева).
Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Кіеўскі князь Уладзімір раіцца з баярамі пра лёс Рагнеды і Ізяслава.
Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Залатое скроневае кольца. Полацак. XII ст.

# ПРЫНЯЦЦЕ ХРЫСЦІЯНСТВА



Бурштынавы крыж XII–XIII стст. з балцка-славянскага памежжа

У 988 г. вялікі князь Уладзімір Святаславіч перавёў у хрысціянскую веру кіян і пачаў пашыраць хрысціянства ў падуладных яму землях. Вельмі часта гэта адбывалася пад прымусам. Як паведамляюць летапісцы, ноўгарадцаў кіеўскія ваяводы хрысцілі «агнём і мячом». Прыход новай веры ў беларускі Тураў, які тады быў залежны ад Кіева, таксама стаў драматычнай падзеяй: там дагэтуль жыве паданне пра каменныя крыжы, што прыплылі з Кіева і афарбавалі Прыпяць крывёю.

Пераход да хрысціянства ў Полацкім княстве адбываўся інакш. Кіеў не меў дастатковай сілы, каб хрысціць палачанаў прымусова. Нашая старажытная дзяржава, дзе валадарылі нашчадкі Рагнеды, адраджала сваю самастойнасць. Разам з тым полацкія князі не хацелі бачыць сваю краіну паганскім востравам сярод хрысціянскіх еўрапейскіх дзяржаваў. Умацаванне княскай улады, развіццё рамёстваў і гандлю выклікалі патрэбу ў пісьменстве, адукаваных людзях, новых поглядах на свет.

Разумеючы перавагі, якія давала дзяржаве і яе народу хрысціянства, Полацак прыняў новую веру сам і спрыяў мірнаму пашырэнню Хрыстовага вучэння на ўсім крывіцкім абшары. Хрысціянства на беларускіх землях было прынятае без гвалту і цягам стагоддзяў мірна суіснавала з ранейшым светаўспрыманнем.



Святыя Мікола і Стэфан. Каменны абразок з Менска. Першая палова XIII ст.

Грэцкі філосаф паказвае кіеўскаму князю Уладзіміру Святаславічу выяву Ісуса Хрыста. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



**ХРАНАЛОГІЯ**

988–1101 гг. – Княжанне ў Полацку Ізяслава.
992 г. – Утварэнне Полацкай епархіі.
1005 г. – Заснаванне Тураўскай епархіі.



Бронзавы абразок з выявай Маці Божай. XII ст. Лагойск



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу, якая, на думку некаторых гісторыкаў, ілюструе асвячэнне Сафійскага сабора ў Полацку



Маці Боская. Двухбаковы каменны абразок XIII ст. з раскопак старажытнага Менска

Першымі вядомымі з гістарычных крыніц хрысціянамі ў Полацкім княстве былі Рагнеда (яна прыняла манаства пад імем Настасся) і яе сын князь Ізяслаў. Летапісы называюць Ізяслава чалавекам набожным і вялікім кніжнікам. Ён увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце, зрабіўшыся такім чынам нашым першым асветнікам. Знойдзеная археолагамі пячатка князя Ізяслава з надпісам лічыцца адным з найдаўнейшых помнікаў пісьменства ўсходніх славянаў.



Адзін з помнікаў беларускай эпіграфікі XII ст. «Барысаў камень» з выявай крыжа. Знаходзіўся ў рацэ Дзвіне паблізу Дзісны. Гравюра XIX ст.



Крыж – найбольш пашыраны сімвал хрысціянства. Дзвюхрасчынкавы нагрудны літы крыж-складзень (энкалпіён) з бронзы



«Рагвалодаў камень» [illegible], 1171 г.

Трывалыя сувязі Полацкага княства з Канстанцінопалем, што выяўляліся і ў дынастычных шлюбах, і ў магутным уплыве візантыйскай культуры, дазваляюць лічыць, што новая вера прыйшла сюды наўпрост з Візантыі.

Ужо ў 992 г. утварылася Полацкая епархія – царкоўная акруга, якой кіраваў епіскап. У другім старажытнабеларускім княстве – Тураўскім – епархія была заснаваная ў 1005 г. Ад XII ст. мела сваю епіскапскую кафедру і Смаленскае княства.

Праз хрысціянскую культуру Беларусь увайшла ў еўрапейскую цывілізацыю. Царкоўнаславянская мова тагачасных рэлігійных кніг была своеасаблівай «усходнееўрапейскай лацінай», якую разумелі адукаваныя людзі ад Адрыятычнага да Варажскага (Балтыйскага) мора. Хрысціянскія запаведзі паляпшалі маральны стан грамадства. Адыходзілі ў мінулае паганскія ахвяраванні, кроўная помста, мнагажонства.

На беларускіх землях распачалося будаўніцтва мураваных храмаў і манастыроў. У сярэдзіне XI ст. у Полацку падняўся над Дзвіной велічны сабор Святой Сафіі. У XII ст. у сталіцы нашай старажытнай дзяржавы былі збудаваныя дзесяць мураваных храмаў.



Святыя Канстанцін і Алена. XII ст. Гэты унікальны абразок з мяккага каменю з пазалотай археолагі знайшлі ў Полацку ў 1967 г.



Царква Звеставання (Дабравешчанская) у Віцебску стала адным з узораў Полацкай школы дойлідства. Сярэдзіна XII ст. Рэканструкцыя

Беларускія княствы прынялі хрысціянства яшчэ да яго афіцыйнага падзелу на ўсходнюю і заходнюю плыні, што адбылося ў 1054 г. Хрысціўшыся паводле грэцкага абраду, нашыя продкі не адчувалі варожасці да вернікаў-лацінянаў.

Святы Пётра з знойдзенага ў Менску каменнага абразка XII ст.

Свае каменныя бажніцы імкнуўся мець кожны горад. Для прадзедаў храм служыў вобразам і мадэллю Сусвету. Хараство і гармонія гэтых архітэктурных помнікаў далучалі вернікаў да высокага мастацтва.

Васіль Вялікі (?). Фрэска Полацкай Спасаўскай (Спаса-Еўфрасіннеўскай) царквы. XII ст.



Евангелле XII–XIV стст. з Полацкага манастыра Івана Папярэдніка. Знаходзіцца ў Расейскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбурзе

Пры цэрквах і манастырах навучалі грамаце, перапісвалі кнігі. Адукаваныя манахі вялі летапісы, былі дарадцамі ў дзяржаўных справах.

У XII ст. у Полацкім княстве працягвалі пашырацца жыціяпісы рымскіх святых. «Родам рымлянін» быў беларускі святы Меркур Смаленскі. Ужо ў тыя часы продкам быў уласцівы дух талеранцыі – рэлігійнай і нацыянальнай цярпімасці.



Рэканструкцыя шалома XI–XII стст. паводле знаходак у курганах Беларусі

# АДНАЎЛЕННЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Пасля заўчаснай смерці Рагнедзінага сына Ізяслава, які аднавіў полацкую княскую дынастыю, пасад у сталіцы дзяржавы заняў ягоны сын Брачыслаў. Малалетні князь застаўся апошнім жывым Рагвалодавічам. Палачане глядзелі на яго з вялікімі спадзяваннямі.

Полацкае княства адраджала сваю самастойнасць, і дзеля эканамічнай незалежнасці яму былі неабходныя волакі на гандлёвых шляхах. Ключы ад волакаў – гарады Віцебск і Усвят – перайшлі пад уладу Ноўгарада, куды і плыло багатае мыта – даніна з падарожных купцоў. Полацак марыў павярнуць гэтую залатую ручаіну да сябе, аб'яднаць крывіцкія землі і далучыць да іх дрыгавіцкія.

У 1021 г. Брачыслаў з войскам вырушыў у паход на Ноўгарад, які знаходзіўся ў залежнасці ад кіеўскага князя Яраслава Мудрага, сына Уладзіміра Святаславіча. Разам з палачанамі ішла варажская дружына Эймунда. Кіеў не заплаціў варагам за службу, і яны выбралі сабе новага гаспадара – Брачыслава, што, вядома, было прызнаннем яго сілы.

**Полацкая дзяржава пры князі Брачыславе**






Лаўрэтападобныя зрэзні стрэлаў X–XI стст. з в. Кулбачына Шчучынскага раёна

## ХРАНАЛОГІЯ

1003–1044 гг. – Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяслававіча.

1021 г. – Войска князя Брачыслава авалодала Ноўгарадам. Бітва на рацэ Судоме.



Пячатка полацкага князя Ізяслава – сына Рагнеды і бацькі Брачыслава



Баявая сякера

На шляху дадому Брачыславава войска ўбачыла перад сабою баявыя харугвы Яраслава Уладзіміравіча. Бітва адбылася на рацэ Судоме. Усходнеславянскія летапісы сцвярджаюць, што перамог Яраслаў, аднак гэта не так. Кіеўскі князь не толькі не пайшоў далей у Полацкую зямлю, але нават аддаў Брачыславу Віцебск і Усвят – якраз тыя гарады, якіх Полацку не хапала для моцных пазіцый на шляху «з варагаў у грэкі». Праўду пра тую бітву мог бы сказаць Полацкі летапіс, які, на вялікі жаль, не дайшоў да нашых дзён.

Брачыслаў і Яраслаў пасля сечы на Судоме дасягнулі пагаднення, што яны маюць на спадчыну князя Уладзіміра Святаславіча роўныя правы і будуць кіраваць ёю са сваіх вотчын – Полацка і Ноўгарада – праз намеснікаў. Гэта азначала прызнанне незалежнасці Полацкага княства. Летапісы згадваюць пра існаванне ў Кіеве «Брачыслававага» і «Яраслававага» двароў.

Палітыку бацькі, накіраваную на захаванне і ўмацаванне незалежнасці старажытнабеларускай дзяржавы, прадоўжыў наступны полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, празваны Чарадзеем.

Брачыслаў здзейсніў некалькі пераможных паходаў і значна пашырыў межы Полацкай дзяржавы на поўдні і поўначы. З імем гэтага князя звязанае заснаванне горада Брачыслаўля (цяперашні Браслаў). Паселішча з такім назовам існуе і паблізу Воршы, якая разам з Копысем і часткаю Прыдняпроўя таксама трапіла пад уладу Полацка ў час княжання Брачыслава.



Медны медальён XII ст. з выявай святога Дзімітра. Ваўкавыск



Пацеркі з пазалочанага шкла, знойдзеныя ў курганным могільніку каля в. Ізбішча Лагойскага раёна. Пачатак XI ст.

Палачане быццам з-пад зямлі выраслі перад магутнымі ноўгарадскімі сценамі і ўзялі горад прыступам. Услед за сталіцай Брачыслаў авалодаў усім суседнім княствам.



Бітва полацкага князя Брачыслава з дружынай Яраслава Уладзіміравіча, князя кіеўскага, на рацэ Судоме. Пасля гэтай сечы Полацкае княства канчаткова аднавіла сваю незалежнасць. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Пачатак княжання Усяслава Брачыславіча ў Полацку. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

# КНЯЗЬ УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Летапісы паведамляюць, нібыта найславуцейшы з полацкіх князёў нарадзіўся «ад валхвавання», гэта значыць пры ўдзеле паганскіх чараўнікоў «валхвоў». Сучаснікі і нашчадкі верылі, што неба надзяліла Усяслава вешчай душою і здольнасцю ператварацца ў ваўка ці сокала, дзякуючы чаму ён мог хутка пераадольваць вялікія адлегласці, неспадзявана з'яўляцца ў розных месцах. Энергія і розум полацкага князя, а таксама яго поўнае прыгодаў жыццё натхнялі старажытных гусляроў і складальнікаў былін. За свае незвычайныя якасці Усяслаў Брачыславіч атрымаў яшчэ адно імя – Чарадзей.



Паход Усяслава Чарадзея на Ноўгарад. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Збудаваны на загад князя Усяслава Чарадзея Сафійскі сабор быў сэрцам старажытнабеларускай дзяржавы. Там не толькі маліліся, але і прымалі замежных паслоў, абвяшчалі войны і падпісвалі мір, захоўвалі княжэўскі скарб і заснаваную князем Ізяславам бібліятэку. Там складаўся Полацкі летапіс. Каля сцен Сафіі палачане збіраліся на вечавыя сходы, дзе вырашаліся галоўныя дзяржаўныя справы.



Бітва на рацэ Нямізе. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

## ХРАНАЛОГІЯ

1044–1101 гг. – Княжанне Усяслава Брачыслaвіча.
1050–1055 гг. – Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора.
1066 г. – Пераможны паход палачанаў на Ноўгарад.
3 сакавіка 1067 г. – Бітва на Нямізе. Першыя летапісныя звесткі пра Менск.
1068–1069 гг. – Княжанне Усяслава Чарадзея ў Кіеве.
1078 г. – Перамога палачанаў над войскамі Уладзіміра Манамаха.



Сумесны паход украінскіх князёў Яраславічаў з дружынамі князя Усяслава Чарадзея на качэўнікаў-торкаў у 1060 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Князь Усяслаў з сынамі пераправляецца праз Дняпро і трапляе ў кіеўскую вязніцу. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

## Сафійскі сабор

Два першыя дзесяцігоддзі княжання князь Усяслаў жыў з суседнімі княствамі ў згодзе. Якраз у тым часе на стромкім беразе Дзвіны і падняўся грандыёзны шматкупальны Сафійскі сабор, трэці такі храм на ўсходнеславянскіх землях. Апрача Полацка Сафійскія саборы былі яшчэ ў Ноўгарадзе і Кіеве. У перакладзе з грэцкай мовы імя «Сафія» азначае «мудрасць», якая, паводле ўяўленняў вернікаў, кіравала Сусветам.

На пакладзеным у парозе Сафіі вялізным камені-валуне, што праз дзевяць стагоддзяў ператварыўся ў музейны экспанат, старажытныя полацкія майстры пакінулі нам свае імёны: Давыд, Тума, Мікула...

**Межы Полацкай дзяржавы пры Усяславе Чарадзеі**






Пабудаваны ў часе княжання Усяслава Сафійскі сабор увасабляў незалежнасць Полацкага княства. Варыянт рэканструкцыі



Усяслаў Чарадзей ва ўяўленні мастака Язэпа Драздовіча

## Бітва на Нямізе

У сярэдзіне 60-х гадоў XI ст. мірнае жыццё княства скончылася. Усяслаў зрабіў імклівы паход на Ноўгарад і вярнуўся пераможцам, прывёзшы з сабою сярод астатняй здабычы і званы, знятыя з ноўгарадскай Сафіі. Праз колькі месяцаў полацкая дружына здзейсніла яшчэ адзін паспяховы паход – на горад Новагародак (цяперашні Навагрудак), які належаў тады Кіеву. Другая важная перамога запар устрывожыла трох сыноў Яраслава Мудрага на чале з кіеўскім князем Ізяславам.

Усе спробы ўлучыць Полацкае княства ў склад Кіеўскай Русі заканчваліся правалам. Яно заставалася незалежнай дзяржавай і адыгрывала важную ролю ва Усходняй Еўропе.



Паўстанне 1068 г. у Кіеве. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Бітва Усяслава з варожым войскам адбылася паблізу Менска на рацэ Нямізе. «І была сеча жорсткая, і шмат воінаў палегла»,– занатаваў летапісец. Хоць і дарагой цаной, але Чарадзей абараніў дзяржаву, змусіўшы сыноў Яраслава Мудрага адвесці войскі.

Злучыўшы свае сілы, яны напалі на Менск, што стаяў на паўднёвай мяжы Полацкага княства. Усяслаў спяшаўся на дапамогу, але спазніўся. Менск быў спалены, а яго абаронцаў напаткала лютая расправа: усіх мужчын пасеклі, а жанчын і дзяцей забралі ў палон. З гэтымі трагічнымі падзеямі і звязаныя першыя летапісныя звесткі пра сённяшнюю сталіцу Беларусі.

Неўзабаве кіеўскія князі запрасілі Усяслава на перамовы. Пацалаваўшы крыж, яны прысягнулі, што не ўчыняць яму ліхога. Але клятва была парушаная: Чарадзея разам са старэйшымі сынамі захапілі ў палон і адвезлі ў Кіеў.

Полацкага князя трымалі ў страшнай земляной турме, але праз год у Кіеве пачалося паўстанне і кіеўскі князь уцёк. Паўстанцы вызвалілі Усяслава Чарадзея і абвясцілі яго вялікім князем кіеўскім. Аднак праз сем месяцаў ён вярнуўся на радзіму і пасля зацятага змагання цалкам вызваліў Полацкае княства.

У 1078 г. палачане атрымалі надзвычай важную перамогу над аб'яднанымі войскамі паўднёвых княстваў, ноўгарадцаў і полаўцаў, якія вёў на Полацкую зямлю Уладзімір Манамах.

Аўтограф палачаніна Вайнега на сцяне кіеўскага Сафійскага сабора

Продкі верылі, што, перахрысціўшыся, чалавек адразу вызваляецца ад грэшных думак. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

## Росквіт Полацкага княства

У часы Усяслава наша старажытная дзяржава дасягнула свайго найвышэйшага ўздыму. Сваёй тэрыторыяй Полацкае княства было роўнае такім тагачасным еўрапейскім краінам, як герцагства Баварскае або каралеўства Партугальскае. Апрача сталіцы яно налічвала яшчэ паўтара дзесятка гарадоў: Віцебск, Браслаў, Заслаўе, Усвят, Копысь, Менск, Ворша, Лукамль, Лагойск, Друцак, Барысаў... На землях, дзе жылі продкі сучасных латышоў, стаялі гарады Герсіка і Кукенойс, у якіх кіравалі полацкія васалы.

Пра міжнародны аўтарытэт Полацкай зямлі кажа сваяцтва Рагвалодавічаў з візантыйскай імператарскай дынастыяй Камнінаў. Некаторыя гісторыкі лічаць, што дачка Усяслава Чарадзея была жонкаю візантыйскага імператара Аляксея.

Улада Полацка пашыралася на ніжняе Падзвінне, да самага Балтыйскага мора. Гэта значыць, што Полацкае княства было марской дзяржавай.

Кіяне вызваляюць Усяслава Чарадзея з вязніцы. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Полацак разам з Кіевам і Ноўгарадам быў адным з трох найбуйнейшых палітычных і культурных цэнтраў ва Усходняй Еўропе.

Усяслаў Чарадзей на вялікакняскім кіеўскім пасадзе. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу




Гарадзішча. Малюнак Язэпа Драздовіча



Сын Усяслава Чарадзея князь Глеб Менскі працягваў бацькаву незалежніцкую палітыку

# ЗМАГАННЕ З КІЕВАМ

Пасля смерці Усяслава Чарадзея Полацкая зямля пачала дзяліцца на асобныя ўдзельныя княствы. Найбольш моцным з іх было Менскае на чале з сынам Чарадзея князем Глебам.

Тым часам Глеб пачаў заваёўваць наваградскія і смаленскія землі. Гэта сталася прычынаю другога паходу кіеўскіх дружын на Менск. Гэтым разам Манамах захапіў Глеба ў палон. Менскі князь апынуўся ў кіеўскім астрозе, дзе некалі сядзеў у кайданах разам з бацькам. Праз колькі месяцаў ён падазрона хутка памёр і быў пахаваны ў Кіева-Пячорскім манастыры.

Менскі князь Глеб у 1116 г. далучыў частку дрыгавіцкіх земляў. Узвышэнне Менска выклікала трывогу ў Кіеве, дзе князем быў Уладзімір Манамах. Ён распачаў супроць Глеба ваенныя дзеянні. Кіеўскае войска абкружыла Менск, але двухмесячная аблога не прынесла поспеху, і Манамах мусіў вярнуцца ў Кіеў.

У 1127 г. сын Уладзіміра Манамаха кіеўскі князь Мсціслаў зноў рушыў паходам на Полацкую зямлю. У ім бралі ўдзел сем князёў з сваімі войскамі. Кіяне з хаўруснікамі вялі наступ адначасова з чатырох бакоў. Былі захопленыя Лагойск і Заслаўе.



Войска ўкраінскіх князёў захоплівае Менск і бярэ ягоных жыхароў у палон. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Перад варожым войскам адкрывалася дарога на Полацак. Каб прадухіліць захоп і разбурэнне сталіцы, палачане памянялі князя. Замест Давыда Усяславіча на полацкі пасад сеў іншы сын Чарадзея – Барыс Усяславіч, які дасягнуў замірэння з Кіевам. Полацку, паводле мірнага пагаднення, былі вернутыя ўсе гарады, апрача Менска. Кіеў зноў не змог далучыць Полацкую зямлю да сваіх уладанняў.



Бітва славянскіх палкоў з полаўцамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

**Наступ кіеўскіх князёў на Полацкую зямлю ў 1127 г.**




## ХРАНАЛОГІЯ

1101–1119 гг. – Княжанне Глеба Менскага.

1129 г. – Высылка полацкіх князёў у Візантыю.

1132 г. – Полацкае веча выгнала кіеўскага стаўленіка і выбрала князем Васільку з роду Рагвалодавічаў.



Гарадская брама старажытнага Менска. Мастацкая рэканструкцыя Уладзіміра Кульванoўскага

Вяртанне кіеўскіх дружынаў з няўдалага паходу на Полацак. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Няглездзячы на смерць Глеба Менскага, нашчадкі Усяслава і надалей вялі сваю, незалежную ад Кіева палітыку. У летапісе занатавана, што ўнукі Ізяслава, князя полацкага, і ўнукі Яраслава Мудрага «варагуюць паміж сабою і меч трымаюць голы, да вайны гатовы».

Праз два гады, рыхтуючыся да паходу на полаўцаў, кіеўскі князь Мсціслаў прыслаў палачанам загад таксама збірацца на вайну. Як сведчыць летапіс, князі Усяславічы не проста адмовіліся, але і пакпілі з Мсціслава: «Ты з Баняком (так звалі палавецкага хана) шалудзяком упраўляйся сам, а мы маем дома што рабіць».

Кіеўскі валадар «абразіўся вельмі» і адразу пасля паходу на качэўнікаў кінуў супроць нашчадкаў Усяслава Чарадзея дружыны ўсіх украінскіх земляў. Пяцёх полацкіх князёў удалося разам з сем'ямі захапіць у палон. Іх завезлі ў Кіеў і ў 1129 г. пасля паказальнага суду выслалі з жонкамі і дзецьмі ў Візантыю.

На пачатку 40-х гадоў XII ст. уся Полацкая зямля зноў была пад уладаю дынастыі Рагвалодавічаў. Кіеўскія валадары пакінулі спробы падпарадкаваць Полацак і цяпер ужо імкнуліся наладзіць з яго князямі саюзніцкія сувязі.

Высылка мела ганаровы характар, бо Рагвалодавічы былі ў сваяцтве з візантыйскімі імператарамі. Палачане не марнелі ў зняволенні, а займаліся звыклай ваярскаю справай. Кесар даў ім войска і накіраваў на вайну з сарацынамі (арабамі), дзе полацкія князі атрымалі некалькі важных перамогаў.

Праз некалькі гадоў двое высланых Рагвалодавічаў вярнуліся на радзіму. У 1132 г. палачане выгналі з горада кіеўскага стаўленіка Святаполка і абвясцілі сваім князем унука Усяслава Чарадзея Васільку.



Срэбная шыйная грыўня з манетна-рэчавага скарбу IX ст., знойдзенага ў 1962 г. у ваколіцах в. Добрына Лёзненскага раёна



Дружына ў паходзе. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

# СМАЛЕНСКАЕ КНЯСТВА



Князь Расціслаў Смаленскі выпраўляе паслоў да Юрыя Далгарукага. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Апрача Полацкага крывічы стварылі яшчэ адно моцнае княства – Смаленскае. Першыя паведамленні пра Смаленск летапісцы занатавалі пад 863 годам.

Смаленцы збудавалі свой горад на берагах Дняпра. Тут скрыжоўваліся водныя гандлёвыя шляхі, якія ішлі па Дняпры, Волзе і Дзвіне, што дазволіла Смаленску хутка зрабіцца значным рамесным і гандлёвым цэнтрам.

Паступова Смаленск далучыў навакольныя гарады і землі. У Смаленскае княства ўваходзілі Ворша, Копысь, Крычаў, Амсціслаў, Прапошаск (сучасны Слаўгарад), Таропец, Рослаў, Дарагабуж, Ельня ды іншыя гарады. На захадзе Смаленская зямля межавала з Полацкім, а на поўдні – з Тураўскім і Чарнігаўскім княствамі. На ўсходзе яна займала тэрыторыю да вышнявінаў рэк Угры і Масквы, дзе межы Смаленскага княства супадалі з этнаграфічнымі межамі рассялення беларусаў.

Самастойнасці і найвышэйшае магутнасці Смаленскае княства дасягнула ў часе валадарання Расціслава Мсціславіча, які заняў княскі пасад у 1127 г. і валадарыў болей за трыццаць гадоў. Ён стаў пачынальнікам дынастыі смаленскіх князёў і заснаваў у Смаленску самастойную епіскапію.



«Ад іх жа і крывічы седзяць на верх Волгі, і на верх Дзвіны, на верх Дняпра. Іх жа горад ёсць Смаленск». Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Евангеліст Лука. Мініяцюра Аршанскага Евангелля XIII ст., якое захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Украіны



Смаленская зямля, як і іншыя старажытнабеларускія княствы, адрозна ад большасці расейскіх земляў не трапіла пад мангола-татарскі прыгнёт і захавала сваю самастойнасць.

Смаленскае княства ў XII ст.




## ХРАНАЛОГІЯ

863 г. – Першая згадка ў летапісах пра Смаленск.

1130-ыя гг. – Смаленскае княства здабыло самастойнасць.

1127–1159 гг. – Княжанне ў Смаленску Расціслава Мсціславіча.



Такой пячаткай карыстаўся смаленскі епіскап Мануіл

Святыя Аўрам і Меркур Смаленскія. Абраз 20-х гадоў XVIII ст. Беларуская школа



Пры князі Расціславе ў Смаленску былі пабудаваныя ўмацаванні і некалькі мураваных храмаў. Найбольш старажытны з іх – царква Пётры і Паўла, якая захавалася да нашых дзён. Расціслаў Мсціславіч адчыніў у сталіцы сваёй зямлі навучальню, якая давала веды такога ўзроўню, што сучаснікі называлі яе акадэміяй.

Палітыку князя Расціслава працягваў ягоны сын Раман. Летапісы паведамляюць, што князь Раман сабраў багатую па тых часах бібліятэку. Беручы прыклад з бацькі, ён адчыняў школы, запрашаў у княства замежных вучоных.

Смаленск стаў буйным культурным цэнтрам старажытнай Беларусі. Там складаўся Смаленскі летапіс. Там на пачатку XII ст. нарадзіўся адзін з самых адукаваных людзей таго часу Клім (Клімент) Смаляціч, які быў кіеўскім мітрапалітам. Там жыў і тварыў ягоны вучань, знакаміты пісьменнік і асветнік Аўрам Смаленскі.

Храм святых Пётры і Паўла ў Смаленску. Рэканструкцыя Віктара Станчанкова



Перамогу над мангола-татарамі звязваюць з імем гараджаніна Меркура, які стаў на чале смаленскага войска, што разбіла чужынцаў. Пра тыя падзеі апавядае створаная іх сучаснікам «Аповесць пра Меркура Смаленскага». Сам Меркур загінуў у бітве з заваёўнікамі. Царква далучыла яго, як і ягонага земляка, пісьменніка і прапаведніка Аўрама Смаленскага, да ліку святых.





Пячатка смаленскага князя Вячаслава Яраславіча



Алавяны абразок XIII ст. з Турава

# ТУРАЎСКАЕ КНЯСТВА

Цяперашні Тураў – невялікі ціхі пасёлак на поўдні Беларусі. Але некалі на яго месцы стаяў багаты прыгожы горад з мураванымі храмамі і манастырамі, які быў сталіцаю асобнага княства.

Першыя звесткі пра Тураў датуюцца 980 годам.

Адрозна ад Полацка гэты горад на пачатку сваёй гісторыі прызнаваў уладу Кіева. У канцы X ст. кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч пасадзіў у Тураве на княскі пасад свайго сына Святаполка. Уладу над Тураўскім княствам захаваў і князь Яраслаў Мудры. У XI ст. тураўскія князі часта займалі пасад у Кіеве, што сведчыць пра значнасць Турава. Адзнакай ягонай самастойнасці было існаванне тут на пачатку XI ст. біскупскай катэдры заходняга абраду на чале з біскупам Райнбэрнам.

Летапісец занатаваў для нашчадкаў: «Рагвалод прыйшоў з-за мора і меў воласць сваю ў Полацку. А Тур – у Тураве, ад яго ж і тураўцамі празваныя». Гэта значыць, што ў X ст. на абшары Беларусі існавала яшчэ адно буйное княства – Тураўскае.

Тураўскае княства ў XII – першай палове XIII ст.




1097 годам у летапісе пазначаная першая згадка пра горад Пінск, які вырас на беразе ракі Піны на тым месцы, дзе яна зліваецца з Прыпяццю. Менш чым за стагоддзе Пінск апярэдзіў Тураў у сваім развіцці, што пазней дало гісторыкам падставы называць княства Турава-Пінскім.

У 20-х гадах XII ст. тураўскі пасад заняў сын Уладзіміра Манамаха князь Вячаслаў. Ён спрабаваў завалодаць Кіевам, але прайграў змаганне, і ў выніку Тураўская зямля на нейкі час страціла гарады Берасце, Дарагічын, Клецак, Рагачоў і Чартарыйск.

Пасля Вячаслава, які тры разы мусіў пакідаць Тураў і тры разы вяртаўся, тураўскія князі пачалі мяняцца адзін за адным. Так доўжылася да 1158 г., пакуль пасад не заняў князь Юры Яраславіч. Ён быў прадстаўніком старога тураўскага роду, хацеў пазбавіцца залежнасці ад Кіева і карыстаўся ў гэтым моцнай падтрымкаю сваіх падданых. Кіеў запатрабаваў пакоры, але князь Юры адмовіўся быць васалам. Тады на Тураў рушыла велізарнае войска, у якім разам з кіянамі ішлі смаленскія, галіцкія, луцкія ды іншыя дружыны. Аднак задума з ходу авалодаць



Выступленне князя Ізяслава Мсціславіча Тураўскага з хаўруснікамі супроць кіеўскага князя Яраполка Уладзіміравіча ў 1135 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Знойдзеныя пад Пінскам златнікі кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Аверс і рэверс. Канец X ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

980 г. – Першая гістарычная згадка пра Тураў.
1019 г. – Пачатак летапіснай гісторыі Берасця.
1097 г. – Летапіс упершыню паведамляе пра Пінск.
1158 г. – Заваёва Тураўскім княствам незалежнасці.



Так выглядаў старажытны Тураў. Рэканструкцыя



Абразок з волава. XIII ст.

У 1162 г. тураўцы зноў выйшлі пераможцамі ў змаганні з суседзямі. Кіеў падпісаў з Туравам пагадненне аб міры і афіцыйна прызнаў незалежнасць Турава-Пінскага княства.

Туравам правалілася. Тураўцы ператварылі горад у непрыступную фартэцу. Праз дзесяць тыдняў аблогі ў варожым лагеры пачаўся конскі паморак, і кіяне з хаўруснікамі адступілі. У той самы год здолеў адбіцца ад нападу і Пінск.

Перамога Турава, атрыманая дзякуючы мужнасці жыхароў і вайсковаму майстэрству князя Юрыя Яраславіча, спрычынілася да незалежнасці княства.

У цесных сувязях з Туравам была старажытная Берасцейшчына. Апрача самога Берасця тут існавалі гарады Кобрынь, Камянец, Дарагічын, Бельск, Мельнік. У другой палове XII–XIII ст. гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства, але захоўвала значную самастойнасць. У горадзе Камянцы ў тым часе была збудаваная знакамітая Камянецкая вежа, якую часам неправільна называюць «Белай».



Камянецкая вежа. Сучасны выгляд



Кіеўскія князі традыцыйна імкнуліся пасадзіць у Тураве сваіх блізкіх сваякоў. На мініяцюры з «Кодэксу Гертруды» XI ст. сын Ізяслава Кіеўскага тураўскі князь Яраполк з сям'ёю ў часе малітвы



Тураў над Прыпяццю. Мастак Напалеон Орда. XIX ст.

# КНЯЗЬ І ВЕЧА





Дэлегацыя жыхароў Полацка вядзе перамовы пра замірэнне з князямі Давыдам Смаленскім, Мсціславам Ноўгарадскім, Васількам Лагойскім і Усеславам Друцкім. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Княская сям'я. З «Ізборніка» 1073 г.

## Князь

Летапісы паведамляюць пра падзел дружыннікаў на старэйшых – «баяраў», «сільных мужоў» і на малодшых – «отракаў», «дзецкіх». Адбор у дружыну праводзіў сам князь, таму яна складалася з асабіста адданых яму ваяроў. Важнай часткаю войска было народнае рушанне (апалчэнне) з простых гараджанаў.

На чале дзяржавы стаяў князь.

У яго асноўныя абавязкі ўваходзіў збор даніны з падуладнага насельніцтва. Князь таксама разглядаў судовыя справы і займаўся ўнутраным кіраваннем. Ён ажыццяўляў зносіны з іншымі княствамі і меў права заключаць мір. Полацкі князь раздаваў гарады з прылеглымі да іх воласцямі сваім князям-васалам.

Але найперш кіраўнік дзяржавы мусіў абараняць яе ад ворагаў. Таму галоўным абавязкам князя была арганізацыя войска і камандаванне збройнымі сіламі княства. Дзеля вайсковых патрэбаў ён ствараў запасы зброі і трымаў конскія табуны.

## Войска

Князь меў сваю дружыну – аддзел добра ўзброеных і навучаных вайсковай справе людзей. Дружыннікі жылі побач з княжым палацам ва ўмацаванай частцы горада, якая называлася дзядзінцам. Іх найважнейшым заняткам была вайсковая служба – удзел у паходах, ахова дзяржаўных межаў і асобы князя.

На высокіх берагах і пагорках продкі будавалі «гляднi», адкуль вартавыя ўдзень і ўначы сачылі, ці не набліжаецца вораг. У выпадку небяспекі загараўся сігнальны агонь, які бачылі з суседняга дазору. Ланцужок агнёў хутка «дабягаў» да горада, і жыхары бралі ў рукі зброю.

Галоўнай вайсковай сілай была конніца з князевых дружыннікаў. На ўзбраенні яны мелі дзіды, мячы, вялікія шчыты-тарчы. У блізкім баі ўжывалі таксама сякеры, кісцяні, паліцы-шастапёры. Кальчугі, панцыры, шаломы дружына везла асобна і надзявала толькі перад небяспекаю. Наперад у паходзе высылалі «старожы», якія імкнуліся захапіць «языка».



Рогавая выява музыкі. Навагародак. XII ст.



Бой з полаўцамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Князь Барыс-Рагвалод Усяславіч едзе на княжанне ў Полацак. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



У Полацкім княстве існавала сістэма ўлады, пры якой разам з князем вялікая роля ў кіраванні належала і вечу – агульнаму сходу палачанаў.

У арсенале вайсковых хітрыкаў былі засады, падманныя ўцёкі, несапраўдныя лагеры з зыркімі агнямі. Калі горад не ўдавалася здабыць прыступам, войска пачынала аблогу. Варожыя ўмацаванні абносілі тынам, за якім хаваліся лучнікі. Пад прыкрыццём стрэлаў падцягвалі каменекідальныя машыны – «парокі». Цяжкія камяні з іх ляцелі на паўтара палёту стралы. «Парокі» маглі стаяць і на гарадскіх сценах, што былі тады звычайна драўляныя.

На вечавых сходах, дзе збіраліся ўсе дарослыя мужчыны, разглядаліся найбольш важныя грамадскія і дзяржаўныя справы. Полацкае веча мела права прызначаць князя. Ад імя князя і полацкага епіскапа яно падпісвала дамовы з іншымі гарадамі і дзяржавамі.

### Веча

Вечавы сход кантраляваў дзейнасць князя і ажыццяўляў найвышэйшы суд. Доказ віны пераважна зводзіўся да «суду Божага». Лічылася, што Бог сам карае вінаватых і абараняе нявінных. Каб даказаць сваю праўду, падазраваны нярэдка мусіў трымаць руку над агнём або праходзіць іншыя жорсткія выпрабаванні.

Асабліва моцнымі пазіцыі полацкага веча сталі ў другой палове XII ст. Палачане нераз самі запрашалі князёў на пасад і пазбаўлялі іх улады, выганяючы з горада. Пасля Усяслава Чарадзея полацкія князі жылі ўжо не на дзядзінцы каля Сафійскага сабора, а ў сваёй рэзідэнцыі Бельчыцы на другім баку Дзвіны.

З летапісаў вынікае, што галоўная ўлада ў Полацку тады належала трыццаці «мужам», або «старцам». Гэта дазваляе казаць, што нейкі час Полацкая зямля была феадальнай рэспублікай з выбарным манархам.

Беларуская князёўна XII ст. Рэканструкцыя. Мастак Алесь Пушкін

Вялікія срэбныя зліткі выкарыстоўвалі як плату пры буйных разліках



Касцяная накладка, знойдзеная пад час раскопак Ваўкавыскага замка. XI–XII стст.

# ФЕАДАЛЬНАЯ РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ

Распад буйных феадальных дзяржаваў на больш дробныя быў гістарычнай з'явою, адметнай для ўсёй Еўропы. Не стала выняткам і старажытная Беларусь.

Гаспадарка ў тым часе мела натуральны характар. Эканамічныя сувязі паміж землямі нават аднаго княства былі слабыя. Разам з тым мясцовыя феадалы канцэнтравалі ў сваіх руках вялікія зямельныя абшары. Буйное землеўладанне і сталася галоўнай прычынаю раздробленасці.

Яшчэ адной важнай яе умоваю быў рост гарадоў. Ужо ў XI ст. іх на тэрыторыі Беларусі налічвалася амаль два дзесяткі.

У Полацкай і іншых старажытнабеларускіх землях існавала традыцыя, калі князь даваў сваім сынам «удзелы» – прызначаў іх намеснікамі ў асобныя гарады і воласці. Так узнікалі невялікія ўдзельныя княствы, якія паступова набывалі ўсё больш самастойнасці.

Падзел нашай першай дзяржавы на ўдзельныя княствы пачаўся яшчэ пры князі Усяславе Чарадзеі. Ён меў шэсць сыноў, і амаль кожнаму з іх даў горад з воласцю.

Разам з тым Усяслаў заставаўся паўнаўладным гаспадаром усёй Полацкай зямлі. Але пасля яго смерці, у першай палове XII ст., Полацкае, Менскае і Заслаўскае княствы зрабіліся самастойнымі. Услед за імі ўзніклі Віцебскае, Лагойскае і Друцкае княствы. Калі ў вонкавай палітыцы нашчадкі Усяслава

Феадальная раздробленасць была гістарычнай заканамернасцю. Першым на гэты шлях стала Полацкае княства, бо яно дасягнула найбольшага развіцця сваёй эканомікі і культуры.

**Старажытныя землі Беларусі ў XI–XIII стст.**






Выява святога Паўла. Гравіроўка на медзі. XII ст. Горадня



Накладка ад калчана з старажытнага Лукамля. Косць, гравіроўка

Кіеўскі князь Святаполк Ізяславіч бярэ ў палон берасцейскага князя Яраслава Ярапалчыча. Прысяга князя Яраслава перад мошчамі святых Барыса і Глеба ў Кіеве. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

выступалі заадно, у «сямейных» справах іх інтарэсы нярэдка сутыкаліся, і тады брат падымаў меч на брата.

З летапісаў вядома пра барацьбу полацкага князя Рагвалода-Васіля і менскага князя Расціслава Глебавіча. З дапамогаю веча Расціслаў атрымаў пасад у Полацку, але праз восем гадоў Рагвалоду ўдалося вярнуць сабе горад. Вялікіх ахвяраў каштавала ў 1162 г. бітва Рагвалода з менскім князем Валадаром.

Ужо пры сынах князя Юрыя Яраславіча, які здабыў Тураву незалежнасць ад Кіева, Тураўская зямля страціла сваё адзінства. З яе вылучыліся Клецкае, Слуцкае ды іншыя княствы. Наймацнейшым з іх было Пінскае. Пінск пераўзышоў у сваім развіцці Тураў і адыграў пазней вялікую гістарычную ролю.

Гарады Амсціслаў, Крычаў, Прапошаск (Слаўгарад), Таропец, Рослаў, Дарагабуж, Ельня належалі да Смаленскага княства, што, як і Полацкае, было створанае крывічамі і займала тэрыторыю у верхнім цячэнні Дзвіны і Дняпра.

На паўднёвым усходзе ад Полацкай зямлі знаходзілася Чарнігаўскае княства, у склад якога ў другой палове XI ст. увайшлі гарады Чачэрск, Гомель і Рэчыца, што стаялі ніжэй па Сожу. Гомель неўзабаве стаў сталіцаю досыць моцнага ўдзельнага княства.

На землях, якія ляжалі па Нёмане, у XII–XIII стст. утварыліся Ваўкавыскае, Гарадзенскае, Новагародскае (Наваградскае), Свіслацкае ўдзельныя княствы. Сярод іх пачало хутка багацець і ўзвышацца Новагародскае. Яно было размешчанае на ўрадлівых землях і абароненае суседзямі ад варожых нападаў з захаду і ўсходу. Гэта спрыяла развіццю сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю. Перад Новагародкам адкрываліся добрыя магчымасці аб'яднаць вакол сябе іншыя землі.



Вялікую папулярнасць у нашых продкаў мелі шахматы. Гэтага фярзя сярэднявечны ваўкавыскі майстар зрабіў з рога алена ці лася дзевяць стагоддзяў таму



Славуты Віцічынскі грашова-рэчавы скарб, знойдзены ў 1979 г. у Рагачоўскім раёне, быў схаваны васемсот гадоў таму

# СЯЛЯНЕ І ФЕАДАЛЫ


Залатое скроневае кольца з раскопак у Стара-Барысаве. XII ст.


Дзяўчына ўпрыгожаннях XII ст. Мастак Алесь Пушкін

Заснаванае на жыцці супольні першабытнае грамадства паступова адыходзіла ў гісторыю. На змену яму ішоў рабаўладальніцкі лад. Рабамі станавіліся захопленыя на вайне палонныя. Усходнія славяне прадавалі і куплялі рабоў, як тавар. Асабліва шмат іх ішло на продаж у Візантыю.

Рабаўладальніцтва не мела на старажытнабеларускіх землях такога развіцця, як у Егіпце, Грэцыі або Рыме. У XI–XII стст. у нашых продкаў адначасова з рабаўладальніцкім ужо існаваў новы, феадальны лад.

Рабская праца была дармавой, але ў параўнанні з працаю свабоднага селяніна – вельмі непрадукцыйнай.

Пасля ўзнікнення маёмаснага падзелу грамадства стасункі паміж тымі, хто меў багацце ды ўладу, і залежным насельніцтвам найперш выяўляліся ў зборы даніны. Напачатку яе бралі з пераможаных на вайне, і яна нагадвала выкуп.

Візантыйскі гісторык X ст. Канстанцін Парфірародны, паведамляючы пра крывічоў і дрыгавічоў, пісаў, што князі кожны год выпраўляліся да іх «у палюддзе». Пераязджаючы з месца на месца, князь з дружынаю з'яўляўся ў паселішча і патрабаваў даніны. Падуладныя сяляне плацілі яе футрам, мёдам, воскам, збожжам ды іншымі прадуктамі.


Гэтым вырабам болей за тысячу гадоў. Знаходкі з паселішча на беразе Менкі. Зверху справа – шахматны конь, унізе – выява паганскага бажка «Яшчура»

Пазней сяляне самі пачалі прывозіць даніну на адмыслова вызначаныя месцы, якія называліся пагостамі. Там князь разглядаў скаргі, судзіў і караў вінаватых.

Даніна была натуральным падаткам.

Нараджэнне феадальных дачыненняў прыводзіла да вялікіх зменаў. Узнікалі феадальныя сядзібы, з'яўляліся баярскія і князеўскія сёлы.

Цэнтрам сядзібы быў добра ўмацаваны феадальны двор, над якім нярэдка ўзвышалася драўляная вежа. У вялікім доме-хораме з скляпамі, кузняй, свірнамі, мядушамі ды іншымі пабудовамі жыў гаспадар – князь або баярын.

Феадалу належалі сёлы, якія ён паводле права ўласніка мог дарыць, мяняць, перадаваць у спадчыну. Вядома, напрыклад, што ўдава менскага князя Глеба Усяславіча падаравала Кіева-Пячорскаму манастыру пяць сёлаў з жыхарамі.


Папярэдніцаю плуга ў земляробстве была саха



Сялянскае наземнае зрубнае жытло і паўзямлянка. Рэканструкцыя



Старажытныя каменныя праселкі для верацёнаў, шкляныя і сердалікавыя пацеркі



Сядзіба беларускага феадала XII–XIII стст. Рэканструкцыя Віктара Станчанюка

Залежных сялян называлі «чэляддзю». Сярод чэлядзі былі «халопы» – людзі, якія цалкам страцілі асабістую свабоду. Стан халопаў нічым не адрозніваўся ад рабскага. Летапісы называюць залежных сялян яшчэ і «смердамі». Селянін, які ў неўраджайны год браў у феадала пазыку (купу), таксама рабіўся залежным і зваўся «закупам».

Большасць сялян яшчэ былі асабіста свабоднымі земляробамі-супольнікамі. Летапісцы называлі іх «людзі» або «людзіны». Але паступова становішча людзінаў мянялася. Усё большая колькасць іх рознымі шляхамі трапляла ў залежнасць ад феадала. Пасля ўтварэння дзяржавы лік залежных сялян няўхільна павялічваўся.

Ляднае земляробства ў сялянскай гаспадарцы выцяснялася больш перадавым – ворыўным. Прадзеды сеялі жыта, ячмень, пшаніцу, авёс, грэчку, гарох, лён. На гародах раслі капуста і рэпа, боб і мак, цыбуля і часнок. Жыхары горада і вёскі ведалі смак кропу і салёнага гурка. Зямлю аралі коньмі. У хлявах рохкалі свінні, білі ў драўляныя даёнкі струменьчыкі сырадою, бляялі авечкі і мэкалі козы.

Важнай часткаю гаспадаркі заставаліся рыбалоўства, паляўніцтва і бортніцтва. Паляванне падзялілася на мясное (на зуброў, тураў, ласёў, аленяў, мядзведзяў, лебедзяў, гусей, цецерукоў) і футравае (на бброў, лісіц, вавёрак, ваўкоў, собаляў, куніц). Рыбу лавілі нератам, брадніком, на кручок, білі восцямі. Калі яна ішла на нераст, невялікія рэчкі перагароджвалі шчытна падагнанымі жардзінамі, а пакінуты праход закрывалі лазовымі мярэжамі.



У лясах продкі ставілі борці. З калоды ў добры год атрымлівалі па некалькі карчагаў мёду. Мёд шырока выкарыстоўваўся ў прыгатаванні розных страў і напояў, у тым ліку і моцных. На святочнай бяседзе па застоліцы хадзілі чары з вараным перабрадзілым мёдам. Сёмая чара гэтага хмельнага зелля лічылася ўжо «богаўгнявіцельнай», і на ёй трэба было спыняцца, каб не перабраць меры.



Адной з сама папулярных аздобаў на працягу некалькіх стагоддзяў быў бранзалет. Медзь. XII ст.



Старажытная шахматная фігурка



З прычыны шматлікіх войнаў і збройных канфліктаў, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, яна утрымлівае лідэрства ў Еўропе па колькасці сярэдневечных скарбаў. Гэты манетна-рэчавы скарб XI ст. знойдзены ў в. Гараўляны Глыбоцкага раёна

# ГОРАД X–XIII СТАГОДДЗЯЎ



Будаўніцтва храма. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Гарады нашых продкаў узнікалі са старажытных умацаваных паселішчаў, якія былі абнесеныя моцнай агароджаю. Ад словаў «гарадзіць», «абгароджваць» і паходзіць найменне «горад».

Частка найстаражытнейшых беларускіх гарадоў атрымала свае назовы ад рэчак, пры якіх яны былі заснаваныя: Полацак – ад Палаты, Віцебск – ад Віцьбы, Пінск – ад Піны, Вільня – ад Вільні.

Летапісы сведчаць, што ў IX–XIII стст. на сучаснай тэрыторыі Беларусі існавала больш за трыццаць гарадоў. У X ст. да Полацка і Смаленска дадаліся Тураў, Заслаўе і Віцебск. Наступнае стагоддзе стала часам узнікнення Берасця, Менска, Вільні, Лукамля, Друцка, Воршы, Тарогпа, Лагойска, Копыся, Браслава, Пінска, Старадуба. У XII ст. ужо існавалі Слуцак, Клецак, Барысаў, Пранoccacк, Крычаў, Бранск, Рослаў, Гомель, Брагін, Рагачоў, Чачэрск, Дарагабуж, Горадня, Амсціслаў і Мазыр. Магілеў, Капыль, Слонім, Кобрынь, Камянец, Навагародак, Ваўкавыск і Рэчыца вядомыя з XIII ст.

Тагачасныя гарады былі пераважна драўляныя і складаліся з дзвюх асноўных частак. Ва ўмацаваным ровам, валам і сценамі дзядзінцы жылі князь, дружына ды іншыя найбольш знатныя

Насельніцтва гарадоў складалася пераважна з рамеснікаў і купцоў, таму гарады будаваліся ў зручных для заняткаў гандлем і рамяством месцах: на берагах і ў сутоках рэк, каля пераправаў, на скрыжаваннях дарог.



Шкляныя пацеркі, знойдзеныя пад час раскопак старажытнага Менска. Нізка з 80 пацерак мае даўжыню 70 см

## ХРАНАЛОГІЯ

Першыя летапісныя звесткі пра беларускія гарады:

974 г. – Віцебск.
Блізу 985 г. – Заслаўе.
1019 г. – Берасце.
1044 г. – Навагародак.
1065 г. – Браслаў.
1067 г. – Менск.
1067 г. – Ворша.
1070 г. – Вільня.
1078 г. – Лагойск.
1102 г. – Барысаў.
1116 г. – Слуцак.
1127 г. – Горадня.
1142 г. – Гомель.
1155 г. – Мазыр.
1156 г. – Амсціслаў.
1252 г. – Слонім, Ваўкавыск.
1267 г. – Магілеў.



Адкапаныя археолагамі рэшткі драўляных пабудоў старажытнага Берасця. XII–XIV стст.

і заможныя гараджане. Каля ўмацаванага цэнтра сяліліся гандляры і рамеснікі. Гэтая частка горада называлася пасадам.

Князеўскі хорам мог мець два паверхі з шырокай галерэяй-сенямі, са святліцамі і спачывальнямі, з палатай, дзе сядала за сталы не меней за сотню гасцей.

Простыя гараджане жылі ў цеснаватых хатах з бярвёнаў. Зрубы стаялі на драўляных падкладах і часам мелі прызбу. Падлогу рабілі з дошак. Палілі ў хатах «па-чорнаму», гэта значыць комінаў не было. Будынкі стаялі вельмі шчыльна. Гарадскія вуліцы былі надзвычай вузкія, усяго каля трох метраў ушыркі. Іх масцілі бярвёнамі і драўлянымі плашчакамі.



Упрыгожанне заможнай гараджанкі. Мастак Алесь Пушкін

Эканамічным «сэрцам» горада было торжышча (рынак), якое звычайна месцілася на беразе ракі паблізу дзядзінца. У сталіцах княстваў грамадскім цэнтрам жыцця служыў пляц, дзе збіралася веча. Звычайна ён знаходзіўся паблізу галоўнага гарадскога храма – сабора.

Старажытнаславянскі горад





Фрагмент шкалянога кубка, размаляванага золатам. XI ст. Навагародак



Уладальнік гэтага скуранога гаманца жыў восем стагоддзяў таму



Войска курскага князя Ізяслава Мсціслававіча пад сценамі Лагойска. 1127 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Ключ, ножык, пярсцёнкі і спражка з гарадзішча пад Менскам. XI–XII стст.



Упрыгожанне заможнай гараджанкі. Мастак Алесь Пушкін



Залаты бранзалет з галоўкамі цмока. XII ст. Менскае замчышча

Уяўленне пра тагачасны горад дае раскапанае археолагамі старажытнае Берасце. Там навукоўцы адкрылі тры вуліцы і шмат драўляных пабудоваў узростам блізу 700 гадоў, прычым адзін з будынкаў захаваўся на вышыню да самай страхі.

Старажытныя беларускія гарады былі буйнымі цэнтрамі рамяства. Археолагі падлічылі, што ў Полацку жылі майстры больш чым шасцідзесяці спецыяльнасцяў: ганчары, бондары, шаўцы, краўцы, замочнікі, ткачы, меднікі, гарбары-кажамякі... Агароднікі будавалі гарадскія сцены-агароджы, ладзейнікі – ладдзі і стругі. Жарнасекі выштукоўвалі

Частыя войны змушалі жыхароў старажытнай Беларусі хаваць свае багацце



Так выглядала найстаражытнейшая Сафія Полацкая. Малюнак Віктара Сташчанкова



Вадаліў першай паловы XIII ст. з Гародні. Бронза, ліццё





Пацеркі XI–XII стст. з шкла, крышталю і сердаліку з в. Брацянка Навагрудскага раёна



Алегарычная выява чумы ў Полацку ў 1092 г.: д'яблы на конях нападаюць на гараджанаў. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

з каменю жорны, з пясчаніку – вастрыльныя брускі, з мяккіх каменных парод – абразкі і крыжыкі. Касцярэзы рабілі грабяні, накладкі да калчанаў-тулаў, гузікі, шахматныя фігуры. Далёка славіліся полацкія ювеліры. З асаблівай павагаю продкі ставіліся да збройнікаў. Пра іх майстэрства сведчыць, напрыклад, тое, што страла, зробленая добрым лучнікам, нават праляцеўшы сотню метраў, лёгка прабівала дубовую дошку таўшчынёю з палец.

Гарады вялі паміж сабою гандаль. Купцы гандлявалі не толькі з суседзямі, але і з далёкімі краямі, найперш з Візантыяй і Блізкім Усходам. Адтуль у амфарах прывозілі віно і аліўкавы алей. Багатыя гараджане спыняліся на торжышчы каля прылаўкаў з візантыйскімі квяцістымі тканінамі, з усходнімі прыправамі і тонкім шкляным посудам. З Заходняй Еўропы рамеснікі атрымлівалі волава, медзь і цыну.



Срэбныя злiткі перыяду старажытнабеларускіх княстваў

Адным з найважнейшых імпартовых тавараў некалькі стагоддзяў была соль. З нашай краіны вывозілі на продаж найчасцей футра, мёд, воск, вугаль і смалу, а пазней таксама збожжа і жалеза.



Скураны абутак гараджанаў



Уязная вежа старажытнабеларускага драўлянага замка. Малюнак Язэпа Драздовіча

# ЕЎФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ



Найпадобнейшая Еўфрасіння Полацкая, нябесная апякунка Беларусі

Дзяўчынку, якая нарадзілася каля 1104 г. у Полацку ў княжаскай сям'і, назвалі старажытным полацкім імем Прадслава. Яе бацькам быў малодшы сын Усяслава Чарадзея Святаслаў-Георгі.

Усяслававa ўнучка з ранніх гадоў уражвала ўсіх сваёй прыгажосцю і здольнасцямі да навукі. У тым часе дзяцінства было кароткае: у дванаццаць гадоў князёўна ўжо лічылася нявестай. Бацькі збіраліся аддаць Прадславу замуж за каго-небудзь з князевічаў, якія прысылалі ў Полацак сватоў, але яна абрала іншы шлях.

Прадслава прыйшла ў манастыр і пад імем Еўфрасінні таемна ад бацькоў прыняла манаскі пострыг, каб прысвяціць жыццё духоўнаму ўдасканаленню.

«Святым духам напоўніўся розум яе,– апавядае «Жыццяпіс святой Еўфрасінні Полацкай», напісаны яе сучаснікам, – і сказала сабе: «Што ж паспелі роды нашы, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыццё іх прапльло, і загінула слава іхняя, быццам прах... Затое жанчыны, што мячом духоўным адсеклі плоцкія асалоды – тых памятаюць на зямлі...»



Макет-рэканструкцыя Полацкага Спасаўскага храма, збудаванага па замову ігуменні Еўфрасінні. Сярэдзіна XII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

Каля 1104 г. – Нараджэнне асветніцы.

Каля 1116 г. – Князёўна Прадслава пастрыгаецца ў манашкі пад імем Еўфрасінні.

1167 г. – Паломніцтва ў Святую зямлю і заканчэнне зямнога шляху Еўфрасінні.

1910 г. – Вяртанне мошчаў святой Еўфрасінні ў Полацак.



Маці Божая Адзігітрыя Полацкая. XII ст. Абраз, прывезены ігуменні Еўфрасінні з Візантыі, зрабіў вялікі ўплыў на мастацкія традыцыі беларускай іканапіснай школы

За манастырскімі сценамі Еўфрасіння змагла цалкам аддацца кнігам, што зрабіла яе адной з самых адукаваных жанчын таго часу ў Еўропе. Апрача Бібліі яна чытала творы рымскіх і візантыйскіх багасловаў, славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфода. Князёўна вывучала Нестараву «Аповесць мінулых гадоў» і візантыйскія хронікі, якія знаёмілі з падзеямі сусветнай гісторыі. Да рук Еўфрасінні траплялі філасофскія трактаты, у тым ліку, як лічаць гісторыкі, і працы Арыстоцеля і Платона.

Старонка «Жыццяпісу Еўфрасінні Полацкай». Рукапіс XVII ст.



Фрэска XII ст. з Спасаўскай царквы ў Полацку. Верагодны партрэт Еўфрасінні

Ерусалім. Сярэднявечная гравюра




Вялікі размах пашырэнню пісьмовага слова Еўфрасіння надала, заснаваўшы ў Полацку жаночы, а потым і мужчынскі манастыры. Там былі адчыненыя адмысловыя майстэрні па перапісванні кніг – скрыпторыюмы. У створаных ігуменняй школах юныя палачане, апрача царкоўнаславянскай, вучылі грэцкую і лацінскую мовы, атрымлівалі звесткі з прыродазнаўства і медыцыны. З найбольш здольнымі праводзіліся заняткі па паэтыцы і рыторыцы. Значная ўвага аддавалася гісторыі.

План Канстанцінопаля. Сярэднявечная гравюра




Найпадобнейшая Еўфрасіння, ігумення Полацкая. Гравюра XIX ст. паводле старажытнага абраза



Праз некалькі гадоў полацкі епіскап дазволіў князёўне пасяліцца ў келлі Сафійскага сабора, дзе, як паведамляе «Жыццяпіс», яна «пачала кнігі пісаць сваімі рукамі». Праца перапісчыка была настолькі фізічна цяжкая, што ёю тады займаліся толькі мужчыны. Разам з перапісваннем царкоўных кніг, хронік, папулярных тады зборнікаў афарызмаў пяро асветніцы магло выводзіць радкі Полацкага летапісу. Еўфрасіння пісала і ўласныя творы – малітвы, павучанні, а таксама перакладала з грэцкай і лацінскай моваў.

Полацак. Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Паштоўка пачатку XX ст.





Пячатка бацькоў Еўфрасінні Полацкай – князя Святаслава-Георгія і княгіні Сафіі





Гэтай пячаткай князёўна-ігуменія Еўфрасіння змацоўвала свае граматы






«Жыццё св. Еўфрасінні Александрыйскай». Фрэска XII ст. з малельні найпадобнейшай Еўфрасінні ў Полацкай Спасаўскай царкве.

Нястомна збіраючы вакол сябе таленты, Еўфрасіння стала нашай першаю мецэнаткай. На яе замову полацкі дойлід Іаан у 50-х гадах XII ст. збудаваў за 30 тыдняў храм Спаса – найвыдатнейшы помнік полацкай архітэктурнай школы, які захаваўся да нашых дзён. Полацкая князёўна-ігуменія была замоўніцай унікальных фрэсак Спасаўскай царквы і створанага полацкім майстрам Лазарам Богшам знакамітага Крыжа, які стаў нацыянальнай святыняй Беларусі. З імем Еўфрасінні звязанае з'яўленне на нашай зямлі прывезенага з Візантыі неацэннага абраза Маці Божай Адзігітрыі, які, паводле царкоўнага падання, быў намаляваны самім апосталам Лукой.

Келля Еўфрасінні Полацкай у сцяне Спасаўскага храма. Пачатак XX ст.



Кіеў развітваецца з мошчамі асветніцы зямлі Беларускай. Красавік 1910 г.



Святая Еўфрасіння. Абраз з Полацкага Богаяўленскага сабора



Срэбная рака з мошчамі святой Еўфрасініі ў Спасаўскай царкве. Фота 1910-х гадоў



Міратворчыя клопаты Еўфрасініі, што мелі на мэце патушыць міжусобныя спрэчкі Рагвалодавічаў, адлюстраваныя ў царкоўных спевах, створаных у гонар асветніцы ў XII ст.: «Князем сродником друг на друга дерзающе подъяти мечь возбранила еси, яко оружие обоюдоостро...».

Еўфрасіння стала першай усходнеславянскай жанчынаю, якую праваслаўная царква абвясціла святой. Полацкую ігуменню паводле даўняй традыцыі прызнае святой і каталіцкая царква. Еўфрасіння шануецца як нябесная заступніца Беларускай зямлі.



Пачатак хроснага ходу з мошчамі Еўфрасініі з Мікалаеўскага сабора ў Спасаўскі манастыр. Полацк. Травень 1910 г.



Уваход у келлю святой Еўфрасінні

Помнік Еўфрасінні ў Полацку. Скульптар Ігар Голубеў. 2000 г.



Рака з мошчамі найпадобнейшай Еўфрасінні Полацкай у Спасаўскай царкве. Сучасны выгляд



«Жыццяпіс Еўфрасінні Полацкай». Рукапіс XVI ст.

На схіле жыцця Еўфрасіння здзейсніла паломніцтва ў Святую зямлю. Там у 1167 г. і завяршыўся яе зямны шлях. Асветніца была пахаваная ў Ерусаліме ў Феадосіевым манастыры Святой Багародзіцы. Праз дваццаць гадоў яе мошчы перанеслі ў Кіева-Пячорскую лаўру. У 1910 г. яны былі ўрачыста вернутыя ў заснаваны асветніцай Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, дзе захоўваюцца і цяпер.

Дзень памяці святой Еўфрасінні Полацкай адзначаецца штогод 5 чэрвеня (паводле новага стылю).

# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ



Выява лучніка на касцяной шашцы. Тураў. XII ст.

Жыццёвы шлях гэтага выдатнага сына нашай зямлі пачаўся ў старажытным Тураве. Родны горад Кірылы быў сталіцай моцнага княства і адным з галоўных агменяў усходнеславянскай асветы. У багатых тамтэйшых кнігазборах захоўвалася рукапіснае Тураўскае Евангелле XI ст., самая старажытная з вядомых вучоным кніг, створаных у Беларусі.



Святы Кірыла Тураўскі



Першая старонка «Слова на ўзнясенне Гасподняе» Кірылы Тураўскага

«Жыццяпіс» Кірылы Тураўскага не паведамляе дакладных датаў пачатку і канца яго зямной дарогі. Вядома, што ён быў сынам багатых бацькоў, але «богатества» і «славы тленныя мира сего» яго не вабілі. Спачатку ў бацькоўскім доме, а потым у мясцовым епіскапскім манастыры будучы пісьменнік атрымаў высокую адукацыю, засвоіўшы веды і ідэі і візантыйскага, і рымскага свету. Ёсць падставы лічыць, што Кірыла вучыўся ў Кіеве. «Жыццяпіс» паведамляе, што ён «добре извыче святых книг поучению».

Зачыніўшыся ў высокай драўлянай вежы, што стаяла на прыпяцкім беразе, малады манах маліўся і тварыў. З-пад ягонага пяра выходзілі натхнёныя аповесці, «словы», прыпавесці (прытчы), пасланні і павучанні. Ужо ў гэтым часе да Кірылы прыйшла літаратурная слава. Яго творы перапісвалі, чыталі і вучылі на памяць ва ўсіх усходнеславянскіх княствах.



Кіеўскі князь Ізяслаў Мсціслававіч выпраўляе сваіх васалаў на Тураў, а потым прымае палонных тураўскіх пасаднікаў. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

## ХРАНАЛОГІЯ

Каля 1130 г. – Нараджэнне Кірылы Тураўскага.

Каля 1161 г. – Пасвячэнне К. Тураўскага ў епіскапы.

Пасля 1190 г. – Заканчэнне зямнога шляху асветніка.



Маці Божая з Пінска. Прамалёўка бронзавага абразка XII ст.

Кірыла Тураўскі. Літаграфія сучаснага беларускага мастака Пятра Драчова

Імкненне глыбей спасцігнуць мудрасць «божественных писаний» прывяло юнака да намеру прыняць манаскі чын. Надзеўшы рызу, малады Кірыла займаўся прапаведніцтвам. Грунтоўнае знаёмства з творамі грэцкіх аўтараў спрыяла поспеху яго першых літаратурных спробаў.



Старонкі з кнігі «Штодзённыя малітвы» з малітваю Кірылы Тураўскага. Вільня. Пачатак XVII ст.

Адукаванасць, красамоўства і праведнае жыццё яшчэ ў маладосці зрабілі імя манаха Кірылы вядомым. Але душа прагнула большага, і ён «во столп вшед затворися, и ту с постом и молитвою паче себя тружаяся, и много божественная писания изложи».

Складзенае сучаснікамі ў гонар Кірылы Тураўскага пахвальнае слова называе яго другім Залатасловам, што «паче всех воссиял на Руси». Ужо на пачатку XII ст. Кірыла шанаваўся як святы.

«Штодзённыя малітвы». Гэтая кніга з малітвамі святога Кірылы, выдадзеная ў 1601 г. у Віленскай друкарні Мамонічаў, захоўваецца ў Бадлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе



Кірыла быў першым ва ўсходніх славян манахам, які здзейсніў духоўны подзвіг стоўпніцтва. Адмовіўшыся ад марнасці свету, хрысціянскія стоўпнікі ўтаймоўвалі плоць і ўдасканальвалі дух.

«Славен бысть по всей земли той,– апавядае «Жыццяпіс»,– умолением князя и людии града того, от митрополита поставлен бысть епископом граду Турову». Кірыла пакінуў сваю вежу і каля 1159 г. быў выбраны тураўскім вечам і князем Юрыем на епіскапскую кафедру. Урачыстае пасвячэнне (хіратонія) у епіскапы тураўскія адбылося блізу 1161 г.

На схіле гадоў Кірыла вярнуўся ў манастыр і жыў «у святого Николы в Турове». Там незадоўга да смерці ён стварыў малітоўныя вершы – найкаштоўнейшую частку сваёй пісьменніцкай спадчыны.

Тураў пахаваў земляка блізу 1190 г. Праз некалькі дзесяцігоддзяў было складзенае пахвальнае слова ў гонар асветніка.

Творы Тураўскага і сёння захапляюць вобразнасцю і пранікнёнасцю, простасцю і шчырым клопатам пра духоўную дасканаласць суайчыннікаў. Да нашых дзён зберагліся восем ягоных «словаў»-казанняў, некалькі павучальных аповесцяў («Аповесць пра беларызца



Абраз святога Кірылы Тураўскага з беларускай царквы ў нью-ёркскім раёне Рычманд Гіл



Беларускі праваслаўны храм у гонар святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку

Ад'езд князя Вячаслава Уладзіміравіча на тураўскае княжанне насуперак волі Яраполка Кіеўскага. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Помнік Кірылу Тураўскаму ў яго родным горадзе. Скульптар Міхась Інькоў

і манаства», «Казанне пра чарнарызскі чын»), «Прыпавесць пра душу і цела», два каноны, каля трыццаці вершаў. Свае напісаныя вытанчанаю царкоўнаславянскай моваю «словы» Тураўскі складаў з нагоды розных хрысціянскіх святаў – «Слова на Вербніцу», «Слова на Вялікдзень», «Слова на Ушэсце». Вершы-малітвы ствараліся на кожны дзень тыдня і чыталіся пасля набажэнстваў уранні, удзень і ўвечары.

Найстаражытнейшы манускрыпт з малітвамі Тураўскага, што дайшоў да нас, датуецца XIII ст. Безліч разоў яны памнажаліся і разыходзіліся ў рукапісных спісах. У 1596 г. у Вільні выйшла першая друкаваная кніга малітваў геніяльнага тураўца. Потым творы «другога Залатаслова» неаднаразова перавыдаваліся ў Беларусі, Украіне і Маскоўіі. Сёння яны перакладзеныя на сучасную беларускую мову.

У 1993 г. у Тураве на Замкавай гары быў адкрыты помнік святому Кірылу.

Вось як гучыць паэтычны голас нашага выдатнага суайчынніка на той мове, якою ён стварыў свае шэдэўры:

*Славословлю*
*пречестное имя Твое,*
*Богородице.*
*Приими словесную*
*сию жертву от уст*
*грешен.*
*Не отвєрзи моления*
*раба Твоего.*
*Обнови душу мою*
*покаянием.*
*Да спасена будет*
*ми душа.*



Шахматная ладдзя з вазрамі. Камень. Пачатак XII ст. Ваўкавыск

# КУЛЬТУРА СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСІ

### Дойлідства і фрэскі

Высокім дасягненнем тагачаснай беларускай культуры ёсць помнікі мураванага дойлідства, пераважна храмы, якія ўзводзіліся з камянёў і цэглы. Найстаражытнейшым з іх лічыцца Сафійскі сабор у Полацку.

Унутраную прастору шматкупальнага сабора Святой Сафіі аздаблялі фрэскавыя размалёўкі, што захаплялі вернікаў багаццем сюжэтаў і непаўторнай прыгажосцю.

У другой палове 50-х гадоў XI ст. у Полацку быў збудаваны грандыёзны Сафійскі сабор, трэці храм такога тыпу пасля Ноўгарадскай і Кіеўскай Сафій на ўсходнеславянскіх землях.



Такой убачыў славутую Камянецкую вежу ў XIX ст. Напалеон Орда

У XII–XIII стст. старажытныя беларускія княствы ўзроўнем развіцця адукацыі, кніжнай справы, архітэктуры ды іншых галін культуры нічым не саступалі суседнім еўрапейскім дзяржавам.

На працягу XII ст. толькі ў Полацку было ўзведзена дзесяць мураваных храмаў, сярод якіх асабліва вылучалася створаная геніяльным дойлідам Іаанам Спасаўская царква. Гэты храм, змураваны на замову святой Еўфрасінні дойлідам Іаанам, лічыцца вяршыняй полацкай архітэктурнай школы. У ім амаль цалкам захаваліся фрэскавыя размалёўкі таго часу, якія і сёння хвалююць сваёй адухоўленасцю, багатай колеравай гамай.



Каменная плітка з выявай льва. XII ст. Ваўкавыск

**ХРАНАЛОГІЯ**

Пачатак XII ст. – Нарадзіўся Клім Смаляціч.

1150-я гг. – Будаўніцтва Полацкай Спасаўскай (Спаса-Еўфрасіннеўскай) царквы.

1161 г. – Ювелір Лазар Богша стварыў крыж Еўфрасінні Полацкай.

Каля 1186 г. – Стварэнне «Слова пра паход Ігаравы».



Хрыстос Пантакратар і Маці Божая. Дэталь фрэскавай размалёўкі XII ст. з малельні найпадобнейшай Еўфрасінні. Спасаўская царква ў Полацку



Фрагмент полацкай фрэскі XII ст.

Збудаваная дойлідам Іоанам у сярэдзіне XII ст. Спасаўская царква стала вяршыняю полацкай архітэктурнай школы. Сучасны выгляд





У Спасаўскай царкве Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра захаваліся шматлікія графіці

Найстаражытнейшая выява царквы Спаса ў Полацку з фрэскі XII ст., адкрытай рэстаўратарамі ў гэтым храме ў 2000 г.



Сярод фрэсак Спасаўскай царквы найбольш уражваюць жаночыя вобразы. Мастацтвазнаўцы мяркуюць, што старажытных майстроў натхнялі рэальныя жанчыны, найперш ігумення Еўфрасіння і яе сёстры. На такія жыццёвыя выявы не адважваліся ні кіеўскія, ні ноўгарадскія мастакі. Самае моцнае ўражанне пакідае святая на паўночна-заходнім гранёным слупе, які падтрымлівае царкоўныя хоры. Твар з дугападобнымі бровамі і асабліва вочы намаляваныя з такой жыццёвай пераканаўчасцю, што міжволі ўзнікае думка: перад намі зямная жанчына. Пранікілівы і цвёрды позірк яе глыбокіх вачэй нібы пытаецца ў нас: ці вартыя мы сваіх продкаў, у чым бачым сэнс свайго жыцця? Гэтая фрэска лічыцца верагодным партрэтам самой Еўфрасінні Полацкай.

Гарадзенская школа дойлідства. Барысаглебаўская (Каложская) царква XII ст. Рэканструкцыя



Фрагмент дэкору бакавога фасада Каложскай царквы ў Горадні



Свая адметная архітэктурная школа склалася ў старажытнай Горадні. Да нашых дзён на стромым беразе Нёмана там захавалася Барысаглебаўская (Каложская) царква XII ст.



Каложская царква. Акварэль Напалеона Орды. XIX ст.



Галаснік XII ст. Такія збаны-галаснікі ўмуроўвалі ў сцены храмаў ды іншых будынкаў, каб палепшыць акустыку

Яе сцены аздобленыя керамічнымі пліткамі з палівай і ўстаўкамі з каляровых паліраваных камянёў.

Каменныя храмы будаваліся ў Тураве, Навагародку, Віцебску ды іншых беларускіх гарадах. У Камянцы ў XIII ст. была змураваная абарончая вежа, якая для нас сёння ёсць каштоўным помнікам тагачаснага вайсковага дойлідства. Камянецкая вежа мае вышыню 30 метраў і вонкавы дыяметр звыш 13 метраў. На яе пяці ярусах за сценамі таўшчынёю 2,5 метра мог размясціцца даволі вялікі гарнізон.



Шкляныя кубак і флакон XII ст. з Навагрудка. Рэканструкцыя паводле археалагічных знаходак

Каменная шахматная ладдзя XII–XIII стст. – яшчэ адно сведчанне шырокага распаўсюджання гэтай інтэлектуальнай гульні ў старажытнай Беларусі



Вобраз Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, узноўлены ў 1992–1997 гг. мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом на аснове малюнкаў, фотаздымкаў і апісанняў арыгінала

## Крыж Еўфрасінні Полацкай

Гэты шэдэўр нашага старажытнага мастацтва стварыў у 1161 г. полацкі майстар Богша (у хрышчэнні Лазар) для захавання хрысціянскіх рэліквій, прысланых Еўфрасінні з Канстанцінопаля і Ерусаліма. Асветніца падаравала крыж Спасаўскай царкве заснаванага ёю манастыра.

Крыж шасціканцовы, што сімвалізуе створаны Богам за шэсць дзён Сусвет.

Паводле задумы Еўфрасінні створаны Богшам крыж павінен вечна «жыватварыць» душы палачанаў і ўсіх жыхароў роднай зямлі. Крыж спалучае хрысціянскія каштоўнасці з патрыятычнымі ідэаламі. Ён – сімвал святасці старажытнай Беларусі і яе дзяржаўнасці.



Полацкія фрэскі, асабліва жаночыя вобразы, уражваюць сваёй жыццёвай верагоднасцю. Невядомая святая. Спасаўская царква ў Полацку. XII ст.

Старажытны надпіс на Крыжы святой Еўфрасінні

Старажытная святыня мае вышыню каля 52 сантыметраў і таўшчыню 2,5 сантыметра. Яна зробленая з кіпарысавага дрэва, закрытага зверху і знізу залатымі пласткамі з каштоўнымі камянямі, арнаментамі і дваццацццю эмалевымі абразкамі з выявамі Ісуса Хрыста, Божай Маці, Іаана Хрысціцеля, апосталаў Пятра і Паўла ды іншых святых. Усярэдзіне крыжа ў адмысловых гнёздах знаходзіліся рэліквіі, у тым ліку кавалачак Крыжа Гасподняга з кроплямі Ісусавай крыві.

У 1941 г. наша нацыянальная святыня знікла з Магілеўскага краязнаўчага музея і дагэтуль не знойдзеная. Паводле апошніх звестак, яна знаходзіцца ў адным з музейных сховішчаў Расеі.

Будынак былога Магілеўскага зямельнага банка, дзе знаходзіўся пакой-сейф, адкуль у ліпені 1941 г. знік Крыж Еўфрасінні Полацкай





Пераклад кніг з грэчкай мовы на славянскую. Мяфод і перапісчыкі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Святыя Яфрэм Сірын і Васіль Вялікі. Мініяцюра XII ст.

## Пісьменства

У XI–XIII стст. на беларускіх землях было шырока распаўсюджанае пісьменства. Каштоўным яго помнікам ёсць крыж Еўфрасінні Полацкай, на якім выбіты вялікі тэкст з імем майстра і замоўцы, а таксама з цікавымі гістарычнымі звесткамі.

У рэчышчы Дзвіны знаходзіліся чатыры валуны з высечанымі на іх у XII ст. крыжамі і надпісам «Господи, помози рабу своему Борису». Адзін з гэтых «Барысавых камянёў» сёння можна ўбачыць побач з Полацкім Сафійскім саборам.

Велізарную навуковую каштоўнасць маюць знойдзеныя археолагамі ў Смаленску, Віцебску і Амсціславе старажытныя берасцяныя граматы. Яны сведчаць, што пісьменнымі былі не толькі духавенства і арыстакраты, але і простыя гараджане.

Так выглядалі тагачасныя кнігі



Віцебская берасцяная грамата



Прылады для пісьма і кніжнай справы з раскопак старажытнага Берасця





Старонкі Тураўскага Евангелля. Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Летувы

Сапраўднымі творамі мастацтва былі тагачасныя рукапісныя кнігі. Іх пісалі на пергамене (тонка вырабленай скуры) і аздаблялі рознакаляровымі загалоўнымі літарамі і малюнкамі-мініяцюрамі. Найстаражытнейшая з вядомых сёння рукапісных кніг, створаных у Беларусі, – Тураўскае Евангелле XI ст.



Васіль Вялікі. Выява з Служэбніка XII ст. Полацка-смаленская школа



Евангелле паводле Марка. Беларускі рукапіс XIII ст.

## Клім Смаляціч

Адным з найадукаванейшых людзей свайго часу быў пісьменнік, філосаф і царкоўны дзяяч Клім Смаляціч. Атрымаўшы адукацыю ў Канстанцінопалі, ён адмовіўся ад кар'еры ў Візантыі і вярнуўся на радзіму. Неўзабаве Смаляціч быў абраны кіеўскім мітрапалітам – кіраўніком хрысціянскай царквы на ўсіх тагачасных усходнеславянскіх землях.

Клім Смаляціч выдатна ведаў біблійныя тэксты, творы «айцоў царквы» Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова, Яфрэма Сірына, Іаана Залатаслова, а таксама творы антычных пісьменнікаў і вучоных – Гамэра, Арыстоцеля, Платона ды іншых .

Найбольш вядомым вучнем і паслядоўнікам Кліма Смаляціча быў Аўрам Смаленскі. Сучаснікі захапляліся яго красамоўствам і літаратурным талентам. З «Жыццяпісу Аўрама Смаленскага» вядома, што ў XII ст. у ягоным родным горадзе існавалі школы, перапісваліся кнігі, маляваліся абразы.

## «Слова пра паход Ігаравы»

Гэты геніяльны твор старажытнай паэзіі, напісаны прыкладна восем стагоддзяў таму, знаходзіцца ля вытокаў беларускай, украінскай і расейскай літаратур. Ён апавядае пра рэальныя падзеі – паход князя Ігара на полаўцаў. Невядомы аўтар «Слова» заклікае князёў спыніць усобіцы, каб разам супрацьстаяць варожай навале. Ён няраз згадвае славутага Усяслава Чарадзея і шчыра захапляецца гэтым полацкім князем, бачачы ў ім мудрага палітыка і таленавітага ваяводу, які праз усё жыццё пранёс вернасць сваёй Бацькаўшчыне.

Добрае веданне аўтарам «Слова» гісторыі Полацкага княства і ягонае захапленне князем Усяславам Чарадзеем даюць падставы лічыць старажытнага песняра нашым суайчыннікам.



Святыя Барыс і Глеб. Бронза; ліццё. Сярэдзіна XII ст. Знойдзена ў Копысі

# БАРАЦЬБА З КРЫЖАКАМІ



Баявы шалом «гаршковага» тыпу

Пры канцы XII ст. у вусці Дзвіны высадзіліся нямецкія рыцары, святары і купцы. У 1201 г. яны заснавалі горад Рыгу, ператварыўшы яго ў моцную фартэцу. Праз год каталіцкім біскупам Альбертам там быў створаны вайскова-манаскі Ордэн мечаносцаў, назоў якога паходзіў ад выявы чырвонага мяча і крыжа над ім на белых рыцарскіх плашчах. (Іначай гэты ордэн пазней называўся яшчэ Інфлянцкім, або Лівонскім.)

Змаганне з захопнікамі ўзначаліў полацкі князь Валодша. У сваіх хроніках немцы называлі яго «каралём Вальдэмарам».

Сваёй афіцыйнай мэтаю Ордэн абвясціў пашырэнне хрысціянства сярод паганскага мясцовага насельніцтва, што складалася з балцкіх плямёнаў земгалаў, латгалаў і куршаў, а таксама ліваў і эстаў, што належалі да вугра-фінскіх плямёнаў. Але сапраўднай мэтаю крыжакоў быў захоп чужых земляў і прасоўванне на ўсход.

Ніжняе Падзвінне задоўга да з'яўлення нямецкіх рыцараў знаходзілася пад уладаю Полацка і плаціла яму даніну. На балцкіх землях па Дзвіне стаялі гарады фартэцы Герсіка і Кукенойс, якімі кіравалі прызначаныя полацкім князем васалы з роду Рагвалодавічаў. Такім чынам, агрэсія крыжакоў непасрэдна сутыкнулася з дзяржаўнымі інтарэсамі Полацкай зямлі, дзе валадарыў князь Валодша (Уладзімір).



Пячатка рыжскага біскупа Альберта

У 1203 г. Валодша здзейсніў першы паход на збудаваныя немцамі фартэцы. Тады ж князь Усевалад, што княжыў у Герсіцы, напаў на Рыгу. Гэтыя падзеі сталіся пачаткам адкрытай барацьбы з крыжакамі за незалежнасць Полацкай дзяржавы.

Праз нейкі час вялікія сілы рыцараў рушылі ў землі ліваў.



Адплыццё крыжакоў у паход. Французская сярэднявечная гравюра



Археалагічныя знаходкі з старажытнай Герсікі – горада-фартэцы Полацкай зямлі ў ніжнім Падзвінні



Рыцарскія мячы



Пячатка Ордэна мечаносцаў

## ХРАНАЛОГІЯ

1186–1216 гг. – Княжанне ў Полацку Валодшы.
1203 г. – Паход князя Валодшы ў ніжняе Падзвінне.
1208 г. – Абарона Кукенойса князем Вячкам.
1216 г. – Падрыхтоўка паходу супроць крыжакоў і смерць князя Валодшы.
1240 г. – Удзел палачанаў у разгроме шведскіх рыцараў на Няве.
1242 г. – Разгром нямецкіх рыцараў на Чудскім возеры.



Бітва ноўгарадскага князя Аляксандра Яраславіча з шведамі на Няве ў 1240 г. Ваяр з узнятым над галавой мячом – герой той сечы Якаў Палачанін. Сярэднявечная гравюра



Выява «Пагоні» на княскай пячатцы Аляксандра Неўскага. Гэты старажытны крывіцкі герб ён атрымаў у якасці своеасаблівага пасагу ад жонкі – полацкай князёўны Аляксандры

Тыя папрасілі ў полацкага князя дапамогі. Валодша з сваімі дружынамі узяў у аблогу нямецкую фартэцу Гольм, аднак да крыжакоў падышло падмацаванне, і палачане мусілі адступіць.

Крыжакі працягвалі наступ уверх па Дзвіне і ў 1208 г. наблізіліся да горада Кукенойса. Князь Вячка (з полацкай дынастыі Рагвалодавічаў) адмовіўся скласці зброю і, не дачакаўшыся з Полацка падмогі, вымушаны быў спаліць сваю фартэцу. З дзвюма сотнямі ваяроў ён адступіў у Ноўгарадскую зямлю. Пазней гэты таленавіты военачальнік кіраваў у землях эстаў абаронаю горада Юр'ева (Тарту) і геройскі загінуў у бітве з крыжакамі.

Праз год пасля Кукенойса немцы захапілі і горад Герсіку.

Полацкі князь Валодша падпісаў з рыжскім біскупам Альбертам пагадненне, паводле якога адмаўляўся ад падуладных яму земляў у Прыбалтыцы і даніны з мясцовага насельніцтва. Але Полацак выкарыстоўваў мір для ўмацавання сваіх пазіцый.

У 1216 г. Валодша пачаў падрыхтоўку да новага вялікага паходу на Рыгу, у якім павінны былі ўдзельнічаць войскі ўсёй Полацкай зямлі і яе хаўруснікі. Аднак якраз напярэдадні выступу князь Валодша нечакана памёр – найверагодней, быў атручаны агентамі крыжакоў. Паход не адбыўся, але Валодша за сваё трыццацігадовае княжанне так і не дазволіў рыцарам ступіць на крывіцкія землі.

Палітычная сітуацыя штурхала Полацак да альянсу з Ноўгарадам, якому таксама пагражала крыжацкая навала. Збліжэнне двух моцных славянскіх княстваў адбылося ў 1239 г., калі ноўгарадскі князь Аляксандр Яраславіч павянчаўся з Аляксандрай, дачкой полацкага князя Брачыслава. Праз год полацкія ваяры дапамаглі ноўгарадскаму князю здабыць перамогу над шведскімі рыцарамі на Няве, пасля чаго Аляксандр дадаў да свайго імя ганаровае прозвішча Неўскі.

У «сечы вялікай» на неўскіх берагах здабыў сабе славу палачанін Якаў. Летапіс паведамляе, што ўзброены адным мячом, ён бліскуча вытрымаў бой з некалькімі дзесяткамі рыцараў і заслужыў асабістую князеву пахвалу.

Мінуліся яшчэ два гады, і побач з ноўгарадцамі і пскавічамі полацкія ратнікі, якія разам з віцьблянамі складалі трэціну ўсяго славянскага войска, насмерць стаялі супроць крыжакоў у Лядовым пабоішчы на Чудскім возеры.

У той самы час наша Бацькаўшчына сутыкнулася з новым ворагам – мангола-татарамі. Да з'яўлення на мяжы беларускіх земляў усходнім заваёўнікам удалося падпарадкаваць сабе велізарныя абшары – ад Кітая да Усходняй Еўропы. Летапісы захавалі сведчанне пра напад мангола-татараў на Берасце. Народнае паданне апавядае пра тое, што вялізнае татарскае войска на чале з ханам Койданам рухалася на Менск. На шляху чужынцаў стаяў горад Крутагор'е, каля якога адбылася бітва. Татары пацярпелі паразу. Койдан загінуў і быў там пахаваны, пасля чаго Крутагор'е нібыта было названае Койданавам (цяпер горад Дзяржынск).



Удзельнік крыжовых паходаў. Тагачасная мініяцюра

Адрозна ад расейскіх земляў беларускія княствы захавалі сваю незалежнасць і не зведалі цяжкога мангола-татарскага прыгнёту.

# НОВАЯ ДЗЯРЖАВА

Наваградскі замак. Рэканструкцыя Яўгена Куліка



Нельга блытаць сучасных літоўцаў (летувісаў) і старажытных ліцвіноў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і ўдзельнічалі ў фармаванні беларускага этнасу. Продкі летувісаў, сярод якіх асабліва вылучалася племя жамойць, да XIII ст. не мелі ні гарадоў, ні пісьменства, хоць у іх ужо існаваў падзел на заможных і простых людзей.



Аповяд паганскага вешчуна. Ілюстрацыя Міхала Андрыёлі да паэмы Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод»

### Літва

Перад крыжацкай пагрозай з захаду і мангола-татарскай з усходу беларускія княствы былі вельмі зацікаўленыя ў задзіночанні. Так сталася, што ініцыятыву ў гэтай справе ўзяў на сябе Навагародак. Актыўную ролю ў аб'яднанні адыгралі і літоўскія князі.

Гісторыкі дагэтуль спрачаюцца, адкуль паходзіць назоў «Літва» і што ён азначае. Існуе меркаванне, што летапісная Літва знаходзілася на абшары сучаснай Беларусі, і яе прыкладныя межы чытач можа ўявіць, калі правядзе простую лінію ад цяперашняга Менска да Маладзечна, адтуль на Навагародак, потым на Ляхавічы і зноў на Менск.

Пасля аб'яднання летапіснай Літвы з Навагародскім княствам узнікла новая дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае, першым князем якога стаў Міндоўг, а першай сталіцаю – наш старажытны Навагародак.

### Міндоўг

Пад 1235 г. летапісец паведаміў пра «Літву Міндоўга». У адным з беларускіх летапісаў – «Хронікі Быхаўца» – чытаем, што, забіўшы адных сваіх супернікаў і выгнаўшы на чужыну іншых, Міндоўг «пачаў княжыць ва ўсёй зямлі Літоўскай адзін, меў славу і гонар вялікі і не цярпеў супраць сябе нікога».



Хрышчэнне Міндоўга. Гравюра XIX ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1235 г. – Летапіснае паведамленне пра «Літву Міндоўга».

1253 г. – Каранацыя Міндоўга ў Навагародку.

1260 г. – Перамога над крыжакамі каля возера Дурбэ.



Пячатка Міндоўга. Рэканструкцыя

Неўзабаве шматлікія незадаволеныя васалы распачалі барацьбу з Міндоўгам. Шукаючы дапамогі, ён з дружынаю накіраваўся ў суседні Новагародак (Наваградак). Гараджане ўбачылі ў Міндоўгу ваяра і палітыка, які мог спрыяць умацаванню Новагародка і далучэнню да яго сумежных земляў. Літоўскі князь атрымаў падтрымку і запрашэнне на новагародскі пасад.

Паганец Міндоўг мусіў прыняць праваслаўе – веру сваіх падданых. Гэта адбылося ў Новагародку ў 1246 г. Але палітычныя абставіны прымусілі яго яшчэ раз змяніць веравызнанне.

Варожыя Міндоўгу літоўскія князі ўступілі ў хаўрус з інфлянцкімі рыцарамі і рыжскім арцыбіскупствам, утварыўшы магутную кааліцыю. У такой сітуацыі Міндоўг пагадзіўся на пераход у каталіцтва. Гэта быў мудры палітычны крок, які дапамог вялікаму князю выйсці з барацьбы пераможцам. Міндоўга падтрымаў сам папа рымскі Інакент IV.




Вялікі князь літоўскі Міндоўг. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

У 1253 г. у Новагародку Міндоўг атрымаў ад прадстаўнікоў папы карону. Княства афіцыйна рабілася каралеўствам, што стварала падставы стабільнасці ў дачыненнях з Еўропай. Аднак праз некалькі гадоў Міндоўг разарваў сваё пагадненне з Інфлянцкім ордэнам, а потым і з папам. Найверагодней, што прычынаю паслужыла імкненне далучыць Жамойць, якую раней Міндоўг аддаў крыжакам. Улетку 1260 г. нямецкія рыцары былі ўшчэнт разбітыя каля возера Дурбэ. Міндоўг вярнуўся ў паганскую веру і распачаў з крыжакамі адкрытую вайну.

Палітыку ўмацавання новай дзяржавы працягваў Віцень, які стаў вялікім князем пры канцы XIII ст. Як сведчыць летапіс, гэты князь «прыдумаў сабе герб: рыцар збройны на кані з мячом, названы «Пагоня».

## Змаганне за ўладу



Вялікі князь Віцень. Гравюра XVI ст.

Міжусобная барацьба літоўскіх князёў прывяла ў 1263 г. да змовы і забойства Міндоўга і двух яго малалетніх сыноў. Праз нейкі час на вялікакняскім пасадзе замацаваўся Міндоўгаў сын Войшалк. Ён жорстка расправіўся з бацькавымі ворагамі, аднак неўзабаве таксама быў забіты.

Наступнаму вялікаму князю Трайдзеню ўдалося пашырыць сваю ўладу на верхняе Панямонне.

Вялікае Княства працягвала расці і ўмацоўвацца ў часе валадарання князя Віценя. Летапісы звязваюць з ягоным імем з'яўленне дзяржаўнага герба – «Пагоні». Але сапраўды «Пагоня» больш старажытная. Яна паходзіць з Полацка. Расейскі гісторык В.Тацішчаў, які карыстаўся страчаным пазней Полацкім летапісам, сцвярджаў, што «гербам Беларусі спрадвеку быў вершнік з мячом».



Старажытны беларускі герб «Пагоня»

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ



Герб Вялікага Княства – «Пагоня». З «Гербоўніка» 1578 г.

## Аб'яднанне беларускіх земляў

Пасля далучэння да Навагародка суседніх земляў пад уладаю Міндоўга ў склад новай дзяржавы паступова і добраахвотна ўваходзілі іншыя старажытныя беларускія княствы. Яны былі зацікаўленыя ва ўмацаванні дзяржаўнай улады, што давала надзейную абарону ад ворагаў і магчымасць спакойна займацца земляробствам, гандлем і рамёствамі.

У 1307 г. на ўмовах захавання значнай самастойнасці ў Вялікае Княства Літоўскае ўвайшла Полацкая зямля. Валадары дзяржавы неаднаразова давалі палачанам пісьмовыя гарантыі «не рухаць старыны, не ўводзіць навіны».

Са згоды мясцовых баяраў і купцоў Полацкая зямля добраахвотна ўвайшла ў Вялікае Княства Літоўскае, захаваўшы пры гэтым значную самастойнасць. На пачатку XIV ст. у склад новай дзяржавы былі пераважна мірным шляхам улучаныя Пінская і Берасцейская землі, а таксама Менскае княства. Віцебская зямля далучылася да Княства праз шлюб вялікага князя Альгерда з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай.



Найстаражытнейшая каляровая выява «Пагоні». Кодэкс Бергомера. Пачатак XV ст.

Полацкая зямля доўгі час захоўвала свае самастойнасць і стала часткаю Вялікага Княства добраахвотна на ўмовах шырокай аўтаноміі. Грамата полацкага і віцебскага князя Ізяслава. 1265 г.

### ХРАНАЛОГІЯ

1307 г. – Добраахвотнае ўваходжанне Полацкай зямлі ў Вялікае Княства Літоўскае.

1314 г. – Перамога Давыда Гарадзенскага над нямецкімі рыцарамі.

1316–1341 гг. – Княжанне вялікага князя Гедзіміна.

1317 г. – Заснаванне самастойнай Літоўскай мітраполіі.

1323 г. – Перанясенне сталіцы дзяржавы з Навагародка ў Вільню.

Карта Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, складзеная ў 1562 г. Вацлавам Градэцкім, некалькі дзесяцігоддзяў лічылася найдакладнейшай картай нашай краіны



Вялікі князь Гедзімін, пры якім у склад Княства ўвайшлі ўжо амаль усе беларускія землі. З «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні



Пячатка князя Карыбута з дынастыі Гедзімінавічаў. Канец XIV ст.

## Гедзімін

Пад час валадарання Гедзіміна, які заняў вялікакняскі пасад пасля Віценя, у склад Вялікага Княства ўвайшла ўжо большая частка тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Князь Гедзімін заставаўся паганцам, але як разважлівы кіраўнік дзяржавы не чыніў перашкодаў прыхільнікам хрысціянства. Пры ім у Вільні будаваліся і каталіцкія, і праваслаўныя манастыры і храмы. Традыцыя талерантнасці (цярпімасці да людзей іншага веравызнання і паходжання) будзе захоўвацца ў Беларусі на працягу стагоддзяў.

Уладар краіны клапаціўся і пра тое, каб ягонымі падданымі-праваслаўнымі кіравалі свае, а не маскоўскія царкоўныя іерархі. У 1317 г. у Вялікім Княстве была ўтвораная самастойная праваслаўная мітраполія, якую ўзначаліў беларускі мітрапаліт Феафіл, што меў рэзідэнцыю ў Навагародку.

У 1323 г. Гедзімін перанёс сталіцу дзяржавы з Навагародка ў Вільню. Ён змяніў і свой тытул, пачаўшы афіцыйна менаваць сябе «каралём Літвы і Русі», або «каралём ліцвінаў і русінаў». Русінамі, або «рускімі», тады называлі праваслаўных жыхароў беларускіх земляў. Пашырыўшы свае межы, дзяржава «пашырыла» і назоў. Спачатку яна называлася Вялікае Княства Літоўскае і Рускае, а пазней, пасля далучэння Жамойці, Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Але найчасцей тагачасную краіну нашых продкаў скарочана называлі Вялікім Княствам Літоўскім ці проста Літвою.



Уступленне Гедзіміна ў Кіеў у 1321 г. Гравюра XIX ст.



Былая рэзідэнцыя вялікіх князёў у Троках. Так выглядаў замак на пачатку XIX ст.



Літва. Гравюра XV ст. з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля

Бароначы незалежнасць Княства, Гедзімін няраз мусіў ваяваць з агрэсіўнымі суседзямі-крыжакамі. Нямецкія рыцары пацярпелі цяжкую паразу ад нашага войска ў 1331 г. на рацэ Акмяне. Праз дзесяць гадоў вялікі князь Гедзімін загінуў ад кулі пад час штурму крыжацкага замка.



Срэбныя, так званыя «літоўскія» зліткі XII–XIV стст.

Пахаванне Гедзіміна. Мастак XIX ст. Казімір Альхімовіч



Грамата полацкага епіскапа Якава рыжскаму біскупскаму намесніку і г. Рызе аб міры і гандлі хлебам



Гэтыя пячаткі пацвярджалі надпісаную ў 1330 г. дамову Полацка з Рыгай і сведчылі пра значную самастойнасць Полацкай зямлі ў Вялікім Княстве Літоўскім



Князь Скіргайла, прызначаны вялікакняскім намеснікам у Полацак, не задаволіў палачанаў, бо быў паганцам і злоеў заняць пасад, толькі прыняўшы хрысціянства. Гравюра XVI ст. з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі»



Вялікі рыцарскі шалом

## Давыд Гарадзенскі

Крыжакі не пакідалі намеру захапіць беларускае Панямонне. У 1284 г. яны з'явіліся пад Горадняй, здабылі замак і спалілі горад. 1295 год стаў часам новага паходу на Горадню і Навагародак. У 1305 і 1306 гг. гарадзенцы зноў убачылі каля сваіх муроў нямецкіх рыцараў, а ў 1311 г. тэўтонцы нападалі двойчы.

Тым часам прынёманскія землі займелі мужнага абаронцу – гарадзенскага старасту Давыда, які быў шчодра надзелены ваенным талентам. Давыд няраз граміў няпрошаных гасцей на сваёй зямлі і вадзіў дружыны ў нямецкія ўладанні.



Паўтараручны «вялікі» меч

Крыжакі рыхтуюцца да нападу на замак у Пуні. Мастак Вінцэнт Макоўскі. 1837 г.





Зброя беларускіх ваяроў XII–XIII стст.

У тым годзе крыжакі тройчы нападалі на Вялікае Княства. У верасні буйное рыцарскае войска павёў у паход сам маршал Тэўтонскага ордэна. Гарадзенцы на чале з Давыдам зрабілі свой замак непрыступным. Спустошыўшы ваколіцы, тэўтонцы рушылі далей. Яны спалілі Навагародак, але былі расчараваныя адсутнасцю здабычы. Тым часам Давыд Гарадзенскі захапіў зробленыя немцамі ў пушчы харчовыя запасы і крыжацкіх коней. На месцы сваіх схованаў рыцары ўбачылі толькі пабітую варту. Давыд паклапаціўся і пра тое, каб захопнікі не змаглі знайсці сабе ніякага спажытку ў ваколіцах. Рэшткі галоднага рыцарскага войска ахапіла роспач. Амаль ніхто з заваёўнікаў не вярнуўся ў Прусію.

На вялікі жаль, у росквіце сваёй славы Давыд загінуў. У 1326 г. у адным з паходаў здрадніцкім ударам у спіну яго забіў падкуплены крыжакамі польскі рыцар.

Найвыдатнейшую перамогу над тэўтонцамі, што напалі на нашую зямлю, здабыў Давыд Гарадзенскі ў 1314 г. Амаль ніхто з вялікага рыцарскага войска на чале з самім маршалам Тэўтонскага ордэна ў Прусію не вярнуўся.



Узброены татарын

Крыжакі пад Навагародкам. Малюнак Віктара Сташчанка

# КНЯЗЬ АЛЬГЕРД



Пераможца татараў у бітве на Сініх Водах вялікі князь Альгерд

Адзін з маскоўскіх летапісцаў пакінуў такую характарыстыку Альгерда: «Ён не піў ні віна, ні піва, меў вялікі розум і падпарадкаваў шмат земляў. Свае паходы рыхтаваў скрытна, ваяваў не колькасцю вояроў, а ўменнем». Рыцар, які прыязджаў у Вільню ў складзе нямецкага пасольства, пісаў пра нашага гаспадара: «У князя велічны пагляд, вочы блакітныя, валасы светларусыя, рост мае вышэйшы за сярэдні, размаўляе гучным голасам і выдатна ездзіць на кані».

У часы Альгерда адбывалася далейшае ўмацаванне Вялікага Княства, якое ўдвая павялічыла сваю тэрыторыю. Новы валадар нашай дзяржавы паказаў сябе таленавітым военачальнікам і мудрым палітыкам. Альгерд выдатна ведаў нямецкую мову, але з крыжацкімі пасламі заўсёды размаўляў праз перакладніка. Дзяржаўнай мовою Вялікага Княства ўжо тады была беларуская.

### Бітва на Стрэве

Тэўтонскі ордэн працягваў рабіць набегі і паходы на беларускія землі. Нямецкія рыцары імкнуліся адрэзаць нашую краіну ад Балтыйскага мора. Альгерд адбіў шэсць вялікіх крыжацкіх нападаў. У 1348 г. войска Вялікага Княства сустрэлася з немцамі на рацэ Стрэве (прытока Нёмана). На дапамогу крыжакам прыйшлі рыцары-найміты з Англіі і Францыі. Большую частку нашага войска складалі беларускія палкі з Полацка, Віцебска, Смаленска, Берасця.

Сеча на Стрэве была надзвычай жорсткай. Немцы распускалі чуткі пра сваю перамогу, але насамрэч бітва не прынесла ім вырашальнага поспеху. Упарты супраціў крыжацкай агрэсіі працягваўся.

### Перамога на Сініх Водах

Неспакойна было і на паўднёвых межах Вялікага Княства, за якімі пачыналіся татарскія ўладанні. Альгерд пастанавіў разбіць ардынцаў у генеральнай бітве і рушыў з войскам углыб іх тэрыторыі.

Бітва адбылася ў 1362 г. каля ракі Сінія Воды – прытоцы Паўднёвага Буга. Альгерд не дазволіў татарам выкарыстаць іх звычайную тактыку – імклівай атакай зайсці з флангаў і абкружыць наша войска. Адбіўшы ўдар ардынцаў, Альгердавы харугвы самі атакавалі ворага з фронта і з флангаў. Татары не вытрымалі магутнага націску і паказалі спіны.



Татарскі хан



Замак у Медніках быў летняй рэзідэнцыяй Альгерда. Беларускі мастак XIX ст. Напалеон Орда ўбачыў толькі рэшткі былой велічы

**ХРАНАЛОГІЯ**

1345–1377 гг. – Княжанне вялікага князя Альгерда.
1348 г. – Бітва з нямецкімі рыцарамі на рацэ Стрэве.
1362 г. – Разгром татараў на Сініх Водах.
1368–1372 гг. – Паходы князя Альгерда на Маскву.
1399 г. – Бітва з татарамі на рацэ Ворскле.
Смерць апошняга полацкага князя Андрэя.



Кулікоўская бітва. Мініяцюра з рукапісу «Сказание про Мамаева пабоішча». XVII ст.



У бітве на Куліковым полі ўдзельнічала 2-тысячная полацкая дружына. Баявыя шыхты перад сечай. Мініяцюра XVI ст.

Іх войска было ўшчэнт разгромленае. Рэшткі ардынскай конніцы ўцякалі да самага Дуная. Гэта была першая буйная перамога над татарамі ва ўсёй Усходняй Еўропе.

### Паходы на Маскву

Вялікі князь Альгерд вёў палітыку далучэння да нашай дзяржавы новых земляў на ўсходзе. Гэта выклікала вострую незадаволенасць Маскоўскага княства.

У 1368 г. маскоўскае войска напала на Цвер. Яе князь Міхаіл звярнуўся па дапамогу да Альгерда, які быў жанаты з цвярской князёўнай Ульянай. Высланыя супроць Альгерда маскоўскія палкі былі разбітыя, прычым амаль усе іхнія ваяводы загінулі. Маскоўскі князь Дзмітры спаліў навакольны пасад і зачыніўся ў Крамлі.

Праз два гады Альгердава войска зноў з'явілася каля крамлёўскіх сценаў. Вытрымаўшы васьмідзённую аблогу, Дзмітры папрасіў міру і прыслаў Альгерду багатыя дарункі. Як паведамляюць летапісы, вялікі князь літоўскі пашкадаваў крамлёўскага ўладара – «любоў сваю над ім учыніў, з Масквы яго не здабываў ды мір з ім узяў». Сваю перамогу ён засведчыў тым, што, сеўшы на каня, пад'ехаў да Крамля і дакрануўся да яго дзідай.

Аднак мір з Масквою доўжыўся нядоўга. У 1372 г. цвярскі князь чарговы раз прыслаў просьбу пра падтрымку ў барацьбе з агрэсіўнай Масквой. Наша войска вырушыла ў паход, які скончыўся новым замірэннем.

У Кулікоўскай бітве князь Андрэй Полацкі камандаваў правым крылом расейскага войска.

У выніку разгрому ворага на Сініх Водах, дзе асабліва вызначыліся навагародскія ваяры, ад татарскага прыгнёту былі вызваленыя ўкраінскія землі. Яны разам з Кіевам увайшлі ў склад Вялікага Княства.

### Андрэй Полацкі

Альгерд меў дванаццаць сыноў. Найстарэйшы з іх, Андрэй, княжыў у Полацку. Пасля бацькавай смерці ён разлічваў атрымаць вялікакняскую карону, аднак гаспадаром Вялікага Княства стаў іншы Альгердаў сын – Ягайла. Андрэй з дружынаю мусіў пакінуць Полацак і пайсці на пагадненне з маскоўскім князем Дзмітрыем.

Князь Андрэй Полацкі разам з дзвюма тысячамі полацкіх ваяроў удзельнічаў у Кулікоўскай бітве. Ён камандаваў «палком правай рукі», гэта значыць правым флангам расейскага войска.

Праз нейкі час Андрэю ўдалося адваяваць Полацак. Сваё доўгае і бурнае жыццё ён скончыў у 1399 г. у лютай сечы з татарамі на рацэ Ворскле. Апошняму ў гісторыі полацкаму князю ішоў тады 75-ты год.



Бітва дружынаў Вялікага Княства Літоўскага з татарамі на рацэ Ворскле. Сярэднявечная гравюра

# КРЭЎСКАЯ ВУНІЯ



Карона Уладзіслава Ягайлы, знойдзеная ў ягоным саркафагу

Пасля смерці Альгерда вялікакняскі пасад заняў ягоны малодшы сын Ягайла. Баючыся суперніцтва свайго дзядзькі – князя Кейстута, ён зняволіў яго ў вежы Крэўскага замка, а потым загадаў задушыць. Ягайла захаваў уладу, але яе не прызналі ні сын Кейстута князь Вітаўт, ні полацкі князь Андрэй Альгердавіч.

У гэты час суседняе з нашай дзяржавай Польскае Каралеўства (Карона) перажывала вельмі цяжкі перыяд сваёй гісторыі. Краіна засталася без уладара, а каралеве Ядвізе было ўсяго трынаццаць гадоў. Польшчы пагражала заваёва немцамі і страта незалежнасці. У такіх умовах шмат хто з буйных польскіх феадалаў бачыў выйсце ў альянсе сваёй дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім. Тым больш што гэты хаўрус забяспечыў бы палякам спакой і на межах з Княствам, войска якога толькі за адзін пераможны паход 1376 г. вывела з Польшчы 23 тыс. палонных.

Паводле акта вуніі, падпісанай 14 жніўня 1385 г. у Крэўскім замку, Ягайла атрымаў права ажаніцца з польскай каралевай Ядвігай і стаць каралём Польшчы. Дзеля гэтага ён абавязваўся прыняць каталіцтва і



Вялікі князь Ягайла. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі». 1581 г.

Небяспека з боку Тэўтонскага ордэна рабіла альянс з Каронай выгадным і нашай краіне. Перамовы польскіх паслоў з Ягайлам завяршыліся ў жніўні 1385 г. у Крэве падпісаннем вуніі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.



Ягайлава пячатка. Канец XIV ст.



Вянчанне Ягайлы з Ядвігаю ў Кракаве. Гравюра XIX ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1377–1392 гг. – Княжанне вялікага князя Ягайлы.

1385 г. – Крэўская вунія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.

1386–1434 гг. – Ягайла (Уладзіслаў II) – кароль Польшчы.



У падарунак імператару Святой Рымскай імперыі Сігізмунду Ягайла паслаў двух тураў, аднаго цалкам засмажанага, а другога засоленага ў бочках. Малюнак XV ст.




У тагачаснай сталіцы Польскага Каралеўства Кракаве існаваў фундаваны Ягайлам універсітэт, які сёння мае назву Ягелонскага. На працягу двух стагоддзяў Кракаўская альма-матэр была для нашых суайчыннікаў найбольш даступнай вышэйшай школай. Гравюра XVI ст.

ахрысціць у яго братоў, сваякоў ды іншых падданых, якія вызнавалі паганства, заплаціць вялізную суму грошай (ажно 200 тыс. фларынаў) за зрыў пагаднення аб шлюбе Ядвігі з Вільгельмам Габсбургам, а таксама вызваліць палонных хрысціян-палякаў. Але галоўнае тое, што Ягайла мусіў навекі далучыць землі Вялікага Княства Літоўскага да Кароны Польскай. Тэкст, які палякі называюць арыгіналам акта Крэўскай вуніі, змяшчае настолькі нявыгадныя для Вялікага Княства ўмовы, што нагадвае акт капітуляцыі. Нашы дзяржаўныя дзеячы здаўна лічылі яго падробкай, палякі ж няраз выкарыстоўвалі як падставу для сваіх прэтэнзіяў на беларускія землі.

Крэва.
Руіна знакамітага замка
Мастак Напалеон Орда



Каранацыя Уладзіслава Ягайлы. Фрагмент размалёўкі катэдральнага сабора ў кракаўскім замку Вавель. Канец XV ст.



Пячатка вялікага князя Вітаўта

У наступным, 1386 г. Ягайла хрысціўся ў Кракаве паводле каталіцкага абраду, узяў шлюб з Ядвігаю і быў каранаваны пад імем Уладзіслава II, паклаўшы пачатак каралеўскай дынастыі Ягайлавічаў (па-польску Ягелонаў). Яшчэ праз год у каталіцтва было ахрышчанае паганскае насельніцтва Вялікага Княства. Ягайла выдаў прывілей, які даваў шляхце (баярству) дадатковыя вольнасці і правы пры ўмове прыняцця каталіцкай веры.

Альянс дзвюх дзяржаваў значна павялічыў іх вайсковую магутнасць. Ён спрыяў пашырэнню культурных сувязяў паміж Княствам і Каронай, а таксама іншымі еўрапейскімі краінамі.



Кракаўскі барбакан-вежа для дадатковай абароны галоўнага ўезду ў замак. Гравюра пачатку XIX ст

Вялікі князь і кароль Ягайла. Мастак Марчэлі Бачярэлі. Канец XVIII–пачатак XIX ст.



З таго часу на беларускіх землях сталі будавацца касцёлы і каталіцкія манастыры – кляштары. Ягайла імкнуўся зрабіць каталіцкую царкву дзяржаўнай, што выклікала пратэст у праваслаўных. Частка беларускай арыстакратыі перайшла ў каталіцтва.

Фарны касцёл у Навагрудку, дзе Ягайла ў 1422 г. вянчаўся з Соф'яй Гальшанскай, заснавальніцай дынастыі Ягайлавічаў (Ягелонаў). Фота Анатоля Кляшчука

Герб «Пагоня» з надмагілля Ягайлы ў Кракаве



З юрыдычнага боку акт Крэўскай уніі (дарэчы, некаторыя даследнікі лічаць гэты дакумент пазнейшай фальсіфікацыяй, бо ён быў невядомы пры жыцці Ягайлы і пра яго няма згадак у беларускіх летапісах) азначаў уключэнне Вялікага Княства ў склад Польшчы. Аднак на практыцы далучыць такую моцную дзяржаву было немагчыма. Дзякуючы цвёрдай пазіцыі прыхільнікаў суверэнітэту нашай дзяржавы, гэтыя планы палякаў не здзейсніліся.

# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ



Вялікі князь Вітаўт. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

Вітаўт, сын князя Кейстута, забітага на загад Ягайлы, не мог мірыцца з роляю яго васала. Паны і баярства Вялікага Княства Літоўскага таксама хацелі бачыць на чале сваёй дзяржавы паўнапраўнага манарха, які б праводзіў самастойную ўнутраную і замежную палітыку. Узімку 1389/90 г. Вітаўт узняў супроць свайго стрыечнага брата бунт. Не здолеўшы здабыць Вільню, дзе трымаў абарону моцны польскі гарнізон, ён мусіў шукаць падтрымкі ў нямецкіх рыцараў, якім перадаў ва ўладанне Жамойць. У 1391 г. Вітаўт заняў Гарадзенскі замак, а праз год авалодаў Навагародкам.

Ягайла вымушаны быў пайсці на таемныя перамовы з Вітаўтам. Той разарваў васальныя стасункі з Тэўтонскім ордэнам, спаліў тры рыцарскія замкі і вярнуўся на радзіму. У жніўні 1392 г. браты сустрэліся ў Востраве пад Лідай. Там яны падпісалі пагадненне, паводле якога ўлада ў Вялікім Княстве пажыццёва перадавалася Вітаўту. Ён атрымаў тытул «вялікага князя Літвы і Русі» і ўзяўся актыўна ўмацоўваць дзяржаву. Асноўнай апораю Вітаўта былі баяры, якіх ён шчодра надзяляў зямлёю і сялянамі. Пры Вітаўце Княства пачало чаканіць сваю ўласную манету.





Ліст гаспадара Вітаўта да магістра Тэўтонскага ордэна. 1404 г.

Злучаныя сілы Вялікага Княства і Польшчы ў 1410 г. разграмілі пад Грунвальдам наймацнейшую на той час у Еўропе армію Тэўтонскага ордэна. Немцы адмовіліся ад прэтэнзій на Жамойць, і гэта яшчэ больш умацавала Вялікае Княства.



Дачка князя Вітаўта Соф'я. Выява з мініяцюры XV ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1392 г. – Востраўскае пагадненне аб перадачы ўлады ў Вялікім Княстве Вітаўту.

1392–1430 гг. – Княжанне вялікага князя Вітаўта.

1404 г. – Уваходжанне Смаленскага княства ў Вялікае Княства Літоўскае.

1413 г. – Гарадзельская унія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.



Вітаўт Вялікі. Літаграфія XIX ст. паводле сярэднявечнага партрэта



Пасля Гарадзельскай уніі шырокае распаўсюджанне ў Вялікім Княстве атрымалі гербы, якія сведчылі шляхоцкую годнасць родаў і асобаў. Адзін з найстаражытнейшых гербаў – «Ляліва», якім карысталіся блізу 350 родаў, у тым ліку Абрамовічы, Аляхновічы, Глябовічы, Дарагастайскія, Забярэзінскія, Тарноўскія, Тышкевічы, Чапскія

Ідэя незалежнасці была ў Вялікім Княстве вельмі папулярная. Калі каралева Ядвіга, незадаволеная палітыкай Вітаўта, нагадала яму пра яго васальнае становішча, той звярнуўся да сваіх паноў і баяраў. На сойме ў Вільні ён атрымаў аднагалосны адказ: «Мы не падданыя Польшчы, мы заўсёды былі вольныя; нашы продкі ніколі не плацілі даніны палякам і мы не будзем плаціць і застанемся назаўжды пры сваіх вольнасцях».



Пячатка князя Кейстута, які ўладарыў у заходняй частцы Вялікага Княства

Князь Вітаўт настойліва і паспяхова вёў палітыку пашырэння межаў дзяржавы. Ён запрасіў у Вялікае Княства хана Тахтамыша, якога ў Залатой Ардзе пазбавілі ўлады. Якраз з таго часу на нашых землях і пасяліліся татары, для якіх Беларусь стала другой радзімаю. У 1404 г. Вітаўт канчаткова далучыў да Княства старажытны крывіцкі горад Смаленск і Смаленскую зямлю. Пасля трох паходаў Вітаўта на Маскву з маскоўскім князем Васілём I было ўчыненае пагадненне, паводле якога межы паміж нашай дзяржавай і Масковіяй праходзілі па рацэ Угры – прытоцы Акі. Але пасля смерці Васіля Вітаўт падпарадкаваў сабе Разанскае і Цвярское княствы, а таксама землі ў вышнявіне Акі. На поўдні Вітаўт авалодаў землямі ў нізавіне Дняпра, дзе наша дзяржава атрымала выйсце да Чорнага мора.



Князь Кейстут, бацька Вітаўта. Гравюра пачатку XIX ст.

Мітрапаліт «кіеўскі і ўсяе Русі» Кіпрыян мірыць Вітаўта з Ягайлам. Сярэдневечная мініяцюра





Вітаўт перад бітвай на рацэВорскле. Сярэдневечная мініяцюра



Крыжакі атручваюць Вітаўтавых дзяцей. Гравюра XIX ст.

Для разгляду ўмоў новай дзяржаўнай вуніі ў замак Горадля на рацэ Заходні Буг у 1413 г. з'ехаліся манархі Княства і Кароны, а таксама паны і баярства абедзвюх краін. Гарадзельская вунія прызнавала самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага і пасля смерці Вітаўта. З мэтаю далейшага збліжэння дзяржаваў-хаўруснікаў 47 баярскіх родаў Княства абмяняліся гербамі з польскай шляхтай. Паводле польскага ўзору ў краіне ўводзіўся падзел на ваяводствы. Феадалы каталіцкага веравызнання атрымлівалі новыя прывілеі. Разам з тым, добра разумеючы ролю праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства, Вітаўт утварыў самастойную праваслаўную мітраполію з цэнтрам у Навагародку. Дзеля ўмацавання дзяржавы вялікі князь выношваў ідэю вуніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

Міжнародны аўтарытэт Вялікага Княства, які асабліва вырас пасля Грунвальдскай перамогі, і хуткі рост тэрыторыі краіны прывялі да ідэі пераўтварэння нашай дзяржавы ў каралеўства. Вялікі князь Вітаўт даў згоду атрымаць ад папы рымскага тытул караля і карону. Каранацыя была прызначаная на верасень 1430 г., але ў выніку польскіх інтрыг не адбылася.

Пад час княжання Вітаўта Вялікае Княства Літоўскае ператварылася ў самую магутную дзяржаву Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.



Першыя манеты Вялікага Княства. Канец XIV – XV ст. Адзін з атрыбутаў самастойнасці дзяржавы

**Усходняя мяжа Вялікага Княства Літоўскага на пачатку XV ст.**






Вітаўт Вялікі
Мастак Міхась Басалыга

Сотні шляхоцкіх родаў Вялікага Княства належалі да гербаў «Астоя», «Габданк» і «Прус I»



«Прус I»
(Багуслаўскія, Вішнеўскія, Залеўскія, Студзінскія ды інш.)



«Астоя»
(Вайноўскія, Васілеўскія, Данілевічы, Загорскія, Качаноўскія, Крыўцы, Маркевічы, Марозы, Міклашэўскія, Мяцельскія, Цыпінскія, Чаховічы)



«Габданк»
(Абламовічы, Ваяводскія, Гарабурды, Крушэўскія, Ляўковічы, Сухадольцы)

Гарадзенскі Стары замак, атрыманы Вітаўтам ад бацькі, быў улюбёнай рэзідэнцыяй князя і ягоным надзейным апірышчам у змаганні за ўладу з Ягайлам





Пячаткі князёў Вітаўта, Карыбута і Аутвеня. 1385 г.



Адзін з актаў Гарадзельскай уніі 1413 г. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам

Галоўную ролю ў Вялікім Княстве адыгрывалі беларускія землі. Нашы продкі займалі большасць найвышэйшых дзяржаўных пасадаў. З іх складалася і бліжэйшае акружэнне Вітаўта. Як паведамляў пасол Тэўтонскага ордэна, вялікі князь і яго двор гаварылі па-беларуску, на беларускай мове вялося дзяржаўнае справаводства. Жамойць ды іншыя населеныя балтамі землі займалі менш за 1/15 тэрыторыі. Дзяржаўнае жыццё Вялікага Княства Літоўскага, якое тады было найбуйнейшай краінай Еўропы, праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах.

У тым самым годзе завяршыўся жыццёвы шлях князя Вітаўта. Менавіта пры ім Вялікае Княства стала вялікім не толькі паводле назову і тэрыторыі, якая складала болей за 900 тысяч квадратных кіламетраў (дзеля параўнання: тэрыторыя Рэспублікі Беларусь – 207,6 тысячы квадратных кіламетраў), але і паводле сваёй палітычнай ролі ў Еўропе.



Харугва вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Ульрыха фон Юнгінгена

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА

Галоўнай варожай для славян сілай ва Усходняй Еўропе заставаўся Тэўтонскі ордэн. Крыжакоў неабачліва запрасіў да сябе на дваццаць гадоў мазавецкі князь Конрад. У 1237 г. тэўтонцы аб'ядналіся з Ордэнам мечаносцаў (Інфлянцкім ордэнам). На польскіх і захопленых у прусаў землях крыжакі стварылі сваю дзяржаву са сталіцай у Мальборку. Рыцары зноў і зноў праводзілі свае захопніцкія рэйды на балцкія і славянскія землі. Колькасць такіх рэйдаў дасягала васьмі на год. Пяць разоў крыжакі рабілі спробу захапіць Полацак, чатыры разы – Навагародак. Шмат цярпелі ад іх нападаў Горадня ды іншыя беларускія гарады.



Пячатка вялікага маршала Тэўтонскага ордэна

Вітаўт і Ягайла разумелі, што спыніць агрэсіўны Тэўтонскі ордэн можна, толькі разграміўшы яго. Вялікі князь літоўскі і польскі кароль у 1408 г. на радзе ў Навагародку дамовіліся супольна распачаць вайну з Ордэнам. З свайго боку тэўтонцы актыўна праводзілі вярбоўку рыцараў у Заходняй Еўропе.

Вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген, які камандаваў арміяй тэўтонцаў у бітве пад Грунвальдам і загінуў ад рукі ваяра Вялікага Княства Літоўскага. Гравюра XV ст.




Пры канцы траўня 1410 г. у Горадні з усяго Княства сабраліся палкі-харугвы – баявыя аддзелы, у якіх было ў сярэднім па трыста вершнікаў, а таксама лучнікі і пахолкі-збраяносцы. Харугвы з нашай краіны ўзначальваў вялікі князь Вітаўт, а агульнае кіраўніцтва злучанымі сіламі трымаў у сваіх руках польскі кароль Ягайла.

Нашае войска сустрэлася з ворагам 15 ліпеня 1410 г. на ўзгорыстым полі паміж тагачаснымі прускімі мястэчкамі Танэнбэргам і Грунвальдам.



Узбраенне нямецкіх рыцараў XV ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

15 ліпеня 1410 г. – Разгром арміі Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам.

1411 г. – Торунскі мір Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства з Тэўтонскім ордэнам.

Сталіца тэўтонцаў Мальборк



Пячатка першага прускага біскупа Хрысціяна

Тэўтонцы з'явіліся першыя і пад кіраўніцтвам вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена добра падрыхтаваліся да бітвы. Наперадзе закутых у браню крыжацкіх «кліноў» знаходзіліся, як паведамляе «Хроніка Быхаўца», замаскаваныя «воўчыя ямы» для непрыяцельскай конніцы. За баявымі шыхтамі рыцараў стаялі артылерыя і арбалетнікі. Крыжакі выставілі 51 харугву, дзе было болей за 30 тысяч ваяроў.



Кароль і васал. Сярэднявечны малюнак

Войска Вітаўта і Ягайлы ўтварала роўны па даўжыні фронт з праціўнікам. На правым фланзе знаходзіліся сорак харугваў Вялікага Княства.

Польскае войска складалася з 51 харугвы. На дапамогу ім з'явіліся аддзелы чэхаў і мараваў. У складзе Вітаўтавых сілаў была татарская конніца хана Джэлалад-Дзіна. Злучаная армія мела каля 40 тысяч ваяроў. Крыжакоў было прыкладна на дзесяць тысяч меней, але яны мелі лепшае ўзбраенне. (Трэба адзначыць, што звесткі пра агульную колькасць удзельнікаў бітвы ў розных крыніцах значна разыходзяцца. Называюцца лічбы 100 і нават 150 тысяч.)



Рыцарскі шалом (прылбіца) тыпу «басінет»

Большая частка з 40 харугваў Вялікага Княства прыйшла з беларускіх земляў. У бітве ўдзельнічалі амсціслаўская, аршанская, берасцейская, ваўкавыская, віленская, віцебская, гарадзенская, драгічынская, лідская, навагародская, пінская, полацкая, слонімская, смаленская, старадубская, троцкая ды іншыя харугвы. 30 з іх мелі на сваіх баявых сцягах «Пагоню».

Грунвальдская бітва. Фрагмент карціны Яна Матэйкі. 1878 г. У цэнтры – вялікі князь Вітаўт

План-схема бітвы пад Грунвальдам




Пасля сігналу баявых трубаў першай пайшла ў атаку лёгкая, а затым цяжкая конніца Вітаўта. Некалькі радоў вершнікаў зніклі з відавоку, праваліўшыся ў «воўчыя ямы», але астатнія знайшлі праходы і працягвалі атаку. Татарская конніца паспяхова выкарыстала сваю зброю – арканы, у выніку чаго пярэдні шыхт крыжакоў апынуўся пад капытамі ўласных коней. Вялікі князь Вітаўт быў сярод сваіх ваяроў і непасрэдна кіраваў імі ў сечы.



Ваяры Вялікага Княства. Малюнак-рэканструкцыя XIX ст.

Надзеі тэўтонцаў на артылерыю не спраўдзіліся. Нашыя вершнікі пасеклі крыжацкіх кананіраў і арбалетнікаў. Тады на харугвы Вялікага Княства рушыла цяжкая рыцарская кавалерыя. Прыкладна праз гадзіну ўпартай бітвы нашы ваяры сталі адыходзіць да свайго абозу, і нямецкія рыцары кінуліся ў пагоню. Так Вітаўт пачаў здзяйсняць узгоднены з Ягайлам тактычны манеўр. Яго мэтаю было парушыць баявыя парадкі цяжка ўзброеных рыцараў і рассеяць іх на шырокай прасторы.

Небывалую мужнасць у гэты перыяд бітвы праявілі смаленскі, аршанскі і амсціслаўскі палкі, якія Вітаўт пакінуў для прыкрыцця правага флангу палякаў. Адзін з палкоў цалкам загінуў, два іншыя панеслі велізарныя страты, але выстаялі. Тым часам рыцарская конніца, што гналася за «ўцекачамі», была знішчаная, і нашыя харугвы вярнуліся на поле бітвы. Яны ўдарылі ў тыл крыжакам, што секліся з палякамі.





Трафеямі цэнных продкаў пад Грунвальдам сталі гербы ордэнскіх палкаводцаў Конрада Валенрода, Ульрыха фон Юнгінгена і Альбрэхта Брандэнбургскага




Шляхоцкім гербам «Сас», вядомым з XV ст., карысталіся блізу 300 родаў, сярод якіх Даніловічы, Сялецкія, Скольскія, Урускія, Шапіцкія

Разгромлены Ордэн ужо не змог аднавіць сваёй магутнасці і неўзабаве знік як самастойная дзяржава. Суадносіны сілаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе змяніліся на карысць славянскіх дзяржаваў. Вялікае Княства Літоўскае ўмацавала сваю незалежнасць і атрымала амаль стагоддзе пераўнаўча мірнага існавання.



Бітва пад Грунвальдам. Гравюра XVI ст. з «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага

Неўзабаве харугвы вялікага магістра і правы фланг войскаў Тэўтонскага ордэна былі абкружаныя і апынуліся ў двух вялізных катлах. У жорсткай сечы галоўныя сілы Ордэна былі ўшчэнт разбітыя. Загінула ўсё кіраўніцтва тэўтонцаў, у тым ліку і вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген, якога напаткала смерць ад рукі аднаго з Вітаўтавых ваяроў.

Перамога пад Грунвальдам (беларускія летапісы называюць гэтую бітву Дубровенскай, а нямецкія хронікі – Танэнбэргскай) далася дарагой цаной. Палова прыведзенага Вітаўтам войска назаўсёды засталася ў чужой зямлі. Але трыумфальны поспех злучаных сілаў Княства і Кароны меў велізарнае палітычнае значэнне. Паводле ўмоваў падпісанага з крыжакамі ў 1411 г. Торунскага міру, Ордэн павінен быў вызваліць усе захопленыя землі і заплаціць пераможцам 300 тысяч дукатаў. Была спыненая 200-гадовая агрэсія нямецкіх рыцараў на ўсход.

Вітаўт не імкнуўся да канчатковага разгрому Тэўтонскага ордэна, бо гэта азначала б узмацненне Польшчы і пагражала незалежнасці Вялікага Княства.

Рыцарскія харугвы, здабытыя пераможцамі ў Грунвальдскай бітве





Дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага была «Пагоня». Адзін з бакоў полацкай каменнай пліткі для кляймення тавараў

# ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД

**Найвышэйшыя органы ўлады**

Галоўнай асобаю ў дзяржаве быў вялікі князь, або, як яго яшчэ называлі, гаспадар. У часы Гедзіміна, Альгерда і Вітаўта ўлада гаспадара Вялікага Княства лічылася неабмежаванай.

Найважнейшым абавязкам вялікага князя была абарона краіны. Ён стаяў на чале ўзброеных сілаў, абвяшчаў вайну і падпісваў мірныя пагадненні, а таксама прызначаў людзей на дзяржаўныя пасады і выдаваў законы, распараджаўся дзяржаўным скарбам (казной) і ажыццяўляў дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі.




Сталіца нашай сярэднявечнай дзяржавы Вільня. Гравюра XVI ст.

Аднак у канцы XV ст. неабмежаваныя паўнамоцтвы вялікага князя ўжо сталі гісторыяй. Усё большую вагу набывала вялікакняская Рада, куды ўваходзілі асобы, што займалі найвышэйшыя дзяржаўныя пасады. Спачатку Рада была пры гаспадары дарадчым органам, а з 1492 г. стала заканадаўчым і распарадчым. У гэтым годзе вялікі



Каранацыя. Мініяцюра XVI ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1492–1506 гг. – Княжанне вялікага князя Аляксандра.

1506–1548 гг. – Княжанне вялікага князя Жыгімонта I Старога.

1548–1572 гг. – Княжанне вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста.

**Вялікае Княства Літоўскае ў XVI ст. (да Люблінскай вуніі 1569 г.)**




князь Аляксандр выдаў прывілей, паводле якога гаспадар мог праводзіць вонкавую палітыку толькі пасля ўзгаднення з Радай. Без яе згоды князь не меў права ні прызначаць на дзяржаўныя пасады, ні звальняць з іх. Уплыў Рады пашырыўся і на распараджэнне фінансамі.



Вялікі князь Свідрыгайла. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» 1581 г.

Вялікакняская даравальная грамата давыд-гарадоцкаму баярыну на права лоўлі баброў. 1524 г.

Дзяржаўныя асобы Вялікага Княства



Падскарбі

Дзяржаўны лад Вялікага Княства Літоўскага можна назваць парламенцкай манархіяй, дзе ўладу князя абмяжоўваў своеасаблівы тагачасны парламент з дзвюх палат – Рады і Сойма.



Маршалак





Залаты дукат гаспадара Жыгімонта Аўгуста. Аверс і рэверс. 1547 г.

Рада складалася з 45 радных. У іх лік уваходзілі віленскі біскуп, ваяводы (кіраўнікі ваяводстваў) і іх намеснікі – кашталяны, канцлер (кіраўнік вялікакняскай канцылярыі і хавальнік дзяржаўнай пячаткі), падканцлер, падскарбі (загадчык дзяржаўнага скарбу), гетманы (галоўныя военачальнікі), пісары вялікакняскай канцылярыі ды іншыя высокія дзяржаўныя чыноўнікі. Займаць пасады, якія давалі права засядаць у Радзе, маглі толькі вельмі багатыя людзі.



Медаль, выбіты ў гонар Міхаіла Радзівіла Чорнага, які ўваходзіў у вялікакняскую Раду пры каралі Жыгімонце II Аўгусце. Срэбра. 1563 г.



Прывілей Трыбунальскаму суду, выдадзены вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам. 1570 г.

Найперш гэта былі прадстаўнікі знакамітых родаў Астрожскіх, Гальшанскіх, Гаштаўтаў (Гаштольдаў), Глінскіх, Глябовічаў, Іллінічаў, Кішак, Пацаў, Радзівілаў, Сапегаў, Солтанаў, Хадкевічаў, Храптовічаў...

На паседжаннях Рады месцы займалі адпаведна значнасці пасады. На пярэдняй лаве сядзелі віленскі біскуп, а таксама віленскія і троцкія ваяводы і кашталяны. Гэтыя найбольш уплывовыя ў дзяржаве людзі часта збіраліся асобна і прымалі пастановы за ўсю Раду.

Другім вышэйшым органам кіравання дзяржавай быў Сойм. У яго склад уваходзілі радныя, шматлікія службоўцы дзяржаўнага апарату і шляхта ўсіх земляў Княства. Напачатку на Сойм запрашалі ўсю шляхту, што рабіла паседжанні празмерна шматлюднымі. Таму пазней ад кожнага павета на вальны (агульны) Сойм Вялікага Княства павятовыя соймікі сталі выбіраць па два дэпутаты.



Супольнае паседжанне Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага і Сената Польскага Каралеўства. Гравюра 1506 г.



Каранацыйны меч вялікага князя Жыгімонта Старога


Жыгімонт Стары. Медаль 1538 г.

Соймы разглядалі лёсавызначальныя дзяржаўныя пытанні: выбранне вялікага князя, абвяшчэнне вайны, хаўрусы з іншымі краінамі, нормы вайсковай службы і вайсковых падаткаў, заканадаўства і дзейнасць судоў. Найчасцей паседжанні Сойму адбываліся ў сталічнай Вільні, але часам яны склікаліся і ў іншых гарадах – Горадні, Навагародку, Берасці.

### Мясцовае кіраванне

Вялікае Княства падзялялася на ваяводствы, дзе ўся паўната ўлады належала ваяводам. На падуладнай тэрыторыі яны развязвалі ўсе галоўныя гаспадарчыя, фінансавыя, вайсковыя і судовыя пытанні. Узброенымі сіламі ваяводства камандаваў кашталян. Падваявода вёў справы ў ваяводскай канцылярыі. Гараднічы адказваў за стан умацаванняў ваяводскага замка. Ключнік наглядаў за выкананнем павіннасцяў і зборам падаткаў. Адказнымі за стан лясоў і пушчаў былі ляснічы і лоўчы. Ваяводскімі стайнямі (канюшнямі) загадваў стайнік. У паветах, на якія дзяліліся ваяводствы, уладу трымаў у сваіх руках стараста. За выкананнем яго загадаў сачылі цівуны, сотнікі і прыставы.

Полацкая і Віцебская землі працягвалі карыстацца ў складзе Вялікага Княства значнай самастойнасцю. Пасады гараднічага, ключніка, лоўчага і стайніка мелі тут права займаць толькі мясцовыя ўраджэнцы. На ваяводскім судзе ў Полацку і Віцебску, адрозна ад іншых ваяводстваў, абавязкова прысутнічалі старэйшыя баяры і мяшчане. Самога ваяводу гаспадар Княства прызначаў палачанам і віцьблянам «з іх волі».

Дзяржаўныя асобы Вялікага Княства


Падкаморы


Стараста


Ваявода



Вялікі князь Жыгімонт Стары вёў палітыку роўнасці шляхты незалежна ад веравызнання


Пячаткі, якімі ў розныя гады карыстаўся Вітаўт Вялікі



Гаспадар Вялікага Княства Жыгімонт Аўгуст. Гравюра 1554 г.



Шляхоцкі герб «Крыўда» вядомы з XVI ст. Ім карысталіся старыя беларускія роды Даўускіх, Лапаў, Мамонікаў, Сухадольскіх, Хмараў, Чарнюцкіх

## «Залаты век»

У першай палове XVI ст. у нашай дзяржаве адбылося скасаванне Гарадзельскай пастановы 1413 г., якая забараняла праваслаўным засядаць у Радзе. Праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі атрымаў пасаду троцкага ваяводы і сядзеў на паседжаннях Рады на першай лаве. Пазней туды трапіў і праваслаўны троцкі кашталян Рыгор Ходкевіч.

Вялікі князь Жыгімонт Стары, што заняў трон у 1506 г., вёў палітыку роўнасці шляхты незалежна ад паходжання і рэлігійнай прыналежнасці. Ён меў славу апекуна навук і мецэната. Вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст – сын Жыгімонта Старога і Боны Сфорца з знакамітага італьянскага роду Медычы – працягваў бацькаву палітыку. Ягоны подпіс стаіць пад пастановай, у якой галоўным крытэрам ацэнкі кандыдата на дзяржаўную пасаду называюцца не вера і паходжанне, а заслугі перад Айчынай і здольнасці.

Вялікае Княства Літоўскае лало Еўропе прыклад дзяржавы, дзе мірна суіснавалі розныя народы і рэлігіі, што спрыяла высокаму ўздыму культуры. XVI – пачатак XVII ст. у гісторыі нашай краіны называюць яе «залатым векам».



Маці Божая Адзігітрыя Смаленская. Беларуская школа іканапісу. XVI ст.



Гэты срэбны з пазалотаю кубак XVI ст. знойдзены ў скарбе пад Берасцем

# ВЁСКА XIV–XV СТАГОДДЗЯЎ



Шляхоцкім гербам «Гіпанэнтаўр» карыстаўся старажытны княскі род Гальшанскіх, прадстаўнікі якіх займалі высокія дзяржаўныя пасады і мелі шмат земляў у Беларусі і Украіне

## Паны і баяры

Зямля ў Вялікім Княстве Літоўскім дзялілася на прыватную і дзяржаўную, галоўным уладальнікам якой быў князь. Дзяржаўныя землі пашыраліся ў выніку далучэння да краіны новых тэрыторый. Даходы ад іх ішлі ў скарб.

Прыватныя землі належалі землеўласнікам. Яны мелі права прадаваць, дарыць і мяняць сваю маёмасць. З развіццём феадальных дачыненняў колькасць прыватнаўласніцкіх земляў расла і ўтвараліся вялікія зямельныя ўладанні.

Шмат хто з землеўласнікаў меў княскія тытулы: Радзівілы, Сапегі, Гальшанскія, Слуцкія, Друцкія, Тышкевічы, Хадкевічы, Астрожскія, Алелькавічы. У другой палове XIV ст. гаспадароў буйных зямельных абшараў пачалі называць «панамі». Гэты назоў пашыраўся і на іншых землеўласнікаў, а найбагацейшыя з іх сталі звацца магнатамі.

Людзі, якія атрымлівалі зямлю за сваю вайсковую службу, называліся баярамі. Зямля належала ім часова, але баярын мог выслужыць або выкупіць свой надзел у вотчыну ці, іначай кажучы, у поўнае ўладанне.

Паводле ступені залежнасці ад гаспадара сяляне падзяляліся на «пахожых» і «непахожых». «Пахожых», якім дазвалялася пераходзіць ад аднаго пана да іншага, у XV ст. было пакуль больш, чым «непахожых», якія гэтага права не мелі.

## Сяляне



На паншчыне

Найбольшую частку насельніцтва дзяржавы складалі сяляне. Паступова яны трацілі правы на зямлю, дзе здавён працавалі. У 1447 г. вялікі князь Казімір выдаў прывілей, які забяспечваў феадалам валоданне зямлёй на правах поўнай уласнасці і дазваляў чыніць суд над залежным насельніцтвам. Сяляне траплялі ў залежнасць і ад дзяржавы і манастыроў, якія таксама былі буйнымі землеўласнікамі.

За карыстанне зямлёй сяляне мусілі выконваць на карысць гаспадара павіннасці. Паводле сваіх павіннасцяў сяляне падзяляліся на цяглых і дваровых. Першыя плацілі пану даніну (аброк): збожжа, мяса, мёд ды іншыя прадукты. У XV ст. з'явіўся і грашовы аброк – чынш. Дваровыя сяляне служылі пры панскім двары стайнікамі (конюхамі), агароднікамі, шаўцамі, сталярамі, паляўнічымі... Гэтыя павіннасці называліся паншчынай. Нярэдка цяглыя сяляне і плацілі аброк, і адбывалі паншчыну. Апрача таго, на залежных сялян кла́ліся дадатковыя павіннасці: будаўніцтва ўмацаванняў, рамонт мастоў, перавозка грузаў, пракладанне дарог.

Сяляне ў адзенні XV ст. Паводле малюнка Яна Матэйкі





Фрагмент сярэднявечнага складня з выявамі святых. Разьба на косці





Пчальнік. Догляд саду. Гравюры першай паловы XVI ст.

Параўнальна з іншымі еўрапейскімі краінамі шляхоцкі (дваранскі) стан складаў у Вялікім Княстве Літоўскім вельмі значную на колькасці групу насельніцтва. У XVII ст. шляхцічам быў прыкладна кожны дзесяты жыхар нашай краіны. З часам слова «баяры» замянілася словам «шляхціч». Пры канцы XV ст. шляхтаю называлі ўжо ўсіх вайскова-служылых людзей.



Сенакос. Гравюра першай паловы XVI ст.



Сяляне XV ст.



Гербам «Граблі» карысталіся шляхоцкія роды Вышынскіх, Ліпскіх, Шчукаў, Чарнаўскіх

## Станы

Акрамя сялян і шляхты тагачаснае грамадства складалася з мяшчан (гарадскога жыхарства) і духавенства. Як і шляхта, гэта былі асабіста вольныя людзі. Да іх ліку належалі таксама татары і габраі, якія жылі ў Вялікім Княстве. Найбольш прывілеяваным станам (саслоўем) на працягу многіх стагоддзяў была шляхта. Шляхоцкія роды мелі свае гербы.

Лоўы. Гравюра першай паловы XVI ст.





Скарбонкі для грошай XVI–XVII стст.



Герб «Друцак» буйных землеўласнікаў князёў Друцкіх

# БЕЛАРУСКІЯ ГАРАДЫ. МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА


Ключ з сярэдневечнай Горадні

Большасць гарадскіх паселішчаў былі не надта вялікія, іх насельніцтва складалася з 2–3 тысяч жыхароў. Але існавалі і значныя гарады, што мелі больш за 10 тысяч насельнікаў. Да іх ліку належалі Магілеў, Віцебск, Берасце, Менск, Пінск. Да пачатку Інфлянцкай (Лівонскай) вайны галоўная роля сярод гарадоў Беларусі належала Полацку, які і колькасцю насельніцтва, і багаццем пераўзыходзіў самую Вільню.

Да 1500 г. у Вялікім Княстве Літоўскім налічвалася 83 гарады. У XVI ст. адбываліся хуткі рост старых і ўзнікненне новых гарадскіх паселішчаў. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што ў гэты час у нашай дзяржаве было ўжо 530 гарадоў.

У гарадах жылі пераважна купцы і рамеснікі, а таксама шляхта з прыслугай. Гараджанаў называлі «месцічамі», «мяшчанамі», ад слова «места», што на тагачаснай беларускай мове азначала «горад». Мяшчане нярэдка цярпелі ад самаўпраўства вялікакняскіх наменікаў і змагаліся за стварэнне ўласнага кіравання. Такую магчымасць давала магдэбургскае права.

### Магдэбургскае права

Магдэбургскае права – гэта права горада на самакіраванне, якое ўпершыню ўзнікла ў XIII ст. у нямецкім горадзе Магдэбургу, а затым хутка пашырылася па Еўропе.

У Беларусі граматы на магдэбургскае права выдавалі вялікія князі. Першай такую грамату атрымала ў 1387 г. Вільня. Самакіраванне давала гораду права на ўласны герб.


Шавец. Гравюра пачатку XVI ст.


Пячатка места Полацкага. 1464 г.


Гарбар. Мініяцюра пачатку XVI ст.


Герб Мазыра з прывілею на пацвярджэнне магдэбургскага права. XVII ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

Атрыманне беларускімі гарадамі магдэбургскага права:

1387 г. – Вільня.
1390 г. – Берасце (Брэст).
1391 г. – Горадня (Гродна).
1441 г. – Слуцак.
1498 г. – Полацак.
1499 г. – Менск.



TYTULY
BOZOIV MILOSTIV KOROL
POLSKI WELIKIY KNIAZ LITO
SKI RVSKIY PRVSK ZMOYDSKI
MAZOWECKI INFLIAN
SKIY ESZWEDSKIY
KHOTSKI WANDALSKI DE
DYCZNY KOROL



Цар Саламон ставіць храм у Ерусаліме. Гэтая гравюра з Трэцяй кнігі Царстваў Францыска Скарыны (Прага, 1518 г.) дае ўяўленне пра тэхніку сярэдневечнага гарадскога будаўніцтва

Прывілей вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы на магдэбургскае права Віцебску. 1597 г.

Магдэбургскае права мела большасць беларускіх гарадоў і мястэчкаў. Яно вызваляла жыхароў ад феадальных павіннасцяў, ад суду і ўлады старастаў, ваяводаў ды іншых дзяржаўных асобаў.

Гарадскім жыццём кіраваў выбарны магістрат, што складаўся з дзвюх «палатаў» – рады і лавы. Рада была непасрэднай гарадской уладаю, займалася маёмаснымі і цывільнымі судовымі справамі. Лава разглядала крымінальныя злачынствы. У раду горад штогод абіраў радцаў, або райцаў, у лаву – лаўнікаў. На чале рады стаялі выбарныя бурмістры, у лаве старшыняваў прысланы вялікім князем войт. Ён звычайна прысягаў на крыжы, што будзе верна служыць гораду.



Герб Вільні – сталіцы нашай тагачаснай дзяржавы



Выява Віленскага герба Адбітак з пячаткі. XV–XVI стст.




План Вільні на гравюры Ф. Хогенбэрга. 1545 г.

Горадня. Гравюра М. Цюндта. 1568 г.

Для магістрата і іншых органаў самакіравання будаваліся адмысловыя будынкі – ратушы. Там знаходзіліся канцылярыя, гарадскія скарб і архіў, захоўваліся граматы з дадзенымі гораду прывілеямі. Магістрат збіраў падаткі, сачыў за правільнасцю мераў і вагаў на рынках, абараняў інтарэсы гарадскіх гандляроў і рамеснікаў.

Наводзячы парадак, гарадскія ўлады не цырымоніліся з парушальнікамі. Полацкі мешчанін Марцін Какорка аблаяў бурмістра. За гэта гарадскі кат публічна адлічыў яму сорак бізуноў, а рада на цэлы год забараніла займацца сваім рамяством.

Багатыя жыхары хацелі кіраваць паўнаўладна, бяднейшыя змагаліся за свае правы. Мяшчане патрабавалі, каб іх дэпутаты правяралі ўсю дзейнасць магістрата.



Менавіта такі герб места Віцебскага, знойдзены ў архіўных дакументах, упрыгожваў гарадскую ратушу.

Ратуша ў Віцебску, 1775 г.



Манетны двор. Тагачасная гравюра



Герб Ліды. Малюнак першай паловы XIX ст.

Гарадское паветра рабіла чалавека вольным. Сялян-уцекачоў, што сяліліся ў месце, магістрат браў пад абарону і не дазваляў вяртаць былому гаспадару незалежна ад таго, быў ён просты шляхціч ці ваявода.



Кафля з выявай герба Слуцка



Магілеў. З гравюры Васіля Вашчанкі 1702 г.



Герб Магілева, які выкарыстоўваўся да 1661 г.

З архіўных дакументаў вядома, што ў Полацку аднойчы адбыўся сход «магістрацкіх асоб усіх трох сэсій і паспалітых», які прапанаваў гарадскім уладам скласці палатковую ведамасць разам з «паспольствам» (простымі гараджанамі) і, збіраючы падаткі, «не адступаць як пана раднага, так і паспалітага, багатага і ўбогага, без аніякае карупцыі, не так, як перад тым».



Залаты ключ з Магілева. Другая палова XVIII ст.



• ЗАМАК У НАВАГРАДКУ Ў ПАЧАТКУ XVI СТ. •

Навагрудскі замак. Малюнак-рэканструкцыя Віктара Стаўчанкова

Дзеля абароны сваіх інтарэсаў ад канкурэнтаў рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхі – своеасаблівыя сярэднявечныя прафсаюзы.

Гербы беларускіх местаў



Гераньёны



Берасце



Барысаў



Гародная



Навагрудак

Гербы беларускіх местаў. Папяровыя адбіткі пячатак



Берасце



Горадня



Менск

Рада ад рамесніцкіх цэхаў на пасяджанні магістрату



Паліхромная сцянная кафля з Мірскага замка. Першая палова XVII ст.

## Цэхі

Асноўным заняткам мяшчан было рамяство. У беларускіх гарадах налічваліся дзесяткі рамесніцкіх спецыяльнасцяў. Напрыклад, у Магілёве іх існавала болей за 80: збройнікі, ліцейнікі, залатары, муляры, кафляры, разьбяры, каптаннікі, сярмяжнікі, капялюшнікі, панчошнікі, саф'яннікі, катляры, піўвары...

Рамеснік, які не ўваходзіў у сваё прафесійнае аб'яднанне – цэх, не мог прадаваць прадукцыі на гарадскім рынку. Існавалі і іншыя цэхавыя прывілеі. Полацкі цэх гарбароў і кушняроў меў зацверджанае магістратам права за тры мілі ад горада адбіраць ва ўсіх майстроў-аднаасобнікаў тавар, а іх саміх саджаць у турму.


Цэхі і брацтвы XIV–XV стст. Малюнак Яна Матэйкі


Герб аб'яднанага зэгармістэрскага, збройніцкага, кавальска-слясарнага цэха, 1770 г.


Чынквідэя. XV ст. Італійскія мячы нярэдка былі ўзорамі для майстроў-збройнікаў. Рэканструкцыя беларускай зброеўні «Коўня»


Знак старшыні гарадзенскага цэха ганчароў, цесляроў і муляроў. XVII ст.

Цэхі мелі складаную іерархію. На верхняй яе прыступцы стаялі старасты-цэхмістры, за імі – старэйшыя і малодшыя майстры, затым падмайстры-чаляднікі, яшчэ ніжэй – пахолкі і хлопцы (вучні). Каб падняцца па гэтай лесвіцы, найперш трэба было мець дакумент пра сваё законнае нараджэнне, потым – доўгія гады вучыцца і плаціць складкі (узносы). Нарэшце ахвочы перайсці з чаляднікаў у майстры здаваў экзамен – «рабіў штуку». Каваль, да прыкладу, павінен быў пад пільным наглядам найлепшых прафесіяналаў выкаваць падкову, цясак і сякеру, а слесар – зрабіць складаныя замкі для крамы і куфра. Экзамен можна было здаваць тры разы. Апрача таго, прэтэндэнт на ўступленне ў цэх мусіў быць чалавекам «жанатым і дабрачынным» і ні ў якім разе не «п'яніцам або гульцом у косці».


Замкі XVII ст. з Менска


Абразок «Маці Божая з дзіцем». Срэбра, чаканка, гравіроўка і залачэнне. Слуцкі майстар-залатар XVII ст.


Сярэднявечныя гарадскія музыкі. Тагачасны малюнак


Ратуша ў Чачэрску

Полацак. З гравюры XVI ст.



Герб места Полацка. Адбітак з пячаткі канца XVI – пачаткуXVII ст.



Выгоднае геаграфічнае становішча Вялікага Княства дазваляла яму весці актыўны гандаль з Польшчай, Прыбалтыкай, Чэхіяй, Нямеччынай, Вугоршчынай, Масковіяй ды іншымі краінамі.

## Гандаль

У цэхі аб'ядноўваліся таксама купцы, чыім галоўным заняткам быў гандаль.

Найважнейшымі экспартнымі таварамі традыцыйна былі воск і футра. З Беларусі ў Заходнюю Еўропу вывозіліся таксама лес, вугаль, скуры, сала, смала, дзёгаць, паташ, хмель, а з канца XV ст. – збожжа (галоўны прадукт экспарту), лён, пянька і жалеза. З-за мяжы да нас везлі на продаж пераважна сукно, ядвабныя (шаўковыя) тканіны, палатно, медзь, волава, цыну, соль, віно і прыправы. Існаваў таксама гандаль паміж горадам і вёскай, якой былі патрэбныя вырабы гарадскіх майстроў.



Герб «Крыжастрэл», да якога належаў шляхоцкі род Змечароўскіх



Срэбны кубак канца XVI–пачатку XVII ст. З скарбу, знойдзенага ў в. Страдзеч на Берасцейшчыне



У сярэднявечнай аптэцы. Дрэварыт XVI ст.



Цырульня, або, як тады казалі, пастрыгальная камора. Дрэварыт XVI ст.



Пячатка віленскага цэха хірургаў. 1522 г.

Таргі адбываліся ва ўсіх гарадах і мястэчках раз ці два на тыдзень. Рынак займаў вялікую плошчу. У Магілеве на ім стаяла чатыры сотні крамаў.

Галоўным гандлёвым шляхам дзяржавы, як і ў папярэднія стагоддзі, заставалася Дзвіна.



Герб мінскага сталярна-стэльмахоўскага цэха. 1787 г.



Кніжны гандаль. Гравюра XVI ст.





Дукат часоў вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. Аверс, рэверс. 1562 г.

Сваім вонкавым выглядам і арганізацыяй жыцця беларускія гарады нагадвалі гарады ўсёй тагачаснай Еўропы. На ўсход ад Беларусі, у Маскоўскай дзяржаве, а потым у Расейскай імперыі, дзе панавалі адсталыя феадальныя парадкі, магдэбургскага права ніколі не існавала.



Гандаль селядцамі на гарадскім рынку



Пячатка віленскага цэха краўцоў XVI–XVII стст.



Беларуская шляхцянка. Сучасная рэканструкцыя строя XVI ст.

# БЕЛАРУСКІ НАРОД

Перадумовы станаўлення беларускага народа і беларускай мовы склаліся ў выніку славянізацыі больш старажытнага балцкага насельніцтва, якое да прыходу славян засяляла сучасную тэрыторыю Беларусі. Балты пераймалі больш высокую славянскую культуру, але прынеслі ў яе шмат сваіх рысаў.

Тры пранароднасці – крывічы, дрыгавічы і радзімічы, у мове і звычаях якіх перапляліся славянскія і балцкія прыкметы, сталіся этнічнай асновай беларускага народа.



Шляхоцкі герб «Юнаша», якім карысталіся шмат якія беларускія роды, у тым ліку Арлоўскія, Бароўскія, Вольскія, Галлеўскія, Глінскія, Грахоўскія, Дабравольскія, Дуброўскія, Жукоўскія, Завадскія, Заліўскія, Залускія, Кавалеўскія, Каменскія, Лісоўскія, Паўлоўскія, Стэфаноўскія, Шушкевічы, Янкоўскія

Нашы продкі зваліся тады ліцвінамі, або русінамі (калі хацелі падкрэсліць прыналежнасць да праваслаўнага веравызнання).

Насельніцтва розных частак Вялікага Княства называла сябе па-рознаму. Жыхары ўсходніх беларускіх земляў – Падзвіння і Падняпроўя – былі вядомыя як «русь», «русіны», а пазней – «беларусцы», «беларусы». Жыхары Палесся мелі назоў «палешукі». Насельніцтва заходніх земляў называлася «ліцвінамі», прычым гэтае найменне захавалася да XIX ст.

Беларускі народ канчаткова скансалідаваўся ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе беларуская мова была дзяржаўнай.



Rod Welikich Kniazey
Litowskich, z Pokolenia ...

Старонка «Хронікі Быхаўца», найбольш поўнага агульнадзяржаўнага летапісу Вялікага Княства Літоўскага. Хроніка напісаная на старабеларускай мове ў першай палове XVI ст.



Erenissimus
atq victorio
sissimus Prin
ceps et do:
minus Dominus
SIGISMVNDVS
dei gratia Rex Polo
Magnus dux lituae
Russie Prussie Sama:
gitie Mazouieq etc
dominus & heres.

Фрагмент вялікакняскага прывілею аб правах габрайскага насельніцтва



Купцы Вялікага Княства Літоўскага. Нямецкі малюнак XVI ст.



Князевіч Казімір, сын вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Неўзабаве пасля смерці быў кананізаваны і цяпер ушаноўваецца каталіцкай царквой як патрон Вільні і апякун земляў былога Вялікага Княства Літоўскага. 1520 г.

«Нараджэнне Маці Божай». Майстар Пётр Яусяевіч з Гальшна. 1649 г.



Гульня ў шахматы. Гравюра XVI ст.



Партрэтная неналіваная сивая кафля сярэдзіны XVI ст. з выявай асобы ў рэнесансавым строі. Заслаўскі замак.
Печы, упрыгожаныя такімі высокамастацкімі выявамі, зробленымі паводле ўзору замежных гравюр, аздаблялі інтэр'еры пакояў заможных мяшчан і шляхты



Такія строі насілі беларускія гараджанкі ў XVI ст. Рэканструкцыя



Беларуская гзымсавая паліваная кафля з геральдычным сюжэтам. XVII ст.

Геральдычная выява на тэракотавай кафлі з Мірскага замка. Першая палова XVII ст.





Герб «Пагоня» з рукапіснага гербоўніка Э. Коміна. 1575 г.



Шляхціч і шляхцянка. Рэканструкцыя сярэднявечных строяў

Ліст вялікага князя Жыгімонта Старога ігумену Кобрынскага манастыра Святога Спаса



Суседзі – расейцы, украінцы, палякі – звалі «ліцвінамі» ўсіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. За мяжой сваёй краіны ліцвінамі адчувалі і называлі сябе і самі нашыя продкі, незалежна ад месца паходжання і веравызнання. У гэтым выяўляліся іх агульнадзяржаўныя патрыятызм і свядомасць. У дакументах Маскоўскай дзяржавы безліч разоў можна сустрэць паведамленні пра «ліцвіноў» не толькі з Горадні, Ваўкавыска ці Слоніма, але і з Полацка, Віцебска, Магілева, Амсціслава, Воршы.

Нашы продкі, незалежна ад месца паходжання і веравызнання, называлі сябе ліцвінамі. У гэтым выяўляліся іх агульнадзяржаўныя патрыятызм і свядомасць.

Шляхціч. Рэканструкцыя сярэднявечнага строя





Карчма ў Вялікім Княстве Літоўскім. З «Касмаграфіі» С. Мюнстэра. Дрэварыт XVI ст.



Сярэднявечныя лыжнікі-ліцвіны. Гравюра 1584 г.



Княгіня Сафія Слуцкая падтрымлівала праваслаўныя манастыры і храмы, займалася асветніцтвам і дабрачыннасцю. Уваходзіць у Сабор беларускіх святых. Скульптар Міхась Інькоў



Фарны касцёл Божага цела ў Нясвіжы, збудаваны пры канцы XVI ст. на фундацыю князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі



Закаханыя Жыгімонт Аўгуст і Барбара Радзівіл у двары Віленскага палаца Радзівілаў. Мастак Ян Матэйка. 1867 г.

Вялікая княгіня і каралева Барбара Радзівіл. Гравюра пачатку XIX ст.



Шляхоцкі герб «Трубы», якім карыстаўся славуты магнацкі род Радзівілаў





Прывілей вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы амсціслаўскаму ваяводу Гераніму Хадкевічу на валоданне Белавежскім лесам. 1595 г.



Кафля з выявай герба Радзівілаў з Мірскага замка. Канец XVI ст.

Найменні «Беларусь» і «беларусы» для азначэння ўсёй тэрыторыі і ўсяго жыхарства нашай краіны пашырыліся вельмі позна – у другой палове XIX ст.



Харугва Слонімскага павета. XVI–XVIII ст.



Да шляхоцкага герба «Магіла» належалі Станкевічы, Хадкевічы, Шпакоўскія ды іншыя беларускія роды



Партрэт магната Гераніма Хрызастома Хадкевіча (1597–1613 гг.). Невядомы мастак XVII ст.

Навукоўцы дагэтуль спрачаюцца пра паходжанне і сэнс назову «Белая Русь». Адны звязваюць яго з пераважна белым колерам у народным адзенні. Іншыя – з незалежнасцю ад мангола-татараў, бо слова «белая» азначала і стан свабоды, незалежнасці. Існуе думка, што назоў "Белая Русь" мог узнікнуць у выніку больш ранняга прыняцця гэтымі землямі хрысціянства. Апрача таго, у той час адпаведны колер мог азначаць пэўны напрамак свету: белы – усход, а чорны – захад.




Маскоўскія паслы ў Гародні Фрагмент гравюры XVI ст.

Карта Вялікага Княства Літоўскага, ініцыятарам стварэння якой быў Мікалай Крыштоп Радзівіл Сіротка. Гравёр Тамаш Макоўскі. Надрукаваная ў 1613 г. у Амстэрдаме, гэтая карта стала буйным дасягненнем айчыннай навукі



Верхняя царква ў Гародні. XIV – пачатак XV ст. Рэканструкцыя

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў XIV–XV СТАГОДДЗЯХ



Герб места Крэва. Адбітак з пячаткі XVIII ст.

## Царква і касцёл

Рэлігія ў Сярэднявеччы панавала над розумам і пачуццямі людзей, пранікала ва ўсе сферы жыцця і была надзвычай важнай часткаю культуры.

Пераважную большасць славянскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага ў гэты перыяд складалі праваслаўныя. Яны належалі да шасці епархій: Полацкай, Навагрудскай, Турава-Пінскай, Уладзіміра-Берасцейскай, Смаленскай і Чарнігаўскай.

Спробы пашырыць сярод беларусаў каталіцтва значнага поспеху не мелі.

Аднак пасля Крэўскай уніі 1385 г., якая давала каталікам вялікія перавагі, абставіны змяніліся. Было заснаванае Віленскае каталіцкае біскупства. Вялікі князь і кароль Ягайла даў віленскаму біскупу дазвол будаваць касцёлы. У сярэдзіне XVI ст. толькі на Віленшчыне іх налічвалася ўжо болей за 250. Пры канцы XIV ст. у Беларусі з'явіліся першыя манаскія ордэны.



Касцёл Святой Ганны. Фота Язэпа Чаховіча. 1870 г.



Сынкавіцкая царква-фартэца (канец XV – пачатак XVI ст.) – унікальны помнік беларускай готыкі

Пабудаваны ў 1330-х гадах Лідскі замак уваходзіў у агульную лінію абароны ад крыжакоў. Малюнак Напалеона Орды. XIX ст.



Асаблівай пашанаю ў праваслаўных карысталіся святыя Еўфрасіння Полацкая, Аўрам і Меркур Смаленскія, Кірыла Тураўскі, віленскія пакутнікі Антон, Іаан і Яўстах.



Замкавая вежа ў Вільні

## Архітэктура

На змену раманскаму стылю ў царкоўным дойлідстве прыходзіла готыка. Яскравым прыкладам новага кірунку стаў Траецкі касцёл у вёсцы Ішкалдзь пад Баранавічамі, які захаваўся да нашых дзён. Гэты храм, пабудаваны ў 1472 г. Мікалаем Няміровічам, мае стромкі двухсхільны дах, пяціграннную апсіду і вежу з вітымі ўсходамі. Усярэдзіне касцёл падзелены чатырма слупамі, што падтрымліваюць крыжовыя скляпенні.



Гатычны касцёл Святой Тройцы у Ішкалдзі. 1472 г.

Заходнееўрапейскія падарожнікі называлі тагачасную Беларусь «краінаю замкаў». У XIV ст. былі ўзведзеныя магутныя замкі ў Наваградку, Крэве, Лідзе, Віцебску, Медніках, Троках.

Частыя войны, якія вымушана была весці наша дзяржава, выклікалі вялікую патрэбу ў абарончых збудаваннях. Драўляныя сцены і ўмацаванні замяняліся на мураваныя.



Інтэр'ер Ішкалдскага Траецкага касцёла

У замкавым будаўніцтве па-ранейшаму пераважаў раманскі стыль.

Таўшчыня муроў Крэўскага замка дасягала 3 метраў, а вышыня – 13. У 1394 г. Лідскі замак паспяхова вытрымаў цяжкую аблогу ангельскіх і французскіх рыцараў.



Мірскі замак пачаў будавацца пры канцы XV ст.



Руіны замка у Наваградку – першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага.

Малюнкі Напалеона Орды



Герб Вялікага Княства «Пагоня» змяшчаўся на пячатках, манетах, фасадах гарадскіх брамаў і ратушаў

У XIV–XV стст. у Беларусі зараджалася свецкае партрэтнае мастацтва. З гістарычных крыніц вядома, што ў замкавай царкве ў Віцебску захоўваўся «партрэт княгіні Уляяны старажытнага пісьма, дзе яна паказаная з мужам сваім князем Альгердам».



«Маці Божая Замілаванне» з Маларыты. Канец XIV – пачатак XV ст.



Арханёл Міхаіл. 1470–1480 гг. Дрэва, разьба, залачэнне. Паходзіць з Траецкага касцёла мястэчка Шарашова Пружанскага раёна



Адна з нацыянальных святыняў Беларусі – абраз Вастрабрамскай Божай Маці

## Жывапіс і скульптура

Будаўніцтва праваслаўных і каталіцкіх храмаў спрыяла развіццю выяўленчага мастацтва. Фрэскавымі размалёўкамі былі аздобленыя не толькі шматлікія цэрквы і касцёлы, але і князеўскія палаты ў Полацку, Віцебску, Горадні. Створаныя беларускімі майстрамі фрэскі захаваліся і ў Польшчы – у капліцы Святой Тройцы Люблінскага замка.



Фрагмент беларуска-візантыйскай размалёўкі з Замкавай капліцы ў Любліне з выявай Уладзіслава Ягайлы, фундаваный самім каралём у 1418 г.



Фрагмент беларускай размалёўкі з капліцы Святога Крыжа у Кракаўскай катэдры. Каля 1470 г.



Маці Божая Адзігітрыя. Паходзіць са Случчыны. Беларуская школа. Канец XV – пачатак XVI ст.



Укрыжаванне. Канец XIV ст. Віцебшчына



Фрагмент арната – верхняга літургічнага адзення рымска-каталіцкага духавенства. Канец XV–пачатак XVI ст. Характар вышывання блізкі да тагачасных заходнееўрапейскіх узораў. Знойдзены ў францысканскім касцёле ў Пінску



Скульптурная выява святога Рыгора. 1470–1480 гг. Дрэва, разьба, залачэнне. Паходзіць з Поланка

Кожны храм быў багата ўпрыгожаны іконамі. Адзін з найбольш ранніх твораў беларускага іканапісу абраз «Маці Божая Замілаванне» з Маларыты паводле стылю належыць да візантыйскага мастацтва. Апрача іконаў каталіцкія храмы адрозна ад праваслаўных аздаблялі і скульптурамі святых. Скульптурныя выявы ствараліся з дрэва і размалёўваліся фарбамі.





Рукапісная кніга XVI ст.

Апрацоўка скур. У той час асноўным матэрыялам для кніг быў пергамен. Гравюра XVI ст.



Ілюстраваны Псалтыр 1397 г. з запісам уладальніка: «Езафовіч, падскарбі земскі Вялікага Княства Літоўскага»

Высокі ўздым беларускай культуры быў абумоўлены ростам і ўмацаваннем дзяржавы, а таксама дабратворным уздзеяннем новых плыняў візантыйскага і заходнееўрапейскага мастацтва.

## Рукапісныя кнігі

Высокага мастацтва дасягнулі перапісчыкі кніг. Тэксты ўпрыгожваліся маляванымі загалоўнымі літарамі (ініцыяламі) і каляровымі мініяцюрамі. Вокладкі аздаблялі эмалевымі выявамі і каштоўнымі камянямі.



Евангелле XIV ст. Паходзіць з манастыра Яна Прадцечы на Востраве ў Полацку

Для Лаўрышаўскага манастыра, што пад Навагрудкам, у XIV ст. было напісанае знакамітае Лаўрышаўскае Евангелле. Гэтая кніга мае вялікую колькасць ініцыялаў і 19 мініяцюр на евангельскія сюжэты.



«Гутаркі Святога Рыгора». XIV ст. Старонка з застаўкаю



Накладка з аправы кнігі Яна Ольбрахта з гербамі Вялікага Княства Літоўскага, Польскага Каралеўства, Ягайлавічаў і Габсбургаў. Канец XV ст.



Лаўрышаўскае Евангелле. Аправа з абкладам. Існуе думка, што ў вобразе святога паказаны вялікі князь Войшалк (у манастве Лаўрыш), які заснаваў у XIII ст. пад Навагрудкам адзін з найстаражытнейшых у Беларусі Лаўрышаўскі манастыр

У цэнтры абцягнутай аксамітам верхняй вокладкі на срэбнай пласціне змешчаная выява святога са шчытом і дзідаю. У гэтым вобразе, магчыма, увасоблены заснавальнік манастыра князь Войшалк, у манастве Лаўрыш.



Ліцера з Амсціслаўскага Евангелля XIV ст.



Архангел Міхаіл. Мініяцюра Лаўрышаўскага Евангелля. Гэты беларускі рукапісны помнік першай палове XIV ст. знаходзіцца ў бібліятэцы імя Чартарыйскіх у Кракаве



Лаўрышаўскае Евангелле. Мініяцюра з выявай евангеліста Матфея. На століку перад ім – прылады працы кніжніка

Выдатныя ўзоры беларускай рукапіснай кнігі – Смаленскі Псалтыр XIV ст., Лаўрышаўскае і Друцкае Евангеллі XIV ст., Жыровіцкае Евангелле XV ст.

У XV ст. развівалася агульнадзяржаўнае летапісанне. Да нас дайшоў беларускі летапіс 1446 г., які ахопліваў гісторыю ўсяго Вялікага Княства Літоўскага і апавядаў пра падзеі ад IX да сярэдзіны XV ст. У летапісе падрабязна апісвалася княжанне Вітаўта і сцвярджалася важная роля, якую наша краіна адыгрывала ў Еўропе.



Пад час бітвы войска арыентавалася на сцяг і кіравалася сігналамі вайсковых музыкаў. З гравюры XVI ст.

# ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА

У XVI ст. асноваю войска Вялікага Княства Літоўскага заставалася ўсеагульнае апалчэнне, якое называлася паспалітым рушаннем. Паводле законаў дзяржавы, вайсковаабавязанымі былі ўсе мужчыны, якія валодалі зямлёй. Акрамя таго, кожны шляхціч выстаўляў добра ўзброеных і навучаных ваяроў: аднаго ад 8 гэтак званых службаў (адна служба была роўная дзвюм сялянскім гаспадаркам). Хто меў больш зямлі, той выстаўляў і большую колькасць ваяроў. Калі дробны шляхціч не валодаў зямлёй і сялянамі, ён ішоў у войска толькі сам.

Пастанову пра пачатак ваенных дзеянняў і скліканне паспалітага рушання прымаў вальны Сойм.



Меч XVI ст. Сучасная рэканструкцыя менскай творчай майстэрні «Коўня»



Гэтак званы «нямецкі» панцыр, які быў пашыраны сярод рыцараў Вялікага Княства



Сярэднявечны беларускі ваяр з сякерай. Рэканструкцыя паводле старажытнай гравюры. Рыцарскі клуб «Камоміны» (Менск)



Агнястрэльная зброя, якая з'явілася на нашых землях у XIV ст., карэнным чынам змяніла характар войнаў



Ліцвіны на вайне. Малюнак-рэканструкцыя

Меч XVI ст. Сучасная рэканструкцыя менскай творчай майстэрні «Коўня»

Падрыхтоўку нашых продкаў да вайсковай службы апісвае ў паэме «Песня пра зубра» выдатны беларускі паэт XVI ст. Мікола Гусоўскі:

*...З мэтай падтрымкі*
*Баегатоўнасці будучых рэкрутаў з вёсак*
*Князь і загадваў ствараць у сваіх уладаннях*
*Лагер ваенны пры кожным населішчы*
*ў пушчах...*
*...Выган пры вёсцы, і там ад відна да сутоння*
*Носяцца коннікі з гіканнем цугам па кругу,*
*Шабляй і стрэламі цэляць у вешкі...*



Рыцарская кіраса – узор мастацкай апрацоўкі металу. Рэканструкцыя



Рыцарства XV ст. Малюнак Яна Матэйкі

Пасля абвяшчэння вайны вялікі князь рассылаў па паветах ганцоў з загадамі-універсаламі, дзе паведамлялася пра месца і час агульнага збору. Кожны павет выстаўляў сваю харугву. У вайну, калі шляхта з рушаннем пакідала маёнткі, за парадкам у павеце наглядала адмысловая службовая асоба – войскі.

На чале злучаных павятовых харугваў усяго ваяводства становіўся кашталян. Калі ўсё вялікакняскае войска было сабранае, яго прымаў пад сваю каманду гетман.



Адмысловае спалучэнне кляўца і лязіў баявы молат

На ўзбраенні нашы жаўнеры мелі агнявую зброю – ручніцы і аркебузы, а таксама ручную халодную – мячы, корды (аднлязовыя мячы), шпагі, шаблі, кінжалы. Ад варожых куль і ўдараў ваяра абаранялі панцыры і шаломы. Важнай часткаю баявога арсенала заставаліся лукі, арбалеты і лёгкія шчыты – тарчы.

Беларускае рыцарства здабыло сабе славу пад Грунвальдам і ў Гусіцкіх войнах, дзе нашы суайчыннікі змагаліся на баку чэхаў. У Венскім гістарычным музеі сёння захоўваюцца аздобленыя эмалямі і залатымі інкрустацыямі парадныя даспехі братоў Радзівілаў – Мікалая Рудога і Мікалая Чорнага.



Закрыты рыцарскі шалом з замком. XVI ст.



Беларускі пяхотнік XVI ст. Рэканструкцыя Уладзіміра Кісляга



Беларускія і польскія ваяры пачатку XV ст. Малюнкі Яна Матэйкі





Шляхецкія гербы былі сімваламі рыцарства. Герб «Пагоня» найбольш яскрава падкрэсліваў, што галоўнай справаю шляхты была абарона Айчыны



Беларускія ваяры. Фрагмент гравюры «Бітва пад Воршай», XVI ст.



«Італійскі» панцыр быў добра вядомы ў Беларусі



Абаронца Вялікага Княства. Сучасная рэканструкцыя, зробленая рыцарскім клубам «Калюмны»



Заклік на бітву. Фрагмент гравюры «Бітва пад Воршай»



Гэтая баявая сякера XVI ст. была традыцыйнай зброяй таго часу



Арбалет з рознымі тыпамі стрэлаў

Шалом (капалін) і алебарда пешага ваяра XV ст.

Баявыя шыхты. Гравюра з «Хронікі ўсяго свету» Марціна Бельскага. 1564 г.



Меч XVI ст. з перавітаю гардай. Сучасная рэканструкцыя менскай творчай майстэрні «Коўш»



Апрача кавалерыі і пяхоты, войска нашай дзяржавы славілася сваёй артылерыяй. У сярэдзіне XVI ст. у Вільні дзейнічала вядомая ў Еўропе людвісарня (гарматня), дзе за дзень маглі вырабіць 18 гарматаў, якія стралялі чыгуннымі ядрамі. Яшчэ адна славутая гарматня знаходзілася ў Нясвіжы. Шмат якія з гарматаў мелі непаўторны выгляд і нават свае назовы. Адзін з вырабаў нясвіжскіх гарматнікаў атрымаў імя «Гідра». Гэта была гармата ў форме антычнай калоны з выяваю пяцігаловай пачвары – гідры. Гармата «Сава» мела форму васьмікантовага слупа з пагрозлівым надпісам: «Сава вяшчуе смерць».



Партрэт невядомага ў рыцарскіх латах. Сярэдзіна XVII ст. З Нясвіжскай калекцыі Радзівілаў



Гусар XVI ст.

Сучасная рэканструкцыя ваярскага рыштунку. Полацкі рыцарскі клуб «Жалезны воўк»



У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў іншых еўрапейскіх дзяржавах, існавала рыцарства. Правы і абавязкі рыцараў рэгламентаваліся законам. Рыцар меў права выехаць у іншую краіну (акрамя непрыяцельскай) «для прымнажэння сваёй славы». Закутых у панцыры ваяроў з берагоў Дзвіны, Дняпра і Нёмана можна было бачыць пры дварах манархаў розных краін Еўропы.

Двухручны меч

# АБАРОНА АЙЧЫНЫ

Стылет «лявак» – кінжал з вельмі тонкім і вострым клінком для левай рукі

## Войны з Масковіяй

Пасля разгрому Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам новая небяспека для нашай дзяржавы паўстала на ўсходзе, дзе ўзмацнілася Маскоўскае княства. Узяўшы шлюб з дачкой апошняга візантыйскага імператара, маскоўскі князь Іван III абвясціў сябе абаронцам усіх праваслаўных хрысціян Усходняй Еўропы і запатрабаваў ад вялікага князя літоўскага Казіміра «Полацка, Віцебска, Смаленска ды ўсіх іншых земляў рускіх».



Ад княжання гаспадара Аляксандра пачаўся трохсотгадовы перыяд маскоўскай агрэсіі супроць Вялікага Княства Літоўскага

У 1492 г. пачалася першая вайна Масковіі з Вялікім Княствам. Маскоўскія ваяводы здолелі захапіць значныя тэрыторыі нашай дзяржавы.



Ліцвінскія войскі адбіваюць набег крымскіх татараў. Гравюра 1597 г.



Ручная зброя блізкага бою – палаш



Маскоўскі князь Васіль III меў на мэце захоп Віцебска, Полацка ды іншых беларускіх земляў. Гравюра XVI ст.



Маскоўскі ратнік. XVI ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

Каля 1460–1530 гг. – Жыццё і дзейнасць Канстанціна Астрожскага.
1492 г. – Першая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
1500 г. – Бітва на Ведрошы.
6 жніўня 1506 г. – Разгром татараў пад Клецкам.
8 верасня 1514 г. – Аршанская перамога.

Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары. Мастак Марчэлі Бачарэлі. Канец XVIII – пачатак XIX ст.





M. D. LXXXII.

Тытульны аркуш «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» Мацея Стрыйкоўскага. У гэтым творы, які стаў першай друкаванай гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, вялікая ўвага аддавалася ваенным падзеям. 1582 г.



Герб «Пагоня» на руллі тагачаснай гарматы

Вялікі князь Аляксандр не хацеў ісці на ваенны канфлікт з агрэсіўным суседам і паспрабаваў замірыцца з Масковіяй, ажаніўшыся з дачкой Івана III князёўнай Аленай. Але гэты дынастычны шлюб не прынёс міру і спакою.

14 ліпеня 1500 г. каля рэчкі Вядроша на Смаленшчыне найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі, пад рукой якога было ўсяго чатыры з палова тысячы ваяроў, уступіў у бітву з 40-тысячным маскоўскім войскам. Баронячы межы Вялікага Княства, нашы харугвы біліся з неверагоднай мужнасцю, але сілы былі занадта няроўныя. Загінулі амаль усе, каго прывёў Астрожскі, а сам гетман трапіў у палон. У выніку той вайны наша дзяржава часова страціла 19 гарадоў, сярод якіх Гомель, Чарнігаў, Бранск і Старадуб.

У 1512 г. Масква распачала новую вайну. Авалодаўшы Смаленскам, маскоўскае войска рушыла ўглыб Княства на Друцак і Воршу. Насустрач 80-тысячнай ардзе зноўку ішоў са сваімі харугвамі гетман Канстанцін Астрожскі, які да таго часу здолеў уцячы з палону. Вырашальная бітва адбылася 8 верасня 1514 г. на рацэ Крапіўне пад Воршай.

Узброеныя маскавіты. XVI ст.





Найвыдатнейшы гетман Канстанцін Астрожскі. Невядомы мастак першай паловы XVII ст.

## Аршанская бітва

Наперадзе Астрожскі паставіў самых трапных стралкоў з ручніцамі. На флангах стаяла конніца. Перад бітвай гетман звярнуўся да сваіх ваяроў з кароткай гарачай прамовай: «Мужныя рыцары! Няхай адвага і храбрасць вашы будуць вартыя слаўных бацькоў!..»

Няўдалы для маскавітаў пачатак бітвы не збянтэжыў іх ваяводаў Чаляднiна і Булгакава-Голіцу: у іх была амаль трохразовая перавага – 80 тысяч супроць 30. Але самаўпэўненасць саслужыла ім дрэнную службу. Яны кепска ўзаемадзейнічалі і нават не лічылі патрэбным дапамагаць адзін аднаму. Спроба абысці нашае войска і напасці з тылу не ўдалася, і пасля поўдня непрыяцель кінуў у бой галоўныя сілы. Сеча дасягнула найвышэйшага напалу. Гетман быў сярод сваіх жаўнераў, і ягоная ўзнятая над галавою булава дадавала мужнасці слабейшым.



Алебарда мела даўжыню да 2,5 метра і была грознай зброяй, якая калола і секла



Рыцарскі панцыр часоў Аршанскай бітвы

Аршанская бітва стала адной з найбуйнейшых у Еўропе XVI ст. Бліскучая перамога нашай зброі аддала ініцыятыву вайны ў рукі Вялікага Княства. Усе захопленыя Масквой гарады, апрача Смаленска, былі вызваленыя. Пачаў разваль-вацца скіраваны супроць нашай краіны таемны альянс Маскоўі і еўрапейскіх дзяржаў.

Бітва пад Воршай. Алейны жывапіс на дошцы. Невядомы мастак пачатку XVI ст.



Герб «Астрог», якім карыстаўся княскі род Астрожскіх

І раптам здарылася нечаканае: конніца Астрожскага спыніла націск, а потым і наагул пакацілася назад. Расцягнутыя баявыя парадкі маскавітаў з пераможнымі крыкамі перайшлі ў наступ. Некалькі хвілін вершнікі і сапраўды ўцякалі, а тады знячэўку крута павярнулі ўбок. Расейская дваранская конніца апынулася перад пакінутымі ў засадзе гарматамі. Смяротны град артылерыі спыніў атаку. Конніца Астрожскага рассекла сціжму заваёўнікаў на часткі і рассеяла іх на шырокім прырэчным полі. Ворагаў гналі і секлі яшчэ пяць вёрстаў.


Меч для атакі «джалам» клінка


Баявы шалом з забралам


Маскоўскія баяры. Гравюра з кнігі Сігізмунда Герберштайна «Нататкі пра маскоўскія справы»


Пачатак бітвы пад Воршай. Гравюра 1597 г.


Магчымая ўдзельніца бітвы пад Воршай – гармата XVI ст.

Летапісы і хронікі паведамляюць, што маскоўская раць страціла забітымі блізу 40 тысяч. Чаляднін, Булгакаў-Голіца і яшчэ восем ваяводаў разам з 5 тысячамі сваіх падначаленых былі ўзятыя ў палон.

Ваявода Юры Радзівіл, празваны за шматлікія перамогі «Літоўскім Геркулесам», у Аршанскай бітве камандаваў кавалерыяй Вялікага Княства.
Невядомы мастак другой паловы XVI ст.
Партрэт з Нясвіжскай калекцыі Радзівілаў





Татарскі палон.
Тагачасны малюнак

Панарама Клецка.
Гравюра Тамаша Макоўскага.
Пачатак XVII ст.






Бітва з татарамі.
Дрэварыт. 1521 г.



Шляхоцкі герб «Глінскія»

## Перамогі над татарамі

З сярэдзіны XV ст. на Беларусь усё часцей нападалі орды крымскіх татараў. Яны палілі і рабавалі гарады і вёскі, гналі ў няволю тысячы палонных. Свой крывава-дымны след захопнікі пакідалі на беларускіх і ўкраінскіх землях амаль штогод. Аднак вельмі часта татарскія загоны (аддзелы) спасцігала жорсткая і справядлівая кара. Нашыя войскі разбілі татараў у 1502 г. на рацэ Ушы і ў 1503 г. пад Давыд-Гарадком.

Найбольш значная перамога была здабытая ў 1506 г. пад Клецкам. Улетку 30 тысяч татараў напалі на Беларусь. Супроць іх выйшла навагрудскае, менскае і гарадзенскае рушанне на чале з князем Міхайлам Глінскім. 6 жніўня яго жаўнеры нечакана атакавалі ворагаў і ўшчэнт разбілі іх, вызваліўшы 40 тысяч палонных.

Новую цяжкую паразу нанёс татарам каля Альшаніцы пад Кіевам гетман Канстанцін Астрожскі. На надмагіллі гэтага выдатнага военачальніка ў Кіева-Пячорскай лаўры быў зроблены надпіс пра атрыманыя ім 63 перамогі «над масквою і татарамі».



Выява татарына з сярэднявечнай гравюры



# ФРАНЦІШАК СКАРЫНА



Сыгнет (выдавецкі знак) Скарыны сімвалізаваў перамогу святла над цемраю, ведаў над невуцтвам, жыцця над смерцю

Будучы волат беларускага і ўсяго еўрапейскага Адраджэння нарадзіўся і атрымаў першапачатковую адукацыю ў старажытным Полацку. Адтуль ён выправіўся па навуку ў Кракаўскі універсітэт, дзе вучыўся на філасофскім факультэце, закончыўшы яго ў 1506 г. са ступенню бакалаўра. Пазней Скарына стаў доктарам «вольных навук», а ў 1512 г. бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў адным з самых перадавых еўрапейскіх універсітэтаў – Падуанскім. Сёння выяву нашага выдатнага суайчынніка можна ўбачыць там у мемарыяльнай зале сярод партрэтаў 40 знакамітых дзеячоў еўрапейскай навукі, што выйшлі са сценаў Падуанскай альма-матэр.

Знакі ўлады рэктараў Кракаўскага Ягелонскага універсітэта





Партрэт Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў». 1517 г.



Падуя на гравюры XVI ст.

Двор Падуанскага універсітэта, у якім Скарына атрымаў навуковую ступень доктара медыцыны



Навучанне ва універсітэце



## ХРАНАЛОГІЯ

Блізу 1490– блізу 1551 гг. – Жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны.

6 жніўня 1517 г. – Скарына выдаў у Празе першую друкаваную беларускую кнігу.

1522 г. – Заснаванне Ф. Скарынам Віленскай друкарні.


БИВЛИЯ РУСКА
выложена доктором
францискомъ скориною
изславного града по
лоцька, богу къ чти и
людемъ посполитымъ
к доброму наученью

Скарынава «Біблія»



Старонка другога выдання «Апостала». Вільня. 1525 г.

Скарына мог спакойна і заможна жыць пры двары якога-небудзь мецэната – князя ці магната. Але ён як сапраўдны гуманіст і сын эпохі Рэнесансу абраў іншы шлях. Ён рыхтаваўся да кнігавыдавецкай дзейнасці, каб даць свайму народу на зразумелай яму мове Кнігу кніг – Біблію.

Першая з яго кніг пабачыла свет у Празе 6 жніўня 1517 г. Гэта быў «Псалтыр», у прадмове да якога Скарына пісаў: «Я, Францішак Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, павялеў Псалтыру ціснуці... наперад ка чці і к пахвале Богу ў тройцы адзінаму і прачыстай яго мацеры Марыі... а потым к пажытку паспалітага, добрага, найболей з тае прычыны, іжэ мя міласцівы Бог з таго языка на свет пусціў».

Францішак Скарына пакінуў нашчадкам 23 перакладзеныя на беларускую мову біблійныя кнігі і гэтым увёў Беларусь у сям'ю перадавых еўрапейскіх народаў.



Ф. Скарына. Чацвертая кніга «Царстваў». Прага. 1518 г.

Тытульны аркуш кнігі «Акафіст труне гасподняй» з «Малой падарожнай кніжкі». 1522 г.





Першасвятар Арон. Гравюра з кнігі «Выхад»



Майсей слухае Божыя Запаветы. Тытульны аркуш кнігі «Лявіт»



Самсон перамагае льва. Тытульны аркуш кнігі «Суддзі»

Апрача сваіх пражскіх выданняў, у 1522 і 1525 гг. ён выдаў у Вільні яшчэ «Малую падарожную кніжку» і «Апостала». Заснаваная Скарынам Віленская друкарня была першай ва Усходняй Еўропе.

Ён увайшоў у гісторыю як беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Як пісьменнік – празаік і паэт – што служыў не эліце або нейкаму аднаму стану, а ўсяму народу. Як выдатны перакладнік з некалькіх старажытных і новых моваў. Як рэдактар і выдавец, што дасягнуў найвялікшай гармоніі слова і друкарскага мастацтва. Як патрыёт, пяру якога належыць самы прачулы за ўсю беларускую гісторыю, геніяльна просты хваласпеў любові да Бацькаўшчыны: «Панежэ ад прыраджэння звяры, ходзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, птіцы, лятаючыя па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плываючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобная бароняць вулляў сваіх,– така ж і людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць».

Скарынавая Біблія выйшла ў свет раней за нямецкую Лютэраву. Кніга кніг выдатнага палачаніна стала першай друкаванаю Бібліяй ва ўсходне- і паўднёваславянскіх народаў. Яна з'явілася амаль на паўстагоддзя раней за польскую Біблію.



Тытульны аркуш кнігі «Выхад». 1519 г.



Выданні Ф. Скарыны пражскага і віленскага друку



Руф падбірае следам за жніцамі каласы. Гравюра з кнігі «Руф»



Паперня. Гравюра XVII ст.

Скарынаў «Псалтыр» убачыў свет на 47 гадоў раней за кнігу «Апостал» Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, з якой пачалося расейскае кнігадрукаванне.

Сын народа, што жыве на еўрапейскім памежжы, Скарына геніяльна зітаваў у сваёй творчасці традыцыі візантыйскага Усходу і лацінскага Захаду. Ён аздобіў свае кнігі высокамастацкімі гравюрамі, па якіх можна вывучаць тагачаснае беларускае жыццё – побыт, адзенне, тэхніку будоўлі. Смела адступаючы ад канонаў, ён змясціў у Бібліі ўласны партрэт. Нават самога Бога чытачы ўбачылі без узаконенага німбу. За парушэнне царкоўных правілаў выдання Бібліі Скарыну маглі б не меней за трынаццаць разоў спаліць на вогнішчы як ерэтыка.



Помнік Францыску Скарыну ў Вільні



Тройца. Старонка з кнігі «Быццё»

Галоўным жа «злачынствам» быў сам яе пераклад дзеля таго, каб натхнёную Богам, але чалавечую кнігу мудрасці мелі магчымасць чытаць усе.



Срэбраны паўгрош Вялікага Княства Літоўскага. Аверс і рэверс. 1511 г.



Друкарскі варштат XVI ст. Рэканструкцыя



Пазалочаны стол з залатым вянком. Аркуш з кнігі «Выхад». 1519 г.



Застаўка, змяшчаная Скарынам у розных пражскіх выданнях

Скарынава жыццё было напоўненае падарожжамі па Еўропе, узлётамі да вышыняў славы і горкімі расчараваннямі. У ім адбілася ўся тая вірлівая, авантурная і ўзнёслая эпоха. Ён сустракаўся з Лютэрам і дыскутаваў у Вільні з сусветна вядомым медыкам і алхімікам Парацэльсам. Быў сакратаром і прыдворным лекарам у віленскага біскупа Яна. Запрашаўся на службу да апошняга магістра Тэўтонскага ордэна Альбрэхта Брандэнбургскага, які надаў яму шляхоцтва. Браў удзел у складанні Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1529 г.

За братавы даўгі крэдытори пасадзілі Скарыну ў турму, адкуль яго вызваліў сам вялікі князь Жыгімонт Стары. На знак прызнання заслуг вучонага палачаніна перад Айчынаю манарх даў яму адмысловы прывілей, дзе гаварылася: «Няхай ніхто не адважыцца затрымліваць або арыштоўваць яго самога ці ягоную маёмасць пад страхам цяжкога пакарання...



Херувімы ў храме. Гравюра з трэцяй кнігі «Царствы»



Францішак Скарына. Скульптар Аляксей Глебаў. 1954 г.



Вільня. Гравюра першай паловы XVI ст.



Храмавы рукамыйнік на колах, упрыгожаны выявамі валоў, ільвоў і херувімаў. Аркуш 139б трэцяй кнігі «Царствы». 1518 г.



Тытульны аркуш кнігі «Песня песняў»

Прага. Старажытная гравюра



Забараняю ўмешвацца ў ягоныя справы, учыняць яму хоць які гвалт, змушаць да выканання нейкіх павіннасцяў ці гарадскіх службаў нароўні з іншымі жыхарамі таго места, якое ён сам абярэ для жыцця».





Тытульны аркуш «Псалтыра» 1517 г. Цар Давід звяртаецца з псальмам да Саваофа

Такім местам неўзабаве пасля вяртання на волю для Францішка Скарыны стала Прага, дзе ён і скончыў свой зямны шлях, навечна застаўшыся ва ўдзячнай памяці беларусаў.



Імкнучыся пашырыць святло навукі сярод усходніх суседзяў, Францішак Скарына прывёз вялікую партыю сваіх выданняў у Маскву, прапанаваўшы свецкім і духоўным уладарам наладзіць кнігадрукаванне. І замест удзячнасці ўбачыў, як на загад маскоўскага князя з ягоных кніг склалі вялізнае вогнішча.

Францішак Скарына з Полацка. Фрэска ў «Зале сарака» Падуанскага ўніверсітэта, дзе знаходзяцца выявы найбольш славутых дзеячаў навукі, якіх дала Еўропе гэтая альма-матэр



Грамата чэшскага караля Фердынанда, выдадзеная ў 1552 г. сыну Францішка Скарыны з паведамленнем пра бацькаву смерць



Пацір.
Канец XV – пачатак XVI ст.
Срэбра, чаканка, гравіроўка, залачэнне, эмаль

# БЕЛАРУСКІ РЭНЕСАНС

XVI – пачатак XVII ст. увайшлі ў гісторыю беларускай культуры як эпоха яе найвышэйшага ўздыму. Гэты ўзлёт быў дасягнуты дзякуючы культурным здабыткам папярэдніх стагоддзяў, багатай народнай творчасці, а таксама дзякуючы дабратворным уплывам гуманістычных ідэй еўрапейскага Адраджэння.



Стэфан Батура засноўвае Віленскую акадэмію. Мастак Вінцэнт Смакоўскі. Сярэдзіна XIX ст.

У 1579 г. у Вільні адчынілася акадэмія – першая ў нашай дзяржаве найвышэйшая навучальная ўстанова. Апрача Вільні маладыя беларусы атрымлівалі адукацыю ва універсітэтах Польшчы, Чэхіі, Італіі, Нямеччыны, Францыі, Швейцарыі. Метрычныя кнігі Пражскай альма-матэр толькі за XV – першую палову XVI ст. захавалі імёны 33 студэнтаў з Вялікага Княства Літоўскага. У Кракаўскім універсітэце адначасова з Францішкам Скарынам авалодвалі навукамі Ян і Павел з Горадні, Станіслаў з Клецка, Вінцэсь са Слуцка, Мікола з Ашмянаў, Марка з Нямігі.



Герб Слоніма



Беларускі рукапісны каляндар XVI ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

Блізу 1470–пасля 1533 гг.– Жыццё і дзейнасць Міколы Гусоўскага.
1480–1520 гг. – Жыццё і дзейнасць Яна Віслінкага.
1516 г. – Выхад у свет паэмы Я. Віслінкага «Пруская вайна».
1523 г. – Выданне паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра».
1579 г. – Адкрыццё Віленскай акадэміі.
1619 г. – Надрукавана «Граматыка» Мялеція Смятрыцкага.



Мініяцюра з кнігі «Дзесяцігласу». Перапісчык Мацей Дзясяты з Полацка. XVI ст.



Знакаміты паэт і філосаф Мацей Казімір Сарбеўскі, творы якога ілюстраваў Пітэр Паўль Рубенс, заслужыў найменне «хрысціянскі Гарацый»




Кёльнскае выданне «Лірычных вершаў» Мацея Казіміра Сарбеўскага. 1625 г.

Найбольшую актыўнасць у пашырэнні асветы выяўляла Таварыства Езуса, як афіцыйна называўся Ордэн езуітаў. Беларусь была пакрытая цэлай сеткаю іх школ і калегіюмаў. Калегіюмы давалі адукацыю, узровень якой мала адрозніваўся ад універсітэцкай. Напрыклад, у Полацкім калегіюме выкладаў паэтыку і рыторыку знакаміты паэт-лацініст і філосаф Мацей Казімір Сарбеўскі (1595–1640 гг.). Яго першая кніга «Лірычныя творы» пры жыцці аўтара вытрымала ў розных гарадах Еўропы шэсць выданняў, адно з якіх ілюстраваў Пітэр Паўль Рубенс.

Тагачасная Беларусь мела разгалінаваную сістэму адукацыі, у якую ўваходзілі школы праваслаўных брацтваў, навучальні пры пратэстанцкіх зборах і каталіцкія навучальныя ўстановы.



Пакланенне вешчуноў. Абраз XVI–XVII стст.



Вялікі князь Казімір Ягайлавіч з жонкаю сярод манахаў-бернардзінцаў. Невядомы мастак XVII ст.



Паж. У тыя часы дзяцей з шляхоцкіх сем'яў часта ў зусім юным веку пасылалі служыць пры двары вялікага князя



Медаль з партрэтам вялікага князя Жыгімонта Старога. Медзь, пазалота. 1527 г.

Карта Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. Створаная Н. Сансонам д'Абэвілем і выдадзеная ў Амстэрдаме ў другой палове XVII ст. У сярэдзіне XVI ст. тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага складалася з Віленскага, Троцкага, Навагрудскага, Берасцейскага, Амсціслаўскага, Падляшскага, Полацкага, Віцебскага, Кіеўскага, Валынскага, Менскага, Браслаўскага ваяводстваў і Жамойцкай зямлі (княства)

Святая сям'я з Францыскам. XVI ст. Абраз з францысканскага сабора Спачыну Дзевы Марыі ў Пінску. Вялікую мастацкую каштоўнасць мае таксама рама гэтага абраза, створаная пры канцы XVI – у першай палове XVII ст.





Вялікакняскі замак у Вільні. Мастацкая рэканструкцыя XIX ст. паводле сярэднявечных малюнкаў

Фрагменты рыцарскага пояса канца XVI – пачатку XVII ст. Срэбра, чаканка, гравіроўка, залачэнне





Зубр. Гравюра XVI ст.




Тытульны аркуш «Песні пра зубра»

Еўрапейскіх вышыняў дасягнула беларуская паэзія, якая тады стваралася пераважна па лаціне, міжнародпай мове навукі, літаратуры і дыпламатыі. 1523 годам пазначаны выхад у Кракаве паэмы «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага. Яго геніяльны твор прагучаў для Еўропы як гімн Вялікаму Княству, яго прыродзе, гісторыі і народу. Другі беларускі паэт Ян Вісліцкі стварыў паэму «Пруская вайна», прысвечаную бліскучай перамозе нашых продкаў над крыжакамі ў Грунвальдскай бітве. Чыталі ў еўрапейскіх краінах і творы іншых беларускіх паэтаў – «Дэкатэрас» Андрэя Рымшы, «Радзівіліяду» Яна Радвана, «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» Гальяша Пельгрымоўскага.

Аўтар «Прускай вайны» Ян Вісліцкі. Мастак Яўген Кулік




Партрэтная кафля з Віленскага Ніжняга замка. XVI ст.



Выдатны беларускі паэт эпохі Рэнесансу, стваральнік славутай паэмы «Песня пра зубра» Мікола Гусоўскі. Мастак Уладзімір Басалыга




Рост адукаванасці грамадства меў непасрэдную сувязь з развіццём кнігадрукавання. Больш за 40 выданняў пабачыла свет у Берасцейскай друкарні, якая дзейнічала ў 1550–1570-х гадах пад апекаю Мікалая Радзівіла Чорнага. У Нясвіжы друкаваў кнігі выдатны паслядоўнік Скарыны Сымон Будны. Друкарні існавалі ў Заблудаве (каля Беластока), Цяпіне, Любчы, Куцейне (каля Воршы), Магілеве, Бялынічах, Лоску, Буйнічах ды іншых гарадах і мястэчках. У 1619 г. у Еўі сышла з друкарскага варштата «Граматыка» Мялета Сматрыцкага, якая два стагоддзі служыла ва ўсім усходнеславянскім свеце падручнікам царкоўнаславянскай мовы.


ГРАММАТІКИ

«Граматыка» М. Сматрыцкага два стагоддзі служыла падручнікам царкоўнаславянскай мовы



MICHALONIS LITVANI
DE MORIBVS TARTARORVM, LITVANORVM ET MOSCHORVM, FRAGMINA X.
multiplici Historia referta.
ET,
IOHAN. LASICII POLONI
DE DIIS SAMAGITARVM, CÆTERORVMQ. SARMATARVM, ET FALSORVM CHRISTIANORVM.
Item
DE RELIGIONE ARMENIORVM.
Nunc primum per
I. IAC. GRASSERVM, C.P.
BASILEÆ,
Apud CONRADVM WALDKIRCHIVM.
M DC XV.

Кніга беларускага гуманіста XVI ст. Міхалона Літвіна «Аб норавах татараў, літвіноў і маскавітаў». Базэль (Швейцарыя). 1615 г.



Лондан. На гэтай гравюры паказанае месца, дзе жыў лонданскі першадрукар, наш суайчыннік Ян Літвін, які заснаваў сваю друкарню ў 1480 г.

Вялікую ролю адыгрывала ў жыцці дзяржавы Віленская друкарня братоў Мамонічаў, дзе па-беларуску быў выдадзены Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.



Сучасны выгляд замка Радзівілаў у Нясвіжы.





Гравюры Тамаша Макоўскага да кнігі Мікалая Крыштопа Дарагастайскага «Гіпіка». Кракаў. 1603 г.



Старадрукі XVI ст.



Кнігадрукаванне ў Маскоўскай дзяржаве распачалі беларусы Іван Фёдараў (Федаровіч) і Пётр Мсціславец. Размаляваны ад рукі разгорт з кнігі «Чацвераевангелле» П. Мсціслаўца надрукаванай у Вільні. 1575 г.



Замак у Гальшанах. Рэканструкцыя З. Бубноўскага



Касцёл абарончага тыпу ў в. Камаі Пастаўскага раёна. Пабудаваны ў 1603–1606 гг. храм спалучае рысы архітэктуры готыкі і рэнесансу

Спалучэнне заходне-еўрапейскіх уплываў з мясцовымі архітэктурнымі традыцыямі дало Беларусі велічныя палацава-замкавыя комплексы ў Міры, Геранёнах, Смалянах, Нясвіжы.

Вялікае пашырэнне ў нашай дзяржаве атрымала публіцыстычная літаратура ў выглядзе трактатаў, прадмоў і пасляслоўяў. Адрозна ад паэтычных твораў яны пісаліся пераважна па-беларуску. Выдатнымі майстрамі гэтага жанру былі Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Валян, Леў Сапега, Мялет Сматрыцкі, Апанас Філіповіч, Іпат Пацей.

Пабудаваны на пачатку XVI ст. у стылі готыкі Мірскі замак далучаны ЮНЕСКА да найвышэйшай катэгорыі помнікаў сусветнай культуры



Касцёл ва Усялюбе Навагрудскага раёна, пабудаваны ў першай палове XV ст. на фундацыю Яна Нямíры – канюшага вялікага князя Вітаўта. Фота Таццяны Царук





Святы Дзмітры. Фрэска царквы Звеставання ў Супраслі. XVI ст.

Збудаваная ў 1503–1511 гг. Супраслеўская царква-фартэца мела рысы архітэктурных стыляў готыкі і рэнесансу





Помнік беларускага абарончага дойлідства. Царква-фартэца ў в. Мураванка Шчучынскага раёна. Пачатак XVI ст.



Шлюбны медаль князя Багуслава Радзівіла. Срэбра. 1665 г.

Шырокую папулярнасць у адукаваных колах грамадства мелі перакладзеныя на беларускую мову вядомыя ў Еўропе кнігі «Александрыя», «Аповесць пра Трою», «Аповесць пра Трышчана і Іжоту». Працягваліся традыцыі летапісання. Найбольш значнымі творамі гэтага жанру былі Баркалабаўская і Магілеўская хронікі, «Хроніка Быхаўца».

Нясвіжскі касцёл Божага цела, пабудаваны ў 1584–1593 гг. архітэктарам Джавані Марыя Бернардоні, – найбольш ранні помнік архітэктуры барока ў Беларусі

«Граматыка», выдадзеная ў Віленскай друкарні Мамонічаў у 1586 г.





Евангелле паводле Марка. Беларускі рукапіс XVI ст.



Маці Божая
Адзігітрыя.
Першая палова XVII ст.
Беларуская школа



Вялікая княгіня
літоўская і каралева
польская, жонка
Жыгімонта Старога
Бона Сфорца.
Майстэрня Лукаса
Кранаха малодшага

У выяўленчым мастацтве ўсё больш значнае месца займалі гравюра і партрэт. У магнацкіх палацах з'яўляюцца галерэі партрэтаў знакамітых продкаў. Найбагацейшы такі збор захоўваўся ў нясвіжскай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў.

Адметным для мастацтва часоў барока ў Беларусі быў парадны шляхоцкі партрэт, які атрымаў назву «сармацкага». Ён адлюстроўваў пераважна асобу шляхціца з ягоным гераізаваным светаўспрыманнем. Партрэт Крыштофа Весялоўскага. Першая палова XVII ст.






Знакамітая тагачасная кніга італійца Бальдасарэ Кастыльёні «Прыдворны» была добра вядомая асвечаным колам Вялікага Княства ў вольным перакладзе Лукаша Гурніцкага, які кіраваў віленскай бібліятэкай вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. 1566 г.



Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых цераз Ярдан. Дрэварыт з тытульнага аркуша кнігі «Ісус Навін», перакладзенай і выдадзенай Францыскам Скарынам. Прага. 1518 г.

На вялікі жаль, наша ўсходняя суседка – Расейская дзяржава засталася па-за межамі еўрапейскага Адраджэння.



Партрэт невядомай. XVI ст.

Створаныя ў гэтым часе лепшымі прадстаўнікамі беларускага народа шэдэўры мастацкай, літаратурнай, філасофскай думкі годна папоўнілі скарбніцу агульнаеўрапейскай эпохі Рэнесансу.



Партрэт Грызэльды Сапегі. 1630-я гг.



Кмет (свабодны селянін) і пан на дрэварыце XVI ст.

Партрэт Аляксандра Астрожскага. Сярэдзіна XVII ст. З Нясвіжскай калекцыі Радзівілаў





Трохграшовік (траяк). Аверс і рэверс. Вялікае Княства Літоўскае. Срэбра. 1563 г.

# ІНФЛЯНЦКАЯ ВАЙНА



Коннік-маскавіт. Гравюра з кнігі Сігізмунда Гэрбэрштайна «Нататкі пра маскоўскія справы». XVI ст.

Галоўным тэатрам баявых дзеянняў у Інфлянцкай вайне сталі беларускія землі. Царскія ваяводы неслі смерць, здзекі і разбурэнне. Пра паход на Віцебск маскоўскі летапісец занатаваў: «Астрог узялі ды папалілі, і пасады ў горада ўсе папалілі і людзей у астрозе многіх пабілі, і вёскі з сёламі каля Віцебска папалілі ды паваявалі».

Удзельнік Інфлянцкай вайны аўтар «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі», гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі (1547–1590 гг.)



Імкнучыся атрымаць выйсце да Балтыйскага мора, Маскоўская дзяржава ў 1558 г. напала на Інфлянты (Лівонію) – канфедэрацыю з пяці княстваў, заснаваных у Прыбалтыцы рыцарамі. Войскі цара Івана IV захапілі Нарву і Дорпат (Тарту). Шукаючы падтрымкі, лівонскі магістр прызнаў сябе васалам Вялікага Княства Літоўскага. Ліцвінскія палкі гетмана Радзівіла Рудога рушылі на дапамогу лівонцам. Вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст прапанаваў цару ўзаемна адвесці войскі, аднак у Маскве мелі іншыя планы. «Мы з'яднаем свае сілы, каб Польшча і Літва не выслізнулі ад нас», – пісаў Іван IV нямецкаму імператару.

На пачатку зімы 1563 г. асноўныя сілы маскавітаў на чале з самім царом узялі ў аблогу Полацак. Нешматлікі гарнізон ваяводы Станіслава Давойны меў выбар: скласці зброю ці бараніць горад да апошняга. Ліцвінскія ваяры выбралі другое. Яны трымаліся 16 дзён. Ваявода Давойна адвёў абаронцаў у замак і падпаліў астрог з пасадам. Гэта была памылка: пад прыкрыццём густога дыму царскія стральцы ўварваліся ў горад і перацягнулі гарматы зусім блізка да замкавых сценаў. Пасля сёмага варожага прыступу Давойна папрасіў літасці, і 15 лютага Полацак быў захоплены непрыяцелем.



Парсюк-пачвара, народжаны ў Вільні ў 1562 г. Тагачасны малюнак, які ўспрымаўся як алегорыя вайны



У 1574 г. на працягу некалькіх месяцаў вялікім князем літоўскім быў Генрых Валуа, якога беларусы называлі Генрык Валежыч, а палякі – Генрык Валезы



Конныя шляхцічы з світы вялікага князя

## ХРАНАЛОГІЯ

1558–1583 гг. – Інфлянцкая (Лівонская) вайна.

1563 г. – Войскі Івана IV захапілі Полацак.

1564 г. – Перамога над маскавітамі на рацэ Уле.

1576–1586 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Стэфана Батуры.

1579 г. – Вызваленне Полацка.

Маскоўскі цар
Іван IV Жахлівы.
Тагачасная гравюра





Іван IV як усходні дэспат.
Заходнееўрапейская карыкатура. 1581 г.

Парушыўшы ўсе свае абяцанні, цар Іван IV абвясціў палоннымі не толькі жаўнераў, але і ўсіх палачанаў. Удзельнік вайны італіец Аляксандр Гваніні, які быў віцебскім камендантам, у сваёй кнізе «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» пісаў, што цар вывеў з Полацка 50 тысяч нявольнікаў, многія з якіх загінулі на зімовых дарогах ад марозу і голаду. Расейскія стральцы і царскія татары вынішчылі ў горадзе ўсіх каталікоў. Юдэям – ад старых да немаўлятаў – выпала страшная доля загінуць пад лёдам Дзвіны і Валовага возера.




Голад 1571 г. у Вялікім Княстве Літоўскім – жахлівыя вынікі вайны з Масковіяй.
З аўгсбургскага «лятучага лісткa»

Sehr grewliche/erschröck-
liche/vor unerhörte/warhafftige Newe zeyt-




Маскавіты забіваюць мірных жыхароў. Нямецкая гравюра з «лятучага лісткa», які паведамляў пра падзеі Інфлянцкай вайны. 1561 г.



Ваенная экзекуцыя. Дрэварыт XVI ст.

Маскоўская «Разрадная кніга»
полацкага паходу Івана IV





Герб «Ладдзя», якім карысталася блізу 40 шляхоцкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, у тым ліку Ардыніцы, Асіпоўскія, Бабяцінскія, Бродскія, Бялевічы, Іваноўскія, Кабылінскія, Лабэцкія, Ражкоўскія



Партрэт Мікалая Радзівіла Рудога, гетмана Вялікага Княства Літоўскага




Тытульны аркуш «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні, у якой паведамлялася пра падзеі Інфлянцкай вайны




Старонка «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі», выдадзенай у 1581 г. у Кракаве

Страта Полацка выклікала вялікую трывогу ў Вільні. Мірная місія вялікакняскіх паслоў у Масковію не прынесла плёну. Іван IV не хацеў вяртаць Полаччыны, а Вялікае Княства не згаджалася ад яе адмовіцца. У студзені 1564 г. вайна разгарэлася з новай сілай. Гэтым разам маскоўскае войска нацэльвалася на Менск і Навагрудак. Але захопніцкі паход быў сарваны.

Каля вёскі Іванск на беразе ракі Вулы харугвы гетмана Мікалая Радзівіла раптоўным ударам разбілі ўдвая большую 24-тысячную армію ваяводы Пятра Шуйскага. 9 тысяч маскавітаў палегла ад куляў, шабляў і сякер і столькі ж патанула. Пасля гэтай бліскучай перамогі нашай зброі пачалася пазіцыйная вайна з лакальнымі сутычкамі.




Аўтар «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» італіец Аляксандр Гваніні ў часе Інфлянцкай вайны служыў у Вялікім Княстве Літоўскім, займаючы пасаду віцебскага каменданта



Пад час Інфлянцкай вайны ў войску Вялікага Княства з'явілася вугорская пяхота-гайдукі

Сокал



Сітна



Туроўля



Знакі манархічнай улады Сцяпана Батуры





Absag Brieff.

Königlicher Mayestat in Polln/etc. dem Moscowitischen ab...

M. D. LXXX.

Заходнееўрапейская ўлётка з выявай ліста Сцяпана Батуры да Івана IV




Вялікі князь і кароль Сцяпан Батура. Стары дрэварыт. Пад гравюрай – уласнаручны подпіс манарха

У той драматычнай для Вялікага Княства сітуацыі яно вымушанае было пайсці на дзяржаўную вунію з Польшчай.

Пералом у вайне з Масковіяй надышоў, калі вялікім князем літоўскім і каралём польскім стаў вугорац Сцяпан Батура (Іштван Баторы).

Каранаваўшыся, новы вялікі князь і кароль Сцяпан Батура, які быў не толькі выдатным палкаводцам, але і тонкім дыпламатам, прысягнуў, што заўсёды будзе асабіста ўзначальваць войска і верне заваяваныя маскоўскімі царамі землі.

Красны



Каз'ян



Суша



Замкі, пабудаваныя маскавітамі на захопленых беларускіх землях. Гравюры 1579 г.

Аблога Полацка войскамі Сцяпана Батуры ў 1579 г. Гравюра XVI ст.






Старажытным шляхоцкім гербам «Равіч», вядомым з пачатку XIV ст., карысталіся болей за 250 родаў Вялікага Княства і Польшчы, сярод якіх Нямцэвічы, Пруншскія, Ромеры, Саламярэцкія. Шмат хто з іх браў удзел у Інфлянцкай вайне

У 1579 г. Батура з 40-тысячнай арміяй рушыў на Полацак. Пасля трох тыдняў неверагодна цяжкай аблогі ў жніўні горад быў вызвалены. Услед за гэтым войскі вялікага князя і караля авалодалі ўсімі пабудаванымі ворагам фартэцамі, якія цар Іван лічыў непрыступнымі. За час вайны Полацак і ваколіцы так абязлюдзелі, што на адбудову гарадскіх умацаванняў бралі сялян з-пад Магілева.

Рыцарскі шалом тыпу «марыён»





Вызваленне Полацка вялікім князем і каралём Сцяпанам Батурам. Дрэварыт XVI ст.




Памятны медаль з выявай Сцяпана Батуры ў гонар вяртання Полацка і Лівоніі. Срэбра. 1582 г.



Сцяпан Батура пад Псковам. З карціны Яна Матэйкі. 1872 г.

Далейшыя наступальныя дзеянні Батуры былі спыненыя пад Псковам. Не здолеўшы ўзяць яго, кароль пайшоў на перамовы з Масквой. У 1582 г. бакі падпісалі мір, паводле якога мяжа Вялікага Княства і Масковіі практычна не мянялася.

Інфлянцкая вайна мела для Вялікага Княства надзвычай цяжкія вынікі. Па-першае, яна сталася прычынай вымушанай вуніі з Польскім Каралеўствам, што несла небяспеку страты суверэнітэту.

Па-другое, з гэтай вайны пачаўся доўгі перыяд ваеннага ліхалецця, калі вынішчаўся беларускі этнас, падрываліся палітычная і эканамічная стабільнасць дзяржавы.



Перамога над маскавітамі. Гравюра на медзі. XVII ст.



Вайсковыя музыкі. Малюнак XVI ст.

# ЛЮБЛІНСКАЯ ВУНІЯ



Герб Рэчы Паспалітай

Цяжкае становішча Вялікага Княства Літоўскага ў гады Інфлянцкай вайны штурхала нашу дзяржаву да шчыльнага альянсу з суседнім Польскім Каралеўствам. Інакай нельга было перамагчы ўсходніх інтэрвентаў і вызваліць акупаваную царскімі войскамі Полаччыну.

Умовы аб'яднання дзяржаваў пачалі афіцыйна абмяркоўвацца ў 1563 г. на Варшаўскім сойме, у паседжаннях якога ўдзельнічала дэлегацыя Вялікага Княства. Польскі бок, спасылаючыся на старыя акты часоў Ягайлы, патрабаваў поўнай інкарпарацыі Княства, г. зн. улучэння яго ў склад Польшчы. Нашы паслы, лічачы тыя дакументы фальшывымі, настойвалі на раўнапраўным альянсе.

Спрэчкі доўжыліся не адзін год, а тым часам ваенныя падзеі ўсё вастрэй патрабавалі падтрымкі з боку Польшчы. Шляхта, што найбольш цярпела ад захопнікаў, ужо згаджалася на польскія ўмовы. Яе прываблівалі таксама і шырокія вольнасці, якімі карыстаўся шляхоцкі стан Польскага Каралеўства.

Захаванне незалежнасці было прынцыповай пазіцыяй беларускіх магнатаў Радзівілаў, Валовічаў, Хадкевічаў ды іншых.

Спадзяванні на тое, што пасля Люблінскай вуніі наша дзяржава атрымае ад Польшчы дапамогу ў вайне з Масковіяй, не спраўдзіліся.



Сойм у Варшаве. Тагачасная гравюра

**ХРАНАЛОГІЯ**

1 ліпеня 1569 г. – Аб'яднанне Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў Рэч Паспалітую.



Вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст, пры якім адбылася Люблінская ўнія



Віленскі вяльможа Станіслаў Сабіна. Гравюра на медзі. 1590 г.

Для разгляду справы уніі ў студзені 1569 г. у Любліне сабраўся супольны Сойм Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны. Адразу выявілася прынцыповая розніца ў пазіцыях дэлегацый. Сенатары і паслы Княства свае нарады праводзілі асобна ад палякаў. У адказ тыя звярнуліся да караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, каб ён сваёй уладаю прымусіў ліцвіноў прыняць невыгодныя ўмовы.

Абураная дэлегацыя Княства пакінула Люблін. Скарыстаўшы момант, палякі дамагліся ад манарха ўказаў пра далучэнне да Кароны вялізных і багатых тэрыторый Вялікага Княства – Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўскага ваяводства.

У Вільні ўжо разглядалі магчымасць вайны з Польшчай, але змаганне на два фронты непазбежна прывяло б краіну да гібелі. Не заставалася нічога іншага, як зноў прыслаць дэлегацыю на Люблінскі сойм. Магнаты Вялікага Княства рабілі ўсё магчымае, каб захаваць самастойнасць сваёй дзяржавы. Урэшце ўдалося дасягнуць кампрамісу, і 1 ліпеня 1569 года акт дзяржаўнай уніі быў падпісаны.



Да шляхоцкага герба «Любіч» належала болей за 500 родаў Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны, у тым ліку Жулкеўскія, Лапацінскія, Незабытоўскія, Радзімінскія



Пячатка Жыгімонта Аўгуста



У 1569 г. мястэчка Радашкавічы атрымала герб і прывілей на самакіраванне паводле магдэбургскага права

У выніку Люблінскай вуніі Вялікае Княства Літоўскае не спыніла свайго існавання. Абедзве дзяржавы захавалі вельмі значную самастойнасць. Разам з тым на палітычнай карце з'явілася новая краіна – Рэч Паспалітая, якая была па сутнасці канфедэрацыяй суседніх дзяржаваў.



Люблінская вунія. З карціны Яна Матэйкі, 1896 г.

Згодна з Люблінскай вуніяй, Вялікае Княства Літоўскае і Польскае Каралеўства аб'ядноўваліся ў «адну агульную Рэч Паспалітую» з адным соймам і манархам (польскі кароль быў адначасова і вялікім князем літоўскім). На тэрыторыі ўсёй дзяржавы дэкларавaліся аднолькавыя правы шляхты. Палякі атрымлівалі права свабодна набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады ў нашай краіне. Прадугледжваліся адзіная замежная палітыка і адзіная манета.

Заканадаўства планавалася прывесці ў адпаведнасць з польскімі законамі.

Урачыстае абвяшчэнне аб'яднання Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага на аснове Люблінскай вуніі. Тагачасная гравюра



Урачыстае ўзвядзенне на трон караля і вялікага князя. Мініяцюра XVI ст.



Адзін з працаўнікоў Люблінскай уніі падляшскі гетман Раман Сангушка



Магнаты. Малюнак паводле драварыту XVI ст.

Але ў сапраўднасці адбылося інакш. Мала таго, што заканадаўства не было ўніфікаванае. Наадварот, новы збор законаў нашай дзяржавы – Статут 1588 г. – яшчэ больш падкрэсліваў і абараняў яго самастойнасць. Вялікае Княства і надалей праводзіла сваю фінансавую палітыку і грашовую эмісію. Яно захоўвала ў межах Рэчы Паспалітай свой назоў і тытул манарха, уласнае войска і сістэму ўлады.  Набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады мелі права толькі мясцовыя ўраджэнцы.

Рэч Паспалітая Абодвух Народаў (найменне «рэч паспалітая» цалкам адпавядае лацінскаму res publica) была тады адной з самых вялікіх і магутных краінаў у Еўропе. Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася ў яе складзе да канца XVIII ст.





Залаты дукат часоў Жыгімонта Аўгуста. Аверс і рэверс. 1571 г.

# СТАТУТЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Статут 1566 г.



Першы збор законаў Вялікага Княства Літоўскага быў зацверджаны князем Казімірам Ягайлавічам у 1468 г. Ён складаўся з 25 артыкулаў, якія адлюстроўвалі тагачасны стан беларускага права. Статут Казіміра абараняў прыватную ўласнасць, замацоўваў прыгонную залежнасць сялян, прадугледжваў абавязковае выкананне судовых пастаноў, уводзіў прынцып індывідуальнай адказнасці.

Неабходнасць умацавання дзяржаўнага суверэнітэту патрабавала далейшага пашырэння і дапрацоўкі законаў. Гэтая шматгадовая праца прывяла да стварэння Статутаў Вялікага Княства.

Найбольш поўным і дасканалым быў III Статут. Яго стваралі найлепшыя правазнаўцы Княства пад кіраўніцтвам выдатных дзяржаўных дзеячоў – канцлера Астафея Валовіча і падканцлера Льва Сапегі.



Вялікі князь Казімір Ягайлавіч, пры якім наша дзяржава атрымала першы збор законаў. Мастак Марчэлі Бачярэлі. Канец XVIII – пачатак XIX ст.




Пячатка кашталяна навагрудскага, старасты слонімскага Рыгора Валовіча. 1571 г.

Статут 1588 г. быў першым у Еўропе кодэксам, які так рашуча і паслядоўна абараняў прыроду, каштоўных звяроў і птушак.



Княская даравальная грамата на валоданне вёскамі ў наваколлі Хвойнікаў. Пергамен, атрамант, воск. 1568 г.



Канцлер Астафей Валовіч, які разам з падканцлерам Львом Сапегам кіраваў стварэннем Статута 1588 г.



Карона вялікага князя Казіміра Ягайлавіча

**ХРАНАЛОГІЯ**

1468 г. – Прыняты Статут Казіміра, першы збор законаў дзяржавы.
1529 г. – Зацверджаны I Статут Вялікага Княства Літоўскага.
1566 г. – Прыняты II Статут Вялікага Княства.
1588 г. – Зацверджаны III Статут Вялікага Княства Літоўскага.



Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Выданне Віленскай друкарні Мамонічаў



Канцлер Леў Сапега быў адным з стваральнікаў Статута 1588 г.



Прыватнаўласніцкі герб «Карчак», якім карысталіся блізу 80 родаў, быў вядомы ў Вялікім Княстве з часоў Гарадзельскай уніі 1413 г. У ліку іншых да гэтага гербу належалі Баратынскія, Браніцкія, Заранкі, Ілінічы, Катовічы, Мяленкі

Заканадаўчай асновай новага кодэксу былі ранейшыя Статуты 1529 і 1566 гг., вялікакняскія прывілеі, пастановы Соймаў і павятовых соймікаў. Тут адлюстравалася багатая праўная культура беларускага народа, якая бярэ свой пачатак з часоў Полацкага княства, а таксама дасягненні еўрапейскай юрыдычнай думкі.

Статут быў напісаны і выдадзены на беларускай мове. Яго тэкст разумела пераважная большасць насельніцтва дзяржавы, тым часам як у краінах Заходняй Еўропы карысталіся законамі, выкладзенымі на незразумелай простым людзям лаціне.

Статут абвяшчаў ідэю праўнай дзяржавы, іначай кажучы, такога парадку, калі ўсе органы і службовыя асобы павінны ў сваёй дзейнасці кіравацца толькі правам. У прысвячэнні Жыгімонту III і ўсім станам Вялікага Княства Леў Сапега пісаў: «Вольнасьці сваяе ва ўсім пасцерагаем, бо не толькі сусед і спольны наш абывата額 у атчызне, але і сам гаспадар пан наш жаднае зверхнасці над намі зажываці не можэць, адно толькі колькі яму права дапушчаець».



Старонка Статута Вялікага Княства 1588 г., паводле якога наша дзяржава жыла болей за два стагоддзі



Гандлёвае пагадненне паміж баярынам Янкам Багдановічам і вялікакняскім кухмістрам панам Пятром Аляхновічам аб продажы сенажаці, падпісанае ў 1498 г. у Горадні

Грунтоўна было распрацаванае ў Статуце крымінальнае права. Уводзілася прэзумпцыя невінаватасці, паводле якой чалавек не лічыцца злачынцам, пакуль ягоная віна не даведзеная судом.



Жыгімонт Ваза. Партрэт з III Статута Вялікага Княства Літоўскага

Вялікі князь быў абавязаны захоўваць недатыкальнасць межаў дзяржавы і вяртаць страчаныя раней землі. Чужаземцам (найперш гэта датычыла палякаў) забаранялася займаць у нашай краіне дзяржаўныя пасады, набываць зямлю і ганаровыя званні.

Вольныя людзі паводле закону ні за якое злачынства не маглі быць аддадзеныя ў вечную няволю. Кожны вольны чалавек меў права выехаць за мяжу, абы гэта не рабілася на шкоду Бацькаўшчыне.

Разам з тым Статут адлюстроўваў няроўнасць асабіста свабодных жыхароў краіны. Памер галоўшчыны (грашовае кары) за забойства войта, бурмістра або лаўніка складаў 50 коп грошай; за звычайнага месціча, што жыў у горадзе з магдэбургскім правам,– 30 коп, а за шляхціча – 100. Мяшчане не маглі браць удзелу ў агульнадзяржаўных Соймах і нават у павятовых сойміках.

Закон вызначаў адказнасць шляхціча за забойства простага чалавека, вызваляў ад смяротнага пакарання цяжарных кабет, прадугледжваў больш суровую кару за злачынствы супроць жанчын. У параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі сістэма пакаранняў была гуманнейшая:

Вяршыняй юрыдычнай думкі нашай дзяржавы стаў III Статут, зацверджаны вялікім князем Жыгімонтам Вазам у 1588 г. Гэта быў найбольш перадавы і дасканалы збор законаў у тагачаснай Еўропе.

Збор законаў Княства замацоўваў ягоны суверэнітэт, грамадскі і дзяржаўны лад, правы і абавязкі жыхарства, прынцыпы судовага ладу. Статут заканадаўча сцвярджаў ідэю рэлігійнай талерантнасці (цярпімасці) і бараніў правы ўсіх жыхароў незалежна ад веравызнання.



Прывілей аршанскім мяшчанам на вызваленне ад панскай залежнасці на замкавых землях. 1589 г.




III Статут Вялікага Княства, выдадзены ў друкарні Мамонічаў у перакладзе на польскую мову. 1614 г. Тытульны аркуш

Rozdział iedenasty. 339

O nieprzechowywániu wywołáńcow we wszystkich páństwách nászych.

[illegible]



Rozdział dwánasty.

O głowszczyznách y o náwiązkách ludzi prostych / y o tákich ludziách y czeládzi ktora od pánow swych odchodzi / tákże y o sługach przykázujących.

ARTYKUL I.

O zábiciu człowieká prostego stanu od szlachcicá.

[illegible]

Старонка польскамоўнага выдання III Статута

Статут зрабіў істотны ўплыў на юрыдычную думку Польшчы, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Расеі.

Статут замацоўваў беларускую мову як дзяржаўную: на ёй складаліся дакументы, ішлі лісты з канцылярыі вялікага князя, на ёй гаварылі і пісалі манархі і ўсе галоўныя асобы Княства.

вызваляліся ад крымінальнай адказнасці дзеці і падлеткі да 18 гадоў, псіхічна хворыя людзі, а часам і тыя, што ўчынілі злачынствы «па глупстве».

Прыродныя багацці краіны Статут бараніў значна лепей за некаторыя сучасныя законы. За разбурэнне сакалінага або лебядзінага гнязда ліхадзей плаціў ад трох да шасці коп грошай, за аддоў ці адстрэл бабра – ад дзвюх да чатырох. (Дзеля параўнання: рабочы вол ці жарабец каштавалі тады дзве капы.)



Адно з шматлікіх перавыданняў III Статута

Падкрэсліваючы значнасць дзяржаўнай беларускай мовы, у прадмове да Статута Леў Сапега з гонарам зазначаў: «А еслі каторому народу ўстыд праў сваіх не ўмеці, пагатоў нам, каторыя не обчым якім языком, але сваім уласным правы спісаныя маем і кождага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам».

Праз два стагоддзі пасля прыняцця Статута 1588 г. яго паранейшаму лічылі найвыдатнейшым еўрапейскім зборам юрыдычных актаў. «Статут робіць гонар чалавечаму розуму. Ён складзены так разумна, асабліва ў дачыненні да формаў пакарання, што яго можна лічыць найдасканалейшай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе»,– казаў у выступе на сойме Рэчы Паспалітай адзін з паслоў у 1791 г.

III Статут Вялікага Княства Літоўскага дзейнічаў нават пасля захопу Беларусі Расейскай імперыяй: у Віцебскай і Магілеўскай губернях – да 1831 г., а ў Менскай, Гарадзенскай і Віленскай – да 1840 г.



Медаль з выявай Вільні Срэбра, чаканка, залачэнне. 1626 г.





Суд камісарскі (злева) і суд земскі. Малюнкі 1594 г.

# ЛЕЎ САПЕГА



Герб Сапегаў «Ліс»

Ён паходзіў з старажытнага праваслаўнага беларускага роду, карані якога былі на Смаленшчыне. Будучы вялікі канцлер нашай дзяржавы нарадзіўся 4 красавіка 1557 г. у вёсцы Астроўна (цяпер у Бешанковіцкім раёне Віцебскай вобласці). Шасцігадовага хлопчыка бацькі завезлі ў Нясвіж, дзе ягоным апекуном стаў князь Мікалай Радзівіл Чорны.

Тым часам Нясвіж быў адным з культурных цэнтраў Княства. Высокім узроўнем адукацыі славілася адчыненая Радзівіламі школа. Якраз тады ў тамтэйшай друкарні філосаф і асветнік Сымон Будны выдаў свае беларускія кнігі. Мікалай Радзівіл Чорны вызнаваў кальвінізм, але пры ягоным двары панавала талеранцыя, што назаўсёды заклала ў душу і розум Сапегі непрыняцце рэлігійнага фанатызму.




Канцлер Леў Сапега. Алейны партрэт XVII ст.

Схільнасць да навук, выдатныя здольнасці і вольнае валоданне некалькімі мовамі спрыялі таму, што князь Радзівіл паслаў трынаццацігадовага Льва разам са сваімі сынамі вучыцца ў Ляйпцыгскі універсітэт.

Узорам дзяржаўнага дзеяча перыяду Вялікага Княства Літоўскага ёсць Леў Сапега – патрыёт сваёй Айчыны, мудры палітык, тонкі дыпламат і шчодры мецэнат.



Герб Льва Сапегі на старонцы III Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1557–1633 гг. – Жыццё і дзейнасць Льва Сапегі.

1581 г. – Стварэнне Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага.



Ружаны. Фамільная маёмасць князёў Сапегаў. Малюнак Напалеона Орды. XIX ст.



Сямейная рэліквія княскага роду Сапегаў – абраз Маці Божай

Там Сапега вывучаў гісторыю, філасофію і права. Са сцен альма-матэр ён выйшаў ужо добра і ўсебакова падрыхтаваным да палітычнай дзейнасці. Адукаванасцю і бліскучым веданнем лацінскае мовы Сапега ўразіў вялікага князя і караля Стэфана Батуру. З парады сваіх апекуноў Радзівілаў малады палітык застаўся пры двары, каб бараніць інтарэсы Вялікага Княства, якое пасля Люблінскай уніі 1569 г. вымушанае было пайсці на небяспечнае збліжэнне з Польшчай.

Захоўваючы пасаду вялікага канцлера на працягу трыццаці з лішкам гадоў, Леў Сапега вызначаў унутраную і замежную палітыку Княства.

У няпоўныя дваццаць тры гады ён ужо займаў пасаду сакратара Княства. Адданы патрыёт, Сапега вёў паспяховую палітыку, накіраваную супроць імкнення Кароны да поўнай гегемоніі над Вялікім Княствам. Умацаванню становішча Сапегі паспрыяў ягоны ўдзел у Інфлянцкай вайне. Сваім коштам ён стварыў і ўзброіў гусарскі полк, на чале якога здабыў вайсковую славу ў бітве пры Вялікіх Луках і ў аблозе Пскова.

Пасля вайны Леў Сапега ўзначаліў пасольства ў Маскву і падпісаў мірную дамову, паводле якой цар мусіў вярнуць Полаччыну і Інфлянты. Гэта была вялікая дыпламатычная ўдача. На радзіме кіраўнік пасольства быў прызначаны падканцлерам, а потым і канцлерам – другім чалавекам у дзяржаве, які выконваў функцыі міністра ўнутраных і замежных спраў.

Статут 1588 г., падрыхтоўкай якога кіраваў Леў Сапега. Віленская друкарня Мамонічаў






Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега. Гравюра на медзі. Мастак Мікалай Паддзінскі. 1819 г.

Леў Сапега кіраваў падрыхтоўкаю III Статута нашай дзяржавы. Прыняцце ў 1588 г. гэтага самага прагрэсіўнага на той час у Еўропе збору феадальнага права было бліскучай палітычнай перамогаю Сапегі. Статут аніяк не спрыяў зліццю Вялікага Княства з Каронай, бо меў артыкулы пра самастойнасць Княства ў складзе Рэчы Паспалітай і забараняў палякам займаць тут пасады і набываць зямлю. Новы збор законаў быў выдадзены пад асабістым наглядам Сапегі, з яго прадмовамі і ягоным коштам.

Канцлер, хоць і вызнаваў каталіцтва, быў прыхільнікам вуніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, якая, на ягоную думку, закліканая была ўмацаваць дзяржаву. У сваіх лістах да полацкага вуніяцкага арцыбіскупа (архіепіскапа) Язафата Кунцэвіча Сапега няраз перасцерагаў уладыку ад гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да праціўнікаў вуніяцтва.

ТРИБУНАЛЪ

ОБОВАТЕЛЕМЪ ВЕЛИКОГО КНЯЗТВА ЛИТОВСКОГО.

НА СОЙМЕ ВАРШАВСКОМЪ ДАНЫЙ. РОКУ ҂АФПА.



ВЪ ВИЛНИ

ВЪ ДРУКАРНИ МАМОНИЧОВЪ. РОКУ ҂АФП...

Захаванню самастойнасці нашай дзяржавы служыла стварэнне пры непасрэдным удзеле Сапегі Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага – найвышэйшага апеляцыйнага суда, рашэнні якога мелі сілу пастановаў Сойму.

ПРАВО ТРИБУНАЛЬСКОЕ.

МЕСТЦА СУДОМЪ ГЛАВНЫМЪ У ВЕЛИКОМЪ КНЯЗТВЕ ЛИТОВСКОМЪ НАЗНАЧЕНЫЕ.

МЕСТО ВИЛНО.

МЕСТО ТРОКИ.

ЗЕМЛИ ЗАРОКУ.

ЗЕМЛИ МЕНСКУ.

Кодэкс, паводле якога дзейнічаў Трыбунал Вялікага Княства. Тытульны аркуш і старонка. Вільня. 1586 г.



Пасольскі двор у Маскве, дзе спыняліся дыпламаты Вялікага Княства. Гравюра XVII ст.



Еўрапейскія паслы на шляху ў Масковію. Гравюра XVI ст.





Кнігі з бібліятэкі Льва Сапегі і ягоных сыноў, падараваныя ў сярэдзіне XVII ст. кнігазбору Віленскай Акадэміі

Пад канец жыцця Леў Сапега некалькі гадоў быў вялікім гетманам. І тут ён паказаў сябе не толькі таленавітым военачальнікам, але і чалавекам, які інтарэсы Айчыны ставіць вышэй за ўсе іншыя. Калі на Княства напалі шведы, вялікі гетман і ягоны сын Ян аддалі на барацьбу з ворагам усё сваё багацце.

Значныя заслугі Сапега мае і як мецэнат, што дапамагаў мастакам і пісьменнікам.



Ганаровая тарча (шчыт) Льва Сапегі з гербам «Ліс». Бронза, пазалота



Гэтая кафля з выявай фамільнага герба Сапегаў у XVII ст. аздабляла адзін з дамоў у Заслаўі





Залатая манета вартасцю дзесяць дукатаў. XVI ст. Такія вялікія залатыя манеты называліся партугаламі

Паэт XVI ст. Андрэй Рымша ў панегірыку на герб Льва Сапегі пісаў:

*Пры каторых*
*з оружжам конны вояі стаіць,*
*Знакам таго, іж ся з іх ні одзін не баіць*
*Служыць сваім спадаром ку кождай патрэбе,*
*Не літуючы скарбаў, ні самога себе.*

Рупнасцю Сапегі былі спарадкаваныя і перапісаныя некалькі сотняў тамоў Літоўскай Метрыкі – архіва дзяржавы, які ёсць неацэннай гістарычнай крыніцай. Перад сконам, які надышоў у 1633 г., наш выдатны суайчыннік шчодра адарыў зафундаваныя родам Сапегаў храмы і быў пахаваны ў адным з іх – віленскім касцёле Святога Міхала.



Надмагілле Сапегаў у касцёле Святога Міхала ў Вільні.

# РЭФАРМАЦЫЯ



Гравюра з Бібліі Марціна Лютэра

Пратэстанцкая Біблія, выдадзеная па-польску ў 1563 г. Берасцейскай друкарняй па загад і коштам Мікалая Радзівіла Чорнага

У першай палове XVI ст. большасць насельніцтва Беларусі вызнавала праваслаўе. «Грэцкай» веры трымаліся 23 княскія і 42 шляхоцкія роды.

Пры вялікім князі Жыгімонце Старым у 1511 г. у Вільні было 14 цэркваў і 7 касцёлаў, у Навагрудку на 10 цэркваў прыпадаў 1 касцёл, а ў Магілеве, Амсціславе і Воршы першыя каталіцкія храмы з'явіліся толькі на пачатку XVII ст.

Аднак каталіцтва няўхільна ўмацоўвала свае пазіцыі. Карыстаючыся падтрымкаю вялікіх князёў, пашыралі сваю дзейнасць манаскія ордэны. Гаспадары дзяржавы не шкадавалі ахвяраванняў Віленскаму біскупству, якое валодала 11500 сялянскімі «дымамі» і ператварылася ў вельмі буйнога землеўласніка.




Заснавальнік рэфармацыйнай плыні кальвінізму Жан Кальвін, ідэі якога атрымалі вялікае пашырэнне ў Беларусі




Біблія М. Лютэра. 1546 г.



Разбурэнне святыняў у часе барацьбы каталікоў і пратэстантаў у Францыі. Тагачасная гравюра

Праваслаўе перажывала крызіс, які меў і ўнутраныя прычыны. Праваслаўная царква была занадта традыцыйнай і не прымала пераменаў, што адбываліся ў еўрапейскай культуры.



Нямецкі «лятучы лісток» з выявай беларускага зубра, падараванага аднаму з саксонскіх вяльможаў

## ХРАНАЛОГІЯ

1530–1593 гг. – Жыццё і дзейнасць Сымона Буднага.

1562 г. – Выданне С. Будным у Нясвіжы беларускага «Катэхізіса».

Каля 1580 г. – Васіль Цяпінскі выдаў беларускі пераклад Евангелля.





Партрэт віленскага ваяводы і вялікага гетмана Януша Радзівіла, які быў пераканаым праціўнікам інквізіцыі (злева)

Віленскі ваявода і канцлер Вялікага Княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Чорны першым з беларускіх магнатаў стаў прыхільнікам рэфармацыйных ідэй. Гравёр Гершка Лейбовіч. Сярэдзіна XVIII ст.

Падтрымаўшы Рэфармацыю, беларускія магнацкія роды Радзівілаў, Сапегаў, Глябовічаў, Кішкаў, Хадкевічаў ды іншыя разлічвалі адасобіцца ад каталіцкай Польшчы і замацаваць незалежнасць Княства.

Праваслаўныя святары вельмі часта мелі невысокі ўзровень адукацыі, не разумелі нават царкоўнаславянскай мовы, на якой маліліся, і звычайна не здольныя былі канкураваць з добра адукаванымі каталіцкімі святарамі.

Набыўшы ў дзяржаве роўныя правы з каталікамі, беларуская праваслаўная шляхта імкнулася да асветы. Брацкія і прыхадскія праваслаўныя школы не маглі даць вышэйшай адукацыі. Па яе даводзілася выпраўляцца на Захад.

Менавіта з Заходняй Еўропы ў сярэдзіне XVI ст. і трапілі ў Беларусь ідэі Рэфармацыі, якія паспрыялі крызісу не толькі праваслаўнай, але і каталіцкай царквы Вялікага Княства.

Прыхільнікі рэфармацыйнага руху, які закрануў амаль усе еўрапейскія краіны, выступалі супроць неабмежаванай улады каталіцкай царквы і яе велізарнага багацця. Рэфарматы не прызнавалі пышных набажэнстваў і змагаліся за аднаўленне першаснай хрысціянскай чысціні. Аднак адрозна ад Заходняй Еўропы ў Беларусі гэты рух не паспеў ператварыцца ў народны. Рэфармацыя ахапіла пераважна магнатаў і набліжаную да іх шляхту (яны разлічвалі таксама на падзел зямельных уладанняў каталіцкай царквы), а таксама частку гарадскога насельніцтва.

У сярэдзіне XVI ст. пратэстанцкія супольні (зборы) існавалі ў Нясвіжы, Берасці, Клецку, Навагрудку, Койданаве і дзесятках іншых беларускіх гарадоў. Евангелікі (так называлі прыхільнікаў Рэфармацыі) у 60-х гадах XVI ст. ужо складалі большасць у вялікакняскай Радзе.

«Дыспут». Гравюра XVI ст. з кнігі Францыска Скарыны «Ісус Сірахаў»





Алегарычная выява цмока з Бібліі Марціна Лютэра

## Дзеячы рэфармацыйнага руху

Першым з магнатаў падтрымаў Рэфармацыю выдатны дзяржаўны дзяяч і мецэнат Мікалай Радзівіл Чорны (1515–1565), які займаў высокія пасады віленскага ваяводы і канцлера і быў адданым змагаром за суверэнітэт Вялікага Княства.

Рэфармацыйны рух актыўна спрыяў развіццю асветы і наагул духоўнага жыцця грамадства. Пры евангелічных зборах ствараліся школы, друкарні, шпіталі, прытулкі. Культура нашай дзяржавы ўзбагачалася здабыткамі еўрапейскай філасофскай думкі. Беларускія мысляры і асветнікі станавіліся ўпоравень з заходнімі братамі па духу.




Адзін з ідэйных праваднароў беларускай Рэфармацыі Сымон Будны. Шаржаваны партрэт XVI ст.




«Катэхізіс» Буднага. Нясвіж. 1562 г.




Помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы. Скульптар Святлана Гарбунова



«Сталіца» Радзівілаў – Нясвіж. Малюнак Напалеона Орды. XIX ст.

Мікалай Радзівіл адчыніў у Берасці і Нясвіжы друкарні, дзе выпускалася рэфармацыйная літаратура. Пад яго абаронаю працаваў адзін з найадукаванейшых людзей таго часу філосаф-гуманіст Сымон Будны. Будны скончыў Кракаўскі універсітэт. У 1562 г. ён заснаваў у Нясвіжы друкарню, дзе выдаў свае напісаныя на беларускай мове кнігі «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Сымон Будны стаў адным з ідэйных праваднроў беларускай Рэфармацыі.




Князь Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Гравюра па медзі



Тытульны аркуш кнігі «Пэрэгрынацыя» Мікалая Крыштофа Радзівіла – апісання падарожжа ў Святую зямлю, якое ён здзейсніў пасля пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. 1601 г.




Перакладчык Евангелля на беларускую мову Васіль Цяпінскі. Дрэварыт. 1576 г.



Старонка Евангелля В. Цяпінскага. Блізу 1575 г.

Адстойваючы свае погляды, ён разгарнуў шырокую публіцыстычную і выдавецкую дзейнасць. У друкарні ў Лоску, заснаванай прыхільнікам плыні арыянства магнатам Янам Кішкам, Будны выпусціў Новы Запавет са сваімі прадмовай і каментарамі, трактаты «Аб дзвюх прыродах Хрыста» і «Аб свецкай уладзе». Філосаф выступаў за творчую свабоду асобы, супроць рэлігійнага фанатызму.

Аднадумцам і паплечнікам Буднага быў шляхціч з Полаччыны Васіль Цяпінскі. У сваёй друкарні ў маёнтку Цяпіна ён выдаў беларускі пераклад Евангелля, у прадмове да якога бараніў родную мову, гісторыю і традыцыі народа.

На змену Рэфармацыі ў Еўропе і ў Вялікім Княстве прыйшоў перыяд Контррэфармацыі. Але ў нашай дзяржаве яна не набыла такіх жорсткіх формаў, як, напрыклад, у Францыі, дзе ў Варфаламееўскую ноч каталікі выразалі 20 тысяч пратэстантаў-гугенотаў.

У час Контррэфармацыі амаль уся беларуская арыстакратыя прыняла каталіцызм.

Кальвінскі збор у Заслаўі. Другая палова XVI – пачатак XVII ст.



# БЕРАСЦЕЙСКАЯ ЦАРКОЎНАЯ ВУНІЯ



Пячатка грэка-каталіцкага Ордэна базыльянаў

Пасля аб'яднання Польскага Каралеўства і Вялікага Княства ў нашай краіне пачало шырыцца каталіцтва, што несла з сабою пагрозу ўзмацнення польскіх уплываў. У Маскве тым часам з'явіліся свае патрыярхі, якія заадно з царамі глядзелі на Беларусь як на сваю вотчыну і дзеля яе захопу збіраліся выкарыстаць праваслаўную веру нашых продкаў.

Дапамагчы пазбавіцца ад прэтэнзій Варшавы і Масквы, а таксама ад небяспекі рэлігійнае варожасці ў самой краіне магла новая вера, якая злучыла б у адным храме каталіцтва з праваслаўем. Гэта разумелі і свецкія, і духоўныя асобы Вялікага Княства – прыхільнікі ягонае самастойнасці.

Такую веру магла даць царкоўная вунія.

Ідэя вуніі ажыццявілася ў 1596 г. на Берасцейскім царкоўным саборы.

Усталяванне ў Беларусі вуніяцкай веры, якая спалучала традыцыйную ўсходнюю абраднасць з каталіцкімі царкоўнымі дагматамі, напачатку ішло пакутліва цяжка. Своеасаблівым сімвалам гэтага стаў жыццёвы шлях полацкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча.

Беларускія і ўкраінскія праваслаўныя ўладыкі прызналі зверхнасць рымскага папы, але захавалі ранейшыя, «грэцкія», абрады.



Маці Божая Жыровіцкая. Вуніяцкі абраз сярэдзіны XVIII ст. Беларуская школа



Мікалаеўская царква, дзе была падпісаная Берасцейская вунія. Гравюра XVIII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

9 кастрычніка 1596 г. – Сабор у Берасці абвясціў вунію праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай.

1623 г. – Забойства полацкага вуніяцкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча.



Пячатка Іпата Пацея



Вуніяцкі мітрапаліт Іпат Пацей быў вядомы таксама як таленавіты пісьменнік-палеміст

Ён быў таленавітым прапаведнікам і энергічным царкоўным дзеячом, якому, аднак, не хапала талерантнасці. У барацьбе з непакорлівымі ён зачыняў праваслаўныя храмы, пазбаўляў сану і жорстка караў святароў.

Кунцэвічу супрацьстаялі аб'яднаныя ў брацтвы праваслаўныя месцічы, якіх падтрымлівала яшчэ шматлікая праваслаўная шляхта. З лістом-папярэджаннем да арцыбіскупа Язафата звярнуўся сам канцлер Вялікага Княства Літоўскага



Святы Язафат Кунцэвіч, арцыбіскуп полацкі



Зборнік твораў Язафата Кунцэвіча

Вуніяты стварылі моцную сістэму школьнай адукацыі, увялі ў храмы, у навучанне і кнігадрукаванне беларускую мову.

Леў Сапега: «Кажаце, вы вольны тапіць невуніятаў і секчы ім галовы... Не, не так трэба абыходзіцца з імі, бо Евангелле Боскае сурова нагадвае ўсім помснікам, у тым ліку і вам: «мне отмщение и аз воздам».

Канцлеравы словы сталіся прарочымі. Увосень 1623 г. Язафат Кунцэвіч прыняў пакутніцкую смерць пад час бунту ў Віцебску і пазней быў прылічаны да святых.

Але паступова новая царква ўмацоўвала свае пазіцыі. Жорсткі ўціск супроць праваслаўных быў спынены.



Do Ruśi Greckiego Nabożeństwa,

PRZESTROGA

W KRAKOWIE

Тытульны аркуш палемічнай кнігі Пятра Скаргі «Да Русі грэцкага набажэнства...» Кракаў. 1610 г.



Адзін з ініцыятараў Берасцейскай уніі, першы рэктар Віленскай акадэміі Пётра Скарга. Невядомы мастак XVII ст.



Медаль у гонар Берасцейскай царкоўнай вуніі. Пасярэбраная медзь

Кажучы пра гістарычны лёс беларусаў, некаторыя аўтары параўноўваюць вунію з перамогаю пад Грунвальдам. Разгром тэўтонцаў адвёў пагрозу фізічнага вынішчэння продкаў, аб'яднанне цэркваў ратавала ад смерці духоўнай. Выратавала найперш дзякуючы жывой народнай мове, якая жыла ў вуніяцкіх храмах і манастырах – у казаннях, у навучанні, у царкоўных спевах.

Пры канцы XVIII ст. вуніятамі былі тры чвэрці ўсіх жыхароў Беларусі. Вуніяты добра ведалі, што яны не палякі і не расейцы. Таму так ненавідзелі вунію маскоўскія цары ды іх прыслужнікі ў царкоўных рызах.



Вуніяцкі мітрапаліт, заснавальнік базыльянскага ордэна, пісьменнік, педагог і прававеднік Язэп Руцкі. Гравюра XIX ст. паводле даўнейшага арыгіналу



Партрэт вуніяцкага мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага. 1680 г. З калекцыі Радзівілаў у Нясвіжы



Грамата арцыбіскупа полацкага, кіеўскага і галіцкага Антона Сялявы



Арцыбіскуп полацкі Фларыян Грабніцкі, у часы якога ў Полацку быў абрабаваны і зруйнаваны салдатамі Пятра I Сафійскі сабор



Беларускае рукапіснае Евангелле паводле Іаана. XVI ст.



Параскева. Абраз другой паловы XVI ст. Беларуская школа

Новая царква няўхільна перамагала як сапраўды нацыянальная, народная. Так яе расцэньвалі Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, а таксама Фрыдрых Энгельс, які грунтоўна вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай. У другой палове XVII ст. з трынаццаці менскіх манастыроў праваслаўным застаўся толькі адзін. Вуніяцкімі сталі славутыя Жыровіцкі манастыр і полацкая Сафія, якая зрабілася Меккаю ўсіх вуніяцкіх паломнікаў.

Вунія пачалася з палітыкі, а працягвалася як лёс народу.

Умацаванню вуніяцтва спрыяў створаны ў 1617 г. манаскі Ордэн базылянаў, назоў якога паходзіць ад імя аднаго з айцоў царквы святога Васіля Вялікага. Базыляне друкавалі царкоўную літаратуру, адчынялі пры кляштарах школы і калегіюмы. Існуе думка, што базыляне і наагул вуніяты паслухмяна «скакалі пад езуіцкую дудку». Дакументы сведчаць пра іншае. Базыляне судзіліся з езуітамі за крыж святой Еўфрасінні і не аддалі святыні. У 1802 г. езуіты, якіх тады падтрымлівалі царскія ўлады, падалі ў суд скаргу на полацкіх і вушацкіх базылянаў за тое, што тыя сцвярджалі, быццам «рэлігія рымская не пагаджаецца з святым Евангеллем».



Фрагмент аправы Евангелля. Канец XVII ст. «Сашэсце ў пекла – Уваскрэсенне». Царква Маці Божай Адзігітрыі ў Дзісне

Вунія – велізарная і неадлучная частка гістарычнага быцця і культуры Беларусі. Гэта вера мільёнаў беларусаў, вера дзесяці пакаленняў нашых продкаў.

# КРЫВАВАЕ СТАГОДДЗЕ



Памятны медаль у гонар вялікага гетмана Яна Карала Хадкевіча. Срэбра. 1800 г.

Вялікае Княства Літоўскае і найперш Беларусь не паспелі загаіць цяжкія раны, пакінутыя Інфлянцкай вайной, як ваеннае ліхалецце зноў прыйшло на нашу зямлю. У 1609 г. Рэч Паспалітая пачала барацьбу за вяртанне Смаленска ды іншых земляў. Пры актыўнай падтрымцы маскоўскага баярства ў 1610 г. войскі Рэчы Паспалітай увайшлі ў Маскву, а потым штурмам авалодалі Смаленскам. Вызваліць Маскву расейскаму апалчэнню на чале з Мініным і Пажарскім удалося толькі праз два гады. Доўгая вайна, якая знясіліла абодва бакі, закончылася падпісаннем у 1618 г. Дзявулінскага замірэння. Паводле яго ўмоваў, у склад Вялікага Княства Літоўскага вярталіся Смаленшчына, Чарнігаўшчына і Ноўгарад-Северская зямля з 30 гарадамі.



Панцыр ваяра-кірасіра. XVII ст.




Аблога Смаленска войскам Рэчы Паспалітай. Гравюра 1610 г.

«Навіны з Інфлянтаў». «Лятучы лісток» з паведамленнем пра перамогу нашага войска над шведамі пад Кірхгольмам. 1605 г.



Novviny z Inflant.



Пісталет з колавым замком. Канец XVI – пачатак XVII ст. Такія пісталеты былі на ўзбраенні кірасіраў і лёгкай кавалерыі



Бітва пад Кірхгольмам. Мастак Генрык Пілаці

## ХРАНАЛОГІЯ

1600–1629 гг. – Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй.
27 верасня 1605 г. – Перамога пад Кірхгольмам.
1609–1618 гг. – Вайна Рэчы Паспалітай з Расеяй.
1632–1634 гг. – Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай.
1648–1651 гг. – Казацка-сялянская вайна ў Беларусі.
1654–1667 гг. – Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай.
1 лютага 1661 г. – Магілеўскае паўстанне.



Герб «Грыф», якім карыстаўся род Хадкевічаў



Адзін з найвыдатнейшых военачальнікаў тагачаснай Еўропы Ян Караль Хадкевіч (1560–1621 гг.). Партрэт XVII ст.

Адначасова з ваеннымі дзеяннямі супроць Расеі Рэч Паспалітая вяла барацьбу з Швецыяй за панаванне на Балтыйскім моры. У 1605 г. адзін з нашых найвыдатнейшых военачальнікаў вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч атрымаў у гэтай вайне бліскучую перамогу пад Кірхгольмам (непадалёку ад Рыгі). На чале 4-тысячнага аддзела Хадкевіч разграміў 14-тысячную шведскую армію, якая страціла 9 тысяч жаўнераў.

**Рэч Паспалітая ў XVII ст.**



Медаль з выявай вялікага князя і караля Яна Казіміра. Медзь. 1657 г.



Войска на парадзе. Малюнак канца XVII ст.



Беларускі «крылатыя» гусар. Да гусарскіх панцыраў мацаваліся вялікія крылы з пер'ем, якія наводзілі на ворага жах. Крылатыя вершнікі былі улюбёным войскам гетмана Яна Караля Хадкевіча. Сучасная рэканструкцыя менскай творчай майстэрні «Коўчэ». Мастак Юры Гулзіновіч



Цясак, якім маглі карыстацца ў баі і на паляванні

Капітуляцыя расейскага ваяводы Шэйна пад Смаленскам у 1634 г. Фрагмент саркафага вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы. Вавельскі замак у Кракаве



Генерал артылерыі, затым польны гетман Вялікага Княства Літоўскага, удзельнік войнаў з Швецыяй і Расеяй Вінцэнт Аляксандр Гасеўскі. Невядомы мастак. Сярэдзіна XVII ст.



У 1654 г. на Рэч Паспалітую абрынулася новая, самая цяжкая ў беларускай гісторыі вайна, якую сучаснікі называлі «крывавым патопам».



Гусарскі laсвех першай паловы XVII ст.

У 1632 г. вайну распачала Расейская дзяржава. Царскія войскі авалодалі Полацкам, Друяй, Асвеяй, Прапойскам і ўзялі ў аблогу Смаленск. Але ў выніку некалькіх бітваў расейская армія ваяводы Шэйна была адцесненая ад Смаленска і, трапіўшы ў абкружэнне, капітулявала. Баярына Шэйна паводле прысуду расейскай Баярскай думы пакаралі смерцю.

1648 год стаў пачаткам вызвольнай вайны ўкраінскага народа. Выступіўшы супроць уладаў Рэчы Паспалітай, украінскі гетман Багдан Хмяльніцкі пасылаў у Беларусь казацкія загоны з заклікамі ўзбройвацца на змаганне з магнатамі і шляхтай. Частка жыхароў беларускіх земляў падтрымала казакоў.

Галоўны цяжар абароны Айчыны несла шляхта. Беларускі шляхціч XVII ст.



Войска Рэчы Паспалітай пад Смаленскам. Гравюра XVII ст.





Удзельнік вайны Рэчы Паспалітай з Швецыяй, а потым паплечнік Багдана Хмяльніцкага казацкі палкоўнік Міхайла Крычэўскі. Пасмяротны партрэт


Казацкая рада Запарожскай Сечы


Казакі. Дрэварыт XVII ст.

Увесь поўдзень Беларусі трапіў у рукі казацкага войска, якое не толькі грабіла панскія маёнткі, але і рабавала простых людзей, выразала габраяў. На ўціхамірванне з 10-тысячнай арміяй выйшаў гетман Януш Радзівіл. Добра ўзброеныя шляхоцкія палкі бралі горад за горадам, жорстка распраўляючыся з казакамі ды іх хаўруснікамі. Найбуйнейшая ў Беларусі бітва ў вайне 1648–1651 гг. адбылася 31 ліпеня 1649 г. пад Лоевам. Армія Вялікага Княства святкавала перамогу. Казацкае войска было разгромленае, страціўшы 8 тысяч забітымі і 3 тысячы патанулымі ў Дняпры. Апрача крыві і разбурэнняў гэтая вайна анічога не прынесла ні паўстанцам, ні дзяржаве.


Казацкі палкоўнік


Шляхоцкім гербам «Тарнава» карысталіся болей за дзесяць беларускіх родаў, у тым ліку Бранеўскія, Валоўскія, Мальчэўскія, Ралкевічы, Сіпіцкія, Тарасевічы


Партрэт вялікага гетмана Януша Радзівіла. 1650 г.


Гетман, гусарскі афіцэр і мушкецер з прыватнага войска князёў Радзівілаў



Маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч «Ціхайшы», які развязаў вайну, накіраваную на вынішчэнне нашага краю



Віцебскія замкі ў XVII ст.

Прыкрываючыся словамі пра абарону праваслаўя ад уціску «проклятых ляхов», Масква ў 1654 г. развязала новую вайну. Напачатку абяцанні цара Аляксея Міхайлавіча, што ён захавае правы і маёмасць беларускай шляхты і забяспечыць усім праваслаўным беларусам спакойнае жыццё, мелі на памежных з Расеяй землях даволі значны ўплыў.

У Беларусь уварваліся тры вялізныя арміі, якім дапамагалі тры палкі прысланых Б. Хмяльніцкім казакоў. Гэтай 100-тысячнай вайсковай сіле супрацьстаяў у дзесяць разоў меншы корпус гетмана Януша Радзівіла. Царскія ваяводы Трубяцкой, Шарамецьеў і казацкі атаман Залатарэнка занялі Віцебск, Полацак, Воршу, Крычаў, Амсціслаў, Гомель, Рэчыцу, Шклоў, Дуброўну ды іншыя гарады. Тыя з іх, што адмаўляліся ад капітуляцыі і мужна бараніліся, былі на загад цара разбураныя, а іх насельніцтва – вынішчанае або выведзенае ў палон. Найбольш цяжкі лёс напаткаў Амсціслаў, дзе, як сведчаць расейскія гістарычныя дакументы, «шляхты, поляков, литвы и иных служылых людей побито больши десяти тысяч». Руінамі сталі Рэчыца, Жлобін, Рагачоў. У 1655 г. была ўзятая Вільня.



Узброеныя маскавіты



Герб Магілева, нададзены гораду пасля паўстання 1661 г. На гербе адлюстраваны мужны ўчынак войта Левановіча, які падаў знак да збройнага выступу месцічаў супроць царскага гарнізона

Забыўшыся на ўсе свае абяцанні, царскія ваякі займаліся на захопленых землях рабаваннем і гвалтам. У адказ пачаўся масавы партызанскі рух, асабліва актыўны на Амсціслаўшчыне. У ліпені 1654 г. на 15-тысячнае войска ваяводы Трубяцкога напаў аддзел з трох тысяч беларускіх сялянаў Калеснікаўскай воласці. Жыхары Магілева, якія здалі расейскім стральцам горад без бою,




Бітва з маскавітамі. Гравюра XVII ст.



Кавалерыст Вялікага Княства Літоўскага, XVII ст. Малюнак Юліюша Косака



Шляхцічы-ліцвіны

Аблога Берасця шведска-вугорскімі войскамі ў 1657 г.
Тагачасная гравюра

не вытрымаўшы здзекаў і бясконцых рабункаў, 1 лютага 1661 г. паўсталі і за некалькі гадзін выразалі ўвесь 7-тысячны царскі гарнізон.

Народна-вызвольны рух на беларускіх землях даў магчымасць войскам Рэчы Паспалітай перайсці да паспяховых баявых дзеянняў. У 1661 г. яны адваявалі Вільню. Блізу Ляхавічаў, пад Кушлікамі каля Полацка і на рацэ Басі на Магілеўшчыне былі разбітыя карпусы Хаванскага і Далгарукага.

Дзве знясіленыя краіны пачалі перамовы, якія завяршыліся ў 1667 г. Андрусаўскім замірэннем. Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы разам з украінскімі землямі да Дняпра адыходзілі Расейскай дзяржаве, але ўсю захопленую паўночную Беларусь і Інфлянты цар Аляксей Міхайлавіч вяртаў Рэчы Паспалітай.

Войны сярэдзіны XVII ст. мелі для Беларусі трагічныя наступствы. За няпоўныя дваццаць гадоў колькасць яе насельніцтва скарацілася з 2,9 млн да 1,4 млн чалавек. Загінуў кожны други, а ў Полацкім, Віцебскім і Амсціслаўскім ваяводствах пустымі стаялі 65–70% сялянскіх хатаў. Сотні тысяч беларусаў былі прымусова перасяленыя ў Расею.






Памятны медаль у гонар вяртання Смаленска ў Вялікае Княства Літоўскае. Аверс і рэверс. Срэбра. 1636 г.

# БЕЛАРУСЫ Ў МАСКОВІІ



Паліхромная кафля з зязюлямі з царскага палаца ў сяле Каломенскім, пабудаванага і аздобленага беларусамі ў XVII ст. Майстар Сцяпан Палубес

### Майстры

Пад час вайны 1654–1667 гг. з Рэччу Паспалітай цар і яго ўрад масава перасялялі беларусаў з захопленых земляў у Расею. Маскоўскі патрыярх Нікан паведамляў антыяхійскаму патрыярху, што гасудар Аляксей Міхайлавіч мае намер «вывести из Белой Руси» 300 тысяч чалавек. Колькасць вымушаных перасяленцаў перасягнула гэтую лічбу. На ўсход выводзілі і сялян, і шляхту, але ў пераважнай большасці з роднай зямлёй мусілі развітацца гараджане-рамеснікі.

Беларуская кафля. Фрагмент аздаблення закамары Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве. Масква



Менавіта беларусы прынеслі ўсходнім суседзям аб'ёмную разьбу, заначаткаваўшы гэтым у Расеі развіццё скульптуры.



Дэкор галоўнага фасада рэзідэнцыі Круціцкіх мітрапалітаў у Маскве. Беларускія кафляры-цаніннікі, у тым ліку славутыя Ігнат Максімаў і Сцяпан Палубес, зрабілі для ўнікальнай аздобы гэтага будынка 1170 вялікіх шматкаляровых кафляў з рэльефным раслінным узорам

Першую партыю беларускіх рамеснікаў і сялян патрыярх Нікан пасяліў пры знакамітым Іверскім манастыры на возеры Валдаі. Там неўзабаве з'явіліся і манахі з праваслаўнага Куцеінскага манастыра пад Воршай, а з ім – і «друкарский завод». Затым была прывезеная вялікая група майстроў з Воршы, Копыся, Шклова і Дуброўны – пераплётнікі,

**ХРАНАЛОГІЯ**

1629–1680 гг. – Жыццё і дзейнасць Сімяона Полацкага.

1667–1668 гг. – Будаўніцтва беларускімі майстрамі царскага палаца ў Каломенскім.

1672 г. – С. Полацкі адчыніў першы ў Расеі тэатр.

1683–1686 гг. – Стварэнне іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве.

1691 г. – Сцяпан Палубес стварыў паліхромныя маёлікавыя рэльефы апосталаў для маскоўскай Успенскай царквы

Фрагмент іканастаса Смаленскага сабора Навадзявочага манастыра ў Маскве. Рама іканастаса складаецца з 84 разьбяных пазалочаных калонак. Гэтую унікальную працу выканалі беларускія майстры разьбяр Клім Міхайлаў і пазалотчык Дарафей Залатароў «з таварышы»



Адзін з шматлікіх твораў беларускіх кафляроў – фрагмент дэкору царквы Успення ў Ганчарах. Масква, 1689 г.

разьбяры, кафляры. Пад кіраўніцтвам копыскага мешчаніна Ігната Максімава была разгорнутая вытворчасць невядомай раней у Масковіі шматколернай рэльефнай кафлі, якой беларускія майстры аздобілі ўвесь манастырскі комплекс. Беларускія друкары тым часам выдалі шэраг кніг («Часаслоў», «Рай мысленны», «Акафісты», «Святцы»), ілюстрацыі да якіх выконваў аршанскі гравёр манах Паісій.

Пасля Іверскага манастыра майстры-кафляры з Беларусі ўпрыгожылі Уваскрасенскі сабор Нова-Ерусалімскага манастыра на Істры, церамны палац Крамля, Крутіцкі церам і царкву Георгія Неакесарыйскага ў Маскве. У кафлярскім мастацтве асабліва праславіліся беларусы Пётра Заборскі і Сцяпан Палубес.

Вернікаў і турыстаў і сёння ўражваюць веліч і хараство пяціяруснага пазалочанага іканастаса Смаленскага сабора Навадзявочага манастыра ў Маскве. На жаль, мала хто ведае, што гэты шэдэўр XVII ст. стварыла арцель беларускіх майстроў на чале з шклоўскім разьбяром Клімам Міхайлавым.




Прымусовыя перасяленні беларусаў у Масковію пад час войнаў адбываліся пачынаючы з канца XV ст. Адно з шматлікіх сведчанняў – старонка расейскага «Псалтыра» другой паловы XVI ст., перапісанага «Іванам, палоннікам полацкім, у дзвюх путах звязаным»

Хутка расла колькасць беларусаў пры царскім двары. У 1662 г. у Срэбнай палаце працавалі 43 майстры з Полацка, Віцебска, Воршы... У падмаскоўнай рэзідэнцыі цара Аляксея ў Каломенскім беларусы зрабілі аб'ёмную, пакрытую пазалотай разьбу, кафляныя печы і унікальныя ўзорыстыя ваконныя рамы. Кіравалі разьбярамі таксама нашы суайчыннікі «старац» Арсень і Клім Міхайлаў, што пазней узначаліў царскую Палату разьбяных і сталярскіх спраў.

Вежы Нова-Ерусалімскага манастыра на Істры (Маскоўская вобл.), узведзеная беларускім дойлідам Якавам Бухвостывым, XVII ст.





Беларуская кафля ў дэкоры Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве. На аздабленне храма майстрамі Ігнатам Максімавым і Сцяпанам Палубесам пайшло 7130 паліхромных кафляў



Кафляная разетка з сяла Каломенскага. Майстар Сцяпан Палубес



Кафля з выявай апостала. Фрагмент дэкору царквы Успення ў Ганчарах. Масква

У другой палове XVII ст. пераселеныя на чужыну беларускія майстры складалі пятую частку насельніцтва Масквы.

Масква. Гравюра XVI ст.




Беларусы з Мяшчанскай слабады сталі акторамі першага ў Расеі прыдворнага тэатра, адчыненага ў 1672 г. Сімяонам Полацкім.

Прыняццё паслоў у Маскве ў часе царавання Аляксея Міхайлавіча



Беларускіх палонных і вымушаных перасяленцаў у Маскве сялілі ў адмысловай Мяшчанскай слабадзе. Перапісная кніга рэгіструе сярод яе насельніцтва майстроў 52 спецыяльнасцяў, многія з якіх раней у Расеі былі невядомыя. Беларусы, напрыклад, выкарыстоўвалі больш перадавыя тэхналогіі ў збройнай справе і ювелірным мастацтве.

Сучасныя расейскія даследнікі са здзіўленнем пішуць, што ў 1670-х гадах у амаль цалкам непісьменнай Маскве пад пастановамі слабадскіх сходаў у Мяшчанскай слабадзе стаяла 36% уласнаручных подпісаў, а агульны працэнт тых, хто валодаў граматай, набліжаўся там да 50.


МАГНИТЪ

Старонка паэтычнага зборніка С. Полацкага «Вертоград многоцветный» з вершам пра магніт

## Сімяон Полацкі

Найзнакаміцейшым з беларускіх перасяленцаў у Расею застаўся ў гісторыі выдатны асветнік, пісьменнік, педагог і грамадскі дзяяч Сімяон Полацкі. Сапраўднае імя славутага палачаніна – Самойла Пятроўскі-Сітняновіч.


Асветнік, пісьменнік і педагог Сімяон Полацкі

Сімяон Полацкі стаў першым у Расеі прафесійным пісьменнікам.


РУѲМОЛОГІОН

или

СТІХОСЛОВЪ

Тытульны аркуш кнігі С. Полацкага «Рифмологион, или Стихослов»


«Вертоград многоцветный» з размешчанымі ў алфавітным парадку вершамі быў своеасаблівай тагачаснай энцыклапедыяй

Свой шлях у навуку ён пачаў з брацкай школы полацкага Богаяўленскага манастыра, а працягваў у Кіева-Магілянскай калегіі, якую праваслаўныя лічылі найлепшай навучальнай установаю Рэчы Паспалітай. Прага ведаў прывяла Самуся ў Віленскую акадэмію. На той час апрача роднай беларускай ён ужо настолькі дасканала авалодаў лацінаю, царкоўнаславянскай і польскай мовамі, што пісаў на ўсіх чатырох вершы.

Вайна Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай не дазволіла давучыцца. З разрабаванай і спустошанай царскімі войскамі Вільні Самойла вярнуўся ў Полацак і пад імем Сімяона пастрыгся ў Богаяўленскі манастыр. Пад час прыезду цара Аляксея Міхайлавіча ў Беларусь Сімяон прадэманстраваў яму свой літаратурны дар. Паэт шукаў мецэната, пад абаронаю якога ў тую жорсткую эпоху мог бы спакойна служыць сваёй музе.

Шмат якія Сімяонавы славаслоўныя вершы былі рызыкоўна іранічныя. За адзін з іх полацкі епіскап Каліст, пастаўлены Масквой у абыход царкоўных законаў, адлзячыў

Полацкі напісаў праект першай у Расеі вышэйшай навучальнай установы, паводле якога потым стваралася маскоўская Славяна-грэка-лацінская акадэмія.


Студэнты Кіева-Магілянскай калегіі, дзе вучыўся Сімяон Полацкі



Шырокую славу здабыў С. Полацкаму ягоны паэтычны пераклад Псалтыра, ілюстраваны гравюрамі Сімона Ушакова. Масква. 1680 г.



Пасля смерці Сімяона засталася найбагацейшая ў Маскве бібліятэка: творы Цыцэрона, Тамаша Аквінскага, Эразма Ратэрдамскага, айцоў царквы, граматыкі, слоўнікі, зельнікі...

Узор паэтычных эксперыментаў знакамітага палачаніна

Старонка «Аповесці пра Варлама і Іосіфа». Масква. 1680 г.



Сімяону тым, што спачатку прызначыў яму ганебнае пакаранне працаю ў манастырскім хляве, а потым загадаў кінуць у астрог і закаваць у кайданы. Магчыма, якраз гэтая падзея і была штуршком да выезду паэта ўвесну 1664 г. у Маскву.

Сімяона прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей. Ён асабіста вучыў спадкаемцаў трона царэвічаў Аляксея ды Фёдара і царэўну Соф'ю, а таксама наглядаў за выхаваннем царэвіча Пятра.

Сімяон адчыніў сваю, незалежную ад патрыярхавай цэнзуры друкарню. Пра значнасць гэтай падзеі сведчыць той факт, што колькасць друкарняў у Расеі адразу падвоілася (замест адной стала дзве). Тым часам у Рэчы Паспалітай дзейнічалі 134 друкарні.

Вялікую славу прынёс Сімяону вершаваны пераклад Псалтыра. Большасць сваіх вершаў паэт сабраў у кнігі «Рифмологион, или Стихослов» і «Вертоград многоцветный». «Вертоград» быў своеасаблівай энцыклапедыяй, адкуль чытач мог атрымаць звесткі з гісторыі, геаграфіі, заалогіі.

Праваслаўная царква абвясціла Сімяонавым творам анафему і забараніла згадваць іх як ерэтычныя. Велізарны ўклад Сімяона Полацкага ў расейскую культуру быў ацэнены толькі праз стагоддзі.

Расея засталася далёка ўбаку ад агульнаеўрапейскіх эпох Рэнесансу і Рэфармацыі. Перасяленцы са значна больш перадавой на той час Беларусі спрыялі развіццю ў суседняй дзяржаве пісьменства, рамёстваў, мастацтва, прыродазнаўства, медыцыны, філасофскай і грамадскай думкі.



Выхаванец і вучань С. Полацкага цар Фёдар Аляксеевіч. 1686 г. У стварэнні партрэта бралі ўдзел мастакі беларускага паходжання Ерафей Ялін і Лука Кандрацьевіч Смальянінаў

Аўтограф Сімяона Полацкага

# ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА


Ручная бомба. Тагачасная гравюра

Пачатак XVIII ст. зноў зрабіў Беларусь тэатрам вайсковых дзеянняў. Расейскі цар Пётр I імкнуўся «прасекчы вакно ў Еўропу». Яму супрацьстаяў шведскі кароль Карл XII. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст II быў хаўруснікам Пятра, але частка беларускіх магнатаў на чале з Сапегамі і Пацамі падтрымала шведаў. Іх прыхільнікі абралі вялікім князем і каралём Станіслава Ляшчынскага, пасля чаго ў Рэчы Паспалітай разгарэлася грамадзянская вайна.

Да Палтаўскай бітвы менавіта беларускія землі служылі галоўнай арэнай Паўночнай вайны.


Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст Моцны стаў у Паўночнай вайне хаўруснікам Расеі



Пётр I. Гравюра пачатку XVIII ст.


Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Ляшчынскі. Гравюра XVIII ст.


Гранатнік быў грознаю зброяй, але вельмі часта памылка пры запальванні рабілася для жаўнера фатальнаю


Шляхціч і ротмістр. Канец XVII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1700–1721 гг. – Паўночная вайна Расеі і Рэчы Паспалітай з Швецыяй.

8 верасня 1708 г. – Знішчэнне Магілева.

9 кастрычніка 1708 г. – Бітва каля вёскі Лясной.



Беларускі шляхціч часоў Паўночнай вайны



Адзін з удзельнікаў Паўночнай вайны маршалак надворны Вялікага Княства граф Ігнат Завіша

У Беларусі дзейнічала 70-тысячная расейская армія, чые салдаты і афіцэры ў сваіх паводзінах больш нагадвалі захопнікаў, чым саюзнікаў. Пётр I не толькі не стрымліваў падданых, а, наадварот, заахвочваў іх жорсткасць, даючы ўласныя прыклады абыходжання з беларускім насельніцтвам.

Найстаражытнейшы беларускі храм – сабор Святой Сафіі ў Полацку – апячаталі і ператварылі ў вайсковы склад, дзе трымалі амуніцыю і коней, а ў сутарэннях – парахавыя запасы. Досыць было іскры, каб нашая святыня ўзляцела ў паветра. І гэтая іскра ўспыхнула: 1 траўня 1710 г., якраз напярэдадні адыходу з Полацка расейскага войска, магутны выбух ператварыў Сафійскі сабор у руіны.

У ліпені 1705 г. расейскі цар Пётр I разам з князем Аляксандрам Меншыкавым і некалькімі афіцэрамі ўласнаручна ўдзельнічаў у забойстве пяці уніяцкіх святароў у Полацкім Сафійскім саборы.

Цяжкія страты ад «саюзнікаў» неслі і сотні іншых беларускіх гарадоў, мястэчкаў і вёсак. Узімку 1707 г. расейская кавалерыя абрабавала ў Менску жаночы уніяцкі кляштар Святой Тройцы. Потым надышла чарга Святадухаўскай царквы на Высокім рынку ды іншых храмаў і манастыроў, у тым ліку і праваслаўных. Па слядах рабаўнікоў ішлі царскія казакі і калмыкі. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала жыхароў да зброі, і на Нямізе марадзёры атрымалі адпор.



План Полацка. 1707 г.



Маскоўскія стральцы з карты Масковіі XVIII ст



Сучасны інтэр'ер Полацкага Сафійскага сабора, узарванага ў 1710 г. салдатамі Пятра I




Магілёў. Гравюра пачатку XVIII ст.

Найбліжэйшы паплечнік Пятра I князь Аляксандр Меншыкаў меў беларускае паходжанне




Драматычны лёс напаткаў у часе Паўночнай вайны адзін з найбагацейшых беларускіх гарадоў Магілёў. Спачатку ён быў спустошаны салдатамі А. Меншыкава, затым месцічаў рабавалі і каталі шведы. Пасля іх адыходу горад на загад расейскага камандавання без ніякай ваеннай патрэбы быў зруйнаваны і спалены. Долю Магілева падзялілі Віцебск, Горадня, Нясвіж, Клецак, Ляхавічы.

Аслабленая Рэч Паспалітая ўсё больш нагадвала не хаўрусніка, а прыдатак царскай імперыі. Пётр I дамогся скарачэння войска Рэчы Паспалітай, якое не павінна было перавышаць 24 тысяч (18 тысяч у Польшчы і 6 тысяч у Вялікім Княстве Літоўскім). Тым часам арміі бліжэйшых суседзяў былі шматкроць большымі: у Расеі – 350 тысяч, Аўстрыі – 280 тысяч, Прусіі – 200 тысяч.



Бітва пры Лясной. З карціны першай паловы XVIII ст.



Фрагмент рыцарскага пояса першай паловы XVIII ст.



Мемарыяльная капліца у в. Лясная Слаўгарадскага раёна



Герб «Гздава», якім карыстаўся род Папаў, што пад час Паўночнай вайны былі прыхільнікамі шведаў

У ліпені 1708 г. каля мястэчка Галоўчын пад Бялынічамі шведскі кароль перамог царскую армію. Але ўжо ў верасні таго ж года пад вёскай Лясной каля Прапойска (Прапошаска) расейскае войска разбіла корпус Левенгаўпта, які рухаўся на злучэнне з галоўнымі сіламі Карла XII. На Украіну, да шведскага караля, прыйшло толькі 5 тысяч жаўнераў, 9 тысяч назаўсёды засталіся пад Лясной. Нездарма Пётр I называў гэтую бітву «маці Палтаўскай баталіі».

Пасля перамогі пад Палтавай вайна працягвалася пры поўнай перавазе Расеі.

За гады Паўночнай вайны Беларусь страціла кожнага трэцяга – 700 тысяч сваіх жыхароў. Толькі каля 10% насельніцтва захавалася ў Шклоўскім графстве. Тры чвэрці сялянскай ворнай зямлі стаяла ўпусце ў Гарадзенскай эканоміі. Тыповай для тагачаснай Беларусі карцінай былі зарослыя пустазеллем і лесам палі, пакінутыя вёскі і маёнткі.



Гусарскі панцыр пачатку XVIII ст.



Межы Рэчы Паспалітай пасля гэтай вайны засталіся без зменаў, але рэальны суверэнітэт нашай дзяржаваю быў амаль страчаны.

Выгляд Нясвіжа да разбурэння пад час вайны. Гравюра XVII ст.



Герб Рэчы Паспалітай часоў Аўгуста III
Дрэва, разьба

# АПОШНІЯ ГАДЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

### Шляхоцкая анархія

Каб захаваць сваю палітычную, вайсковую і эканамічную жыццяздольнасць, знясіленая бясконцымі войнамі Рэч Паспалітая мела вострую патрэбу ў рэформах. А для гэтага неабходна моцная цэнтральная ўлада, якой у дзяржаве якраз і не было. Шляхта не хацела папусціцца нават нязначнай часткаю сваіх «залатых» вольнасцяў, і яе ўсеўладдзе перарастала ў анархію.

У 1652–1764 гг. чатыры з кожных пяці Соймаў былі сарваныя. Тое самае адбывалася і на павятовых сойміках. З канфедэрацыі двюх дзяржаваў Рэч Паспалітая ператварылася, па сутнасці, у канфедэрацыю асобных паветаў, дзе ўладарылі магнаты. У захаванні такога становішча вялікую зацікаўленасць мелі краіны-суседзі. Дамова 1764 г. паміж Расеяй і Прусіяй змяшчала сакрэтны артыкул, які абавязваў падтрымліваць у Рэчы Паспалітай шляхоцкія вольнасці і «лібэрум вэта».

Дзейнасць Сойма была паралізаваная шляхоцкім правам «лібэрум вэта» (ад лацінскага liberum veto – «вольная забарона»), у адпаведнасці з якім соймавая пастанова не прымалася, калі супраць яе выступіў хоць адзін дэпутат.



Вялікі князь і кароль Аўгуст III большую частку свайго трыццацігадовага ўладарання жыў у роднай Саксоніі. Ягоная супярэчлівая і недальнабачная палітыка ператварыла Рэч Паспалітую ў «заезную карчму» для войскаў суседніх дзяржаў



Пячатка і подпіс Аўгуста III



Арас (дыван ручной работы) з «Пагоняй» і белым арлом з каралеўскага замка на Вавелі. Кракаў

## ХРАНАЛОГІЯ

1767 г. – Слуцкая шляхоцкая канфедэрацыя.

1768 г. – Утварэнне патрыятычнай Барскай канфедэрацыі.

1772 г. – Першы падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне ўсходняй часткі Беларусі да Расейскай імперыі.

3 траўня 1791 г. – Прыняцце Соймам Рэчы Паспалітай першай у Еўропе Канстытуцыі.

1792 г. – Утварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі.

1793 г. – Другі падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне цэнтральнай Беларусі да Расейскай імперыі.

Паланез на свежым паветры. Карціна XVIII ст.





Дамы А. Тызенгаўза у Паставах – архітэктурны ансамбль другой паловы XVIII ст.

Тым не менш у 60-х гадах XVIII ст. у краіне з'яўляюцца сілы, што імкнуліся пераадолець яе глыбокі крызіс. Дзякуючы дзейнасці падскарбія Антона Тызенгаўза ў Беларусі была заснаваная значная колькасць мануфактур. Удасканаленнем сферы асветы пачала займацца агульнадзяржаўная Адукацыйная камісія. Сойм 1764 г. увёў абмежаванне на права «ліберум вэта». Але першыя спробы рэформаў выклікалі выбух незадаволенасці з боку магнатаў, што хацелі, як і раней, бязмежнага панавання ў дзяржаве. Такое становішча не прамінулі выкарыстаць суседнія краіны.



Падскарбі Вялікага Княства Літоўскага Антон Тызенгаўз спрабаваў праводзіць у краіне прагрэсіўныя эканамічныя рэформы

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі і сумежных тэрыторый у сярэдзіне XVIII ст.**



Да шляхоцкага герба «Радван» належалі болей за 150 родаў Рэчы Паспалітай, сярод якіх Дастаеўскія, Жарскія, Жаўрыды, Панкевічы, Радзішэўскія, Хмялеўскія, Шчыты, Юдзінкія, Яновічы



Крыж барскіх канфедэратаў, якія адстойвалі незалежнасць Рэчы Паспалітай



Вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі (1730–1800 гг.) перайшоў на бок патрыятычнай Барскай канфедэрацыі



Знак адрознення барскіх канфедэратаў у выглядзе рынграфа




Ордэны Рэчы Паспалітай з гербамі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства

## Першы падзел дзяржавы

У 1767 г. пры падтрымцы Расеі ў Слуцку была створаная канфедэрацыя (збройнае аб'яднанне) праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты. Яна абвясціла сваёй мэтаю дасягненне ў Рэчы Паспалітай роўнасці вернікаў розных канфесій. Пад лозунгам дапамогі канфедэратам Расея ўвяла сваё 40-тысячнае войска. Сойм мусіў задаволіць патрабаванні некаталікоў, а таксама скасаваць пастанову пра абмежаванне «лібэрум вэта».



Медаль у гонар гетмана Міхала Казіміра Агінскага. Медзь. Другая палова XVIII ст.



Варшава. Гравюра канца XVIII ст.

5 жніўня 1772 г. Расея, Аўстрыя і Прусія падпісалі ў Санкт-Пецярбурзе канвенцыю пра першы падзел Рэчы Паспалітай. Пад уладу царскага трона адышла ўсходняя частка Беларусі з гарадамі Полацкам, Віцебскам, Воршай, Магілевам, Гомелем, Рагачовам.



Удзельнік Барскай канфедэрацыі Тадэвуш Рэйтан (1742–1780 гг.). Абраны ў 1773 г. пасалом на Варшаўскі сойм ад Навагрудскага павета, разам з другім навагрудскім паслом С. Корсакам і менскім паслом С. Багушэвічам узначаліў змаганне супраць першага падзелу Рэчы Паспалітай



Маёнтак Рэйтанаў Грушаўка ў Менскай губерні. Малюнак Напалеона Орды




Менск. Гравюра 1770-х гадоў



Кацярына II. Невядомы мастак XVIII ст.

Пасля гэтага ўзбунтавалася каталіцкая шляхта, якая стварыла ў 1768 г. сваю канфедэрацыю ў мястэчку Бар на Украіне. Барскія канфедэраты атрымалі значную падтрымку ва ўсёй дзяржаве, у тым ліку і ў Беларусі. На іх бок перайшоў вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі. Аднак перамагчы рэгулярную расейскую армію канфедэрацкія войскі не маглі. У 1768–1771 гг. яны былі разбітыя. Рэч Паспалітая аказалася безабароннай перад магутнымі суседзямі.



Тагачасная карыкатура на падзелы Рэчы Паспалітай. Расейская імператрыца Кацярына II правай рукой паказвае на Полацак і цягне да сябе беларускія землі




Полацкая пячатка з старажытным гербам горада. 1791 г. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай мяжа паміж ёю і Расеяй прайшла па Дзвіне, падзяліўшы Полацак паміж дзвюма краінамі

Карта Вялікага Княства Літоўскага пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Блізу 1780 г.

3 траўня 1791 г. Сойм Рэчы Паспалітай зацвердзіў другую ў свеце (пасля ЗША) і першую ў Еўропе Канстытуцыю.



Шляхоцкі герб «Цялк», якім карыстаўся род Панятоўскіх



Срэбраны медаль у гонар Канстытуцыі 3 траўня 1791 г.

## Канстытуцыя 1791 года

Выратаваць дзяржаву ад пагібелі магла толькі цэнтралізацыя ўлады і неадкладныя рэформы. Такая магчымасць з'явілася, калі ў 1788 г. сабраўся чатырохгадовы Сойм. Яго дэпутаты заявілі пра незалежнасць і суверэнітэт Рэчы Паспалітай. Колькасць яе войска павялічвалася да 100 тысяч. Шляхоцкія прывілеі абмяжоўваліся, а мяшчане, наадварот, свае правы пашыралі, атрымаўшы, напрыклад, магчымасць набываць маёнткі. Гэта былі тыпова буржуазныя рэформы.

Адпаведна з прынятай Соймам у 1791 годзе Канстытуцыяй ствараўся адзіны ўрад, які павінен быў служыць «усяму грамадству, Кароне Польскай і Вялікаму Княству Літоўскаму». Канстытуцыя абвяшчала свабоду друку і сумлення, галоснасць і незалежнасць суду. Мяшчанам гарантавалася недатыкальнасць асобы. Дзяржава абяцала захоўваць рэлігійную талерантнасць.

Грамадства вітала Канстытуцыю, якая выводзіла краіну на шлях буржуазнага развіцця. За яе прагаласавалі 32 з 34 сабраных у Рэчы Паспалітай соймікаў. Але час быў упушчаны. Далейшы лёс краіны ўжо трымалі ў сваіх руках замежныя манархі.



Апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Мастак Юзаф Ксавер Гескі 1783 г.



Рэскрыпт Станіслава Аўгуста Панятоўскага



Горадня. Тут у 1793 г. адбыўся апошні Сойм Рэчы Паспалітай, скліканы дзеля зацвярджэння другога падзелу дзяржавы нашых продкаў. У абставінах непрыхаванага прымусу і дэманстрацыі Расеяй сваёй вайсковай сілы адбылося падпісанне дамовы, паводле якой значная частка тэрыторыі Беларусі была далучаная да Расейскай імперыі



Герб Горадні.
Адбітак з пячаткі 1792 г.

## Другі падзел дзяржавы

Пад эгідай імператрыцы Кацярыны II была ўтвораная Таргавіцкая (ад назову мястэчка Таргавіцы на Украіне) канфедэрацыя незадаволеных рэвалюцыйнымі пераменамі ў дзяржаве. У траўні 1792 г. канфедэраты следам за 100-тысячнай расейскай арміяй перайшлі мяжу Рэчы Паспалітай.

Вынікам інтэрвенцыі стаўся другі падзел дзяржавы. Расейская імперыя далучыла цэнтральныя беларускія землі прыкладна па лініі Друя–Пінск.

У зняважанай, разарванай на часткі краіне высьпяваў пратэст.

На тэрыторыі дзяржавы нашых продкаў дзейнічалі 100 тыс. царскіх салдат, з іх 30 тыс.– у Беларусі. Войска Рэчы Паспалітай было разбітае, Канстытуцыя і ўсе прагрэсіўныя рэформы скасаваныя.

Царква вуніяцкага манастыра ордэна базыльянаў у Барунах, пабудаваная ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі віленскага барока





Слуцкія паясы, якія былі важнай часткаю шляхоцкага ўбору, засталіся неперавыдзенымі творамі беларускіх майстроў другой паловы XVIII ст.



Медаль у гонар Марціна Пачобута-Адляніцкага – астранома і асветніка, дырэктара Віленскай абсерваторыі. Срэбра. 1775 г.

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII–XVIII СТАГОДДЗІ

Другая палова XVII і XVIII ст. адзначаныя важнымі зменамі ў беларускай культуры. Вельмі значнымі яны былі ў галіне асветы. З пачаткам рэформаў у Рэчы Паспалітай было створанае першае ў Еўропе міністэрства адукацыі – Адукацыйная камісія. У 1773–1793 гг. яна адчыніла ў Горадні, Ваўкавыску, Навагрудку, Паставах, Пінску, Мазыры, Бабруйску, Берасці ды іншых беларускіх гарадах і мястэчках 20 школ, заканчэнне якіх давала магчымасць паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У Рэчы Паспалітай іх было дзве: Кракаўскі і Віленскі універсітэты, але, як і раней, сотні беларускіх юнакоў выбіралі для працягу адукацыі таксама заходне-

На пачатку 80-х гадоў XVIII ст. у той частцы Беларусі, што не была далучаная да Расейскай імперыі, Адукацыйная камісія стварыла 200 пачатковых школ, у якіх 30% навучэнцаў складалі дзеці сялян.



Дыплом Віленскай акадэміі. 1728 г.




Прафесар старажытных усходніх моваў Полацкага калегіума Міхэль Квіен. Другая палова XVIII ст. Полацкая школа. Партрэт паходзіць з карціннай галерэі езуіцкай акадэміі ў Полацку



Беларускія старадрукі XVII–XVIII стст.

## ХРАНАЛОГІЯ

Каля 1600–пасля 1651 гг. – Жыццё і дзейнасць Казіміра Семяновіча.
1634–1689 гг. – Жыццё і дзейнасць Казіміра Льшчынскага.
1651–1714 гг. – Жыццё і дзейнасць Іллі Капіевіча.



Партрэт выхаванца мастацкай школы Полацкага езуіцкага калегіюма Фёдара Талстога – вядомага расійскага медальера і скульптара. Мастак Сяргей Заранка



Гомель. Палац Румянцавых-Паскевічаў. Малюнак Напалеона Орды







Кніга Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі» (Амстэрдам, 1650 г.) была перавыдадзеная ў Англіі, Францыі, Нямеччыне, Даніі, Польшчы ды іншых еўрапейскіх краінах

Беларус Казімір Семяновіч вынайшаў шматступеневую ракету і стаў аўтарам шэрагу іншых вынаходак у гэтай сферы, што дае ўсе падставы лічыць яго папярэднікам К. Цыялкоўскага, Р. Бінга і Р. Годарда. У 1650 г. у Амстэрдаме выйшла кніга Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі», якая была перакладзеная на асноўныя еўрапейскія мовы.

еўрапейскія універсітэты. Значную ролю ў пашырэнні навуковых ведаў адыграла Медычная школа ў Горадні, кіраўніком якой быў вядомы французскі вучоны Ж. Э. Жылібэр, аўтар двухтомавай фундаментальнай працы «Літоўская флора».

Статут Адукацыйнай камісіі ставіў перад выкладчыкамі задачу імкнуцца, каб іх выхаванцы больш дасягалі поспехаў разважаннямі, чым «завучваннем на памяць». Ад рэлігійных навук прыярытэт пераходзіў да прыродазнаўчых і грамадскіх. Але выкладанне ішло на польскай мове. (Беларуская страціла ў Вялікім Княстве Літоўскім свой дзяржаўны статус яшчэ ў 1697 г. Тады Сойм Рэчы Паспалітай прыняў адпаведную пастанову, якая рэзка звузіла сферу выкарыстання нашай мовы.)



Гадзіннік з Гомельскага палаца Румянцавых – Паскевічаў. XVIII ст.



Экслібрыс бібліятэкі
Яна Фрыдэрыка Сапегі.
Гравюра па медзі. 1736 г.

Вялікі ўплыў на светапогляд дзеячоў беларускай культуры зрабілі ідэі французскіх асветнікаў Вальтэра, Д. Дзідро, Ш. Мантэск'ё, Ж. Ж. Русо. У Беларусі распаўсюджваліся творы прагрэсіўных расейскіх і польскіх аўтараў А. Радзішчава, С. Сташыца, Г. Калантая. Значнымі цэнтрамі культурнага жыцця былі рэзідэнцыі магнатаў Радзівілаў, Сапегаў, Храптовічаў, Агінскіх, Тызенгаўзаў. Яны мелі шматтысячныя кнігазборы, запрашалі да сябе на службу знакамітых вучоных. Ж. Ж. Русо, напрыклад, пагадзіўся на прапанову А. Тызенгаўза пасяліцца ў Беларусі, і толькі выпадак не дазволіў яму гэтага зрабіць.

Тагачасная Беларусь дала Еўропе шмат выдатных талентаў. Сярод іх берасцейскі шляхціч філосаф Казімір Лышчынскі, якога называюць беларускім Джардана Бруна. За напісанне трактата «Аб неіснаванні бога» мысляр быў пакараны смерцю.



Адзін з стваральнікаў і сяброў Адукацыйнай камісіі, канцлер Вялікага Княства Літоўскага Яўхім Ігнат Язэп Літавор Храптовіч

Герб роду
Храптовічаў
«Ядравуж»



Бібліятэка Храптовічаў у Шчорсах пад Навагрудкам. Гравюра XIX ст.





Плённа займаўся выдавецкай дзейнасцю ў Амстэрдаме асветнік і перакладнік, выхаванец Слуцкай кальвінскай школы Ілля Капіевіч. Дзякуючы яму выйшлі першыя расейскамоўныя падручнікі арыфметыкі, граматыкі, рыторыкі, астраноміі, марской справы. Наш суайчыннік стварыў гэтак званы грамадзянскі кірылічны шрыфт, які ў 1708 г. зацвердзіў Пётр I. Новыя літары ў Расеі яшчэ доўга называлі «беларускай азбукай». Менавіта ёю карыстаюцца сёння народы, пісьменства якіх заснаванае на кірыліцы.

Размалёўка скляпенняў касцёла Божага цела ў Нясвіжы. Мастак Ксавер Дамінік Гескі. 1763 г.

Добра ведалі ў Еўропе імя выхадца з гарадзенскай шляхты, вучонага-прыродазнаўца Марціна Пачобута-Адляніцкага (1728–1810), што актыўна працаваў у Адукацыйнай камісіі. Ён стаў арганізатарам і дырэктарам Віленскай астранамічнай абсерваторыі, узначальваў Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага (былую Віленскую акадэмію).



Рэктар Віленскай альма-матэр Марцін Пачобут-Адляніцкі. Узначальваючы Віленскую астранамічную абсерваторыю, адкрыў новае сузор'е, вызначыў дакладныя геаграфічныя каардынаты Вільні, Гародні ды іншых беларускіх гарадоў. За шматлікія навуковыя дасягненні быў абраны сябрам-карэспандэнтам Парыжскай акадэміі навук. Мастак Язэп Аляшкевіч



Герб «Агінец», якім карыстаўся род Агінскіх



Партрэт вялікага гетмана Міхала Казіміра Агінскага – кампазітара, паэта і мецэната. Невядомы мастак. Другая палова XVIII ст.



Урачысты строй кавалера ордэна святога Станіслава з слуцкім поясам



Царская брама. Сярэдзіна XVIII ст.



Кубак з славутай Налібоцкай шкляной мануфактуры князёў Радзівілаў, дзе выпускалася болей за 100 відаў высокамастацкіх вырабаў



Полацкі Сафійскі сабор, адноўлены ў 1738–1750 гг. у стылі віленскага барока. Архітэктар Ян Глаўбіц. Выгляд з апсіды



Нясвіжскі замак у XVIII ст. Малюнак-рэканструкцыя Яўгена Куліка

Касцёл Узнясення Маці Божай у Глыбокім, перабудаваны ў 1735 г. паводле праекта Яна Глаўбіца, стаў адным з першых узораў віленскага барока





Слуцкая брама ў Нясвіжы – помнік архітэктуры барока канца XVII–першай паловы XVIII ст.

Пінскі калегіюм езуітаў. 1651–1675 гг.





Міхайлаўская царква (XVIII–XIX стст.) у Слуцку была ўзведзеная з дрэва ў традыцыях народнага дойлідства з элементамі стылю барока і класіцызму

Значныя здабыткі мелі ў гэтым часе архітэктура і мастацтва. Паводле праектаў славутых дойлідаў Я. Глаўбіца, Дж. Сака, К. Спампані ды іншых у Беларусі ўзводзяцца і перабудоўваюцца палацава-паркавыя ансамблі ў Горадні, Слоніме, Ружанах, Шчорсах, Дзярэчыне. Магнацкія рэзідэнцыі аздабляюцца высокамастацкімі габеленамі і партрэтамі. Апісанне Нясвіжскага замка Радзівілаў 1770 г. пералічвае 984 творы выяўленчага мастацтва на палатне і дрэве.

Адзін з найлепшых узораў барока ў Беларусі – гарадзенскі касцёл Святога Францішка Ксавера (езуіцкі). Канец XVII ст.





Святы Фелікс. Дрэва, разьба; золачанне. Пачатак XVIII ст.

Галоўны алтар касцёла Святога Францішка Ксавера ў Горадні ўражвае сваёй унікальнай разьбой і скульптурай. 1737–1760 гг.



«Божае нараджэнне». Гравюра Аляксандра Тарасевіча з кнігі «Разарыюм». Друкарня Віленскай акадэміі. 1680 г.



Гравёр Васіль Ваннчанка. Тытульны аркуш кнігі «Неба новае». Магілёў. 1699 г.



Васіль Ваннчанка. Тытульны аркуш да «Кнігі жыццяпісаў святых». Магілёў. 1702 г.



Партрэт Марыянны, жонкі менскага ваяводы Адама Хмары. 1763 г. Невядомы мастак



Партрэт невядомага ў касцюме XVIII ст. З Нясвіжскай калекцыі Радзівілаў



Францішак Смуглевіч. Сям'я Прозараў. 1789 г.



А. Тарасевіч. Партрэт менскага харужага Г. Клакоцкага. Гравюра на медзі. Слуцак. 1658 г.



Княгіня Францішка Уршуля Радзівіл засталася ў гісторыі як заснавальніца Нясвіжскага тэатра і аўтарка шматлікіх драматычных твораў, што ставіліся на яго сцэне. Гравёр Гершка Лейбовіч. Сярэдзіна XVIII ст.

KOMEDYE
Y
TRAGEDYE
Przednio dowcipnym Wynalazkiem
ZNAMIENITE
RADZIWIŁŁOWA.
Woiewodzinę Wilenska, Hetmanowa Wielka
W. X. Lit:
ZŁOZONE
W NIESWIZU,
POKAZANE
Zawsze iednostaynym, Naygodnieyszych
WYCHWALONE
PODANE
ROKU
1754

Кніга Францішкі Уршулі Радзівіл «Камедыі і трагедыі», 1754 г.



Фрагмент шпалеры «Бітва пад Мазыром». Ткалля Марыя Кулакоўская з Карэліцкай мануфактуры. Другая палова XVIII ст.

Выдатнай з'явай беларускай культуры былі прыватныя тэатры. Найбольшай вядомасцю ў Беларусі і далёка за яе межамі карысталіся тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку, Тызенгаўзаў у Горадні, Агінскіх у Слоніме.

Беларускія магнаты запрашалі да сябе прызнаных майстроў тэатральнага мастацтва з Заходняй Еўропы, але аснову трупы заўсёды складалі акторы і музыкі з мясцовых сялян і мяшчан. Гарадзенскі балет і слонімскія танцоры склалі пазней аснову каралеўскага Варшаўскага балета. У прыватных тэатрах ставіліся п'есы Мальера, камедыі Вальтэра, драматургічныя творы княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл.

У адрозненне ад эканомікі і палітычнага жыцця ў гісторыі нашай культуры гэты час не стаў перыядам заняпаду. Беларусь адчула на сабе дабратворны ўплыў еўрапейскай эпохі Асветніцтва.



Адзін з выдатных узораў беларускіх слуцкіх паясоў з залочанага шоўку. Другая палова XVIII ст.



# ПАЎСТАННЕ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

Мэты паўстання, якое выбухнула ў 1794 г., былі ясна акрэсленыя: поўная незалежнасць Рэчы Паспалітай, яе аднаўленне ў межах 1772 г., вяртанне Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. На чале паўстання стаў Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.



Угары – спражка пад шаблю з партрэтам Касцюшкі

Сядзіба ў Мерачоўшчыне каля Косава (цяпер Івацэвіцкі раён), дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка

Ён паходзіў з старажытнага шляхоцкага беларускага роду і нарадзіўся на хутары Мерачоўшчына паблізу Косава (цяпер Івацэвіцкі раён). Пасля навучання ў Варшаўскім кадэцкім корпусе і Парыжскай вайсковай акадэміі Касцюшка добраахвотнікам удзельнічаў на баку рэспубліканцаў у вайне за незалежнасць ЗША, дзе даслужыўся да генерала і за шэраг перамог, атрыманых дзякуючы яго таленту вайсковага інжынера, стаў нацыянальным героем гэтай краіны. (Яму пастаўленыя помнікі ў Вашынгтоне, Чыкага, Кліўлендзе ды іншых амерыканскіх гарадах, а ў штаце Місісіпі ягоным імем названы горад.)

На нашых землях паўстанцамі кіраваў трыццацітрохгадовы палкоўнік Якуб Ясінскі, што належаў да гэтак званых «віленскіх якабінцаў». Ён быў гарачы прыхільнік ідэяў Французскай рэвалюцыі, хацеў знішчыць прыгон, пісаў па-беларуску вершаваныя пракламацыі.




Зброя паўстанцаў-касінераў і харугва, якую Т. Касцюшка ўручыў ім пад час абароны Варшавы ад царскіх карнікаў



Тадэвуш Касцюшка ў пераможнай бітве пад Рацлавіцамі. Мастак Юліюш Косак

ХРАНАЛОГІЯ

1746–1817 гг. – Жыццё і дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі.

1794 г. – Вызвольнае паўстанне Т. Касцюшкі.

Кастрычнік 1795 г. – Трэці падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне заходняй часткі Беларусі да Расейскай імперыі.



Галоўнай сілай нацыянальна-вызвольных паўстанняў на захопленых Расеяй землях Вялікага Княства Літоўскага заўсёды была шляхта. Шляхоцкі герб «Рох III», якім карыстаўся род Касцюшкаў

Вярнуўшыся на радзіму, Тадэвуш змагаўся супроць Таргавіцкай канфедэрацыі, а пасля пачатку паўстання быў абвешчаны яго начальнікам і галоўнакамандуючым узброенымі сіламі.

Следам за Польшчай, дзе паўстанне ўспыхнула 24 сакавіка, у красавіку ўзялася за зброю Беларусь. Тут быў створаны часовы рэвалюцыйны ўрад – Найвышэйшая Літоўская Рада.

У паўстанні брала ўдзел патрыятычная шляхта, мяшчане, святарства, узброеныя косамі сяляне-касінеры. Змагары спявалі «Песню беларускіх жаўнераў»:

*Помнім добра, што рабілі.*
*Як нас дзёрлі, як нас білі.*
*Дакуль будзем так маўчаці?*
*Годзе нам сядзець у хаце!*
*Нашто землю нам забралі?*
*Нашто ў путы закавалі?*
*Дочкі, жонкі нам гвалцілі.*
*Трэ, каб мы ім заплацілі!*
*Здрада ёсць ужо ў сенаце,*
*А мы будзем гніць у хаце?*
*Возьмем косы ды янчаркі,*
*Пачнем гордыя гнуць каркі!*
*Коней нам пазаязджалі,*
*Што хацелі, то і бралі.*
*Пойдзем жыва да Касцюшкі,*
*Рубаць будзем маскалюшкі!*



Нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Гравюра пачатку XIX ст.



Ордэн «Virtuti Militari», які быў уведзены апошнім манархам Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім

Напачатку беларускія сяляне актыўна дапамагалі паўстанцам, наверыўшы ў абяцанне Найвышэйшай Літоўскай Рады скасаваць прыгоннае права.



Прысяга Тадэвуша Касцюшкі на Кракаўскім рынку 24 сакавіка 1794 г. Мастак Міхал Стаховіч Пачатак XIX ст.



Паўстанцы 1794 г. (злева – афіцэр, праваруч – бамбардзір). Праект мундзіраў



Адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г. Стафан Грабоўскі (1767–1847 гг.) нарадзіўся на Навагрудчыне



Лагер паўстанцкіх войскаў. Вясна 1794 г. Мастак Міхал Стаховіч

Паўстанцы ўзялі ўладу ў Вільні, Гродні, Берасці, Навагрудку, Слоніме, Пінску, Ваўкавыску, Кобрыні, Ашмяне, Лідзе, Браславе.



Пячатка Найвышэйшай Рады – часовага паўстанцкага ўрада Вялікага Княства Літоўскага



Кіраўнік паўстання ў Беларусі палкоўнік Якуб Ясінскі (1761–1794 гг.)

Але сілы былі няроўныя. Апрача таго, паўстанцкія ўлады нічога не зрабілі дзеля вызвалення сялян. Міхал Клеафас Агінскі (ён напісаў не толькі свой славуты паланез «Развітанне з Айчынай», але і «Марш паўстанцаў 1794 года») спрабаваў з трыма тысячамі змагароў прабіцца на Меншчыну, ды быў у чэрвені разбіты. Інсургентам на чале з Стафанам Грабоўскім удалося прасунуцца далей, але ў верасні ў баі пад Любанню яны мусілі капітуляваць.



Удзельнік паўстання 1794 г., дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар і дыпламат Міхал Клеафас Агінскі (1765–1833 гг.). Літаграфія сярэдзіны XIX ст.



План бітвы каля Мацяёвіцаў 10 кастрычніка 1794 г., дзе Тадэвуш Касцюшка быў цяжка паранены і трапіў у палон



Касінеры сялянскага паспалітага рушання 1794 г. Акварэль мастака Міхала Стаховіча





Расейскі імператар Павел I наведвае Касцюшку ў вязніцы (злева)

Павел I вяртае паўстанцкаму правадыру шаблю.

Тагачасныя малюнкі

У лістападзе 1794 г. паўстанне было канчаткова патоплена ў крыві. Праз год адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай.



Сутычка паўстанцкай кавалерыі з расейскай пяхотай. Мастак Аляксандр Арлоўскі. 1794 г.



Медаль у гонар Тадэвуша Касцюшкі. Медзь. 1818 г.

У стане паўстанцаў пачаліся рознагалоссі. Касцюшка пабаяўся абаперціся на просты народ. Яго палохала рэвалюцыйная праграма Якуба Ясінскага і намер таго аднавіць дзяржаўную незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Адначасова царызм вёў хітрую прапаганду сярод беларускага сялянства, абяцаючы яму забраную ў «паноў-бунтаўнікоў» зямлю. Найвышэйшая Літоўская Рада была абвінавачаная ў сепаратызме, у дзеяннях супраць «вуніі братніх народаў» і распушчаная, а Ясінскі зняты з пасады начальніка войскаў. Гэта яшчэ больш аслабіла паўстанцаў, і ў жніўні расейская армія заняла Вільню.

Паўстанне жорстка душылі рэгулярныя, загартаваныя ў захопніцкіх паходах царскія войскі Аляксандра Суворава. За здзейсненыя ягонымі салдатамі ў 1794 г. крывавыя подзвігі Сувораў атрымаў ад імператрыцы Кацярыны II Кобрынскую воласць ды іншыя беларускія землі з 13279 душамі прыгонных сялянаў.



Шарговец паўстанцкага войска. 1794 г.

Аўстрыя і Прусія захапілі польскія, частку ўкраінскіх і летувіскіх земляў. Расея «прырэзала» сабе ўсю Беларусь і большую частку Летувы і Украіны. Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ператварыўся ў вязня. Дзяржаву напаткаў гістарычны скон.



Мемарыяльны камень «Ценям Касцюшкі» ў парку колішняга маёнтка Агінскіх у Залессі (Смаргонскі раён)

# БЕЛАРУСЬ У РАСЕЙСКАЙ ІМПЕРЫІ



Дзесяцірублёвая царская асігнацыя. 1821 г.

Феадальная гаспадарка ў Расеі вылучалася прымітыўнасцю, а формы прыгону былі больш цяжкія параўнальна з тымі, што існавалі ў Рэчы Паспалітай.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай даўняя мара расейскіх цароў здзейснілася: Беларусь стала часткаю Расейскай імперыі. Маркс і Энгельс трапна назвалі гэтую краіну жандарам Еўропы, а Ленін – турмой народаў.

Абсалютная большасць шляхты і магнатаў далі прысягу на вернасць царскаму трону і захавалі свае маёнткі і прывілеі.

208,5 тысячы душ «мужеска полу» Кацярына II і яе сын імператар Павел I раздалі ў беларускіх губернях сваім лваранам. Такім чынам, блізу паўмільёна беларусаў зрабіліся прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, прычым значная частка гэтых сялянаў раней былі асабіста свабодныя.

Беларускіх сялян, якія ў бальшыні сваёй раней плацілі грашовы аброк, пагналі на паншчыну. Памешчыкі шырока практыкавалі здачу тысяч прыгонных на будаўнічыя работы ў далёкія расейскія губерні.



У Расейскай імперыі пачалося занядбанне і руйнаванне помнікаў беларускай архітэктуры. Касцёл даміцыканцаў у в. Зембін (Барысаўскі раён) быў зачынены ў 1833 г.



Панская сядзіба ў в. Чырвоны Бераг (цяпер Жлобінскі раён). XIX ст.



Герб Шаршнова. Старадаўнія гербы гарадоў і мястэчак, як і магдэбургскія вольнасці, пасля захопу Беларусі сталі толькі ўспамінам

У беларускіх гарадоў адабралі старыя гербы і скасавалі магдэбургскае права.

У выніку жорсткай эксплуатацыі беларускае сялянства жыло ў надзвычайнай беднасці. Віцебскі губернатар у справаздачы за 1807–1809 гг. пісаў, што толькі нямногія з сялянаў харчуюцца чыстым хлебам, а ўсе астатнія «заўсёды дамешваюць да яго мякіну». Так ажыццяўлялася абяцанне Кацярыны II зрабіць далучаныя да імперыі народы «соучастниками блаженства, величия и полного изобилия».



Ротны сцяг Беларускай гусарскай харугвы, у якой служылі нашы суайчыннікі. 1776–1783 гг.

Галаўны ўбор палкоўніка Беларускага гусарскага палка (злева) іківер ніжніх чыноў Гарадзенскага лейб-гвардыі гусарскага палка 1824–1825 гг.

Шчыт «аб'яднаных гербаў княстваў беларускіх» (Полацкага, Віцебскага, Амсціслаўскага). 1857 г.



Шчыт «аб'яднаных гербаў княстваў і абласцей Паўночна-Заходняй Расеі» (Вялікае Княства Літоўскае, Самагіція, Беластоцкая вобласць). 1857 г.



Беларусы рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх паходах. Толькі ў 1811 г. Беларусь дала ў расейскую армію 14750 рэкрутаў.

Дробную шляхту, што не магла давесці дакументамі сваіх правоў, пераводзілі ў падатковы стан. Падаткі ў беларускіх губернях, адрозна ад расейскіх, дзяржава да 1811 г. збірала не ў асігнацыях, а ў звонкай манеце. Паводле неафіцыйнага курсу 100 папяровых рублёў былі роўныя 22 рублям срэбрам.

На змену расфармаванаму новымі ўладамі войску Вялікага Княства Літоўскага прыйшлі невядомыя дагэтуль Беларусі рэкруцкія наборы. У рэкруты бралі маладых здаровых мужчын ва ўзросце ад 19 да 35 гадоў. Мірным часам Пецярбург вымагаў ад 500 душ аднаго салдата, у вайну – чатыры, пяць і нават восем. Родныя праводзілі іх, не раўнуючы, як на той свет. Да 1793 г. рэкруты служылі ўсё жыццё, потым тэрмін абмежавалі «ўсяго» чвэрткай стагоддзя, а наступнае скарачэнне службы – да дваццаці гадоў – адбылося толькі ў 1834 г.



Колішні герб мястэчка Ліпнішкі Лідскага павета



Шарагавец і трубач Беларускага гусарскага палка. 1809–1811 гг.

Дваццаціпяцірублёвая асігнацыя. 1810 г.



№1699626

ОБЪЯВИТЕЛЮ СЕЙ ГОСУДАРСТВЕННОЙ АССИГНАЦИИ ПЛАТИТЪ АССИГНАЦИОННЫЙ БАНКЪ ДВАДЦАТЬ ПЯТЬ РУБЛЕЙ ХОДЯЧЕЮ МОНЕТОЮ

1810 ГОДА.

№1699626 №1699626

Графін і флеты. Налібоцкая шкляная мануфактура





Шляхоцкі герб «Котвіч», да якога сярод іншых належалі роды Калячыцкіх, Крыцкіх, Ляшкевічаў, Радаміцкіх, Струмінскіх, Талкачоў. Шляхта колішняга Вялікага Княства не была польскаю: яна, хоць і пісала пераважна па-польску, была мясцовага паходжання, ніколі не захоплівала гэтай зямлі, а, наадварот, бараніла яе ад ворагаў, паўставала супроць акупантаў, добра ведала беларускую мову, фальклор і традыцыі народа



Полацкі вуніяцкі арцыбіскуп Ясон Юнаша-Смаргажэўскі. Канец XVIII ст.

Беларусаў пазбавілі права набываць адукацыю ў замежных універсітэтах, якім яны карысталіся цягам некалькіх сотняў гадоў.



Абраз Маці Божай з францысканскага касцёла Спачыну Дзевы Марыі ў Пінску. Невядомы мастак. 1730-я гады

Расея не ведала нацыянальнай і рэлігійнай талеранцыі. Беларусаў наогул не прызнавалі за асобны народ, лічылі крыху папсаванымі палынчызнаю рускімі. Адпаведнае стаўленне было і да мовы. Нашых продкаў пазбавілі нават права на ўласныя імёны і прозвішчы. Адразу пасля захопу ўсходніх беларускіх земляў царскія пісарчукі пазапісвалі Язэпаў «Иосифами», Міхасёў – «Михаилами», Тамашоў – «Фомами». Жукі ператварыліся ў «Жукавых», Каты – у «Котовых», Кавалі – у «Ковалёвых»...

На загад Кацярыны II «для собственного употребления по упражнению ея в исторических сочинениях» з беларускіх манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк у Пецярбург вывозілі летапісы і архівы найбольш славутых шляхоцкіх родаў.

Царызм не мог пакінуць без увагі і навучальныя ўстановы. Над некаторымі ўвялі вайсковы нагляд.

Рабіліся спробы вярнуць тых, хто ўжо вучыўся ў Еўропе. Моваю навучання ў беларускіх школах і навучальнях у першыя дзесяцігоддзі пасля анексіі была польская. Гэта можа здавацца дзіўным, але якраз тады, ужо ў Расейскай імперыі, паланізатары дасягнулі вялікіх поспехаў. У Пецярбурзе лічылі, што на захопленых землях лепей мець справу з адными палякамі.

З другога боку, няўхільна набірала абароты русіфікацыя. Не было даверу нават лаяльнаму да Пецярбурга праваслаўнаму духавенству. Святароў-беларусаў пераводзілі ўглыб імперыі, а на вызваленыя месцы адтуль ехалі расейцы, што не ведалі ні мовы, ні мясцовых традыцый. Яны падазрона перачытвалі спісы беларускіх святых, паніжалі іх у рангах, бязлітасна змагаліся з калядаваннем, купаллямі ды іншымі спрадвечнымі звычаямі.

Пабудаваны базыльянамі Жыровіцкі манастыр пад Слонімам амаль два стагоддзі быў адным з цэнтраў грэка-каталіцкай (вуніяцкай) царквы Беларусі





Штоф. Урэцкая мануфактура. Бясколернае шкло, гравіроўка, дрэва, разьба, шліфоўка. Канец XVIII – пачатак XIX ст.






Гербам «Суліма» карысталіся каля 40 шляхоцкіх родаў, сярод якіх Анкудовічы, Вусакоўскія, Гаеўскія, Гарбатоўскія, Гарбоўскія, Заблоцкія, Лычкоўскія, Савічы, Самуйлы, Сулкоўскія

Менскі пляц Высокі рынак з ратушай, зруйнаванай расейскімі ўладамі, каб знішчыць памяць пра самакіраванне паводле магдэбургскага права. Малюнак канца XVIII ст.



Фаварыт імператрыцы Кацярыны II Сямён Зорыч, які ў 1778 г. атрымаў ад яе ва ўладанне мястэчка Шклоў

Пра стаўленне вернікаў да гэтых праваслаўных «місіянераў» губернатары дакладвалі Паўлу І: «Присланные священники не способны к исполнению своих обязанностей и к поддержанию хороших отношений с людьми, этот край населяющими. Они стали ненавистны народу». Вуніятаў, якія тады складалі 75% беларускага насельніцтва, пачалі прымусова пераводзіць у праваслаўе.

У 1794 г. расейскія ўлады ўстанавілі гэтак званую «мяжу аселасці», за якой юдэі не мелі права сяліцца. Але і на дазволенай тэрыторыі яны не маглі жыць за межамі гарадоў і мястэчкаў. Габрайскія мяшчане, купцы і рамеснікі мусілі плаціць удвая большыя за хрысціян дзяржаўныя падаткі.

Каланіяльны стан былога Вялікага Княства Літоўскага змушаў многіх патрыётаў пакідаць радзіму. Незадаволеныя новымі парадкамі былі і шырокія колы астатняга насельніцтва.

Слуцкія паясы ў розныя часы натхнялі паэтаў і кампазітараў





Адзін з кітабаў – рэлігійна-этычных кніг, напісаных па-беларуску арабскім пісьмом. Кітабы ствараліся татарамі, якія жывуць у Беларусі з XIV ст.

Абмежавальныя законы былі прынятыя ў дачыненні да габраяў.



Габрайская карчма ў ваколіцах Вільні

# ВАЙНА 1812 ГОДА



Афіцэрская шапка і брылём, якая на пачатку XIX ст. была пашыраная ў еўрапейскіх арміях



Напалеон. 1809 г.

Паўмільённае войска Напалеона Банапарта перайшло расейскую мяжу 24 чэрвеня, у ноч на Янаў дзень. Праз чатыры дні колішняя сталіца Вялікага Княства ўжо вітала французскага імператара. Вільня грымела воклічамі: «Слава вызваленцу!» Першымі ў горад пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўвайшлі жаўнеры князя Дамініка Радзівіла, які сваім коштам стварыў і ўзброіў уланскі полк.

6 ліпеня не менш урачыстая сустрэча была наладжаная ў Менску войскам французскага маршала Даву.

На землях Беларусі, Летувы і Украіны Напалеону супрацьстаялі тры расейскія арміі генералаў М. Барклая дэ Толі, П. Баграціёна і А. Тормасава. Яны атрымалі некалькі лакальных перамог, але, не маючы магчымасці злучыцца і ўступіць у генеральную бітву, адыходзілі ўглыб краіны. Каля мястэчка Клясціцы паблізу Полацка корпус маршала Удзіно быў пераможаны Якавам Кульневым, але ўсё ж Полацак застаўся ў руках французаў, а сам расейскі генерал загінуў.

Вайна 1812 г. для Беларусі была зусім не такой, як для Расеі.

15 жніўня імперыя Напалеона – ад Гішпаніі да Беларусі – адзначала ягоны дзень нараджэння. У гарадах былога Вялікага Княства віселі партрэты Банапарта з святочнымі надпісамі. Газеты пісалі пра «волатаўскія крокі непераможных палкоў вялікага імператара» і пра шматлікія ахвяраванні на ягонае войска. У шляхоцкіх дамах падымалі тосты і крычалі «віват», аднак келіхі звінелі зусім не так радасна, як на пачатку паходу.

Атака данскіх казакоў генерала Платава пад Нясвіжам у чэрвені 1812 г. Літаграфія. 1912 г.





Узор фальшывых асігнацыяў, выпушчаных на загад Напалеона на занятай тэрыторыі Расейскай імперыі



Сумка і пояс грэнадзёра напалеонаўскай арміі

## ХРАНАЛОГІЯ

24 чэрвеня 1812 г. – Пераправа Вялікай арміі Напалеона цераз Нёман.

1 ліпеня 1812 г. – Утварэнне Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага.

1 жніўня 1812 г. – Загад Напалеона аб стварэнні войска Вялікага Княства Літоўскага.

26–28 лістапада 1812 г. – Пераправа французскай арміі цераз Бярэзіну.



Знакамітая бітва пры Клясціцах паблізу Полацка. Ліпень 1812 г. Мастак Петэр Гэс



Генерал-маёр кавалерыі Якаў Кульнеў – герой баёў пад Клясціцамі



Герб Кобрына, у якім войскі Напалеона атрымалі адну з першых паразаў

Часовы ўрад Вялікага Княства мусіў падпарадкоўвацца французскім камісарам. За абяцанне аднавіць незалежнасць Напалеон вымагаў стотысячнага войска і велізарных паставак фуражу і харчу. Пачаліся бясконцыя рэквізіцыі. Сяляне марна чакалі скасавання прыгону, патрыёты Княства – магчымасці адбудовы дзяржавы.

Роўна праз месяц пасля Вільні імператар уступіў у Віцебск. Не зважаючы на цяжкія страты і ваенныя няўдачы пад Кобрынем, Мірам і Полацкам, Банапарт прайшоў ад памежнага Нёмана сотні вёрстаў і набыў пяць мільёнаў новых падданых.

Перад пачаткам паходу Напалеон казаў маршалам: «Я завяршу кампанію ў Смаленску і ў Менску. У Вільні, дзе ў гэтую зіму будзе мая галоўная кватэра, я займуся ўпарадкаваннем Літвы... Я не перайду Дзвіны.

Беларускія землі афіцыйна называліся «вызваленымі ад расейскага прыгнёту», але на сапраўднае адраджэнне нашай дзяржавы гэта было мала падобна.

Бітва каля Краснага Смаленскай губерні. Жнівень 1812 г. Мастак Петэр Гэс





Шпага з карункавай гардай. Еўропа. 1807 г. Рэканструкцыя мастацкай суполкі «Коўчэг»

Перад Барадзінскаю бітвай валадар Еўропы мусіў накіраваць 10 тысяч жаўнераў на дапамогу 12-тысячнаму віцебскаму гарнізону, які партызаны фактычна трымалі ў аблозе.


Расейская кіраса. Пачатак XIX ст.


Каска унтэр-афіцэра расейскай кавалерыі


Афіцэры Гарадзенскага гусарскага палка. 1809–1811 гг.

Рухацца сёлета далей – гэта ісці насустрач сваёй пагібелі». Хто ведае, як павярнулася б кола гісторыі, каб Банапарт папраўдзе спыніўся, прыслухаўся да сваіх прыхільнікаў з Вялікага Княства, даў волю сялянам, як зрабіў гэта ў Варшаўскім княстве? Але ў Віцебску ён прыняў фатальнае рашэнне ісці на Маскву. Імкненне народаў да незалежнасці мала хвалявала яго: на штабных картах з'явіліся стрэлкі, якія пазначалі паход на Індыю.

У жніўні Напалеон падпісаў новы ўказ аб рэквізіцыях, паводле якога з пяці губерняў Вялікая армія павінна была атрымаць 528 тысяч тон збожжа, 100 тысяч тон аўса і 53 тысячы кароў.

Сяляне браліся за косы і сякеры. Перамена ў стаўленні беларусаў да Напалеона істотна блытала яму карты. З Часовага ўрада выйшаў колішні заўзяты банапартыст Аляксандр Сапега, што няраз выконваў асабістыя разведвальныя даручэнні французскага імператара.


Штурм Полацка расейскімі войскамі 7 кастрычніка 1812 г. Мастак Петэр Гэс



Адыход французскай арміі праз Вільню. Мастак Ян Дамель

Удзельнік паўстання 1794 г. Юзаф Панятоўскі ў часе паходу Напалеона ў Расею камандаваў 5-м корпусам Вялікай арміі

Восеньскае адступленне былой Вялікай арміі з Масквы неўзабаве ператварылася ва ўцёкі. У кастрычніку–лістападзе расейскія войскі авалодалі Полацкам, Віцебскам, Менскам, Магілевам, Барысавам. Каля вёскі Студзёнкі паблізу Барысава французы з вялікімі стратамі пераправіліся праз Бярэзіну і бязладна адступалі далей на захад. У мястэчку Смаргонь Напалеон, пераапрануўшыся ў мундзір польскага ўлана, пакінуў сваіх жаўнераў.

Нягледзячы на тое што шмат сялянаў змагаліся супроць французаў у партызанскіх аддзелах, прыгон у беларускай вёсцы пасля 1812 г. рэзка ўзмацніўся.

У выгнанні, на закінутым у акіяне скалістым востраве Святой Алены, Банапарт шмат разоў вяртаўся ў думках на беларускую зямлю. На схіле дзён ён лічыў зробленыя ў Беларусі памылкі – не столькі ваенныя, як палітычныя – прычынаю свайго разгрому ў 1812 г.

Напалеонаўская авантура каштавала Беларусі мільён яе жыхароў, кожнага чацвертага. Адны загінулі ў баявых дзеяннях, другія – ад голаду і пошасцяў. Частка беларускіх палкоў Вялікай арміі, у якіх служылі 25 тысяч нашых суайчыннікаў, была разбітая, частка адступіла і ваявала ў Еўропе – на чужыне і за чужыя інтарэсы.



Пераправа праз Бярэзіну. Мастак Петэр Гэс. Рашучым контрударам Напалеону ўдалося выбіць генерала Чычагова з Барысава і пераправіць пры канцы лістапада свае войскі праз Бярэзіну. Гэта дазволіла рэшткам Вялікай арміі адступіць на Смаргонь і Вільню

# ТАЕМНЫЯ ТАВАРЫСТВЫ



Юбілейны медаль у гонар стагоддзя Міцкевіча. Медзь. 1898 г.

На захопленых Расеяй беларускіх землях не спыняўся нацыянальна-вызвольны рух. Магутным асяродкам вальналюбных ідэй і памкненняў быў Віленскі універсітэт. Менавіта там з ініцыятывы студэнтаў Тамаша Зана, Язэпа Яжоўскага, Адама Міцкевіча, Анупрэя Петрашкевіча і Францішка Малеўскага было заснаванае таемнае патрыятычнае таварыства філаматаў, што атрымала назоў ад грэцкага слова philomáthēs (той, хто імкнецца да ведаў).

Напачатку філаматы ставілі перад сабою толькі культурніцкія мэты, выступалі за паляпшэнне асветы, але ў тагачасных умовах наступу рэакцыі маладымі нелегаламі хутка авалодалі палітычныя ідэі. У праграме таварыства з'явіліся патрабаванні нацыянальнай незалежнасці народаў і знішчэння прыгоннага ўціску сялянаў.



Пасля арышту Тамаш Зан амаль дваццаць гадоў мусіў жыць у расстанні з радзімай

Галоўныя спадзяванні ў аднаўленні незалежнай Рэчы Паспалітай філаматы звязвалі з «сярэднім класам», пад якім разумелі шляхту. Дзеля пашырэння сваіх поглядаў таварыства стварыла філіі – «прамяністых» і філарэтаў (ад грэцкага philaretos – той, хто любіць дабрачыннасць). Прэзідэнтам больш радыкальнага таварыства філарэтаў быў абраны Тамаш Зан.

Філаматы маюць вялікія заслугі ў вывучэнні гісторыі і культуры беларускага народа. Яны збіралі песні, легенды і паданні, запісвалі звычаі і абрады, наладжвалі паседжанні-вечарыны, на якіх чыталі свае навуковыя рэфераты і мастацкія творы. Значная арганізацыя філаматаў дзейнічала ў Полацкім ліцэі піяраў, дзе чытаў лекцыі з сусветнай



Францішак Геранім Малеўскі – адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў



Паэт Антон Эдвард Адынец быў аўтарам «Песні філарэтаў»



Анупрэй Петрашкевіч, паэт і збіральнік архіва філаматаў



Аляксандр Міцкевіч – брат паэта Адама Міцкевіча стаяў ля вытокаў гісторыі студэнцкіх таемных таварыстваў

**ХРАНАЛОГІЯ**

1817 г. – Узнікненне таемнага студэнцкага таварыства філаматаў.

1825 г. – Стварэнне таварыства «Ваенныя сябры».

1836 г. – Арганізацыя нелегальнага «Дэмакратычнага таварыства».

Першая старонка рукапісу «Гісторыі» Яўхіма Лялевеля





Ідэйны натхняльнік філаматаў і філарэтаў гісторык і грамадскі дзяяч Яўхім Лялевель

гісторыі выдатны гісторык і дзяржаўны дзяяч Яўхім Лялевель. (Гэта яму належыць звернуты да дэмакратаў Расеі крылаты заклік: «За нашу і вашу свабоду!») Таемныя таварыствы існавалі таксама ў сярэдніх навучальных установах Свіслачы і Віцебска.



Адам Міцкевіч на скале Аюдаг. Мастак Валенцій Ваньковіч 1827 г.



Аўтограф геніяльнага паэта. Верш «Незнаёмай і далёкай...» быў напісаны перад высылкай і стаў развітаннем з Беларуссю і сябрамі маладосці. Вільня. 1824 г.



POEZYE

ADAMA MICKIEWICZA.

TOM PIERWSZY.

WILNO.

Першае выданне паэтычных твораў Міцкевіча



Шляхоцкі герб «Парай», якім карыстаўся род Міцкевічаў

А. Міцкевіч апеў сваіх таварышаў у неўміручай паэме «Дзяды». Шмат хто з філаматаў і філарэтаў пазней здабыў славу ў розных галінах дзейнасці. Антон Адынец, Ян Чачот, Тамаш Зан, Аляксандр Ходзька сталі вядомымі паэтамі. Язэп Кавалеўскі – прызнаным манголазнаўцам, рэктарам Казанскага ўніверсітэта. Ігнат Дамейка браў удзел у нацыянальна-вызвольным паўстанні 1830–1831 гг., а ў эміграцыі выславіўся як выдатны вучоны-геолаг і мінеролаг, даследнік Чылі.



Мемарыяльны камень філарэтаў у колішнім Тугановіцкім парку (ваколіцы в. Карчова Баранавіцкага раёна)
У Тугановічах, дзе знаходзіўся маёнтак Верашчакаў, часта бываў Адам Міцкевіч



Будучы паэт і фалькларыст Ян Чачот кіраваў у таварыстве філаматаў літаратурным аддзяленнем



Род Дамейкаў належаў да шляхоцкага герба «Дангель»




Медаль у гонар выдатнага геолага, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі (1802–1889 гг.), які ў маладосці належаў да таварыства філаматаў. Срэбра. 1885 г.

Таемнае таварыства «Ваенныя сябры» мела на мэце змаганне за «ўсеагульны дабрабыт» і «вольнасць» і сваімі палітычнымі ідэаламі было даволі блізкае да Паўночнага таварыства дзекабрыстаў, з якім падтрымлівала кантакты.

«Ваенныя сябры» дзейнічалі ў Літоўскім асобным корпусе царскай арміі, які дыслакаваўся ў Гарадзенскай губерні і Беластоцкай вобласці і ў якім значную частку афіцэраў складалі ўраджэнцы беларускіх губерняў. Паплечнікамі М. Рукевіча сталі апрача вайскоўцаў прадстаўнікі тутэйшай шляхты, чынавенства, моладзі навучальных установаў Гарадзеншчыны і Беласточчыны.



Тытульная старонка манускрыпта «Мангалія» калішняга філамата і філарэта Язэпа Кавалеўскага

У 1823 г. таварыства філаматаў і яго нелегальныя філіі былі раскрытыя паліцыяй. За кратамі апынуліся Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Аляксандр Ходзька, Антон Адынец, Ян Чачот, Тамаш Зан.

Былы філарэт шляхціч Міхал Рукевіч у 1825 г. заснаваў таемнае таварыства «Ваенныя сябры».

У ліку кіраўнікоў «Ваенных сяброў» быў капітан Канстанцін Ігельстром, які трымаў сувязь з дзекабрыстам Вільгельмам Кюхельбекерам.

Але лёс Беларусі і беларускага народа мала цікавіў дзекабрыстаў, якія лічылі царскую імперыю чыста расейскай дзяржавай. Правадыр і ідэолаг Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў Павел Пестэль у сваёй «Русской Правде» сцвярджаў, што беларусы «должны отказаться от права особой народности».

Вуліца Вастрабрамская ў Вільні. Літаграфія. 1846 г.









Кіраўнікі таварыства «Ваенных сяброў» (зверху ўніз) Міхал Рукевіч, Аляксандр Вягелін і Канстанцін Ігельстром. Акварэлі Мікалая Бястужава

Найменні іншых народаў ён прапаноўваў проста адмяніць.

У снежні 1825 г., праз дзесяць дзён пасля паўстання ў Пецярбурзе, «Ваенныя сябры» сарвалі прысягу цару Мікалаю I у сапёрным батальёне, адной з ротаў якога камандаваў К. Ігельстром. Яго, а таксама М. Рукевіча і А. Вягеліна прысудзілі да пакарання смерцю, якое было замененае дзесяцігадовай катаргай.



Дуэльныя пісталеты

Сябры створанага ў 1836 годзе «Дэмакратычнага таварыства» выступалі за роўнасць паміж людзьмі, вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёй, за перадачу ўлады народу. Праз тры гады сваёй дзейнасці арганізацыя была разгромленая, а яе кіраўнік Ф. Савіч высланы ў салдаты на Каўказ.

У другой палове 40-х гадоў XIX ст. у Беларусі дзейнічаў заснаваны братамі Аляксандрам і Францішкам Далеўскімі «Братні саюз літоўскай моладзі» («Саюз свабодных братоў») з цэнтрам у Вільні і аддзяленнямі ў Менску, Горадні, Лідзе, Навагрудку, Слоніме ды іншых гарадах.



Рытуальныя атрыбуты адной з масонскіх ложаў, якія дзейнічалі на землях колішняга Вялікага Княства Літоўскага

«Свабодныя браты» пашыралі ідэі змагання з тыраніяй і нацыянальным уціскам, выступалі за стварэнне дэмакратычнай рэспублікі. Царскім жандарам удалося разграміць і гэтае таварыства.

Аднак барацьба за вызваленне ад імперскага прыгнёту працягвалася.

У Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі з ініцыятывы студэнта Франца Савіча ўзнікла нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства».

«Братні саюз літоўскай моладзі» аб'ядноўваў каля 200 прадстаўнікоў шляхты, разначыннай інтэлігенцыі, рамеснікаў, сялян.

# ВЫЗВОЛЬНАЕ ПАЎСТАННЕ 1831 ГОДА



Герб Ашмяны

Існуе думка пра адвечную пакорлівасць нашага народа. Аднак не хто-небудзь, а якраз нашыя продкі на працягу няпоўных ста гадоў пасля захопу Беларусі царскай Расеяй тройчы браліся за зброю, каб вырвацца з смяротных абдымкаў імперыі. Вальналюбны дух паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі і Якуба Ясінскага быў жывы, і ўвесну 1831 г. Беларусь следам за Польшчаю зноў паўстала.

Найбольш актыўная барацьба ў Беларусі разгарнулася на Віленшчыне, у Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісенскім і Вілейскім паветах, а пазней – у ваколіцах Белавежскай пушчы. У кожным павеце выбіраўся паўстанцкі ўрад, камандзір і абвяшчалася мабілізацыя.



Удзельнік паўстання Францішак Міцкевіч, брат славутага паэта, у красавіку 1831 г. быў прызначаны паўстанцкім начальнікам Наваградка





Даўнейшыя гербы беларускіх гарадоў Браслава (злева) і Гарадка (справа), скасаваныя расейскімі ўладамі разам з гарадскім самакіраваннем



Помнік архітэктуры позняга барока касцёл Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Будславе (Мядзельскі раён). Фота Аляксея Яроменкі



Архангел Міхаіл. Дрэва, разьба, залачэнне, серабрэнне. Канец XVII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

Сакавік–красавік 1831 г. – Пачатак паўстання ў Беларусі

19 чэрвеня 1831 г. – Бітва на Панарскіх гарах пад Вільняй,

1831 г. – Скасаванне дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага у Віцебскай і Магілеўскай губернях.



Беларуская фалькларыстка і паэтка Эмілія Плятэр (1806–1831 гг.) іа мужнасць і рашучасць у баявых дзеяннях паўстанцаў атрымала званне капітана



Эмілія Плятэр – ганаровы камандзір роты паўстанцкага пяхотнага палка. Сучаснікі параўноўвалі пану адважную суайчынніцу з Жаннай д'Арк. Малюнак з літаграфіі невядомага аўтара

У чатырох паўночна-заходніх паветах Беларусі колькасць паўстанцаў дасягала 10 тысяч.



Герб мястэчка Угор'е, у наваколлі якога знаходзіліся зямельныя ўладанні роду Плятэраў



Шляхта, да якой належала большасць паўстанцаў, выявіла за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Шляхоцкі герб «Грымала», якім карысталася болей за 50 родаў, у тым ліку Адахоўскія, Адашэўскія, Барткевічы, Варэцкія, Грабавецкія, Грудзінскія, Крамянецкія, Стравінскія, Сяллецкія

На памежжы Віцебскай і Віленскай губерняў паспяхова дзейнічаў баявы аддзел, створаны дваццаціпяцігадовай графіняй Эміліяй Плятэр – збіральніцай беларускага фальклору, паэткай і рэвалюцыянеркай, якая атрымала званне капітана і была прызначаная ганаровым камандзірам роты паўстанцкага войска.

Асноўная сіла паўстання – шляхта – ваявала пад агульным лозунгам аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Аднак у стане інсургентаў існавалі два крылы: рэвалюцыйнае і арыстакратычна-кансерватыўнае. Шляхоцкія рэвалюцыянеры на чале з Я. Лялевелем выступалі за надзяленне сялянаў зямлёй (з выплатай стратаў памешчыкам) і супольную з расейскім народам вайну супроць царызму «за нашу і вашу свабоду». Кансерватары дзейнічалі супярэчліва і нерашуча. Але і тыя, і іншыя пакідалі ўбаку нацыянальныя правы беларусаў. Паўстанне атрымала падтрымку каталіцкіх і уніяцкіх святароў, аднак абмежаваная аграрная праграма пазбавіла яго шырокага ўдзелу сялянства.

Як сведчыць надпіс на помніку, што захаваўся на віленскіх могілках, царскія карнікі страцілі ў бітве на Панарскіх гарах забітымі 365 салдат і афіцэраў. Колькі палегла змагароў за свабоду, ніхто ўжо не даведаецца.

Трохтысячны шляхоцка-сялянскі аддзел узяў і колькі дзён утрымліваў горад Дзісну.



Касцёл у Дзісне, які была ўзятая паўстанцамі

Цар зацвердзіў пастанову пра перасяленне ў Беларусь «выходцев из внутренних губерний, которые принесут с собой в сей край, чуждающийся России, наш язык, обычай, приверженность русских к престолу».

Партрэт паўстанца 1831 г. Мастак Альфрэд Ромер




Добра ўзброенае і вымуштраванае рэгулярнае царскае войска ў траўні 1831 г. разбіла паўстанцаў у Менскай і Віленскай губернях, але барацьба ўзмацнілася на Гарадзеншчыне. Нацыянальны ўрад у Варшаве накіраваў на дапамогу беларускім інсургентам аддзел генерала Д. Хлапоўскага з 820 афіцэраў, унтэр-афіцэраў і інструктараў. Ён злучыўся з 12-тысячным корпусам генерала А. Гелгуда, аднак у чэрвені на Панарскіх гарах у ваколіцах Вільні аб'яднаныя сілы паўстанцаў былі разбітыя.



Да герба «Дарагаслаў» належала блізу 60 шляхоцкіх родаў, у тым ліку Астрэйкі, Бухавецкія, Ляўковічы, Раманкевічы, Трушынскія, Чаплінскія

Строі беларускай шляхты Полацкага, Менскага і Берасцейскага ваяводстваў. Рэканструкцыя







Шляхоцкі герб «Прыяцель». Сярод родаў, якія ім карысталіся,– Акінчыцы, Аксакі, Івіцяховічы, Грабоўскія, Грыневічы, Мусініскія, Рамавоўскія, Тамковічы, Юроўскія

Палаш з залатым дзяржаннам і срэбнай похвай. 1831 г.





Удзельнік паўстання 1831 г. Генрык Дмахоўскі стаў вядомым скульптарам, працаваў у Францыі і ЗША, дзе стварыў для Кангрэса бюсты Т. Касцюшкі і Т. Джэферсана. Загінуў у баі пад час паўстання 1863–1864 гг.

Амаль тры дзесяцігоддзі пражыў у эміграцыі пасля ўдзелу ў паўстанні 1831 г. беларускі паэт, фалькларыст, мастак і кнігавыдавец Аляксандр Рыпінскі

Паўстанне 1831 г. мела і міжнароднае значэнне. Яно не дазволіла царызму паслаць войскі на задушэнне рэвалюцыі ў Францыі.





Памятны медаль у гонар паўстання 1831 г. Біты з медзі ў 1832 г. Аверс і рэверс

Паўстанцкі генерал Г. Дэмбінскі павёў чатыры тысячы сваіх людзей праз Гарадзеншчыну на захад. Пад час гэтага пераходу да яго далучыліся інсургенты Навагрудскага і Слонімскага паветаў. У чэрвені–ліпені іскры паўстання перакінуліся ў Мазырскі, Рэчыцкі і Пінскі паветы, але і гэтыя выступленні былі асуджаныя на няўдачу. У жніўні расейскія войскі задушылі апошнія агмені змагання ў Беларусі.

Улады канфіскоўвалі маёнткі, пазбаўлялі паўстанцаў дваранскіх правоў (у Беларусі адабралі шляхоцтва ў дзесяці тысяч чалавек), ліквідоўвалі навучальныя ўстановы. Падтрымка паўстання беларускім грэкa-каталіцкім духавенствам узмацніла наступ на вуніяцтва. Царскія ўлады зачынілі сорак базыльянскіх кляштараў. Імператар Мікалай I з гэтай нагоды заўважыў: «Слава Богу, вот и еще несколько неприятельских крепостей уничтожили». У Віцебскай і Магілеўскай губернях было скасаванае дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

На ўсе дзяржаўныя пасады прызначалі толькі расейскіх чыноўнікаў.

Але ў народзе мацнела пачуццё нацыянальнай годнасці. Праз тры дзесяцігоддзі край зноў падняўся на барацьбу.



Узнясенне Дзевы Марыі. Абраз канца XVII ст. Беларуская школа

Касцёл Святога Казіміра ў Вільні быў перададзены праваслаўным. Фота 1910-х гг.



# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЎЦІСК





Медаль «Торжество православия», прысвечаны гвалтоўнаму скасаванню вуніі і пераводу беларускіх грэка-каталікоў у «лона прарадзіцельскай веры». Аверс і рэверс. Медзь. 1839 г.

Пасля паўстання 1831 г. царскія ўлады перайшлі да паслядоўнай палітыкі поўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтаю пры расейскім урадзе быў створаны «Асобы камітэт па справах заходніх губерняў». Ён найперш прапанаваў рэзка пашырыць на далучаных да імперыі тэрыторыях землеўладанне расейскіх дваран і чыноўнікаў, якія дзеля гэтага атрымлівалі шматлікія прывілеі.

У 30-х гадах XIX ст. у Беларусі праводзілася чыстка дзяржаўных устаноў, судоў, органаў асветы і культуры ад чыноўнікаў мясцовага паходжання. Месца звольненых займалі ўраджэнцы цэнтральных расейскіх губерняў, якіх вабілі вялікія надбаўкі да акладаў і магчымасць хуткай кар'еры. Усё справаводства ў дзяржаўных установах было пераведзенае на расейскую мову.

Расейская мова замяніла польскую і ў школах усіх узроўняў. Польскую мову забаранілі выкладаць нават як навучальны прадмет. Разам з тым за ўвесь перыяд свайго гаспадарання ў Беларусі царскія ўлады не дазволілі адчыніць ніводнай беларускай школы.

У 1832 г. быў зачынены Віленскі універсітэт, які на той час заставаўся адзінай вышэйшай навучальнай установай на землях былога Вялікага Княства Літоўскага.



Прымусовае перасяленне жыхароў Беларусі ўглыб Расейскай імперыі



Сафійскі сабор і зачынены царскімі ўладамі базыльянскі манастыр у Полацку. Паштоўка пачатку XX ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1832 г. – Стварэнне пры расейскім урадзе «Асобага камітэта па справах заходніх губерняў» з мэтай русіфікацыі Беларусі.

1836 г. – Пераход навучання ў школах Беларусі на расейскую мову.

1839 г. – Скасаванне Берасцейскай царкоўнай вуніі і далучэнне вуніятаў да расейскай праваслаўнай царквы.

1840 г. – Царскі ўказ пра забарону выкарыстання ў афіцыйных дакументах назову «Беларусь» і замену яго на «Северо-Западный край». Скасаванне дзеяння ў Беларусі Статута Вялікага Княства і поўнае ўвядзенне расейскага заканадаўства.

1859 г. – Забарона выкарыстання ў беларускім друку лацінскага шрыфту.

Герб «Ясенчык», якім у ліку іншых карысталіся Абуховічы, Бельскія, Жаброўскія, Жданы, Ясінскія, Клімовічы, Міхайлоўскія. Пасля паўстання 1831 г. больш за 10 тыс. наных суайчыннікаў былі пазбаўлены шляхоцтва





Царская асігнацыя наміналам 200 рублёў 1837 г. У выніку інфляцыі ў 1839 г. яна каштавала ўжо толькі 57 рублёў 14 капеек срэбрам




У правядзенні палітыкі русіфікацыі і вынішчэння ўсяго нацыянальнага найбольш вызначаўся былы ўдзельнік руху дзекабрыстаў Міхаіл Мураўёў, які займаў у Беларусі губернатарскія пасады, а з 1832 г. служыў менскім вайсковым губернатарам. Звяртаючыся да беларускага дваранства, ён папярэджваў: «Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».

Уверсе. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (1701–1704 гг.) у в. Беніца пад Маладзечнам. У сярэдзіне XIX ст. быў зачынены і перароблены на праваслаўную царкву. Фота Аляксея Яроменкі



Рэшткі палаца ў Косаве – помніка архітэктуры сярэдзіны XIX ст. Івацэвіцкі раён

Пераводы беларускіх вуніятаў у праваслаўе праводзіўся з шматлікімі здзекамі, пра што абурана пісалі Леў Талстой і Аляксандр Герцэн.



У Расейскай імперыі існавала гэтак званая «мяжа аседласці», за якой не мелі права сяліцца юдэі. Аднак і на дазволеным абшары яны маглі жыць толькі ў гарадах і мястэчках, прычым плацілі значна большыя за хрысціян дзяржаўныя падаткі. Дэталь дэкору канца XVIII ст. з алегарычнай выявай цмока ў магілеўскай сінагозе



Рэшткі каталіцкага храма з рысамі позняга рэнесансу на месцы колішняй вёскі Старая Жосва (Мядзельскі раён). Фота Аляксея Яроменкі



На падазрэнне за расейскіх царкоўных уладаў траплялі нават абразы беларускай школы іканапісу. «Пакланенне пастухоў». Беларускі абраз XIX ст.

Рэзка ўзмацніўся ціск на вуніятаў, якія складалі блізу трох чвэрцяў беларускага насельніцтва. Царскім уладам удалося перацягнуць на свой бок вышэйшае грэцка-каталіцкае духавенства на чале з епіскапам літоўскім Іосіфам Сямашкам, які цалкам здрадзіў веры продкаў.

Апошні вуніяцкі мітрапаліт Ігнат Язафат Булгак (1758–1838 гг.), смерць якога зняла апошнюю на той час перашкоду на шляху скасавання каланізатарамі Берасцейскай царкоўнай вуніі.
Мастак Іван Хруцкі. 1838 г.



Ён прымусова ўводзіў у вуніяцкіх семінарыях і царкоўных справаздачах расейскую мову. Святары мусілі адпраўляць набажэнствы па службоўніках, прысланых з Масквы і Пецярбурга. Нязгодных судзілі, як царкоўных і дзяржаўных злачынцаў. На вачах у вернікаў з храмаў выкідалі бакавыя «рымскія» алтары, ламалі арганы.

Нават ва ўмовах жорсткага пераследу ў Беларускай вуніяцкай дыяцэзіі (царкоўнай акрузе) у 1838 г. з 680 святароў за далучэнне да праваслаўя падпісаліся толькі 186. Тым не менш пад эгідай уладаў у наступным годзе адбыўся Полацкі царкоўны сабор, дзе рэй вёў І. Сямашка. Сабор Святой Сафіі, што два з паловаю стагоддзі быў галоўным вуніяцкім храмам Беларусі, пачуў пастанову пра вяртанне вернікаў «в лоно прародительской православной веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода».

А. Герцэн у лонданскім часопісе «Колокол» надрукаваў артыкул «Секущее православие», дзе назваў І. Сямашку «Иудой во Христе, который высек себе памятник на спине беззащитных жертв». Закрыццё вуніяцкіх храмаў, кляштараў і школ суправаджалася масавым паленнем рэлігійных і навучальных кніг, а таксама знішчэннем царкоўных інтэр'ераў, якія не адпавядалі праваслаўным канонам.

Каланізатары імкнуліся ператварыць «Северо-Западный край» у глухі куток імперыі, дзе ўсё жыццё трымалася б на трох кітах вялікадзяржаўнай расейскай ідэалогіі – «самодержавие, православие, народность».

Шляхоцкія гербы нагадвалі пра былую вольнасць, падкрэслівалі пераемнасць пакаленняў. Герб роду Заслаўскіх (у цэнтры) у спалучэнні з іншымі гербамі



Падрыхтаваўшы глебу забаронаю народнай веры, імператар Мікалай I у наступным 1840 г. зрабіў новы ўдар па нацыянальным быцці нашага народа – адмысловым указам забараніў у афіцыйных дакументах ужываць назоў «Беларусь» і ўвёў для беларускіх губерняў найменне «Северо-Западный край». Роўна праз тыдзень быў выдадзены ўказ пра скасаванне дзеяння на гэтай тэрыторыі Статута Вялікага Княства Літоўскага.



Смалянскі замак («Белы Ковель») пад Воршай – архітэктурны помнік XVII ст.
У сярэдзіне XIX ст. новы гаспадар Смалянаў расейскі сенатар Сямёнаў прадаў замак на цэглу. Рэшткі вежы. Сучасны выгляд

# АДУКАЦЫЯ І НАВУКА Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIX СТАГОДДЗЯ



Пячатка Віленскага універсітэта

## Віленскі універсітэт

У 1803 г. у Расейскай імперыі распачалася адукацыйная рэформа. Былі ўтвораныя міністэрства народнай асветы і шэсць навучальных акруг, у тым ліку і Віленская, куды ўваходзілі навучальныя ўстановы Беларусі. Апекавальнікам Віленскай акругі стаў адзін з сяброў імператара Аляксандра І князь Адам Чартарыйскі. Дзякуючы яму акруга мела пэўную аўтаномію і кіравалася ўласным статутам, блізкім да статуту колішняй Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай. Навучальным цэнтрам акругі быў Віленскі універсітэт, створаны ў 1803 г. пасля некалькіх рэарганізацый Віленскай акадэміі.



Рэктарскае жазло і малая пячатка Віленскай альма-матэр

Глобус, створаны для найвышэйшай школы Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XVIII ст.





Экспазіцыя Віленскага музея старажытнасцяў. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.



Карта Еўропы з атласу XVII ст. Калекцыя Я. Лялевеля

## ХРАНАЛОГІЯ

24 студзеня 1812 г. – Полацкі езуіцкі калегіюм пераўтвораны ў Акадэмію.

1820 г. – Закрыццё Полацкай акадэміі.

1822–1830 гг. – Дзейнасць Полацкага ліцэя піяраў.

1832 г. – Закрыццё Віленскага універсітэта.

1848–1864 гг. – Дзейнасць Горы-Горацкага земляробчага інстытута.







Прафесар Віленскага ўніверсітэта Аўгуст Бекю першы ў Беларусі пачаў вакцынацыю супроць воспы. Партрэт паводле гравюры Яна Рустэма



Доктар медыцыны і хірургіі рэктар Віленскага ўніверсітэта Венцаслаў Пелікан

Князь Адам Юрай Чартарыйскі ў 1803–1824 гг. быў апекавальнікам Віленскай навучальнай акругі. У часе вызвольнага паўстання 1831 г. узначальваў Часовы ўрад, пасля чаго мусіў эміграваць. Мастак Язэп Аляшкевіч



Унікальны дакумент універсітэцкага архіва – дэкрэт вялікага князя і караля Стэфана Батуры



Медаль у гонар гісторыка і грамадскага дзеяча, выпускніка і прафесара Віленскага ўніверсітэта Яўхіма Лялевеля. 1858 г.



План Ерусаліма (XIII ст.) з бібліятэкі Я. Лялевеля



Карпусы Віленскага ўніверсітэта ў сярэдзіне XIX ст.

Са сценаў Віленскага ўніверсітэта выйшлі вядомыя ў свеце пісьменнікі Адам Міцкевіч і Юзаф Крашэўскі, геолаг Ігнат Дамейка, гісторыкі Ігнат Даніловіч і Тэадор Нарбут, мастакі Валянцін Ваньковіч і Генрык Дмахоўскі...



Галандская навігацыйная карта другой паловы XVII ст. з бібліятэкі Віленскага універсітэта



Выпускнік Віленскага універсітэта гісторык і археолаг Тэадор Нарбут

Віленская альма-матэр мела факультэты маральных і палітычных навук, фізічна-матэматычны, медычны, літаратурны і вольных мастацтваў. Пры універсітэце дзейнічалі медычны, ветэрынарны і агранамічны інстытуты, астранамічная абсерваторыя, заалагічны музей, тры клінікі, адны з найбагацейшых у Еўропе бібліятэка і батанічны сад.



Медаль у гонар выдатнага астранома, рэктара Віленскага універсітэта Марціна Пачобута-Адляніцкага. Срэбра. 1775 г.

Універсітэцкая карта Еўропы з кнігі нямецкага географа і картографа Себасцяна Мюнстэра «Касмаграфія». 1598 г.





Тэлескоп з аддзела астраноміі Віленскага універсітэта

Навуковая праца М. Пачобута-Адляніцкага, прысвечаная месяцавым зацьменням


CALCULUS
ECLIPSEOS LUNARIS,
Quae Accidet die 24. Februarii 1766.
INSTITUTUS.

«Касмаграфія» С. Мюнстэра вытрымала каля пяцідзесяці выданняў на розных мовах. Бібліятэка Віленскага універсітэта






Старадрук пачатку XVII ст. з калекцыі віленскага біскупа Астафея Валовіча, перададзенай Віленскай акадэміі




Памятны медаль з партрэтам пісьменніка і гісторыка Язэпа Крашэўскага, які ў маладосці за ўдзел у нелегальным гуртку быў выключаны з Віленскага універсітэта і зняволены. Я. Крашэўскі – аўтар болей чым 600 тамоў з творамі розных жанраў. У сваіх раманах і аповесцях часта звяртаўся да падзей і асобаў беларускай гісторыі. Медзь. 1879 г.



Герб «Ястрабец», якім карысталіся Крашэўскія



Язэп Крашэўскі апрача мастацкіх твораў пакінуў шмат гістарычных і этнаграфічных працаў, прысвечаных Беларусі



У 20-х гадах XIX ст. 36 з 47 універсітэцкіх прафесараў былі ўраджэнцамі былога Вялікага Княства Літоўскага. Выдатнымі вучонымі з'яўляліся астраномы М. Пачобут-Адляніцкі і Я. Снядэцкі, гісторык І. Лялевель, хімік А. Снядэцкі, медыкі В. Пелікан і А. Бекю...

Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння, славіст, прафесар Віленскага універсітэта Міхал Бабpоўскі (1784–1848 гг.)




Астраном і матэматык, рэктар Віленскага універсітэта Ян Снядэцкі на медалі XIX ст.



Віленскі універсітэт. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.




Партрэт віленскага прафесара Лявона Бароўскага. Мастак Кароль Рыпінскі

Супроць вялікадзяржаўных расейскіх і польскіх тэндэнцый выступіла група навукоўцаў – выкладчыкаў і выпускнікоў Віленскага універсітэта – М. Бабpоўскі, І. Даніловіч, Т. Нарбут. Яны з патрыятычных пазіцый асвятлялі гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, выказваліся за аднаўленне яго самастойнасці і вяртанне дзяржаўнага статусу беларускай мове, лічылі вуніяцтва нацыянальнай рэлігіяй беларусаў.

Генерал Ордэна езуітаў Тадэвуш Бжазоўскі, пры якім была адчыненая Полацкая акадэмія





Даўнейшыя карпусы Полацкай акадэміі. Паштоўка пачатку XX ст.

## Полацкая акадэмія

У Полацку, Віцебску, Воршы, Магілеве і Амсціславе працягвалі дзейнічаць калегіюмы – сярэднія навучальныя ўстановы, якія належалі Ордэну езуітаў. Найбольш значным з іх быў заснаваны ў 1581 г. Полацкі калегіюм, дзе навучалася каля трохсот студэнтаў. Яго праграма 1769 г. сведчыць, што там вывучалі польскую, расейскую, беларускую, французскую, нямецкую, лацінскую і грэцкую мовы, антычную літаратуру, гісторыю, фізічную і палітычную геаграфію, алгебру, тэарэтычную і практычную механіку, цывільную і вайсковую архітэктуру, тэорыю жывапісу, этыку, псіхалогію, логіку, касмалогію, астраномію, эксперыментальную фізіку, вышэйшую матэматыку... Каб даць сваім дзецям прыстойную адукацыю, расейская знаць часта прывозіла іх у Беларусь.

24 студзеня 1812 г. Полацкі калегіюм быў ператвораны ў Акадэмію з універсітэцкім статусам. Студэнтаў чакалі тры факультэты: тэалагічны; моваў і літаратур; філасофіі і вольных мастацтваў. У дадатак да дысцыплін, што ўваходзілі ў праграму калегіюма, тут вывучалі дастасоўную матэматыку, хімію, заалогію, батаніку, мінералогію, трыганаметрыю, палітычную эканомію і статыстыку, права. На філалагічным факультэце выкладаліся лацінская, грэцкая, старажытнагабрайская, польская, расейская, французская, нямецкая, італьянская, арабская мовы і створаныя на іх літаратуры. Навучанне вялося пераважна на польскай мове.



Найславутнейшы з полацкіх езуітаў, вучоны-энцыклапедыст Габрыэль Грубэр (1740–1805 гг.). Дзякуючы яму Полацкі калегіюм меў абсталяваныя на еўрапейскім узроўні астранамічны, фізічна-матэматычны і хімічны кабінеты. З ініцыятывы Грубэра там былі адчыненыя друкарня, музей і карцінная галерэя. Менавіта ён стварыў у калегіюме ўмовы для ператварэння яго ў найвышэйшую навучальную ўстанову

У выдавецтве, што дзейнічала пры акадэміі, выпускаліся падручнікі, слоўнікі, навуковыя трактаты, календары і літаратурныя зборнікі, выходзіў ілюстраваны літаратурна-навуковы часопіс «Полацкі месячнік». 40 тысяч тамоў налічвала бібліятэка. Выключным багаццем вызначаліся акадэмічныя музей і карцінная галерэя. Полацкай альма-матэр падпарадкоўваліся ўсе езуіцкія калегіюмы і школы Расейскай імперыі (у тым ліку ў Пецярбурзе, Рызе, Адэсе, Астрахані).




«Полацкі месячнік», ілюстраваны літаратурна-навуковы часопіс, які выдаваўся Полацкай акадэміяй



Стваральнік Музея старажытнасцяў у Вільні Яўстах Тышкевіч

«Нараджэнне Хрыстовае». Абраз сярэдзіны XVIII ст. Беларуская школа



## Закрыццё навучальных установ

Навучальныя ўстановы на захопленых Расеяй землях зрабіліся моцнымі асяродкамі апазіцыі царызму. Улады рыхтавалі расправу. У сакавіку 1820 г. з царскай канцылярыі выйшаў указ пра закрыццё Полацкай акадэміі. Яе маёмасць перайшла да каталіцкага Ордэна піяраў, якія адчынілі ў 1822 г. у Полацку ліцэй. Але праз восем гадоў гэтую вышэйшую навучальню, дзе таксама актыўна дзейнічалі антырасейскія нелегальныя арганізацыі, спасціг лёс яе папярэдніцы. З прычыны таго, што трэцяя частка студэнтаў Віленскага універсітэта ўдзельнічала ў вызвольным паўстанні 1831 г., была зачыненая і гэтая навучальная ўстанова.

З аўдыторый Полацкай акадэміі пачалі свой шлях да славы беларускі гісторык, археолаг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, астраном і філосаф Якуб Накцыяновіч, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі.

Пры канцы 30-х гадоў XIX ст. у Беларускай навучальнай акрузе было 7 гімназій, 17 павятовых навучальняў і 160 пачатковых школ, у якіх займаліся каля 12 тысяч вучняў. Ураджэнцы Беларусі сярод настаўнікаў складалі ўсяго 36%, прычым працавалі пераважна ў пачатковых школах. Выкладанне ў школах усіх узроўняў пераводзілася на расейскую мову, ішлі звальненні патрыятычна настроеных выкладчыкаў.

У 1848 г. царскія ўлады адчынілі Горы-Горацкі земляробчы інстытут – першую ў імперыі вышэйшую агранамічную навучальную ўстанову. Але пасля ўдзелу горацкіх студэнтаў і выкладчыкаў у паўстанні 1863 г. інстытут мусіў спыніць сваё існаванне.

У першай палове XIX ст. у палітыцы царызму ў Беларусі запанавала ідэалогія «западнорусизма», якая разглядала беларусаў як заходняе адгалінаванне «русского племени» і адмаўляла існаванне асобнага беларускага этнасу, яго мовы і культуры. З другога боку, шэраг польскіх вучоных імкнуліся абгрунтаваць погляд на Беларусь як на частку Польшчы і лічылі беларусаў этнаграфічнай групай польскага народа.

Насуперак высілкам вялікадзяржаўнікаў паступова разгорталіся этнаграфічныя, археалагічныя, лінгвістычныя даследаванні Беларусі. Вялікі даробак належыць тут пачынальніку беларускай археалогіі, фалькларыстыкі і мовазнаўства З. Даленга-Ходакоўскаму, гісторыкам М. Без-Карніловічу, братам Канстанціну і Яўстаху Тышкевічам, этнографу П. Шпілеўскаму. Шмат зрабіў для развіцця беларускай культуры і навукі А. Кіркор – этнограф, гісторык, пісьменнік і выдавец, а таксама яго калега М. Баброўскі. Я. Тышкевіч стаў стваральнікам адчыненага ў 1856 г. Віленскага музея старажытнасцяў.

Этнограф, гісторык і выдавец Адам Ганоры Кіркор прысвяціў сваё жыццё даследаванню і папулярызацыі мінулага Літвы-Беларусі. Насуперак вялікадзяржаўным тэндэнцыям ён адзначаў гістарычную і этнаграфічную своеасаблівасць нашага народа, самастойнасць беларускай мовы



# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XIX СТАГОДДЗЯ



Адам Міцкевіч. Малюнак Валянціна Ваньковіча. 1821 г.

### Новая беларуская літаратура

Старабеларуская мова «залатога веку» з прычыны паланізацыі эліты нашага грамадства, а таксама ў выніку соймавай пастановы 1697 года ўжо адыходзіла ў гісторыю. Паланізатарская палітыка паноў і касцёла разам з русіфікатарскай палітыкаю царскіх уладаў стварала велізарныя цяжкасці станаўленню новай беларускай літаратуры. У школе родная мова не вывучалася. Беларускамоўных газет і часопісаў не існавала. На шляху да чытача пільна стаяла царская цэнзура.

Але насуперак перашкодам новая беларуская літаратура няўхільна адваёўвала пазіцыі. Яе галоўным ідэйна-мастацкім кірункам стаў рамантызм, што прыйшоў на змену асветніцтву і класіцызму. Прагрэсіўны рамантызм быў звязаны з нацыянальнымі рухамі. Ён раскоўваў волю і фантазію, абнаўляў мастацкія формы, скіроўваў творцаў да глыбокага вывучэння песняў, міфаў і паданняў свайго народа.

Першымі значнымі творамі новай беларускай літаратуры сталі ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».



Працоўны кабінет у Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Рэканструкцыя

Рамантыкамі паводле характару сваёй творчасці былі сябры таварыстваў філаматаў і філарэтаў, якія з дзяцінства ведалі «простую» (беларускую) мову. Большасць з іх пісалі пераважна па-польску, але падкрэслівалі адданасць сваёй радзіме – Літве-Беларусі. На жаль, не захавалася беларускамоўнай спадчыны нашага выдатнага суайчынніка Адама Міцкевіча, але тэмы і вобразы яго паэзіі былі навеяныя жыццём, гісторыяй, фальклорам і прыродай Беларусі, роднай для геніяльнага паэта Навагрудчыны.



Аўтар папулярных на той час «літоўскіх» аповесцяў і апавяданняў Ігнат Ходзька

Чытаючы лекцыі ў Парыжскім Калеж дэ Франс, Адам Міцкевіч назваў беларускую мову «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш зменснай».



Помнік Адаму Міцкевічу ў Навагрудку. Скульптар Валяр'ян Янушкевіч

**ХРАНАЛОГІЯ**

24 снежня 1798 г.–11 лістапада 1855 г. – Жыццё і дзейнасць Адама Міцкевіча.
1794(?) –12 сакавіка 1851 г. – Жыццё і дзейнасць Яна Баршчэўскага.
7 ліпеня 1796 г.–23 жніўня 1847 г. – Жыццё і дзейнасць Яна Чачота.
4 лютага 1808 г.–29 снежня 1884 г. – Жыццё і дзейнасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.
5 траўня 1819 г.–4 чэрвеня 1872 г. – Жыццё і дзейнасць Станіслава Манюшкі.
29 верасня 1823 г.–15 верасня 1862 г. – Жыццё і дзейнасць Уладзіслава Сыракомлі.



Медаль з партрэтам пісьменніка і журналіста Вінцэся Каратынскага. Медзь. 1858 г.



Партрэт паэта Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча). Мастак Адам Шэмеш. 1854 г.

Зямляк і сябар Міцкевіча Ян Чачот выдаў у Вільні шэсць зборнікаў запісаных ім у Беларусі «Вясковых песняў», дзе апублікаваў і каля 30 сваіх беларускіх вершаў.

Незвычайны паэтычны талент меў сын прыгоннага каваля з мястэчка Крошын Наваградскага павета Паўлюк Багрым (1812–1891?). Да нас дайшоў адзіны яго верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», але і ён сведчыць, што Багрым мог бы стаць беларускім Шаўчэнкам. Аднак юны паэт прыцягнуў увагу царскіх следчых і павінен быў адбываць 25-гадовую рэкруцкую службу.

Па-беларуску і па-польску пісаў свае паэтычныя творы Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч). Ён займаўся перакладам і апрацоўкай беларускіх народных песняў, прысвяціў Беларусі свае гістарычна-краязнаўчыя працы «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», «Менск», «Нёман ад вытокаў да вусця». Пад уплывам Сыракомлі пачаў пісаць на беларускай мове паэт і журналіст Вінцэсь Каратынскі (1831–1891).

Пасля ўдзелу ў вызвольным паўстанні 1831 г. мусіў эміграваць паэт і фальклярыст Аляксандр Рыпінскі (1811–1900?). У Лондане ён заснаваў друкарню, дзе выдаваў свае паэтычныя кнігі з уласнымі ілюстрацыямі.




Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі



Шляхоцкі герб роду Кандратовічаў «Сыракомля»

Выдатнае месца сярод пачынальнікаў новай беларускай літаратуры займае выхаванец Полацкай акадэміі Ян Баршчэўскі. Галоўным яго творам стала кніга «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», якую сучаснікі параўноўвалі з славутымі арабскімі казкамі «Тысяча і адна ноч».



Родавы герб
Дуніна-Марцінкевіча
«Лебедзь»



Вінцэнт Дунін-
Марцінкевіч.
Здымак 1863 г.

«Скокі ў карчме».
Ілюстрацыя да вершаванай
аповесці «Гапон»
з прыжыццёвага выдання
Марцінкевічавай кніжкі. 1855 г.



Найбольшы ўклад у новую беларускую літаратуру зрабіў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У сваіх вершаваных апавяданнях, аповесцях і баладах «Вечарніцы», «Купала», «Гапон», «Шчароўскія дажынкі», у музычна-драматычным творы «Сялянка» ён шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор, адлюстроўваў побыт і звычаі беларусаў. Дунін-Марцінкевіч па-беларуску перастварыў паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», але царская цэнзура забараніла публікацыю перакладу. За ўдзел у паўстанні 1863 г. пісьменнік быў кінуты ў турму, а потым знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1866 г. ён стварыў бліскучую вострасатырычную камедыю «Пінская шляхта».


DUDARZ BIAŁORUSKI,
czyli
WSZYSTKIEGO POTROSZE
przez
Wincentego Dunin Marcinkiewicza
MIŃSK


LUCYNKA
czyli
SZWEDZI NA LITWIE
WILNO

Кнігі В. Дуніна-
Марцінкевіча «Дудар
беларускі» (Менск, 1857 г.)
і «Люцынка»
(Вільня, 1861 г.)


GAPON,
Powieść białoruska, z prawdziwego zdarzenia, w języku białoruskiego ludu napisana.
przez
Wincentego Dunin Marcinkiewicza.
MIŃSK.
NAKŁADEM KSIĘGARZY MIŃSKICH, BRACI BEJLINÓW.
1855.

Тытульны аркуш «Гапона».
Творы «беларускага дудара»
друкаваліся па-беларуску
лацінкай


Biełaruskije Piesniary. T. II.
PAN TADEUSZ,
Adam Mickiewicz
Wincuk Marcinkiewicz.
Cena 25 kap
1906

Паэма «Пан Тадэвуш»
А. Міцкевіча ў перакладзе
В. Дуніна-Марцінкевіча

Творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча завяршыла ў развіцці нашай літаратуры рамантычны перыяд і сталася «мастком» да рэалізму.



Помнік на магіле паэта
ў Тупальшчыне,
недалёка ад в. Люцынка
Валожынскага раёна



Крыло алтара або царскай брамы з Варварынскай царквы ў Пінску. Дрэва, разьба, залачэнне



Кампазітар Станіслаў Манюшка. Аітаграфія А. Латосся з Віленскага альбома



Герб роду Манюшкаў «Крыўда»

## Тэатр і музыка

Прыватныя тэатры, аркестры і капэлы мелі ў тым часе магнаты і багатая шляхта. Прафесійным узроўнем вызначаліся Нясвіжскі тэатр Радзівілаў, Свіслацкі Тышкевіча, Слонімскі Агінскіх, Шклоўскі тэатр Зорыча, Чачэрскі і Магілеўскі Чарнышова. Таленавітых прыгонных артыстаў з Беларусі прадавалі імператарскім тэатрам Пецярбурга і Масквы. На сцэнах дзвюх сталіц імперыі, напрыклад, з поспехам выступалі прымадонны балета Шклоўскага тэатра Пелагея і Кацярына Азарэвіч, затым дзве дачкі Кацярыны – Марыя і Надзея.

З ініцыятывы і пад кіраўніцтвам В. Дуніна-Марцінкевіча ў 40–50-х гадах XIX ст. стварaўся беларускі нацыянальны тэатр. На менскай сцэне ставіліся аперэты «Сялянка» («Ідылія») і «Рэкруцкі набор», лібрэта да якіх напісаў сам Дунін-Марцінкевіч, што меў яскравы камедыйны талент.

Адметнымі музычнымі здольнасцямі валодала Каміла Марцінкевіч, дачка вядомага пісьменніка і вучаніца С. Манюшкі. На аснове беларускіх народных песняў і танцаў пачаў ствараць нацыянальныя творы Антон Абрамовіч. Ён напісаў п'есу «Беларускія мелодыі», музыку да беларускіх вершаў Я. Баршчэўскага.

Выбітнымі беларускімі музыкантамі таго часу былі браты Вінцэнт і Дамінік Стафановічы, якія шмат гадоў кіравалі Менскім гарадскім аркестрам. У Менску пачыналася музычная і кампазітарская дзейнасць вучня А. Стафановіча, ураджэнца Ігуменскага павета Станіслава Манюшкі, што пазней узначаліў Варшаўскі оперны тэатр і стварыў знакамітую оперу «Галька». Дванаццаць песняў Манюшка напісаў на вершы Яна Чачота.




Дом Манюшкі ў Менску. Малюнак Віктара Стахчанка



Аўтапартрэт В. Ваньковіча. 1840 г.



Менская сядзіба В. Ваньковіча. Малюнак Віктара Станчанюка



Валянцін Ваньковіч. Партрэт невядомага ў жоўтай камізэльцы. 1836 г.

## Жывапіс

У гістарычным жанры плённа працаваў выпускнік Полацкага калегіюма Валянцін Ваньковіч (1794–1842), аўтар славутых палотнаў «Міцкевіч на скале Аюдаг», «Напалеон каля вогнішча» ды іншых. Гістарычная тэма была ўлюбёнай і ў мастака Яна Дамеля (1780–1840): «Хрышчэнне славян», «Смерць вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам», «Вызваленне Т. Касцюшкі з вязніцы», «Адыход французаў праз Вільню ў 1812 г.».

Асноўныя жанры тагачаснага выяўленчага мастацтва – партрэтны і гістарычны. Іх бліскучым майстрам быў беларускі жывапісец Язэп Аляшкевіч (1777–1830), пэндзлю якога належаць партрэты А. Міцкевіча, А. Сапегі, М. Радзівіла, А. Чартарыйскага.



Партрэт Язэпа Аляшкевіча. Невядомы мастак



Язэп Аляшкевіч. Групавы партрэт. 1813 г.

Выбітны мастак Францішак Смуглевіч заклаў у 1797 г. у Віленскім універсітэце катэдру малюнка і жывапісу. Ягоная творчасць мела значны ўплыў на развіццё мастацтва ў Беларусі





Францішак Смуглевіч. «Сяляне-ліцвіны»

Францішак Смуглевіч «Персідскія паслы ў караля Марока»





Аўтапартрэт Яна Дамеля



Аўтапартрэт мастака Яна Рустэма



Ян Рустэм. Групавы партрэт. 1808 г.



Інтэр'ер палаца Радзівілаў у Нясвіжы



Напалеон Орда.
Мястэчка Высокае Гарадзенскай губерні – старажытная ўласнасць князёў Сапегаў.
Шмат вандруючы па Беларусі, Н. Орда зрабіў болей за 200 малюнкаў архітэктурных помнікаў і месцін, звязаных з жыццём вядомых людзей



Мастак і кампазітар
Напалеон Орда (1807–1883 гг.)

Помнік Н. Орду ў горадзе Іванаве (Янаве-Палескім). Скульптар Ігар Голубеў



Напалеон Орда.
Бяроза Картузская.
Кляштар картузаў, закладзены ў 1618 г.
Львом Сапегам
на-над ракою
Ясельдаю



Напалеон Орда.
Бялынічы Менскай губерні:
Касцёл кармелітаў быў слынны цудоўным абразом Божай Маці



Іван Хруцкі.
Нацюрморт з кветкамі
і садавінай



Іван Хруцкі.
Сямейны партрэт. 1850 г.

Мастак Язэп Пешка





Аўтапартрэт І. Хруцкага



Іван Хруцкі.
Партрэт жонкі з кветкамі. 1838 г.

Язэп Пешка.
Віленская ратуша. 1808 г.



Прызнаным майстрам нацюрморта, партрэта і пейзажа стаў Іван Хруцкі (1810–1885).

Насуперак нацыянальнаму ўціску і русіфікацыі беларуская культура выходзіла на новыя абсягі. Сярод творчай інтэлігенцыі выспявала выснова пра існаванне самабытнага беларускага этнасу з уласнымі гісторыяй, мовай і традыцыямі.

# БУРЖУАЗНЫЯ РЭФОРМЫ



Прыбыццё цягніка на вакзал у Берасці

Першай і галоўнай з буржуазных рэформаў, на якія ў другой палове XIX ст. мусілі пайсці ў Расейскай імперыі, было скасаванне прыгоннага права. Маніфест і Палажэнні пра вызваленне сялян імператар Аляксандр II падпісаў 3 сакавіка 1861 г. Сяляне атрымлівалі асабістую свабоду і права распараджацца сваёй маёмасцю. У руках абшарнікаў (памешчыкаў) заставалася ўся зямля, аднак яны вымушаныя былі аддаць сялянам у сталае карыстанне (за павіннасці) сядзібу і палявы надзел. Сяляне мелі права выкупіць сядзібу і надзел, але ўстаноўлены кошт зямлі быў значна вышэйшы за рынкавы.



Герб «Шаліга», якім карыстаўся род прадпрымальнікаў і мецэнатаў Пуслоўскіх



Баржа на рацэ Прыпяць



Вясковец з-пад Лепеля

Памеры надзелаў, павіннасці і парадак іх выканання вызначалі самі памешчыкі. Рэформа 1861 г. пакідала бальшыню сялян абрабаванымі.

У Беларусі рэформа 1861 г. праводзілася з улікам двух адмысловых мясцовых палажэнняў і мела шэраг асаблівасцяў. Прыкладам, у Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губернях сяляне мелі права на зямлю, якой карысталіся пад прыгонам, але і тут дапускаліся адрэзкі. Выкупіць свае надзелы можна было не раней чым праз 9 гадоў. Увесь гэты час сяляне лічыліся «часоваабавязанымі» і за карыстанне зямлёй, як і раней, адбывалі паншчыну або плацілі чынш.



Сяляне Барысаўскага павета. Фота другой паловы XIX ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

3 сакавіка 1861 г. – Скасаванне прыгоннага права.

1862–1874 гг. – Увядзенне ўсеагульнай вайсковай павіннасці.

1864 г. – Забарона размаўляць у навучальных установах на роднай мове.

Рэкламная абвестка Менскага губернскага прадстаўніцтва вядомых у Расейскай імперыі Мальцаўскіх заводаў

Манусъ Іосифовичъ Шабадъ
МИНСКЪ ГУБ.
ПРЕДСТАВИТЕЛЬСТВО
АКЦІОНЕРНАГО ОБЩЕСТВА
МАЛЬЦЕВСКИХЪ ЗАВОДОВЪ
по продажѣ
ЛОКОМОБИЛЕЙ
для сельскаго хозяйства и промышленности съ ПЕРЕГРѢВОМЪ пара и КОМПАУНДЪ съ конденсаціей мощностью
до 300 лошад. силъ
чугуно-ФАРФОРО-ЭМАЛИРОВАННЫЕ:
ВАННЫ и
УМЫВАЛЬНИКИ.
Принадлежности парового и водяного отопленія, домоустройства.
РЕДІАТОРЫ, РЕБРИСТЫЯ ТРУБЫ и батареи.
ПЕЧИ непрерывного горѣнія „МЕТЕОРЪ".
Выгодныя условія. )—( Постоянный запасъ.

Вёска Скокі пад Берасцем. Малюнак Напалеона Орды



Каб не дапусціць удзелу сялян у збройнай нацыянальна-вызвольнай барацьбе, 1 сакавіка 1863 г. быў выдадзены ўказ аб спыненні часоваабавязаных дачыненняў сялянаў і абшарнікаў у Віленскай, Менскай, Гарадзенскай і часткова Віцебскай губернях, а таксама аб скарачэнні на адну пятую выкупных плацяжоў (у тым жа годзе гэтыя правілы былі пашыраныя і на астатнія беларускія землі). Але гэта не змяніла рабаўнічага характару рэформы, бо болей за палову лепшае зямлі засталося ў руках памешчыкаў.

Хваляванні пасля царскага маніфесту і асабліва паўстанне 1863 г. змусілі царскі ўрад памяняць умовы рэформы ў Беларусі.



Ваўкавыск. Канец XIX ст.



Гараджане. Кераміка канца XIX ст.



Беларускія саматканыя паясы




Вуліца ў Берасці. Паштоўка пачатку XX ст.

У 1862–1874 гг. была праведзеная вайсковая рэформа. У выніку яе ў Расейскай імперыі замест рэкруцкай сістэмы камплектавання арміі ўводзілася ўсеагульная вайсковая павіннасць для мужчын, якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту. Тэрмін службы ў сухапутных войсках скарачаўся да шасці, на флоце – да сямі гадоў.

1864 год стаўся пачаткам земскай, судовай і школьнай рэформаў. Першая з іх прадугледжвала стварэнне ў паветах і губернях выбарных земскіх установаў для кіравання мясцовай гаспадаркай, народнай асветай, аховай здароўя. Аднак на Беларусь закон аб земствах з палітычных меркаванняў не пашыраўся.

Са спазненнем пачалася ў Беларусі судовая рэформа. У сувязі з адсутнасцю земстваў міравыя суддзі ў паветах тут не выбіраліся, а прызначаліся міністрам юстыцыі, ад якога цалкам залежалі. Акруговыя суды з прысяжнымі ў заходніх губернях імперыі былі ўведзеныя толькі ў 1882 г., прычым улады захавалі за сабой права фармаваць і зацвярджаць спіс прысяжных.

Этыкеткі прадукцыі Лідскага і Гомельскага піўных бровараў













Адрозна ад цэнтральных губерняў Расеі ў Беларусі не было земскіх школаў і грамадства да кіравання школьнай справаю не дапускалася.

Лепель. Паштоўка з выглядам на шлюз Бярэзінскай воднай сістэмы, што злучала басейны Дзвіны і Дняпра




Дзяржаўны крэдытны білет наміналам дзесяць рублёў, 1878 г.





Гвардзейцы-гусары Гарадзенскага палка: генерал і унтэр-афіцэр



Цукарніца, імбрычак і вяршкоўніца

Замест расейскага «Палажэння пра пачатковыя народныя навучальні» 1864 г. у Беларусі дзейнічалі адмысловыя «Часовыя правілы для народных школаў».

Цэнзурная рэформа 1865 г. пашырала магчымасці друку, але значна абмяжоўвала выдачу дазволаў на новыя перыядычныя выданні, а таксама пералік дазволеных для абмеркавання ў друку праблем.

У 1875 г., на пяць гадоў пазней, чым у Расеі, у Беларусі распачалася гарадская рэформа. Яна была заснаваная на буржуазным прынцыпе ўсеагульных выбараў гарадскога кіравання паводле маёмаснага цэнзу. Такім чынам у гарадскіх думах забяспечвалася большасць прадстаўнікоў буйной і сярэдняй буржуазіі. Дума выбірала свой выканаўчы орган – гарадскую ўправу на чале з гарадскім галавою.

Буржуазная скіраванасць рэформаў 60–70-х гадоў XIX ст. была непаслядоўнай і супярэчлівай. Асабліва выразна гэта выяўлялася ў Беларусі ды іншых нацыянальных ускраінах імперыі.



Вуліца Купецкая ў Горадні



Цясляр з Прыдзвіння. Фота другой паловы XIX ст.

У 1864 г. міністэрства асветы прыняло пастанову, якая забараняла вучням у навучальных установах размаўляць на роднай (не расейскай) мове.



Палац Браніцкіх у Беластоку

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ



Шляхоцкі герб «Калінава», якім карыстаўся род Каліноўскіх

У 1863 г. Беларусь зноў паўстала супроць імперскага прыгнёту. На чале паўстання стаў выдатны сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі.

Радзіма нашага нацыянальнага героя – вёска Мастаўляны Гарадзенскага павета (цяпер у Беластоцкім ваяводстве Польшчы).

Паходзіў Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі з шляхоцкай сям'і. Першапачатковую адукацыю будучы рэвалюцыянер атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні.

У 1856 г. Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, які скончыў праз чатыры гады з навуковай ступенню кандыдата права. Ужо ў студэнцтве ён рашуча ступіў на сцяжыну палітычнай барацьбы з самаўладдзем, разам з братам належаў да рэвалюцыйнага гуртка Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага. У Беларусь Каліноўскі вярнуўся ў 1861 г. пераканаым змагаром супроць царызму.



Кастусь Каліноўскі. Фота 1862 г.

Кастусь стаў стваральнікам і душою рэвалюцыйнай арганізацыі ў Горадні, ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках, дзе вёў прапаганду сярод сялянаў, рыхтуючы іх да паўстання. Гэтай мэце служыла і нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда». Надзелены яскравым публіцыстычным і літаратурным талентам, Каліноўскі пачаў выдаваць яе ў 1862 г. супольна з паплечнікамі з Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангінам і Валерам Урублеўскім. Аўтар і рэдактар большасці нумароў газеты, Кастусь сам браў удзел у яе пашырэнні: развозіў па вёсках, раскідваў на дарогах. Ён імкнуўся развеяць ілюзіі сялянаў, паказаць, што царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права – гэта чарговае ашуканства народа.

Будынак Свіслацкай гімназіі, у якой вучыўся К. Каліноўскі. З гравюры XIX ст.



## ХРАНАЛОГІЯ

2 лютага 1838 г. – Нараджэнне К. Каліноўскага.

1862–1863 гг. – Выданне нелегальнай «Мужыцкай праўды», першай газеты на беларускай мове.

11 сакавіка 1863 г. – Прызначэнне К. Каліноўскага паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губерні.

31 ліпеня 1863 г. – К. Каліноўскі зноў узначаліў паўстанне ў Беларусі і Літве.

22 сакавіка 1864 г. – Пакаранне К. Каліноўскага смерцю ў Вільні.

Вялікі ўплыў на Кастуся Каліноўскага меў старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце і даследваў на даручэнне Віленскай археалагічнай камісіі старадаўнія беларускія рукапісы.

Першы нумар «Мужыцкай праўды»

**Nr. 1. Mużyckaja prauda**

Dzieciuki!

«Мужыцкая праўда» разляталася па ўсім абшары Беларусі. «У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе саўсім перарабіці на маскаля...– звярталася газета да простага люду. – За тое, што мы цару 25 лет на войнах служым без людскае стравы і адзежы, мала таго, што не дае шляхецтва, но, сабача юха, не дае нават куска зямлі, каб, хаця цяжка гаруючы, дабіціся да спакойнай смерці... А што грэху набярэшся перад Богам, спрыяючы маскалю, таго ніколі Бог не даруе. Ідзе француз даваці вольнасць мужыкам, бунтуюцца местачковыя да і маладзёж за сваю і нашу вольнасць і веру, а мы то даем рэкрута, і нашымі грудзямі цар маскоўскі застаўляецца, і нашымі рукамі ўсмірае бунты... Ён то, перакупіўшы многа папоў... плаціў грошы, каб толькі пераходзілі на праваслаўе, і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі, а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў злітавання над намі».

Мястэчка Свіслач
Гарадзенскай губерні.
Малюнак Напалеона Орды



Кожны нумар «Мужыцкай праўды», нязменна падпісаны псеўданімам Каліноўскага «Яська-гаспадар з-пад Вільні», прысвячаўся пэўнай тэме. Газета выкрывала русіфікатарскую палітыку, вяла гаворку пра рэкруцкія наборы і рэлігійны прыгнёт.



Арыштаваны паўстанец на гарадской вуліцы. Тагачасны малюнак

Інсургент з-пад Полацка. Фота 1863 г.



Гэтая гарадзенская вуліца памятае крокі Каліноўскага і ягоных паплечнікаў. Фота Анатоля Кляшчука

Апошні, сёмы, нумар «Мужыцкае праўды» пабачыў свет ужо ў час паўстання. Там гучаў адкрыты заклік да змагання з расейскімі каланізатарамі: «Падумайце добра да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашу вольнасць! Нас цар ніц не падмане – не падвядуць маскалі: няма для іх у нашых сялян ні вады, ні хлеба, для іх мы глухія і нямыя – нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі да праўды».

Яшчэ ўвосень 1862 г. Каліноўскі ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, што рыхтаваў вызвольнае паўстанне ў Беларусі. Кастусь стаяў на чале найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх адрозна ад лібералаў («белых») называлі «чырвонымі». Яны выступалі супроць няроўнасці станаў, за дэмакратычную рэспубліку, за перадачу зямлі сялянам.

Капсульны рэвальвер. Зброю такога кшталту мелі паўстанцы 1863 г.

Каліноўскі лічыў, што народы Беларусі, Летувы і Украіны павінны самі вырашыць пытанне пра сваю незалежнасць. «Белыя» ж бачылі галоўную задачу ў аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

Паслядоўна пачатку паўстання «белым» удалося адхіліць Каліноўскага і ягоных паплечнікаў ад кіраўніцтва. Ён стаў паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губерні, здолеў прыцягнуць да ўдзелу ў збройнай барацьбе шмат сялян.

Паўстанне ў Беларусі ўжо задыхалася. Адзін з інсургентаў – паўстанцкі камісар Магілеўскай губерні Вітаўт Парфіяновіч – на допыце выдаў Каліноўскага. У лютым 1864 г. «дыктатар паўстання», што жыў у Вільні ў Святаянскіх мурах (побач з саборам Святога Яна) пад імем Ігната Вітажэнца, трапіў у рукі царскіх жандараў.

Паўстанцкі абоз у ваколіцах Мінска

Пасля загаду аб ягоным арышце Кастусь Каліноўскі дзейнічаў пад канспірацыйнымі прозвішчамі Макарэвіч, Чарнецкі, Хамовіч, Хамуціус...

Улетку 1863 г. Каліноўскі зноў узяў у свае рукі кіраўніцтва Віленскім паўстанцкім цэнтрам.

N 3.

MUŽYCKAJA PRAUDA.

Dziaciuki!

Jaśko haspadar z pad Wilni.

«Мужыцкую праўду» нярэдка зачытвалі да дзірак, пра што сведчаць і гэты экземпляр першай у гісторыі газеты на беларускай мове

Міхаіл Мураўёў. Царскі сатрап, які кіраваў задушэннем нацыянальна-вызвольнага руху на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, у маладосці належаў да дзекабрыстаў, а скончыў свой жыццёвы шлях з мянушкаю Вешальнік

MUŽYCKAJA PRAUDA.

«Мужыцкая праўда» № 6.

Паказанні К. Каліноўскага на допыце 6 лютага 1864 г.

Пад час следства і суду Кастусь трымаўся надзвычай мужна. На прапанову палегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны, ён адказаў: «Калі грамадская шчырасць ёсць дабрачыннасцю, то шпіёнства апаганьвае чалавека. Усведамленне гонару, уласнае годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці на іншым шляху».

Царскі ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць правадыра інсургентаў смерцю на шыбеніцы. Прысуд быў выкананы 22 сакавіка 1864 г. на віленскім гандлёвым пляцы Лукішкі.

З царскага астрога Кастусь перадаў на волю свой звернуты да народу запавет – «Ліст з-пад шыбеніцы»: «Браты мае, мужыкі родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду... Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку...

Старажытным шляхоцкім гербам «Даленга» карысталіся болей як 150 родаў, у тым ліку Барэйкі, Гарэцкія, Грабоўскія, Дамброўскія, Кавалеўскія, Лясоцкія, Макавецкія, Невядомскія, Падлеўскія, Сёракоўскія, Шыпкі, Ясенскія. Шмат прадстаўнікоў гэтых родаў удзельнічалі ў паўстанні К. Каліноўскага



Паўстанцы 1863 г.



Адзін з папярэднікаў Каліноўскага ў падрыхтоўцы паўстання і яго кіраўніцтве Зыгмунт Серакоўскі (1826–1863 гг.)






Харугва паўстанцаў 1863 г. з гербамі Літвы-Беларусі і Польшчы і дэвізам «За нашу і вашу свабоду!»

Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу».

У турме, перад смерцю, напісаны і адзіны вядомы сёння верш Кастуся Каліноўскага, прысвечаны яго каханай:

*Марыська чарнабрэва, галубка мая,*
*Дзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая?*
*Усё прайшло, - прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшэнна горыч у грудзях застала...*

Адначасова гэта і зварот да ўсяго беларускага народу:

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві у шчасці, жыві у свабодзе.*
*І часамі спамяні пра Яську свайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*



Закаванне ў кайданы на этапе ў Сібір. Малюнак аднаго з паўстанцаў

# ПАЎСТАННЕ 1863 ГОДА




Бронзавы медаль, прысвечаны паўстанню 1863 г.

Трэцяе паўстанне супроць царызму ў Беларусі рыхтаваў гэтак званы Літоўскі правінцыйны камітэт, што знаходзіўся пад уплывам рэвалюцыйных дэмакратаў з лагера «чырвоных». Ён збіраў грошы, набываў зброю, вёў навучанне будучых камандзіраў. Сялянаў клікала на барацьбу «Мужыцкая праўда» Каліноўскага.

Першае выступленне паўстанцаў адбылося ўначы з 22 на 23 студзеня ў Варшаве. Увечары таго ж дня вестка пра пачатак збройнага змагання дайшла да Вільні.



JNSTRUKCYA Powstańcza.

Паўстанцкая інструкцыя



Інсургенты выходзяць з Горадні на зборны пункт. Гравюра XIX ст.



Rząd narodowy
Wydział zarządz: Prow: Litwy
mianuje obywatela Stanisława Wiszkowskiego
naczelnikiem miasta Hory-Horki
Wilno 13 Marca 1863



Загад паўстанцкага ўрада аб прызначэнні Станіслава Віскоўскага начальнікам горада Горы-Горкі

Зварот кіраўніцтва паўстання з заклікам да барацьбы



BRACIA! Królestwo powstało —Nasi na każdym miejscu Moskali biją!—Krew, która za Niemnem się leje, woła nas do broni! Walka więc z Najazdem za nasze Święte Prawa, za naszą wolność i u nas się zbliża!—Razem więc i zgodnie, a Bóg nam dopomoże!

Boże zbaw Polskę!

## ХРАНАЛОГІЯ

1 лютага 1863 г. – Маніфест Часовага ўрада з заклікам да паўстання.
13 лютага 1863 г. – Захоп паўстанцамі горада Пружаны.
11 сакавіка 1863 г. – Пераход кіраўніцтва паўстаннем да «белых».
6 траўня 1863 г. – Захоп паўстанцамі горада Горы-Горкі.
21 траўня 1863 г. – Бітва паўстанцаў з царскімі войскамі каля Міладзідаў.
10 лютага 1864 г. – Арышт К. Каліноўскага.




Пячаткі паўстанцкага ўрада



Цітус Далеўскі (1840–1864 гг.)



Людвік Звяждоўскі
(1829–1864 гг.)



Валер Урублеўскі
(1836–1908 гг.)



Рамуальд Траўгут
(1826–1864 гг.)

1 лютага 1863 г. Літоўскі правінцыйны камітэт быў пераўтвораны ў Часовы ўрад, які выдаў да жыхароў краю маніфест аб паўстанні. За колькі дзён да гэтага ў заходніх паветах беларускіх губерняў ужо з'явіліся першыя аддзелы інсургентаў з Польшчы. У сакавіку–красавіку пачынаецца хуткае стварэнне мясцовых паўстанцкіх аддзелаў, у якія пераважна ўступалі шляхта, чынавенства, студэнты і навучэнцы. Пятую частку ўзброеных змагароў складалі сяляне.

Развітанне з інсургентам.
Мастак Артур Гротгер.
1860-я гады



На чале паўстанцкіх фармаванняў сталі адданыя ідэалам свабоды патрыёты Валер Урублеўскі, Рамуальд Траўгут, Людвік Звяждоўскі, Ігнат Будзіловіч, Фелікс Віславух, Цітус Далеўскі...

Паўстанцы 1863 г.
Праект мундзіраў.
Мастак Юліюш Коссак







Адзін з паўстанцкіх камандзіраў Баляслаў Кальнінка

Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў. Літаграфія Міхала Эльвіра Андрыёлі. 1864–1865 гг. Людвік Нарбут, які быў паўстанцкім вайсковым начальнікам Лідскага павета, сфармаваў адзін з першых у Беларусі аддзелаў, які ў лютым–красавіку 1863 г. паспяхова ваяваў з расейскімі карнікамі



Лясны лагер каліноўцаў. Малюнак Міхала Эльвіра Андрыёлі

Напачатку інсургенты здолелі атрымаць некалькі значных перамог. Аддзел паўстанцкага начальніка Магілеўскай губерні Людвіка Звяждоўскага заняў горад Горы-Горкі. Паўстанцы авалодалі Пружанамі і мястэчкам Свіслач. Аднак расейскія ўлады здолелі (асабліва на ўсходзе Беларусі) падмануць значную частку сялянства, якое паверыла, нібыта «паны змагаюцца за вяртанне прыгону».



Пяцізарадны рэвальвер сістэмы «кольт». Мадэль 1862 г.

Такія рэвальверы французскай вытворчасці мелі на ўзбраенні беларускія паўстанцы

Беларускія жанчыны рыхтуюць медыкаменты для паўстанцаў. Тагачасны малюнак





Харугва коннай паўстанцкай брыгады



Шляхоцкі герб «Шранява», якім карыстаўся ўдзельнік паўстання беларускі пісьменнік Артём Вярыга-Дарэўскі



Паўстанцкі вайсковы начальнік Менскага ваяводства Баляслаў Святарэцкі



Паплечнік К. Каліноўскага, сябар Літоўскага правінцыйнага камітэта Эдмунд Вярыга



Бой паўстанцаў з карнікамі. Тагачасны малюнак

Паўстанцкі лазарэт. 1863 г.



Усеагульнага антыпрыгонніцкага паўстання баяўся і лагер «белых», якіх задавальняла аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. з дапамогаю іншаземных дзяржаваў. «Белыя» былі катэгарычна супраць планаў Каліноўскага і ягоных паплечнікаў усталяваць новыя дэмакратычныя парадкі, калі не будзе падзелу грамадства на станы, а зямля пяройдзе да тых, хто яе ўрабляе. Прадстаўнікам «белых» удалося яшчэ ў лютым замест рэвалюцыйнага Часовага ўрада стварыць свой Аддзел кіравання правінцыямі Літвы, які прызначыў ва ўсе губерні сваіх камісараў.



Сутычка касінераў з царскай пяхотаю



Расстрэл паўстанца расейскімі салдатамі



Прадстаўнік партыі «белых» Якуб Гейштар у лютым 1863 г. узначаліў паўстанцкі аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы



Адзін з кіраўнікоў «белых» Аляксандр Аскерка




Бронзавы медаль у гонар паўстання 1863 г.

Ва ўсходнебеларускіх губернях царскія войскі задушылі паўстанне ўжо ў траўні. Былі разбітыя і амаль усе аддзелы змагароў у Менскай губерні. Толькі на Гарадзеншчыне, дзе паўстанцы карысталіся найбольшай падтрымкаю сялянаў, яны дзейнічалі больш паспяхова і доўгі час заставаліся недасягальнымі для карнікаў. Найбольшы бой адбыўся ў Слонімскім павеце каля вёскі Мілавіды, дзе дагэтуль захавалася мемарыяльная капліца, што нагадвае пра тую падзею. Пад націскам добра ўзброеных і вымуштраваных рэгулярных войскаў інсургенты адышлі са Слонімскага павета ў Ваўкавыскі, але ў чэрвені былі там разбітыя.

На пачатку лета кіраўніцтва паўстаннем зноў перайшло ў рукі «чырвоных». Рэвалюцыйны ўрад, названы Выканаўчым аддзелам Літвы, неўзабаве ўзначаліў Кастусь Каліноўскі. Ён і ягоныя прыхільнікі самаахвярна спрабавалі ўзняць на барацьбу сялянства, зрабіць больш дзейнымі мясцовыя рэвалюцыйныя камітэты. Аднак паўстанне ўжо было асуджанае на паразу.

Задушэннем вызвольнага руху кіраваў хітры і жорсткі царскі сатрап М. Мураўёў, што за свае крывавыя «подзвігі» атрымаў мянушку Вешальнік. Ён не грэбаваў аніякімі сродкамі: дзейнічаў подкупамі і ашуканствам, падпісваў смяротныя прысуды і загадваў заліваць магілы экскрэментамі, каб не дапусціць там патрыятычных маніфестацый. Тым не менш бai на захадзе Беларусі працягваліся да канца 1863 г.

Паўстанне 1863 г. было адным з незлічоных у гісторыі XIX ст. прыкладаў, калі па сутнасці купка ўзброеных людзей, абараняючы сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, паўстала супроць велізарнай імперыі. Тры еўрапейскія народы – беларусы, палякі і летувісы – коштам жыццяў сваіх найлепшых сыноў выказалі пратэст супроць расейскага феадалізму, абсалютызму і дэспатызму, засведчыўшы прыхільнасць да канстытуцыйнасці і парламентарызму.



Бівак казакоў-карнікаў


Паўстанцы 1863 г. на этапе ў Сібір

Агульная колькасць паўстанцаў, палеглых у «Северо-Западном крае», невядомая. Пакараных ваенна-палявымі судамі і без суду налічвалася 18,5 тысячы. 128 былі павешаныя або расстраляныя, 853 пайшлі на катаргу, каля 12 тысяч – у высылку і арыштанцкія роты.

Царызм патапіў паўстанне ў крыві, але дзякуючы яму беларускае сялянства атрымала ад урада значныя ўступкі ў рэалізацыі рэформы 1861 г.

Разам з тым у беларускіх губернях быў устаноўлены рэжым выключных законаў, накіраваных на татальную русіфікацыю. Адбывалася буйнамаштабнае, спалучанае з рэпрэсіямі насаджэнне расейскага землеўладання і чынавенства, а таксама «разбор» шляхты і масавае пазбаўленне яе сваіх правоў. Яшчэ раней было спыненае дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага. Услед за Віленскім універсітэтам улады зачынілі ў 1864 г. і Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Беларускія губерні не мелі права на выбарныя земствы, выбарныя міравыя суды і дваранскае самакіраванне. Сотні тысяч беларусаў-вуніятаў гвалтоўна далучылі да расейскай праваслаўнай царквы. Для беларусаў-каталікоў, палякаў і габраяў дзейнічалі шматлікія абмежаванні ў правах.

Палітыка царызму ў Беларусі набыла ў поўнай меры каланіяльны характар.

Сярод паўстанцаў было ўжо нямала тых, хто ваяваў не за Рэч Паспалітую, а за Беларусь. Яны мелі беларускую газету, у іх шэрагах змагаліся беларускія пісьменнікі Францішак Багушэвіч і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Гэта прагучала для расейскіх уладаў трывожным сігналам, і нацыянальны прыгнёт яшчэ больш узмацніўся.


«Нядзеля ў сібірскай капальні». Мастак Я. Мальчэўскі. 1882 г.


Мураўёў-Вешальнік. Карыкатура другой паловы XIX ст.

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНІКІ




Пячатка падпольнай арганізацыі «Зямля і воля»

Жорсткае задушэнне паўстання 1863–1864 гг., рэпрэсіі і цяжкі рэжым выключных законаў надоўга затрымалі развіццё беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Ён адчувальна заявіў пра сябе толькі ў сярэдзіне 70-х – пачатку 80 гадоў XIX ст.

У Расейскай імперыі тады пашырылася народніцкая тэорыя змагання з царызмам, заснавальнікамі якой былі А. Герцэн, М. Чарнышэўскі, М. Бакунін.

Вядомымі ўдзельнікамі народніцкага руху былі ўраджэнцы беларускіх губерняў Мікалай Судзілоўскі, Рыгор Ісаеў, Гэся Гельфман, Антон Барэйша, Анатоль Бонч-Асмалоўскі, Язэп Лукашэвіч.



Беларус Рыгор Ісаеў (1857–1886 гг.) удзельнічаў у падрыхтоўцы замаху на імператара Аляксандра II

Адзін з першых народніцкіх гурткоў у Беларусі ўтварыўся ў 1875 г. у Магілеве сярод навучэнцаў мужчынскай гімназіі і духоўнай семінарыі. Падобныя гурткі дзейнічалі таксама ў Менску, Горадні, Віцебску, Слуцку, Воршы, Пінску, Горы-Горках.

Агульнарасейская падпольная арганізацыя «Зямля і воля» ў 1879 г. раскалолася на дзве партыі: «Чорны перадзел», які заставаўся на ранейшых прапагандысцкіх пазіцыях, і «Народная воля», якая аб'яднала прыхільнікаў палітычнага тэрору. Большасць беларускіх народнікаў на пачатку 80-х гадоў XIX ст. былі прыхільнікамі «Народнай волі», якая засяродзілася на падрыхтоўцы забойства цара Аляксандра II, разлічваючы, што гэта паслужыць сігналам да народнага паўстання ва ўсёй імперыі.



Народнік Мікалай Судзілоўскі стаў дзеячом міжнароднага рэвалюцыйнага руху, вядомым вучоным-прыродазнаўцам. У 1901 г. быў абраны прэзідэнтам Сената Гавайскай рэспублікі




Менская жаночая гімназія. Ідэі народніцтва былі папулярныя ў гімназічным і студэнцкім асяроддзі

**ХРАНАЛОГІЯ**

1855–1881 гг. – Жыццё і дзейнасць Ігната Грынявіцкага.

13 сакавіка 1881 г. – Забойства І. Грынявіцкім імператара Аляксандра II.

1884 г. – Пачаў выходзіць часопіс «Гомон», орган беларускай фракцыі «Народнай волі».

Смяротны прысуд, вынесены «Народнай воляй» цару Аляксандру II, выканаў беларускі шляхціч Ігнат Грынявіцкі.



Забойца імператара Аляксандра II беларус Ігнат Грынявіцкі. Фота канца 1870-х гадоў

Прысуд імператару выканаў наш суайчыннік Ігнат Грынявіцкі. Паступленне ў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут і здольнасці да навукі абяцалі яму ў будучым спакойнае незалежнае жыццё і магчымасць бліскучай кар'еры. Але ён зрабіў іншы выбар. Уступіўшы ў 1879 г. у «Народную волю», Грынявіцкі браў чынны ўдзел у рэвалюцыйных гуртках, збіраў сродкі на патрэбы палітычных вязняў, пашыраў падпольную літаратуру, працаваў у «нябеснай канцылярыі» – нелегальным пашпартным стале, дзе фабрыкаваліся неабходныя рэвалюцыянерам дакументы. Адначасова ён уваходзіў у тэрарыстычную групу, якая сачыла за выездамі цара.

Напярэдадні тэрарыстычнага акта Грынявіцкі склаў свой запавет, дзе пісаў: «Аляксандр II павінен памерці. Дні ягоныя злічаныя. Недалёкая будучыня пакажа: мне або іншаму давядзецца зрабіць апошні ўдар, водгулле якога разнясецца па ўсёй Расеі... Што будзе далей? Ці шмат яшчэ ахвяраў запатрабуе нашая няшчасная, але дарагая радзіма ад сваіх сыноў дзеля свайго вызвалення?»

Пасля выбуху ягонай бомбы на набярэжнай Кацярынінскага канала ў сталіцы імперыі Ігнат Грынявіцкі перажыў імператара ўсяго на некалькі гадзін. Але ніякіх значных хваляванняў у народзе забойства цара не выклікала. Новы імператар Аляксандр III абвясціў адкрыта рэакцыйны курс унутранай палітыкі і спыніў ліберальныя ваганні свайго папярэдніка.

Выбух на набярэжнай Кацярынінскага канала ў Пецярбурзе





Его Превосходительству
Господину Директору С. Петербургского Технологического Института

Студента II курса
Игнатия Гриневицкого

Прошение

Не имея в виду оставаться в Институте, честь имею просить Ваше Превосходительство выдать мне мои документы, а также и свидетельство о пребывании в Институте.

Игнатий Гриневицкий

30 Мая
1880 года

Заява І. Грынявіцкага дырэктару Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута пра намер пакінуць навучанне



Карэта імператара Аляксандра II пасля выбуху першай бомбы нарадавольцаў. 13 сакавіка 1881 г.



Аляксандр II. Пасмяротны здымак

Беларус Сяргей Кавалік быў адным з кіраўнікоў народніцкага руху 1870-х гадоў у Расеі



Першы нумар падпольнага гектаграфічнага часопіса «Гомон», органа беларускай фракцыі «Народнай волі»



ГОМОН

Бѣлорусское соціально-революціонное обозрѣніе

№ 1

Содержаніе

| | |
|---|---|
| От редакціи. | Кореспонденція из Вильны. |
| Роль мѣстных революц. групп. | „ „ „ Петербурга. |
| Воззваніе к Бѣлорус. интеллиг. | „ „ „ Кіева. |
| Воззваніе конституціоналистов. | „ „ „ Витебска. |
| Общество „освобожд. труда“ | „ „ „ Харькова. |

- 1884. -




Удзельніца «Народнай волі» мазыранка Геся Гельфман

У 1884 г. у Пецярбурзе выйшлі два нумары падпольнага гектаграфічнага часопіса «Гомон». Ягоныя выдаўцы – група студэнтаў-нарадавольцаў з Беларусі называлі Грынявіцкага «адным з гарачых заснавальнікаў сваёй фракцыі». На старонках «Гомона» з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый абвяшчалася пра існаванне беларускай нацыі і гучала патрабаванне яе самастойнасці пасля знішчэння царызму.

«Мы – беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і федэратыўную аўтаномію краіны», – азначалася ў першым нумары часопіса «Гомон».




Нарадавольцы дзейнічалі ў шмат якіх беларускіх гарадах. Горадня пры канцы XIX ст.

Судовая справа выканаўцаў смяротнага выраку Аляксандру II



ПРАВИТЕЛЬСТВУЮЩАГО СЕНАТА

515 ОСОБАГО ПРИСУТСТВІЯ

ДЛЯ СУЖДЕНІЯ ДѢЛЪ О ГОСУДАРСТВЕННЫХЪ ПРЕСТУПЛЕНІЯХЪ

# ДѢЛО

о мѣщанинѣ Николаѣ Рысаковѣ, крестьянахъ Андреѣ Желябовѣ, Тимофеѣ Михайловѣ, сынѣ священника Николаѣ Кибальчичѣ, дворянкѣ Софьѣ Перовской и мѣщанкѣ Гесѣ Гельфманъ обвиняемыхъ въ совершеніи 1го Марта 1881 года злодѣянія жертвою коего палъ въ Бозѣ почившій Государь Императоръ Александръ Николаевичъ.

Томъ 1й

№ 44

Начато 7 Марта

Рѣшено 29 Марта 1881 года

Соф'я Пяроўская – адна з удзельнікаў падрыхтоўкі замаху на Аляксандра II



Народаволец з Магілёўшчыны Мікалай Забэла



«Гоманаўцы» лічылі, што народнай інтэлігенцыі ў сваёй дзейнасці нельга абмяжоўвацца вывучэннем роднага краю і культурніцкай працаю на яго карысць, бо пры такім рэжыме гэта не дасць аніякіх практычных вынікаў. Патрэбна палітычнае змаганне.

Заклікаючы беларусаў да барацьбы за сацыяльныя і нацыянальныя ідэалы, аўтары «Гомона» пісалі, што народ можа адчуваць недавер да сваіх сілаў, але адсутнасць у ягоных масах нацыянальнага руху – яшчэ не сведчанне яго нібыта адвечнай дрымотнай пасіўнасці. Часопіс нагадваў пра барацьбу беларускіх царкоўных брацтваў з акаталічваннем, пра магутныя сялянскія бунты супраць прыгону і паўстанні 1831 і 1863 гг.

Беларусь стаяла на парозе новага этапу змагання за сваё вызваленне.




Будынак грамадскага сходу ў Менску. Тут пачынала дзейнасць Менскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, створанае ліберальнай інтэлігенцыяй у 1898 г. Сябры таварыства хутка трапілі ў лік паднаглядных

# БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯ



Пры канцы XVIII ст., пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай, амаль уся заселеная беларусамі тэрыторыя ўвайшла ў склад Расейскай імперыі. Асноўная маса нашага народа жыла ў Віцебскай, Магілеўскай, Менскай, Гарадзенскай, Віленскай і Смаленскай губернях. Абсалютная большасць беларусаў (да 95%) была жыхарамі сельскай мясцовасці і належала да сялянскага стану. У гарадах і мястэчках пераважала габрайскае насельніцтва.

Стaрадаўні беларускі музычны інструмент – лера. 1809 г.

Так выглядаў Магілеў на мяжы XIX–XX стст.



Маладыя кабеты ў модным адзенні.
Фота са збораў колішняга Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні





Мястэчка Глыбокае



Хлопчык на ровары. Фота 1901 г.

Паводле перапісу 1897 г., сярод гараджан «Северо-Западного края» беларусы (на роднай мове) складалі ўсяго 14,5%. Разам з тым беларускую мову назвалі роднай 86 тыс. (больш за 50%) усёй шляхты, 60% настаўнікаў, 40% чыноўнікаў, 30% паштова-тэлеграфных службоўцаў, 20% медыцынскіх працаўнікоў. Ва ўмовах жорсткай русіфікацыі такія паказчыкі сведчылі пра значны рост нацыянальнай свядомасці.

Карта Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Магілеўскай і Менскай губерняў, у якія ўваходзіла большая частка этнічных беларускіх земляў

КАРТА
ГУБЕРНІЙ
ВИЛЕНСКОЙ, ГРОДНЕНСКОЙ, КОВЕНСКОЙ
ВИТЕБСКОЙ, МОГИЛЕВСКОЙ и МИНСКОЙ
БѢЛОРУССІИ и ЛИТВЫ





Маці Божая Барунская. XVIII ст.

У сферы адукацыі і культуры ажыццяўлялася суцэльная русіфікацыя, былі зачыненыя ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Важнай асаблівасцю беларусаў як этнасу быў падзел паводле веравызнання на праваслаўных і каталікоў. Гэты падзел шырока выкарыстоўваўся ў мэтах русіфікацыі і паланізацыі: праваслаўных запісвалі ў «рускія», каталікоў – у «палякі». Пасля скасавання царкоўнай вуніі і гвалтоўнага далучэння вуніятаў да дзяржаўнай царквы праваслаўныя сярод беларусаў сталі значнай большасцю і складалі ў 1897 г. 80%.

Станаўленню большасці еўрапейскіх нацый спрыяла Вялікая французская рэвалюцыя. Аднак феадальная Расея ў 1812–1815 гг. перамагла буржуазную Францыю. Гэта яшчэ на паўстагоддзя захавала ў імперыі прыгон і стала прычынаю яе далёкага адставання ад Захаду.



Дамы і вайскоўцы ў аўтамабілі пад Менскам



Дзяўчынка з вербамі. Мастак Канут Русецкі. 1847 г.

Радаводнае дрэва старажытнага беларускага роду Вайніловічаў. Бронза. Пачатак XX ст.





Гарбары з Давыд-Гарадка. Фота М. Зубея з калекцыі Раманюкоў



Вятрак непадалёку Клецка

Палітыка расейскага самадзяржаўя мела ў Беларусі выразны каланіяльны характар. У эканоміцы гэта выяўлялася ў масавай раздачы расейскім памешчыкам земляў і беларускіх прыгонных сялян, у жорсткай іх эксплуатацыі і велізарным цяжары падаткаў і павіннасцяў, які лёг на плечы гараджан і сялянства. Пра катастрафічны эканамічны стан беларускіх гарадоў у 30-х гадах XIX ст. сведчыць той факт, што разам узятыя даходы Менска, Віцебска, Магілева, Ґародні, Полацка, Берасця, Пінска і Бабруйска былі ў 2,5 раза меншыя за гадавы даход, які князь Паскевіч атрымліваў з аднаго толькі Гомельскага маёнтка.



Кірмаш у Пінску



Калядоўнікі з-пад Шклова



Палескія дзяўчаты з прасніцамі. Фота пачатку XX ст. Калекцыя Раманюкоў




Паштоўка, прысвечаная пачатку аўтамабільнага руху ў Слуцку



«Жняя». Мастак Канут Русецкі. 1844 г.



На фота, знятым псаломшчыкам Сцяпанам Васілевічам Харламавым, царкоўныя апекавальнікі Воўчынскага прыходу. Калекцыя Раманюкоў

У падпольным гектаграфічным часопісе «Гомон» упершыню абвяшчалася і тэарэтычна абгрунтоўвалася існаванне самастойнага беларускага этнасу як «асобнай галіны славянскага племені».

Асноўнае багацце краю – зямля і яе нетры – належала памешчыкам, якія паводле нацыянальнай свядомасці былі палякамі і расейцамі. На пачатку 60-х гадоў XIX ст. яны трымалі ў сваіх руках больш за 80% мануфактур і фабрык. Скасаванне прыгоннага права прывяло да росту прамысловай буржуазіі з ліку купцоў і мяшчан габрайскай нацыянальнасці. Да не звязанага з сельскай гаспадаркай гандлёва-прамысловага насельніцтва Беларусі ў 1897 г. належала каля 300 тыс. чалавек. Беларусы сярод іх складалі 17%, палякі і расейцы – па 10%, габраі – 60%. Прыкладна такім самым быў нацыянальны склад мясцовай буржуазіі і рабочых. Перапіс 1897 г. засведчыў, што сярод купцоў у «Северо-Западном крае» беларусаў (па роднай мове) было усяго 1,7%, а габраяў – 85%.




Срэбны медаль Віленскага сельскагаспадарчага таварыства



Мастацкі строй канца XIX ст. Святочныя касцюмы сялян з в. Макраны. Міхась Раманюк. 1995 г.

Сялянскі куфар стаяў амаль у кожнай хаце. У ім захоўваліся найбольш каштоўныя рэчы і адзенне. Фота Міхася Раманюка





Беларускія цымбалы

Такім чынам, панавальнае становішча ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і гандлі займалі небеларусы. У грамадскім жыцці і культуры дамінавалі расейская мова і культура. Сацыяльным апірышчам беларускага нацыянальнага руху было сялянства, частка шляхты і невялікі пласт гараджан-рабочых, якія захавалі родную мову. У XIX ст. якраз з асяроддзя шляхты, пераважна каталіцкай, фармавалася беларуская нацыянальная інтэлігенцыя.

У першай палове XIX ст. пачала складвацца новая беларуская літаратурная мова. Велізарны ўклад у гэты працэс быў зроблены аўтарамі ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», пісьменнікамі Янам Баршчэўскім, Янам Чачотам, Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. Выдатнымі з'явамі беларускай публіцыстыкі сталі «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага і яго «Лісты з-пад шыбеніцы».



HAPON.

Cena zalatouka

Пецярбургскае перавыданне кнігі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Гапон». 1908 г.



Народныя музычныя інструменты: дуда, лера і ражкі



Покуць беларускай хаты – месца, дзе віселі абразы і стаяў засланы абрусам стол, за які звычайна садзілі паважаных гасцей

Ва ўмовах фактычнай забароны беларускамоўнага друку да 1905 г. важнае значэнне ў развіцці новай беларускай літаратуры мелі бесцэнзурныя публікацыі ў іншых краінах. За межамі Расейскай імперыі выходзілі мастацкія творы нашага выдатнага пісьменніка XIX ст. Францішка Багушэвіча.



Беларускі жаночы строй

Сялянка ў святочным строі. Фота Міхася Раманюка





Маці Божая Берасцейская. XVIII ст.



Прагулачныя «гандолы» на Прыпяці. Канец XIX – пачатак XX ст.

Траецкі касцёл у Відзах (Браслаўскі раён). Неаготыка. 1914 г. Фота Анатоля Клешчука

У другой палове 50-х гадоў XIX ст. беларускі нацыянальна-культурны рух пачаў перарастаць у палітычны. Напярэдадні паўстання 1863 г. К. Каліноўскі настойваў на неабходнасці раўнапраўных стасункаў Вільні і Варшавы: выстаўляў патрабаванне пра стварэнне ў будучым незалежнай ад Польшчы рэспублікі. Але ўрэшце ён мусіў падпарадкавацца Варшаўскаму нацыянальнаму ўраду, які толькі ў няпэўнай форме абяцаў «усім братнім народам» самакіраванне.

Пры канцы 70-х – на пачатку 80-х гадоў XIX ст. студэнты-беларусы з пецярбургскіх вышэйшых навучальных установаў нелегальна выдалі шэраг публіцыстычных твораў: «Да беларускай моладзі», «Да беларускай інтэлігенцыі», «Пасланне да землякоў-беларусаў ад «Шчырага Беларуса»...




«Крама ў Лёзне».
Мастак Марк Шагал.
1914 г.

У гэтых публікацыях сцвярджалася, што беларускі народ адчувае сваю еднасць і адрозніvae свае інтарэсы ад «польскіх і расейскіх». У адозве «Да беларускай моладзі» было заяўлена пра законныя правы беларускага народа на самастойнае і раўнапраўнае месца ў «агульнай славянскай сям'і».




Татарскі мячэт у Менску.
Паштоўка пачатку XX ст.




Магілёў.
Лютэранская
бажніца.
Паштоўка
пачатку XX ст.

Падрыхтоўка да палёту паветранага шара. Губернатарскі сад у Менску.
Жнівень 1899 г.





Побач з беларусамі на нашай зямлі здавён жылі габраі-юдэі. Тора – пергаментны скрутак з Пяцікніжжам Майсеевым. XIX ст. Полацак


СЛОВАРЬ
БѢЛОРУССКАГО НАРѢЧІЯ.

Слоўнік Івана Насовіча

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX СТАГОДДЗЯ

### Адукацыя і навука

Пасля задушэння паўстання 1863 г. каланіяльныя ўлады канчаткова пазбавілі Беларусь вышэйшай школы. За актыўны ўдзел выкладчыкаў і навучэнцаў у збройным змаганні з царызмам разам з Горы-Горацкім земляробчым інстытутам былі зачыненыя таксама Наваградская гімназія, Свіслацкая і Маладзечанская прагімназіі і яшчэ пяць сярэдніх навучальных установаў Віленскай навучальнай акругі. Выкарыстанне ў школах беларускай мовы забаранялася.



Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, дзе ў розны час вучыліся этнограф і фальклярыст Адам Багдановіч, Якуб Колас, Кузьма Чорны ды іншыя дзеячы беларускай культуры



Мужчынская гімназія на вул. Губернатарскай у Менску



Полацкая настаўніцкая семінарыя рыхтавала выкладчыкаў пераважна для Віленскай навучальнай акругі. Сярод яе выхаванцаў – паэт Янка Журба, гісторык і літаратуразнавец Даніла Васілеўскі, вядомы латышскі журналіст Юрыс Крэйн

Сістэма адукацыі ў «Северо-Западном крае» мела на мэце русіфікацыю вучняў, іх выхаванне ў духу манархізму, праваслаўя і афіцыйнай народнасці.

Нацыянальна-вызвольнае паўстанне К. Каліноўскага выклікала вялікую ўвагу да Беларусі ў расейскім грамадстве і Заходняй Еўропе.

Галоўная стаўка рабілася на царкоўнапрыходскія школы, якія належалі да ведамства Сінода расейскай праваслаўнай царквы і мелі надзвычай абмежаваную праграму навучання. Выкладчыкаў для пачатковых школ рыхтавалі Полацкая, Маладзечанская, Свіслацкая і Нясвіжская настаўніцкія семінарыі, дзе маглі вучыцца толькі праваслаўныя. Нягледзячы на гэта, семінарыі не забяспечвалі сярэдняй адукацыі і не давалі сваім выпускнікам права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Мэтам русіфікацыі служылі таксама чатыры духоўныя семінарыі і Полацкі кадэцкі корпус, адчынены пасля скасавання Полацкай акадэміі і Вышэйшага ліцэя піяраў.



Беларускі фальклярыст, этнограф і гісторык, выкладчык Полацкай настаўніцкай семінарыі Юльян Крачкоўскі

Афіцыйная расейская навука ўсяляк імкнулася абгрунтаваць погляды на Беларусь як спрадвечную частку імперыі і на беларусаў як заходнюю галіну «русского племени». Ажыццяўленню ўрадавай палітыкі павінен быў служыць створаны ў 1867 г. у Вільні Паўночна-Заходні аддзел Расейскага геаграфічнага таварыства. Актыўнымі супрацоўнікамі аддзела сталі этнографы П. Шэйн, Ю. Крачкоўскі,

**ХРАНАЛОГІЯ**

6 ліпеня 1851 г.–16 ліпеня 1897 г. – Жыццё і дзейнасць Янкі Лучыны.
10 лютага 1868 г.–26 траўня 1918 г. – Жыццё і дзейнасць Каруся Каганца.
25 студзеня 1869 г.–4 лютага 1894 г. – Жыццё і дзейнасць Адама Гурыновіча.
1870 г. – Апублікаваны «Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча.

Заснавальнік беларускага мовазнаўства Яўхім Карскі пасправаваў акрэсліць этнічныя межы беларускага народа


БЕЛОРУССКАГО ПЛЕМЕНИ




Фалькларыст і этнограф Павел Шэйн склаў зборнік «Беларускія народныя песні», куды ўвайшло больш за тысячу твораў

А. Семянтоўскі, Е. Раманаў. Яны разгарнулі значную даследніцкую дзейнасць у вывучэнні мовы, фальклору, звычаяў і абрадаў, матэрыяльнай культуры беларусаў. У 1887–1902 гг. П. Шэйн выдаў у трох тамах «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы насельніцтва Паўночна-Заходняга краю». Насуперак афіцыйна настаўленай задачы даказаць, што беларусы – частка расейскага народа, сабраныя П. Шэйнам ды іншымі вучонымі матэрыялы аб'ектыўна сведчылі пра існаванне самастойнага беларускага этнасу.

Шмат зрабілі для развіцця беларускай этнаграфіі Мікалай Янчук, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўхім Карскі, Міхал Федароўскі. Апошні, напрыклад, сабраў 5 тысячаў беларускіх народных песняў, каля 10 тысячаў прыказак, сотні казак і загадак.

Гэтая карта, складзеная Яўхімам Карскім, не абымала ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі і была фактычна не этнаграфічнай, а моўнай, бо не ўлічвала іншых этнаграфічных прыкметаў, духоўнай і матэрыяльнай культуры, а таксама агульнасці гістарычнага лёсу народа. Усе гэтыя акалічнасці былі пазней улічаныя на карце Беларусі гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага

ЭТНОГРАФИЧЕСКАЯ КАРТА
БѢЛОРУССКОГО ПЛЕМЕНИ
Составл. въ 1903 г.
БѢЛОРУССКІЕ ГОВОРЫ

Асноўнай фальклорна-этнаграфічнай працай Еўдакіма Раманава сталі дзевяць выпускаў «Беларускага зборніка» – своеасаблівай энцыклапедыі побыту і культуры нашага народа

Этнограф, фалькларыст і археолаг Міхал Федароўскі

Надзвычай плённай была навуковая дзейнасць Івана Насовіча, які апублікаваў некалькі зборнікаў беларускіх прымавак, прыказак і загадак, а ў 1870 г. выдаў у Пецярбурзе «Словарь белорусского наречия» на больш чым 30 тысячаў слоў.



Лінгвіст, этнограф і музыказнавец Ян Карловіч



Заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі беларус Уладзімір Кавалеўскі (1842–1883 гг.)



Выдатны прыродазнавец і медык свайго часу Якуб Наркевіч-Ёдка



Зроблены Я. Наркевічам-Ёдкам электраграфічны адбітак рукі чалавека

Гісторык, выдавец і грамадскі дзяяч А.Г. Кіркор сваімі працамі «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» пазнаёміў навуковы свет Расеі і Польшчы з гісторыяй, духоўнай і матэрыяльнай культурай беларусаў.

У вывучэнні гісторыі і культуры беларускага Прыдзвіння выдатны даробак належыць гісторыку і краязнаўцу Аляксею Сапунову, які ў 1883–1888 гг. выдаў тры тамы каштоўных архіўных дакументаў пад назовам «Витебская старина», а ў 1893 г.– сваю фундаментальную працу «Рака Заходняя Дзвіна: гістарычна-геаграфічны агляд».

Шырокае прызнанне ў Еўропе атрымала навуковая дзейнасць прыродазнаўца і медыка Якуба Наркевіча-Ёдкі, які стварыў у сваім маёнтку метэаралагічную станцыю, распрацаваў спосабы вымярэння патэнцыялу атмасфернай электрычнасці, вынайшаў прылады для бяспровадпага прыёму электрамагнітных сігналаў. Адкрыўшы ў маёнтку санаторый, ён паспяхова выкарыстоўваў там уласную методыку дыягностыкі і лячэння электрычнасцю.



Беларускія прасніцы вызначаліся багаццем і разнастайнасцю разнога дэкору
З калекцыі Раманюкоў

Шмат хто з вучоных-беларусаў змушаны быў аддаваць свой талент іншым народам. Сярод іх нацыянальны герой Чылі геолаг Ігнат Дамейка, даследнікі Сібіры Ян Чэрскі і Бенедыкт Дыбоўскі, матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі Уладзімір Кавалеўскі.



Беларусь. Карта народных строяў.
Аўтар Міхась Раманюк

Сын удзельніка паўстання 1863 г. пісьменнік і мастак Карусь Каганец



## Літаратура і мастацтва

Знаны беларускі паэт гэтага часу – Янка Лучына (Іван Неслухоўскі). Нашчадак старажытнага шляхоцкага роду, ён скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут і працаваў інжынерам. Пісаць пачаў папольску і па-расейску, але пад уражаннем гастроляў у Менску ўкраінскага нацыянальнага тэатра перайшоў на родную мову. Зборнік вершаў Я. Лучыны «Вязанка» гурток беларускіх студэнтаў здолеў выдаць у Пецярбурзе ўжо пасля смерці паэта, прычым у цэнзурны камітэт творы падаваліся пад выглядам балгарскіх.

Са шляхоцкай фаміліі паходзіў і паэт Адам Гурыновіч. Пад час навучання ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце ён далучыўся да нелегальнай студэнцкай арганізацыі, у якую ўваходзіла моладзь з Беларусі, Летувы і Польшчы. Неўзабаве Гурыновіч узначаліў яе, быў арыштаваны і ў турме памёр ад чорнай воспы. Усе літаратурныя творы паэта засталіся ў рукапісах і ўпершыню пабачылі свет толькі ў 1921 г.

Сынам паўстанца 1863 г. быў пісьменнік Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі) з беларускага роду, які даў выдатнага французскага паэта Гіёма Апалінэра. Казімір нарадзіўся ў Сібіры, дзе адбываў высылку ягоны бацька. Творы Каганца глыбока прасякнутыя ідэямі нацыянальнага адраджэння. Ён прапагандаваў беларускае мінулае, імкнуўся адрадзіць гістарычную памяць беларусаў, а на яе аснове – нацыянальную годнасць і самасвядомасць. У вершы «Наш сымболь» К. Каганец заклікаў:

*За родну краіну, звычай і мову,*
*За веру груддзю ставайце!*
*Ды будзьце верныя сваему слову,*
*З Богам заўсюды трывайце!*

Русіфікатарскі курс царызму, забарона беларускага друку, мураўёўскія рэпрэсіі ў дачыненні да паўстанцаў і наогул інтэлігенцыі зрабілі 60–90-я гады XIX ст. для беларускай літаратуры найцяжэйшымі ў гісторыі. У падцэнзурным расейскім друку ў 1863–1888 гг. не з'явілася ніводнага беларускамоўнага мастацкага твора. Пісалі, але не мелі магчымасці друкаваць свае творы Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Альгерд Абуховіч, Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Фелікс Тапчэўскі.



Адам Гурыновіч. Творы гэтага паэта былі надрукаваныя амаль праз трыццаць гадоў пасля ягонай смерці



Пісьменнік і журналіст Вінцэсь Каратынскі



Паэт Янка Лучына

У прадмове да сваёй першай кнігі «Дудка беларуская» Францішак Багушэвіч з гонарам абвясціў пра існаванне беларускай мовы – «такой жа людскай і панскай, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая».



Знакамітая польская пісьменніца Эліза Ажэшка большую частку свайго жыцця пражыла ў Горадні. Беларусь заўсёды займала ў яе творчасці адметнае месца



Пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) – аўтар алегарычных апавяданняў, якія вылучаліся дасканаласцю мовы і формы, гумарам і палітычнай сатырай

Жорсткія русіфікатарскія захады царызму не дазволілі нарадзіцца нацыянальнаму прафесійнаму тэатру. Калі ў 1892 г. гурток беларускіх інтэлігентаў з мястэчка Радашкавічы паспрабаваў паставіць на роднай мове п'есу Ядвігіна Ш. «Злодзей», пастаноўка была забароненая ўладамі яшчэ на этапе генеральнай рэпетыцыі.

Апалінар Гараўскі. «Вечар у Менскай губерні». 1870-я гады





Мікадзім Сіліванові. «Стары пастух»



Мастак
Фердынанд Рушчыц



Фердынанд Рушчыц.
«Зямля». 1898 г.

Міхал Эльвіра Андрыёлі.
«Будаўніцтва замка Гедзіміна ў Вільні». 1832 г.



Плённа працавалі беларускія мастакі Апалінар Гараўскі, Мікадзім Сіліванові, Казімір Альхімові, Генрых Вейсенгоф, Януар Сухадольскі, Іван Хруцкі.

Выяўленчае мастацтва не адчувала такога моцнага ціску, але нацыянальная беларуская школа ў гэтым часе яшчэ не склалася, бо не самасцвердзіўся сам беларускі этнас.

Жывапісец-баталіст Януар Сухадольскі і яго ная карціна «Бітва пад Самасэрай». 1860 г.





Таленавітыя ўраджэнцы Беларусі атрымлівалі мастацкую адукацыю за межамі Бацькаўшчыны, найчасцей у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, і працягвалі дасканаліць сваё майстэрства ў Заходняй Еўропе.

Выдатнае месца ў гісторыі культуры Беларусі займае пейзажыст і партрэтыст Апалінар Гараўскі, да найлепшых палотнаў якога належаць «Вечар у Менскай губерні», «Рака Бярэзіна», «Свіслач», «На радзіме». Акадэмік Пецярбургскай акадэміі мастацтваў беларус Мікадзім Сілівановіч стварыў славутыя мазаікавыя кампазіцыі Ісакіеўскага сабора ў сталіцы імперыі і разам з тым пакінуў у сваёй спадчыне яскравыя карціны, тэматычна і вобразна звязаныя з Беларуссю: «Стары пастух», «Дзеці ў двары», «У школу». Удзельнік паўстання 1863 г. Казімір Альхімовіч плённа працаваў у гістарычным жанры («Пахаванне Гедзіміна», «Смерць Глінскага ў вязніцы», «Пасля бітвы»), ілюстраваў творы Адама Міцкевіча.

Культура Беларусі намнажала сілы для блізкага ўжо нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст.



Вінцэнт Дмахоўскі. «Лясны пажар». 1850 г.

Іван Хруцкі. «Бітая дзічына, гародніна і грыбы». 1854 г.





Казімір Альхімовіч. «Стары млын». 1901 г.

# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ




Ф. Багушэвіч. Фота 1889 г.

У 1891 г. пабачыла свет кніга Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская». Адбылося гэта ў кракаўскай друкарні Уладзіслава Анчыца. Замест сапраўднага імя аўтара на выдрукаваным лацінкаю зборніку вершаў стаяў псеўданім – Мацей Бурачок. Паэту тады ішоў ужо шосты дзесятак.

Францішак Бенядзікт Багушэвіч нарадзіўся ў «двары Свіраны» (цяпер Віленскі раён Летувы). Неўзабаве не надта заможная шляхоцкая сям'я пераехала ў спадчынны маёнтак Кушляны Ашмянскага павета, дзе і прайшло дзяцінства будучага пісьменніка. Адтуль ён выправіўся па навуку ў Віленскую гімназію, у якой быў у спісе «няздольных уносіць вызначаную за навучанне плату». Гімназічнымі сябрамі Францішка былі Цітус і Канстанцін Далеўскія, Юльян Чарноўскі, Жыгімонт (Зыгмунт) Мінейка, якія сталі пазней актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 г.

Калі пачалося паўстанне 1863 г., Багушэвіч без вагання ўзяў у рукі зброю і ваяваў у аддзеле, якім камандаваў Людвік Нарбут. У сутычцы з карнікамі ў Аўгустоўскіх лясах быў паранены. Пасля задушэння паўстання Францішку ўдалося пазбегнуць астрожнай камеры і кайданоў. Цаною волі сталі дваццаць гадоў, пражытыя ў расстанні з роднай зямлёй.

Метрычная кніга з запісам пра нараджэнне паэта





Сядзіба Ф. Багушэвіча ў Кушлянах

## ХРАНАЛОГІЯ

21 сакавіка 1840 г.–28 красавіка 1900 г. – Жыццё і дзейнасць Ф. Багушэвіча.

1891 г. – Выданне ў Кракаве першай кнігі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская».

1894 г. – У Познані выйшаў другі паэтычны зборнік пісьменніка «Смык беларускі».

Францішак Багушэвіч сярод родных. 1864 г.





Францішак Багушэвіч. Здымак 1863 г.

Адно з шматлікіх перавыданняў «Дудкі беларускай». Вільня. 1918 г. Беларуская лацінка



BIEŁARUSKAJA KNIŽNIA № 3.

DUDKA BIEŁARUSKAJA

MACIEJA BURAČKA

(F. Bohuševiča).

Wydawiectwo W. Łastoŭskaho.

WYDAŃNIE PIATAJE

WILNIA. — Drukarnia „Zoŭ" — 1918 hod.

Гімназію Багушэвіч скончыў у ліку чатырох найлепшых выпускнікоў і ў 1861 г. паступіў на фізічна-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Але вучыцца ў сталіцы яму не давялося: разам з іншымі студэнтамі юнак з Кушлянаў быў адлічаны за адмову атрымаць сваю заліковую кніжку. Гэта было пратэстам супроць новых універсітэцкіх правіл, што абмяжоўвалі студэнцкія правы.

Вярнуўшыся ў Беларусь, Францішак стаў адным з тых, хто блізка да сэрца прыняў ідэі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які лічыў, што дзеля аб'яднання ў будучым змаганні супраць расейскага самаўладдзя паны і шляхта павінны несці ў народ асвету. Багушэвіч пайшоў працаваць настаўнікам вясковай школкі на Лідчыне.

Пасля свайго ўдзелу ў паўстанні 1863 г. Францішак мусіў на дваццаць гадоў пакінуць радзіму. За гэты час ён атрымаў юрыдычную адукацыю ў Нежынскім ліцэі ва Украіне і паспеў папрацаваць судовым следчым у Чарнігаўскай, Сумскай, Бранскай і Валагодскай губернях. Толькі ў 1884 г. ён зноў змог прайсці па дарагіх з юнацтва віленскіх вулках.

У Вільні Багушэвіч уладкаваўся на пасаду прысяжнага паверанага судовай палаты, займаўся пераважна справамі гарадскіх беднякоў і сялян і заслужыў славу «мужыцкага адваката».

Варшаўскі часопіс «Wisła», рэдагаваны сябрам Францішка Багушэвіча Янам Карловічам, часта пісаў пра Беларусь

«Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..» – пісаў Францішак Багушэвіч у прадмове да «Дудкі беларускай».

Першыя вядомыя сёння літаратуразнаўцам вершы Францішак Багушэвіч напісаў па-польску. Па-польску ён пісаў і свае публіцыстычныя віленскія нататкі, якія друкаваў у пецярбургскім часопісе «Край». Але пісьменнік глыбока адчуваў крэўную повязь з беларускай зямлёй, яе мовою і яе народам, якому ён пастанавіў прысвяціць свой талент. З гранічнай шчырасцю і болем «Мацей Бурачок» сказаў пра гэта ў сваёй «Дудцы»:

«Братцы мілыя, дзеці Зямлі – маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «б е л а р у с к а й»... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная... але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек... Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна?

Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю.

Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй!..

Можа, хто спытае, гдзе ж цяпер Беларусь?

Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільна да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілеў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»

Аўтограф верша «Верабей і каша»

Асабістыя рэчы Ф. Багушэвіча з Літаратурна-мемарыяльнага музея-сядзібы паэта ў в. Кушляны Смаргонскага раёна




Кніжка Ф. Багушэвіча «Тралялёначка». Кракаў. 1892 г.




Адно з перавыданняў другой паэтычнай кнігі Багушэвіча «Смык беларускі»



Мемарыяльны камень з надпісам «Памяці Мацея Бурачка. 1900 г.» Ваколіцы Кушлянаў

Праз год у той самай кракаўскай друкарні асобнай кніжкаю выйшла апавяданне Багушэвіча «Тралялёначка».

Выдадзены ў 1894 г. другі паэтычны зборнік паэта «Смык беларускі» пачынаўся спавядальнымі радкамі:

*Ох, дайце ж мне смык,*
*Каб усюдыграў!*
*Хоць бы сам я знік,*
*Абы голас даў,*
*Каб той голас чуць*
*Па усей зямлі,*
*Гдзе людзі жывуць,*
*Гдзе даўней жылі!*






Помнік Ф. Багушэвічу ў в. Жупраны Ашмянскага раёна, дзе пахаваны паэт

Атрыманая ад сваяка ў 1896 г. спадчына дазволіла паэту разлічыцца з пазыкамі, адбудаваць кушлянскую сядзібу, а потым, пакінуўшы службу, цалкам аддацца творчасці. Ён піша новыя творы, працягвае складаць слоўнік беларускае мовы. Магчыма, даследнікі яшчэ змогуць высветліць лёс забароненай цэнзураю трэцяй паэтычнай кнігі Багушэвіча «Скрыпка беларуская», як і лёс празаічнага зборніка «Беларускія апавяданні Бурачка», здадзенага ў 1899-м, за год да скону аўтара, у Віленскую губеранскую друкарню.

Сапраўднае літаратурнае прызнанне і слава прыйшлі да яго толькі пасля смерці.


Me FRANÇOIS BOHUSZEWICZ

AVOCAT

Priez pour Lui!

Некралог на французскай мове. 1900 г.

# РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ПАДЗЕІ. ВЫБАР ШЛЯХУ



Руска-японская вайна 1904-1905 гг. Генерал Раман Кандратенка на абарончых пазіцыях Порт-Артура. Абвастрыўшы эканамічнае і палітычнае становішча ў імперыі, вайна стала адной з галоўных прычынаў рэвалюцыі 1905–1907 гг.

У студзені 1905 г. пасля «Крывавай нядзелі» – расстрэлу ў Пецярбурзе рабочай дэманстрацыі – пачалася першая ў Расейскай імперыі рэвалюцыя.

У Беларусі адбываліся студзеньскія забастоўкі, першамайскія стачкі, палітычныя выступы супроць самаўладдзя, звязаныя з крывавымі падзеямі ў Лодзі, Адэсе, Іванава-Вазнясенску. Сялянскія хваляванні ў Горацкім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім паветах пачалі перарастаць у збройныя паўстанні. У Бабруйску, Баранавічах, Горадні, Віцебску, Берасці адбыліся выступленні салдатаў. Кастрычнік 1905 г. стаў найвышэйшым уздымам рэвалюцыі. У гэтым часе стачкамі, мітынгамі, дэманстрацыямі ды іншымі антыўрадавымі акцыямі былі ахопленыя больш за 50 беларускіх гарадоў і мястэчкаў.



«Сцэна з рэвалюцыі 1905 г. у Вільні». Мастак Іван Трутнёў



Рэвалюцыйная маніфестацыя. Менск. Кастрычнік 1905 г.



«Мужык з панам католікам». Мастак Язэп Драздовіч

## ХРАНАЛОГІЯ

1903 г. – Утварэнне першай беларускай палітычнай партыі – Грамады.

Красавік–ліпень 1905 г. – Уздым рабочага і сялянскага руху ў Беларусі.

31 кастрычніка 1905 г. – Курлоўскі расстрэл у Менску.

Студзень 1906 г. – II з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады.




Віленскі вакзал у Менску, дзе адбыўся курлоўскі расстрэл

30 кастрычніка 1905 г. з'явіўся маніфест Мікалая II «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку». У ім «даравaліся» дэмакратычныя свабоды, абвяшчалася амністыя палітычным вязням, Дзяржаўная дума надзялялася заканадаўчымі паўнамоцтвамі, але захоўвалася манархія. У адказ на шырокую незадаволенасць маніфестам царскія ўлады справакавалі ў Беларусі шэраг чарнасоценных пагромаў, расстралялі ў некалькіх гарадах мітынгі.

Помсцячы за ахвяраў курлоўскага расстрэлу, эсэры зрабілі два замахі на жыццё менскага губернатара: спачатку яго спрабаваў забіць невядомы тэрарыст, а потым – Іван Пуліхаў, імем якога названая адна з вуліц сённяшняй беларускай сталіцы.



Сацыяліст-рэвалюцыянер Іван Пуліхаў у гімназічныя гады



Адзін з арганізатараў замаху на губернатара Курлова Сяргей Скандракоў



Народ чакае каля турмы вызвалення палітвязня


Северо-Западный край
Строители жизни
15 лѣтъ практики.

Выпусканая ў Менску газета «Северо-Западный край». У гэтым жа нумары быў апублікаваны першы верш Янкі Купалы «Мужык»




Прамыслова развіты Віцебск быў значным асяродкам рэвалюцыйнага руху

Назаўтра пасля публікацыі царскага маніфеста трагічныя падзеі разгарнуліся ў Менску. Каля Віленскага вакзала Лібава-Роменскай чыгункі (цяпер вакзал Менск-Пасажырскі) адбыўся 20-тысячны мітынг, які праходзіў пад заклікам утварэння дэмакратычнай рэспублікі. Са згоды менскага губернатара П. Курлова войскі адкрылі па мітынгоўцах агонь. Ахвярамі расстрэлу сталі блізу 100 жыхароў горада, яшчэ каля 300 былі параненыя.

Стваральнікамі і кіраўнікамі Беларускай Сацыялістычнай Грамады былі выдатныя прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Вацлаў Іваноўскі, Алесь Бурбіс, Вацлаў Ластоўскі.



Адзін з стваральнікаў Грамады Вацлаў Іваноўскі

## Грамада

Важнай часткаю рэвалюцыйных падзеяў стаў беларускі нацыянальна-вызвольны рух, мэтаю якога было нацыянальнае адраджэнне народа, яго мовы і культуры, заваёва «пачэснага пасада між народамі». Гэтым рухам арганізацыйна, ідэйна і палітычна кіравала Беларуская Сацыялістычная Грамада – першая беларуская палітычная партыя. За бліжэйшую мэту яна мела знішчэнне царскага самаўладдзя і сцверджанне дэмакратычных свабод у супольным з іншымі народамі імперыі змаганні, пасля чаго ставілася задача пабудовы сацыялізму. У нацыянальным пытанні першая праграма партыі прадугледжвала ўтварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі.



Сакавік 1917 г. Рэвалюцыйная маніфестацыя ў Маладзечне



№ 1.

Наша Доля

Першая бѣлоруская газэта для вясковаго и местоваго рабочаго народу.
Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литерами.

Наш палетак.

Да чытацелёў.

Легальным органам Беларускай Сацыялістычнай Грамады стаў тыднёвік «Наша Доля», а пасля забароны гэтага выдання – «Наша Ніва». Стваральнікі Грамады бралі чынны ўдзел у заснаванні ў 1906 г. у Пецярбурзе першага беларускага легальнага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца».

«Наша Доля» – першая легальная грамадска-палітычная і літаратурная газета Беларусі – выходзіла на васьмі палосах адначасова лацінкаю і кірыліцай і мела наклад 10 тыс. пасобнікаў



«Мір – хацінам, вайна – палацам». Мастак Марк Шагал. 1918 г.

Актыўныя дзеячы Грамады мовазнавец Язэп Лёсік і пісьменнік Алесь Гарун





Сябар цэнтральнага камітэта Беларускай Сацыялістычнай Грамады, палітык і вучоны Браніслаў Тарашкевіч



Рэдактар газеты «Грамада», вучоны і палітык Аркадзь Смоліч

Пад час Першай сусветнай вайны браты Луцкевічы разам з В. Ластоўскім выступілі з прапановай пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага са сталіцай у яго старадаўнім цэнтры – Вільні, якая была тады пад немцамі.

Падзеі 1917 г. спрыялі росту Грамады ў Беларусі і ўзнікненню яе арганізацый у Петраградзе, Маскве, Кіеве, Казані ды іншых буйных гарадах. Неўзабаве Грамада зрабілася сама значнай палітычнай сілай беларускага нацыянальнага руху. Час вылучыў новых лідэраў, сярод якіх былі Алесь Прушынскі (Алесь Гарун), Аркадзь Смоліч, Язэп Варонка, Язэп Дыла, Браніслаў Тарашкевіч, Алесь Чарвякоў, Палута Бадунова, Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Сымон Рак-Міхайлоўскі...



Мітынг салдат і рабочых у Лунінцы




Мітынг у Гомелі. Сакавік 1917 г.

Прынцыповымі апанентамі надзвычай важнай для Беларусі аграрнай праграмы «Грамады» былі Раман Скірмунт, Эдвард Вайніловіч ды іншыя прадстаўнікі «краёўцаў». Не з'яўляючыся праціўнікамі дзяржаўнай незалежнасці, «краёўцы» стаялі на пазіцыях захавання прыватнай уласнасці на зямлю і пагаджаліся з яе паступовым адчужэннем на карысць сялянаў пры ўмове кампенсацыі. Яны лічылі, што поўнае скасаванне прыватнага землеўладання яшчэ больш паняволіць сялянства, паставіўшы яго ў залежнасць ад новага эксплуататара – дзяржаўнай бюракратыі. Гэтыя прагнозы спраўдзіліся ў савецкі час, калі Беларусь перажыла драму калектывізацыі.

Грамада стала адным з галоўных арганізатараў Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 г.

# БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ




«Вянок» Максіма Багдановіча. Вільня. 1913 г.

На мяжы XIX–XX стст. пачаў хутка набіраць сілу беларускі нацыянальны рух. Абуджэнню нацыянальнай свядомасці спрыялі шматлікія публікацыі, прысвечаныя культуры, мове, гісторыі народа. Працягвалі пашырацца зборнікі твораў Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі». У асяроддзі патрыятычнай інтэлігенцыі выспела ідэя стварэння нацыянальнай палітычнай партыі, якая б узначаліла змаганне за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне Беларусі.

У ліку першых неабходнасць гэтага ўсвядомілі сыны паўстанца 1863 г. Іван і Антон Луцкевічы, якіх заслужана называюць бацькамі беларускага Адраджэння. Ужо ў часе навучання ў Пецярбургскім універсітэце ў 1902 г. яны ўдзельнічалі ў заснаванні «Гуртка беларускай народнай асветы і культуры».

Пасля ўтварэння першай беларускай палітычнай партыі – Грамады Іван Луцкевіч стаў яе сапраўдным лідэрам, а Антон – галоўным ідэолагам і публіцыстам. Выключную ролю браты Луцкевічы адыгралі пазней у абвяшчэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.



Адзін з бацькоў нацыянальнага Адраджэння – палітык і вучоны Іван Луцкевіч



Менскі касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), фундаваны Эдвардам Вайніловічам, які фінансава падтрымліваў рух беларускага Адраджэння

## ХРАНАЛОГІЯ

9 чэрвеня 1881 г.–20 жніўня 1919 г. – Жыццё і дзейнасць Івана Луцкевіча.

7 ліпеня 1882 г.–28 чэрвеня 1942 г. – Жыццё і дзейнасць Янкі Купалы.

3 лістапада 1882 г.–13 жніўня 1956 г. – Жыццё і дзейнасць Якуба Коласа.

8 лістапада 1883 г.–23 студзеня 1938 г. – Жыццё і дзейнасць Вацлава Ластоўскага.

9 снежня 1891 г.–25 траўня 1917 г. – Жыццё і дзейнасць Максіма Багдановіча.

Травень 1906 г. – Заснаванне легальнага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца».

1910 г. – Выданне «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага.

1910–1913 гг. – Дзейнасць прафесійнага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага.

1913 г. – Заснаванне ў Вільні «Беларускага выдавецкага таварыства».

1917 г. – Арганізацыя ў Менску «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі».



Беларуская сям'я ў святочным народным строі. Канец XIX – пачатак XX ст. Рэканструкцыя Міхася Раманюка



Палітыка, гісторыка і пісьменніка Вацлава Ластоўскага называюць «неадменным сакратаром Адраджэння»



Заснавальнік беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі



Шляхоцкі герб «Побуг», якім карыстаўся род Доўнар-Запольскіх

## Навука

Неацэнным укладам у справу адраджэння стала фундаментальнае (у сямі кнігах) даследаванне Яўхіма Карскага «Беларусы». Карскі канчаткова абгрунтаваў самастойнасць беларускай мовы ў сям'і іншых славянскіх моваў, вызначыў межы яе пашырэння і склаў адпаведную карту.

Надзвычай вялікую значнасць для гістарычнай перспектывы нацыі мела праца выдатных збіральнікаў беларускага фальклору А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага.

На пачатку XX ст. свае буйныя навуковыя даследаванні з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага апублікаваў адзін з пачынальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі.

Глыбока перакананым, што беларускае адраджэнне немагчымае без вяртання народу праўды пра яго мінуўшчыну, быў выдатны нацыянальны дзяяч Вацлаў Ластоўскі – палітык, гісторык і пісьменнік. У 1910 г. у Вільні выйшла яго «Кароткая гісторыя Беларусі».

У прадмове да сваёй «Кароткай гісторыі Беларусі» Вацлаў Ластоўскі пісаў: «Гісторыя – гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народу. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны... Працу гэтую ахвярую сынам маладой Беларусі, каб маглі пазнаваць гісторыю Бацькаўшчыны ў сваёй роднай мове».

Абвестка пра адну з надзвычай папулярных на той час беларускіх вечарынаў. Санкт-Пецярбург



| | | |
|---|---|---|
| Въ Пятницу 12 февраля 1910 г., состоится: | У пятніцу 12 лютага (февраля) 1910 г. будзе | W piatnicu 12 lutaho 1910 hoda budzie |
| **Белорусскій вечеръ** | **Беларуская вечэрынка** | **Biełaruskaja wieczerynka** |
| ...танцы. Почта, конфетти и т. д. | ...танцы. Почта, конфэтті і т. д. | Pasla uslaho—tancy. Poczta. konfetti i t. d. |

Бібліяфіл і бібліёграф Рамуальд Зямкевіч



За час свайго існавання таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца» выдала 38 кніг агульным накладам больш за 100 тыс. асобнікаў. А ўсяго за 1901–1917 гг. па-беларуску было выдадзена каля 250 кніг.



Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла аб'яднаў беларускую інтэлігенцыю, якая жыла ў сталіцы імперыі


Княгіня Магдалена Радзівіл (1861–1945 гг.) была выхавана ў духу беларускай культуры і ўсё жыццё падтрымлівала яе. Фінансавала выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца», Беларускае выдавецкае таварыства, газету «Беларус», дапамагла выдаць першыя кнігі Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйлы ды іншых пісьменнікаў, адчыняла ў сваіх уладаннях беларускія школы

## Друк

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г. ліквідавалі ў Беларусі папярэднюю цэнзуру і манаполію чужамоўных выданняў. Ужо ў наступным годзе ў Пецярбурзе было заснаванае першае беларускае легальнае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца». Ініцыятарам яго стварэння лічыцца навуковец і педагог Браніслаў Эпімах-Шыпіла, вакол якога аб'ядналася група беларускіх інтэлігентаў, што жылі ў сталіцы імперыі. Узначаліў і напачатку фінансаваў таварыства адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Вацлаў Іваноўскі.

Сваю дзейнасць суполка распачала з выдання беларускіх падручнікаў. Першай выпушчанай у свет кнігаю стаў «Беларускі лемантар» Каруся Каганца. Следам за ім выйшла складзенае Цёткай «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Дзякуючы намаганням таварыства пабачылі свет першыя кніжкі Янкі Купалы «Жалейка», Змітрака Бядулі «Абразкі», Цішкі Гартнага «Песні», а потым Купалавы зборнікі «Сон на кургане» і «Шляхам жыцця». За 1907–1908 гг. была выдадзеная серыя «Беларускія песняры» з шасці тамоў, якая пачыналася з «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча. Кожны том меў наклад 4300 асобнікаў.



Адраджэнцкія і першыя савецкія выданні твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа



Серыю «Беларускія песняры» нацыянальнае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца» пачало з «Дудкі» Францішка Багушэвіча

Перыядычныя выданні, якія выходзілі ў Беларусі

«Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча



Беларуская рэдакцыя пасля паліцэйскага пагрому

Язэп Драздовіч стаў адным з заснавальнікаў нацыянальнага гістарычнага жывапісу, прызнаным майстрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На фота Язэп Драздовіч у форме жаўнера 188-га пяхотнага Курскага палка. Саратаў. 1911 г.

Напісанае Цёткай (Алаізай Пашкевіч) «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Выданне таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца». Пецярбург. 1906 г.

У Вільні, Менску, Пецярбурзе, Полацку, Слуцку, па ўсёй Беларусі нацыянальная інтэлігенцыя стварала тады шматлікія музычна-драматычныя гурткі, што ладзілі гэтак званыя «беларускія вечарыны». Для іх таварыства выпусціла дзесяць перакладных і арыгінальных драматычных твораў, сярод якіх «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі, «Мядзведзь» А. Чэхава ды іншыя.

8 НАША ДОЛЯ

**АБЪЯУЛЕННЯ:**

Беларуская Выдаунiцкая суполка „Загляне сонцэ и у наше ваконцэ"

**радзиць усим купляць книги:**

Bielaruski lemantar, abo pieršaja nawuka čytannia . . . . . . . . cena 6 k.

Беларускi лемантар, або первая навука чытання . . . . . . . . ц. 6 к.

Pieršaje čytannie dla dziciak bielarusoŭ cena 6 k.

Первае читанне для дзетак беларусоў цана 6 к.

Вязанка Янки Лучины (Ивана Неслухоўскаго . . . . . . . . цана 4 к.

Казки Бяду А. К. . . . . . цана 6 к.

**Беларуские почтовые писульки:**

Sorsmy u letku, Sorsmy u zimku; Francišek Bahuševič (Maciej Buračok) Pieśniar Bielaruski; Wincuk Marcinkiewič—pieśniar Bielaruski; Muzyki spad Pinskawic; Torżyšča u Paclawičach; Dziewčaty spad Slucka; Parabkawa dwornaja chata; Dudar Bielaruski; Janka Łuczyna (Iwan Nieslucheŭski), pieśniar Bielaruski; Wiaskowaja baba z Trybuskou; Dom Tadeuša Kościuški u Merečoŭščyni, cena kożnoje pisulki 5 kap.

Усё гэта можна купляць у галоўным складзе у Пецярбургу, Васильеў востроў, 1 лин. № 15, кв. 10 и усюды у вялiкiх кнiгарнях.

Хто купляе у галоўным складзе на менш як за поў рубля, той не плацiць за пасыланне почтаю

Малые грошы можна высылаць почтовыми марками.

Абвестка выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў газеце «Наша Доля»

Першы паэтычны зборнік Якуба Коласа «Песьні жальбы». 1910 г.




Найбольш яскрава і поўна беларускае Адраджэнне пачатку XX ст. выявілася ў мастацкай літаратуры.

Якуб Колас стаў адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы






«Другое чытанне для дзяцей беларусаў»



Максім Багдановіч

## Літаратура

Менавіта ў гэты час раскрыліся творчыя геніі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, глыбока нацыянальныя таленты Максіма Гарэцкага, Цёткі (Алаізы Пашкевіч), Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна, Каруся Каганца... Дзякуючы ім беларуская проза і паэзія імкліва ўзнялася да ўзроўню найбольш развітых славянскіх літаратур, стаўшы часткаю агульнаеўрапейскага літаратурнага працэсу.



Асабістыя рэчы паэта. Літаратурны музей М. Багдановіча у Менску




Славуты Багдановічаў «Вянок» перавыдаваўся дзесяткі разоў

Янка Купала ў віленскі перыяд свайго жыцця і творчасці. Фота 1908 г.



Славутая ананімная паэма «Тарас на Парнасе», выдадзеная суполкай «Вольная Беларусь». Менск. 1917 г.




Значныя крокі зрабіла нацыянальная драматургія. Вялікай папулярнасцю карысталіся камедыі «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» і «Прымакі» Я. Купалы. У 1913 г. Купала стварыў драму «Раскіданае гняздо». Распачаў творчую працу таленавіты драматург і тэатральны дзяяч Францішак Аляхновіч.

У цяжкай барацьбе з расейскімі і польскімі шавіністычнымі выданнямі сталела беларуская публіцыстыка, а таксама літаратурная крытыка, дзе шмат было зроблена М. Багдановічам, С. Палуянам, Л. Гмыракам.




Першае выданне кнігі Алеся Гаруна «Матчын дар»



Хата, дзе нарадзіўся Янка Купала. Вёска Вязынка Маладзечанскага раёна




Беларускі каляндар на 1914 г. Вокладка аформленая мастаком Язэпам Драздовічам



Ігнат Буйніцкі (у цэнтры) з сваімі акторамі




Гастрольная афіша першага беларускага тэатра І. Буйніцкага

## Тэатр

У 1910–1913 гг. тэатр Ігната Буйніцкага аб'ездзіў з гастролямі амаль усе гарады і шмат якія мястэчкі Беларусі.

Таленавіты актор і рэжысёр Ігнат Буйніцкі (1861–1917) стварыў у фальварку Палівачы Дзісенскага павета «Першую беларускую трупу». У 1910 г. яна ператварылася ў нацыянальны прафесійны тэатр, які складаўся з драматычнай трупы, хору і танцавальнага калектыву.



Заснавальнікі «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» (стаяць злева направа): Усевалад Фальскі, Фларыян Ждановіч, Антон Ждановіч



Марк Шагал. «Блакітны дом»




Абвестка з запрашэннем на беларускую вечарыну. 1911 г.



Дзеячы нацыянальнага адраджэння (злева направа): публіцыст і літаратурны крытык Уладзімір Самойла, драматург і тэатральны дзеяч Францішак Аляхновіч, публіцыст і ідэолаг нацыянальнага руху Антон Луцкевіч. Фота 1930-х гадоў.

Алесь Бурбіс кіраваў створаным у Вільні аматарскім «Беларускім музычна-драматычным гуртком». 27 студзеня 1912 г. гэты калектыў упершыню паставіў Купалаву «Паўлінку». Актыўным удзельнікам руху нацыянальнага адраджэння быў драматург і тэатральны дзеяч Францішак Аляхновіч.

Weissruthenisches Theater. | Biełaruski Teatr.

Sonntag, den 27. Mai 1917. | U niadzielu 27 maja 1917 h.

NA ANTOKALI

Beginn um 6. Uhr nachmitt. | Pačatak a hadz. 6 wiecz.

Афіша тэатральнай пастаноўкі п'есы Францішка Аляхновіча «На Антокалі». Вільня. 1917 г.

Im Saale des Arbeitergilde ...

Sonntag, den 15. Oktober 1916.

Weissrussisches Teater

CHAM

(BAUERNLÜMMEL)

Beginn 5 ½ abends.

Нямецкамоўная афіша пастаноўкі п'есы «Хам» паводле Элізы Ажэшкі. Рэжысёр Ф. Аляхновіч. Вільня. 1916 г.

Aznajmujecca tymto listam što u teatralnaj zali Von-Derwiza (W. D. Sredni pr. № 48).

u subotu 9-ho lutaho (fiewrala) 1913 h.

ZHULAJECCA

**BIEŁARUSKAJE IHRYŠČE**

Ładženaje artystam K. A. Drozdowym.

Na ihryščy budzie piejać Biełaruski chor wiedzieny J. Kiełpšam.

i predstaŭlena budzie pa biełarusku

**PAŬLINKA**

scena s šlachockaho žyccia u 2-ch dziejach **Janki Kupały**

Deklamacija biełaruskaja

Oryginalnyje biełaruskije wopratki.

**Biełaruskije tancy.**

Paśla predstaŭlennia **tancy** pad arkiestr da 3-ch hadzin nočy.

**Počta, Kioski, Konfetti.**

Pačatak w 8½ hadzin.

Za adzieżu płacić šwejcaru 10 kap.

Bilety ad 3 r. 10 kop. da 50 kop. pracajucca u W. Jwanoŭskaho—Sierpuchowskaja 31, kw. 10 u W. Epimach-Šypiłło—Sadowaja № 12, kw. 34 i u dzień ihryšča u kasi sali Von-Derwiz.

Uchod na tancy 1 rubiel.

Афіша з запрашэннем на беларускую вечарыну з танцамі, ладжаную В. Іваноўскім і Б. Эпімах-Шыпілам



Жаніх і нявеста у народных строях. Канец XIX – пачатак XX ст. Рэканструкцыя Міхася Раманюка

На пачатку 1917 г. у Менску арганізавалася «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі», якое ажыццявіла першую пастаноўку драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо».

# ГАЗЕТА «НАША НІВА»




Загалоўкі «Нашай Нівы» на беларускай лацініцы і кірыліцы.
Мастак Язэп Драздовіч

У верасні 1906 г. з'явіўся першы нумар «Нашай Долі» – першай легальнай беларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «для вясковага і местачковага рабочага люду». Яна выйшла ў свет адначасна лацінкаю і кірыліцай на васьмі старонках невялікага фармату агульным накладам 10 тысяч асобнікаў.

Стваральнікамі газеты была група сяброў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У першым нумары змешчаныя вершы Якуба Коласа «Наш родны край», а таксама рэвалюцыйнае апавяданне «Прысяга над крывавымі разорамі» Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Аднак ідэйны кірунак «Нашае Долі» вызначалі найперш не літаратурныя творы, а публіцыстычныя і агітацыйныя артыкулы. Яны паведамлялі пра падзеі ў імперыі, выкрывалі палітыку царызму і «истинно русских людей» у Беларусі. Нядзіва, што ўжо назаўтра пасля выхаду першы нумар быў канфіскаваны, а ў рэдакцыі паліцыя ўчыніла ператрус.




Віленская інтэлігенцыя каля рэдакцыі «Нашай Нівы»

Выключную ролю ў абуджэнні беларусаў да самастойнага жыцця адыграла газета «Наша Ніва», якая была цэнтрам адраджэнцкага руху.


Год IV №11.

Наша Ніва

Першая Беларуская Газэта з Рысункамі

Выходзіць што тыдзень рускімі і польскімі літэрамі.

Тарас Шэвчэнко

«Наша Ніва» знаёміла сваіх чытачоў з іншымі еўрапейскімі літаратурамі, найперш з польскай, расейскай і украінскай

## ХРАНАЛОГІЯ

14 верасня 1906 г. – Выйшаў першы нумар легальнай беларускай газеты «Наша Доля».

23 лістапада 1906 г. – Пачаў выдавацца беларускі тыднёвік «Наша Ніва».

У 1914–1915 гг. рэдактарам «Нашай Нівы» быў Янка Купала. Фота 1914 г.



Па-сапраўднаму разгарнуць сваю дзейнасць газета так і не здолела. Яе няўхільна душыла цэнзурная пятля. Чатыры з шасці нумароў былі канфіскаваныя. Віленская судовая палата неаднаразова разглядала справы пра арышт газеты, а ў студзені 1907 г. вынесла прысуд: забараніць выданне і зняволіць рэдактара тэрмінам на адзін год.

«Наша Доля» спыніла сваё існаванне, але на змену ёй ужо прыйшла новая беларуская газета. У прамежку паміж чацвертым і пятым нумарамі «Нашай Долі», у лістападзе 1906 г., беларускі чытач атрымаў першы нумар «Нашай Нівы», якой быў наканаваны даўжэйшы і шчаслівейшы лёс. Гэтай грамадска-палітычнай, літаратурна-мастацкай і навукова-папулярнай газеце належыць велізарная роля ў згуртаванні ўсіх нацыянальных сілаў, якія змагаліся за адраджэнне Беларусі.



Шляхоцкі герб роду Луцкевічаў «Навіна»



Паэтэса Канстанцыя Буйла

Заснавальнікі газеты «Наша Ніва» Іван Луцкевіч (злева) і Аляксандр Уласаў



У першым нумары рэдакцыя давала абяцанне служыць «усяму беларускаму скрыўджанаму народу». Палітычная пазіцыя газеты ў залежнасці ад абставін мянялася, спалучаючы ў сабе рэвалюцыйна-дэмакратычныя і ліберальна-асветніцкія погляды, але «Наша Ніва» нязменна выступала супроць расейскага вялікадзяржаўніцтва і польскага шавінізму, супроць рэакцыі і чарнасоценнага тэрору, за дэмакратычныя правы і свабоды.

Заснавальнікамі «Нашай Нівы» былі браты Іван і Антон Луцкевічы і іх паплечнік па Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе Аляксандр Уласаў. Газета выдавалася ў Вільні да жніўня 1915 г. (спачатку кірыліцай і лацінкаю, а з кастрычніка 1912 г.– толькі кірыліцай). У розны час яе рэдактарамі-выдаўцамі былі С. Вольскі, А. Уласаў, Янка Купала.



Рэдактар і выдавец «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў

«Наша Ніва» здолела зрабіцца сапраўды народнай, агульнабеларускай газетай. Дастаткова сказаць, што за першыя тры гады тут былі надрукаваныя болей за дзевяцьсот допісаў з 490 мястэчкаў і вёсак.

«Наша Ніва» невымерна шмат зрабіла для развіцця беларускай літаратуры. Менавіта тут дэбютаваў апавяданнем «Музыка» Максім Багдановіч. З публікацый у беларускім тыднёвіку пачалі свой творчы шлях Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Канстанцыя Буйла, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Янка Журба, Уладзіслаў Галубок... На старонках «Нашай Нівы» ўпершыню пабачылі свет Купалавыя паэмы «Курган» і «Бандароўна», урыўкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа, шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна і Уладзіміра Самойлы. Газета знаёміла з найлепшымі творамі іншых літаратур – найперш расейскай, польскай і ўкраінскай. Падпісчыкі атрымалі магчымасць прачытаць на сваёй роднай мове апавяданні і вершы Льва Талстога, Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі, Элізы Ажэшкі, Стэфана Жаромскага...



Змітрок Бядуля






Паштоўкі, дасланыя ў рэдакцыю «Нашай Нівы» пісьменнікамі Цішкам Гартным і Змітраком Бядулем



Графін менскай вытворчасці. Пачатак XX ст.

З старонак «Нашай Нівы» пачаў свой творчы шлях паэт Янка Журба





Аляксандр Уласаў з віленскімі беларусамі 1911 г.



Год IV

№ 40.

Наша Ніва

Першая Беларуская Газэта з Рысункамі

Беларускі Календар

„НАШАЕ НІВЫ"

на 1910 г.

Нумар «Нашай Нівы» з абвесткай пра выхад «Беларускага календара»

Рэдакцыя займалася і кнігавыданнем. Дзякуючы гэтаму выходзілі беларускія календары, альманахі, перакладныя творы, былі апублікаваны кнігі Якуба Коласа, Ядвігіна Ш., Галляша Леўчыка. На старонках «Нашай Нівы» і ў іншых яе выданнях адбывалася выпрацоўка нормаў беларускай літаратурнай мовы і правапісу. Вялікі даробак належыць газеце ў развіцці і папулярызацыі беларускага тэатра, музыкі, фальклору і ўсёй нацыянальнай культуры.

Апрача выдавецкай дзейнасці рэдакцыя «Нашай Нівы» клапацілася пра развіццё краязнаўства, займалася збіраннем нашай хаўніны. Прасніца з-над Камяніца XIX ст. Захоўваецца ў калекцыі сям'і Раманюкоў





Наша Ніва.

Календар

„Нашае Нівы"

на 1910 год.

Юбілейны 50-ты нумар газеты «Наша Ніва» за 1910 г.

«Наша Ніва» мела падпісчыкаў не толькі ў розных кутках Беларусі. Яна ішла ў дзесяткі гарадоў Расейскай імперыі, у Прагу, Брно, Парыж, Льеж, у Злучаныя Штаты Амерыкі.

Да 1912 г. «Наша Ніва» выходзіла лацінкаю і кірыліцай


NAŠA NIWA

Emihracija u Ameryku.

Выдаўцы і супрацоўнікі тыднёвіка лічылі сваім абавязкам будзіць гістарычную памяць народа. У 1910 г. газета з нумара ў нумар друкавала «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага.

Заслугамі «Нашай Нівы» былі і яе клопаты аб развіцці краязнаўства, збіранне беларускай даўніны. Пры газеце захоўвалася унікальная калекцыя Івана Луцкевіча. Змітрок Бядуля пісаў пра яе: «На сценах вісяць абразы даўнейшых беларускіх князёў, старасвецкія беларускія вопраткі, шаблі, шаломы і панцыры XVI стагоддзя. Розныя тканіны народнай беларускай творчасці, паясы слуцкія, дываны, разьба... У шафах ляжаць скарбы мінуўшых гадоў: манеты, медалі, пячаткі, кнігі беларускае пісьменнасці. Жывая паэма старыны!..»



Паэтэса Цётка з дзяўчынкай у беларускім строі. Фатаграфія з збораў былога Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні


KAROTKAJA HISTORYJA BIEŁARUSI

„ВСЯ ВИЛЬНА"

Старонка аднаго з нумароў «Нашай Нівы» за 1911 г.



Бернардзінскі мост у Вільні. 1880-я гг. Фота Язэпа Чаховіча



Пісьменніца і дзеячка нацыянальнага руху Зоська Верас. Фота 1916 г.



Адзін з першых карэспандэнтаў «Нашай Нівы» М. Лохан



Віленскі камітэт у справах друку ў 1907 г. даў газеце такую характарыстыку: «Спярша крыху памяркоўнейшая, чым «Наша Доля», пачала пасля змяшчаць артыкулы бунтоўнага характару, за што некалькі разоў канфіскоўвалася».

Газета «Наша Ніва» была цэлай эпохаю ў беларускім адраджэнні пачатку XX ст.



99

1910

г. ПОЛОЦК

У ГАРАДЗКІМ КЛЮБІ

ПРАГРАМА

I АДДЗЕЛ.

„МОДНЫ ШЛЯХЦЮК"

АСОБЫ

II АДДЗЕЛ.

III АДДЗЕЛ

IV АДДЗЕЛ.

Праграма спектакля «Модны шляхцюк» паводле п'есы К. Каганца ў пастаноўцы беларускай трупы І. Буйніцкага



Паэт-«нашанівец» Стары Улас (Уладзіслаў Сіва-Сівіцкі)



Пісьменнік і грамадскі дзеяч Цішка Гартны



Беларускі куфар. Пачатак XX ст. Фота Міхася Раманюка

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА




Царскі медаль за заслугі ў мабілізацыі пад час Першай сусветнай вайны. 1914 г.

Гэта была вайна за перадзел ужо падзеленага свету паміж нямецка-аўстрыйскім блокам дзяржаваў і Антантай (Англіяй, Францыяй і Расеяй). Зачэпкаю для яе пачатку стала забойства сербскімі тэрарыстамі спадкаемца аўстра-вугорскага трона эрцгерцага Франца Фердынанда. 1 жніўня вайну Расейскай імперыі абвясціла Нямеччына, а праз пяць дзён – Аўстра-Вугоршчына.

У кампанію 1915 г. галоўны ўдар сваіх армій Нямеччына скіравала супроць Расеі. У сувязі з гэтым у жніўні быў створаны Заходні фронт з штабам у Менску. Беларусь зрабілася прыфрантавой паласой. Тут скарачалася прамысловая вытворчасць, пасяўныя плошчы і пагалоўе жывёлы. Каля паловы мужчын былі мабілізаваныя. Сотні тысяч жыхароў, часцей за ўсё пад прымусам, сталі ўцекачамі.

У выніку летняга нямецкага наступу ў 1915 г. расейскія войскі пакінулі Варшаву, а потым Коўну (Каўнас), Берасце і Гародню. У верасні нямецкая кавалерыйская групоўка ў складзе шасці дывізій прарвала фронт на напрамку Свянцяны–Барысаў, захапіла Вілейку і наблізілася да Маладзечна. Асобныя часціны дайшлі да Барысава і Смалявічаў. Была акупаваная Вільня.



Расейскі паветраны батальён. Нароўля



Карабін «маўзэр» з штыхом узору 1898 г. быў на пачатку XX ст. на ўзбраенні многіх армій

У часе Першай сусветнай вайны пачала шырока выкарыстоўвацца хімічная зброя. Перад газавай атакай



Чвэртка тэрыторыі Беларусі з насельніцтвам больш за 2 мільёны чалавек трапіла пад акупацыю. Астатняя частка краю таксама знаходзілася ў цяжкім становішчы. Тут размяшчаліся блізу 2 мільёнаў расейскіх салдатаў і афіцэраў, стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага. У прыфрантавой паласе сабралася больш за мільён уцекачоў з Польшчы і заходніх паветаў Беларусі.


У акопах Першай сусветнай


Бежанскі лагер у Воршы


Бальшавіцкая агітацыя сярод вайскоўцаў Заходняга фронту


Знішчаная пад час ваенных дзеянняў беларуская вёска. 1916 г.

Вайсковы лазарэт у Менску



Аднак 2-я расейская армія здолела пасля жорсткіх дзесяцідзённых баёў у ваколіцах Маладзечна, Вілейкі і Смаргоні разбіць праціўніка. Немцы адступілі да азёраў Нарач і Свір, пасля чаго бакі перайшлі да пазіцыйнай вайны. Фронт на доўгі час усталяваўся на лініі Дзвінск (Даўгаўпілс) – возера Нарач – Баранавічы – Пінск.

Прызнаючы беларусаў самастойным народам, немцы цывілізавана ставіліся да нашай мовы і культуры.


Бежанцы ў чарзе да палявой кухні. Ворша. 1918 г.


Заходні фронт. Яшчэ нядаўна тут жылі людзі



Раменная бляха шарагоўца расейскай арміі

Выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса Язэп Стаброўскі з жонкай. Закончыўшы вайну ў чыне палкоўніка, ён вярнуўся на радзіму і стаў стваральнікам Слонімскага краязнаўчага музея – аднаго з найбагацейшых у Заходняй Беларусі



На акупаваным абшары краю працягвалі сваю дзейнасць беларускія нацыянальныя арганізацыі. Пры актыўным удзеле Івана Луцкевіча там былі адчыненыя 200 пачатковых школ з выкладаннем на роднай мове, а таксама беларуская настаўніцкая семінарыя і курсы. Гэта былі першыя беларускамоўныя навучальныя ўстановы ў новай гісторыі Беларусі.

Паводле дамовы з альянтамі расейскае камандаванне меркавала правесці ўлетку 1916 г. шырокі наступ, але, каб дапамагчы французскай арміі, якая трапіла ў цяжкое становішча пад Вердэнам, аперацыя пачалася раней – у сакавіку, на вузкім участку фронту каля возера Нарач. Наступ разгарнуўся пры слабой падтрымцы артылерыі і ў складаных метэаралагічных умовах. Нарачанская аперацыя была непадрыхтаваная і, нягледзячы на гераізм расейскіх салдатаў, дала толькі нязначныя тактычныя поспехі. Страты Расеі забітымі, параненымі і палоннымі склалі блізу 100 тысяч чалавек.



Беларусы на вайне. Сцяпан Сеўрук і Кузьма Рэвут з Слуцкага павета Мінскай губерні



Эвакуацыя жыхароў беларускага мястэчка, праз якое праходзіў фронт

Палявы шпіталь на Заходнім фронце. 1916 г.



Цяжкія паразы, дрэннае забеспячэнне правіянтам і боепрыпасамі спрычыніліся ў арміях Заходняга фронту да росту салдацкіх выступленняў. Самае моцнае з іх адбылося ў кастрычніку 1916 г. у Гомелі. Паўсталі 4 тысячы салдатаў і казакоў, якія абяззброілі вартавых, вызвалілі з гаўптвахты 800 арыштаваных і знішчылі абвінаваўчыя дакументы. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. салдаты Заходняга фронту адыгралі галоўную ролю ва ўсталяванні бальшавіцкай улады на не акупаваным немцамі абшары Беларусі.



Заходні фронт. Маладзечна

Улётка і пячатка Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны

Пацярпелым ад вайны Беларусам памажыце!

Вайна нарабіла страты і крыўды вялікай палавіне Беларусі. Ад Пінску да Дзьвінску ідуць вокопы, разоры па зямельцы Беларускай. Ассрось налягэныя вокопу, абапал іх, стырчаць стаўцы разбітых будынкаў селянскіх, або агнём знішчаных сёлаў — кучамі ды попілам у вочы б'юцца ды сялібы наверх націскаюць. Гаспадары разбегліся па сьвету і таяць: адны у бядзе ды у чудзе на сьмерць нарваліся ды у чужую зямельку із косьцьмі, із целам на векі залеглі, а другія някебудзь з жыцьцём боруцкаюцца, алі шмат бяды зносюць, бо цягаюцца у цяперашнюю дарагоўлю жыць. І хто-ж ім паможыць? Свае людзі найперш павінны ім памагчы.

Ось 24 і 25 чэрвіня (Іюня)

будзіць збор грошы і адзежы па усім Пітраградзе. Давайце добрыя людзі скольні Ваша змога: хто зборшчыкам, а хто проста у КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА для помачы пацярпеўшым ад вайны на Знаменскай вуліцы у д. № 38, кв. 34 (тэлеф. 253-49) штодзень ад 11 да 9 гадзіны веч.

Просім шчыра дапамагчы бядзе пацярпеўшым Беларусам!

За шчырую падмогу будзіць шчыры дзякуй.

У сакавіку 1918 г. у Берасці была падпісаная мірная дамова паміж Савецкай Расеяй і дзяржавамі нямецкага блоку. Гэтая дамова пакідала частку Беларусі немцам.



Бежанцы перад дэмаркацыйнай лініяй. Ворша. 1917 г.



Першая сусветная вайна, якая завяршылася поўнай паразай Нямеччыны і яе альянтаў, прынесла беларускаму народу велізарныя людскія страты. Загінулі 1 мільён 200 тысяч чалавек, сотні тысяч беларусаў не змаглі вярнуцца з эвакуацыі, засталіся на неабсяжных абшарах Расеі. Тысячы былі вывезеныя на прымусовую працу ў Нямеччыну. У 1914–1917 гг. амаль на 75% скараціліся пасяўныя плошчы. У гарадах і мястэчках была разбураная большасць прамысловых прадпрыемстваў. У попел і руіны ператварыліся 150 тысяч будынкаў, у тым ліку і шмат найкаштоўнейшых помнікаў беларускай гісторыі і культуры.

Праверка бежанскага абозу





Брацкая магіла палеглых у баях 1914–1916 гг. каля в. Лужы Мядзельскага раёна. Фота 1957 г.

# ПЕРШЫ УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД


Niezwyczajny dadatak. Cena 5 fen. (3 kap.)

**HOMAN**

BIEŁARUSKAJA WILENSKAJA CZASOPIŚ

WYCHODZIĆ DWA RAZY U TYDZIEŃ: U AUTORKI I PIATNICY.

Wilnia, 5 listapada 1916 h.

**Z WARSZAWY telehrafujuć:**

Da Tycharoŭ Warszaŭskaho Hieneral-Hubernatarstwa.

... jeć poŭnuju nadzieju szto žadańnia dzieržaŭnaho i nacyonalnaho razwićcia Karaleŭstwa Polszczy ciapier buduć spoŭnieny z naležnaj uwahaj na abolnyje palitycznyje warunki Eu-

Беларуская газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку «Гоман»

Лютаўская і кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 г. у Расеі спрыялі згуртаванню нацыянальных арганізацый, якія аб'ядна-ліся ў Вялікай Беларускай Радзе. Дзеля вызначэння далейшага лёсу Беларусі Рада склікала ў Менску Усебеларускі з'езд (кангрэс).

Старшынёй кангрэсу быў абраны Іван Серада.

Такога прадстаўнічага з'езду не здолеў у той час сабраць ніводны паняволены народ колішняй Расейскай імперыі. На Першы Усебеларускі кангрэс з'ехаліся 1872 дэлегаты з усяго беларускага этнічнага абшару – ад Смаленшчыны да Беласточчыны.


Старшыня Першага Усебеларускага з'езда Іван Серада. Турэмны здымак 1930-х гадоў

Рэвалюцыйная дэманстрацыя ў Полацку. 1917 г.



На з'ездзе прагучаў заклік: «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!» Дэлегаты падзяліліся на тых, хто змагаўся за поўную незалежнасць, і тых, хто выступаў за аўтаномную дэмакратычную рэспубліку ў складзе Расеі. Удзельнікі кангрэсу выказалі трывогу з тае прычыны, што Троцкі вядзе ў Берасці перамовы пра мір з немцамі без уліку інтарэсаў Беларусі.

**Беларусь напярэдадні і пасля Берасцейскай дамовы**




## ХРАНАЛОГІЯ

18 снежня 1917 г. – Адкрыццё Першага Усебеларускага з'езда.
21 лютага 1918 г. – Першая Устаўная грамата да народаў Беларусі.
9 сакавіка 1918 г. – Другая Устаўная грамата да народаў Беларусі.

Газета «Вольная Беларусь», якую ў чэрвені 1917 г. пачаў выдаваць Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з Раманам Скірмунтам. БНК патрабаваў ад Часовага ўрада Расеі аўтаноміі, дэмакратызацыі, беларускамоўнага школьніцтва, кампенсацыяў за страты ў Першай сусветнай вайне. Пасля абвяшчэння БНР газета пачала выступаць за незалежную дэмакратычную Беларусь, заклікала да стварэння беларускага нацыянальнага войска



Вольная Беларусь

Тыднявік палітычны і літэратурны.

Год выданья II.

Цана асобнага № 40 кап.

Ніхай жыве Вольная Беларусь!

№ 2. 1918 г. 14-го студня. 1918 г. № 2.

Покліч.



Сябар ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады, удзельніца Усебеларускага з'езда Палута Бадунова



Беларуская Сацiялiстычная ГРАМАДА

Членскi бiлет № 48

Членскі білет Язэпа Варонкі, які быў дэлегатам Першага Усебеларускага з'езда

Запрошаныя на кангрэс камуністы ад удзелу ў ім ухіліліся, але пільна сачылі за падзеямі. Гэтак званы Паўночна-Заходні абкам РСДРП(б), на чале якога тады быў А. Мяснікоў (Мяснікян), не прызнаваў не толькі права беларусаў на самавызначэнне, але нават самога факта існавання беларускай нацыі. Убачыўшы, што на з'ездзе няўхільна набіраюць вагу незалежніцкія настроі, бальшавікі пастанавілі разагнаць яго з дапамогаю вайсковай сілы. Дэкрэт аб разгоне падпісаў старшыня савета народных камісараў Заходняй вобласці К. Ландэр.

З'езд вымушаны быў спыніць свае паседжанні, частку дэпутатаў бальшавікі арыштавалі. Але прытулак удзельнікам кангрэсу далі менскія чыгуначнікі. Пад іх аховаю Рада Усебеларускага з'езда, якой дэлегаты перадалі краёвую ўладу, абрала з свайго складу Выканаўчы Камітэт. Яго ўзначаліў адзін з кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады Язэп Варонка.



Першы Усебеларускі кангрэс распачаў свае паседжанні ў будынку Менскага гарадскога тэатра (цяпер Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы)

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

ВЕСТКІ З ФРОНТУ.

Розныя весткі.

У ВІЛЬНІ.

Апошнія навіны ў дэмакратычнай газеце «Беларуская думка»

18 лютага 1918 г. пачаўся наступ нямецкіх войскаў. Праз дзень бальшавікі ўцяклі з Менска і Выканаўчы Камітэт выйшаў з падполля. У сваёй першай Устаўной грамаце ён абвясціў сябе ў Беларусі часоваю ўладай і ўзяў курс на скліканне Усебеларускага Устаноўчага Сойма на аснове агульнага выбарчага права.

## Першая Устаўная грамата да народаў Беларусі

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі.

Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці – на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.

Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзяйсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму.

Але і да скліканьня Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады першага Усебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам...

Дадзена ў Менску-Беларускім
21(8) лютага 1918 г.

Раман Скірмунт – старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта, дэлегат Усебеларускага з'езда, пазней – сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і кіраўнік яе ўрада

У Менску. Паштоўка пачатку XX ст.

Выканкам стварыў урад – Народны Сакратарыят на чале з Я. Варонкам. Але Менск занялі немцы. Яны канфіскавалі грашовую касу Народнага Сакратарыята, скінулі з яго будынка бел-чырвона-белы сцяг і разагналі службоўцаў. Не зважаючы на гэта, Выканкам Рады Усебеларускага з'езда працягваў сваю палітыку і зноў звярнуўся да жыхароў Беларусі з Устаўной граматай, у якой акрэсліваліся дзяржаўны лад Беларусі, правы і свабоды яе грамадзянаў.



Дэлегат і сябар Выканаўчага Камітэта Рады Усебеларускага з'езда Тамаш Грыб



Палітык, ініцыятар абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч. Фота 1930-х гг.



БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Штодзенная грамадзянска-палітычная газэта.

Газета «Беларускі шлях». 1918 г.

## Другая Устаўная грамата да народаў Беларусі

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор – Усебеларускі Зьезд 5–17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад...

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.



Нямецкія салдаты на Саборным пляцы (цяпер плац Волі) у Менску. 1918 г.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінавы рабочы дзень...

Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.



Паштоўка з беларускім дзяржаўным сцягам

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

Ідэя незалежнасці заваёўвала ўсё больш прыхільнікаў. Выканкам Рады Усебеларускага з'езда абвясціў яе Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі. У яе склад былі ўведзеныя прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады, выдатныя дзеячы беларускага Адраджэння браты Іван ды Антон Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі.

23 сакавіка А. Луцкевіч выступіў на паседжанні Народнага Сакратарыята. Ён гаварыў, што фармальна Беларусь застаецца тэрыторыяй Расеі, бо ні першая, ні другая ўстаўныя граматы не скасоўваюць абвешчанай на кангрэсе федэратыўнай сувязі з Расеяй.


Першы ўрад БНР – Народны Сакратарыят: (злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц

Падзеі паказалі, што спадзявацца на ўсходняга суседа нельга. Расея з Нямеччынай, не спытаўшыся ў беларусаў, падзялілі нашу зямлю паміж сабою ў выніку Берасцейскага трактату.

А восьмай гадзіне вечара 24 сакавіка адкрылася паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Праца доўжылася ўсю ноч і завяршылася ўранні прыняццем наступнага дакумента:


Саборны пляц у Менску

**ХРАНАЛОГІЯ**

25 сакавіка 1918 г. – Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.
1 студзеня 1919 г. – Абвяшчэнне бальшавікамі Беларускай ССР.

Вацлаў Ластоўскі ў 1919–1923 гг. узначальваў урад Беларускай Народнай Рэспублікі

Адзін з пачынальнікаў і ідэйных кіраўнікоў беларускага руху Іван Луцкевіч

## Трэцяя Устаўная грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе накладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі
Дана ў Менску-Беларускім
24 сакавіка 1918 року.

Цана асобнаго № 40 кап.

ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Тыднёвік палітычны і літэратурны.

Нізай жыве Вольная Беларусь!

№ 11. 1918 г. 31-го сакавіка 1918 г. № 11.

Устаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Вольная Беларусь.

Рашучы акт.

Газета «Вольная Беларусь» з тэкстам Трэцяй Устаўнай граматы БНР



Пячатка міністэрства абароны БНР



Пячатка міністэрства ўнутраных спраў БНР



Пячатка Віленскай беларускай гімназіі








Пячаткі дзяржаўных устаноў БНР



НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА.
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ.
1918 г.
Места Менск.

пан Аркадзі С М О Л І Ч

Пасведчанне сябра Рады БНР А. Смоліча



Міністр асветы ў першым урадзе БНР Аркадзь Смоліч



Менск. Дом, у якім была абвешчаная незалежнасць БНР. Цяпер – вул. Валадарскага, 9. Мастак Віктар Стаўчанюк. 1988 г.



АБВЕСТКА
НАРОДНАГО СЭКРЭТАРЫЯТУ
БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
№ 6.

Абвестка пра склад Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі




Шыльда вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі



Удзельнік абвяшчэння БНР, сябар яе Рады і народны сакратар вайсковых справаў у першым урадзе Кастусь Езавітаў. Фота 1919 г.



БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумару 50 кап

Выходзіць тройчы у тыдзень

Год I. — Вільня, Серада 21 мая 1919 г.

БЕЛАРУСКІ СХОД.

У нядзелю 25-га мая, у 5 гадзін па палудні адбудзецца беларускі сход.

ПРАГРАМА СХОДУ:

На сход запрашаюцца усе беларусы-жыхары м. Вільні.

— Беларускі сход у Вільні.

— Хаўрус Незалежных з Расіей.

— Забастоўка у Варшаве.

Газета «Беларуская думка» паслядоўна выступала за незалежнасць і непадзельнасць Беларусі. У ліпені 1919 г. была зачыненая польскімі акупацыйнымі ўладамі



Клаўдзіусь Дуж-Душэўскі – аўтар праекта дзяржаўнага сцяга Беларускай Народнай Рэспублікі, сакратар урада БНР В. Ластоўскага

Акт 25 сакавіка быў рашучым пратэстам супроць падзелу Беларусі кайзераўцамі і бальшавікамі. Увесь этнічны беларускі абшар упершыню абвяшчаўся адзінаю дэмакратычнай дзяржавай. Народны Сакратарыят зацвердзіў дзяржаўную пячатку з выявαю «Пагоні». У Менску прадугледжвалася стварыць Беларускі універсітэт і Беларускую калегію для падрыхтоўкі кадраў новага дзяржаўнага апарату. Адкрыліся курсы беларусазнаўства для беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Наладжваліся эканамічныя і гандлёвыя сувязі Беларусі з іншымі краінамі. У Кіеве пачала дзейнічаць Беларуская гандлёвая палата і Беларуска-Украінскае таварыства збліжэння.

Ніхто ўжо не мог заяўляць, што беларускага народа не існуе.









Дыпламатычны пашпарт БНР, выдадзены К. Дуж-Душэўскаму




Паштоўка з дзяржаўным гербам і гербамі беларускіх ваяводстваў – Віленскага, Менскага, Троцкага, Берасцейскага, Полацкага, Віцебскага, Амсціслаўскага, Смаленскага і Навагрудскага



Адзін з арганізатараў Першага Усебеларускага з'езда, сябар Вялікай Беларускай Рады і Беларускай Цэнтральнай вайсковай Рады Язэп Мамонька



Міністр унутраных спраў БНР ва ўрадзе А. Луцкевіча Кузьма Цярэшчанка



Народны сакратар грашовых спраў Пётра Крэчэўскі

Скарбнік і народны міністр фінансаў ва ўрадзе БНР Васіль Захарка. У 1928–1943 гг. узначальваў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі



Браніслаў Тарашкевіч

Як бы ім таго ні хацелася, ідэю нашай дзяржаўнасці не маглі ігнараваць і бальшавікі ў Расеі. Яны мусілі даць беларускім камуністам дазвол на стварэнне БССР, абвешчанай 1 студзеня 1919 г.



Знак Навагрудскай беларускай гімназіі



Знак Віленскай беларускай гімназіі



Адна з цэнтральных вуліц тагачаснага Менска – Захар'еўская

Пашпарт грамадзяніна БНР






Год выданьня 1-шы

ВЕСТКІ

Часовага Работніча-Селянскага Радавага (Советскага) Ураду Беларусі.

№ 1.

МАНІХВЭСТ

Часовага Работніча-Селянскага Савецкага Правіцельства Беларусі.

Таварышы і браты рабочыя, бедныя селяне і чырвонармейцы Беларусі,

«Весткі». Газета «Часовага работніка-сялянскага радавага ураду Беларусі» з маніфестам пра абвяшчэнне БССР

Дзень 25 сакавіка 1918 г. стаўся пачаткам доўгага шляху да набыцця Беларуссю сапраўднай незалежнасці.
















Маркі Беларускай Народнай Рэспублікі

Карта Беларускай Народнай Рэспублікі. 1918–1920 гг.




Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку дэ-факта прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Летува, Польшча, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія.





Наша гісторыя пераканаўча сведчыць, што Беларусь – еўрапейская краіна з багатай і слаўнай мінуўшчынай.
Больш за тысячу гадоў налічвае традыцыя беларускай дзяржаўнасці. Яна бярэ пачатак ад Полацкага княства – моцнай старажытнай дзяржавы, якая займала большую частку абшару сучаснай Беларусі і мела выйсце да Балтыйскага мора.
У XIII стагоддзі нашы землі сталі стваральным ядром новай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, дзе панавала беларуская культура, а наша мова была дзяржаўнай. Аб'яднаўшыся, беларускія княствы, адрозна ад расейскіх, пазбеглі мангола-татарскага прыгнёту. Айчына нашых продкаў паспяхова бараніла сваю незалежнасць ад захопнікаў з захаду і з усходу. Беларускія ваяры здабылі вечную славу ў пераможных бітвах пад Грунвальдам і Воршай.
Беларусь была арганічнай часткаю агульнаеўрапейскай цывілізацыі. Нашы гарады, як і ва ўсёй Еўропе, жылі паводле магдэбургскага права. Вялікае Княства стала ўсходнім аванпостам Рэнесансу. Дзякуючы выдатнаму гуманісту Францішку Скарыну мы атрымалі друкаваную Біблію на сваёй мове раней за палякаў і летувісаў, украінцаў і расейцаў, сербаў і балгараў, ангельцаў і французаў. Зацверджаны ў 1588 годзе Статут Вялікага Княства быў самым перадавым зборам законаў у тагачаснай Еўропе.
Палітычны заняпад Рэчы Паспалітай, часткаю якой пасля Люблінскай вуніі стала Вялікае Княства, прывёў да захопу нашых земляў Расейскай імперыяй. Але нашы прадзеды не скарыліся: лепшыя сыны народа зноў і зноў уздымаліся супраць чужынскага панавання. Сярод паўстанцаў Кастуся Каліноўскага было нямала тых, хто змагаўся ўжо не за аднаўленне Рэчы Паспалітай, а за будучую дэмакратычную Беларусь.
На пачатку XX стагоддзя рух нацыянальнага Адраджэння паставіў на парадак дня аднаўленне дзяржаўнасці. 25 сакавіка 1918 года адбылося абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.
У XXI стагоддзе Беларусь уступіла суверэннай дзяржавай, якая імкнецца заняць годнае месца ў дэмакратычнай еўрапейскай супольнасці.
Наблізіць гэтую будучыню нам дапамагае наша еўрапейская гісторыя.







Аўтар тэксту і мастак выказваюць шчырую падзяку

Юрасю Бохану
Арыне Вячорцы
Віталю Гідрановічу
Тамары Зайцавай
Сяргею Краўчуку
Уладзіміру Крукоўскаму
Уладзіміру Ляхоўскаму
Генадзю Сагановічу
Надзеі Саўчанцы
Алене Сіваковай
Івану Сінчуку
Дзянісу Раманюку
Тацяне Рошчынай
Міхасю Чарняўскаму
Захару Шыбеку

Асаблівая падзяка належыць
Сяргею і Зьмітру Занкевічам.









